


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**11** (997)

ЛІСТАПАД

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2012

## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Мікалай ЧАРГІНЕЦ

# СЫНЫ

*Раздзелы з рамана[1]*

## У турме

Ужо трэція суткі Лявонаў быў адзін. Пасля таго як Мікалаеў у чарговы раз падняў шум, патрабуючы, каб Антону аказалі медыцынскую дапамогу, яго некуды павялі, і назад ён не вярнуўся. Вечар і ўвесь наступны дзень Антон ляжаў на земляной падлозе. Устаць ён не мог. Неймаверна моцны галаўны боль і боль у грудзях не давалі спакою, ад гэтага мутнела свядомасць. Акрамя нейкай цёплай саланаватай вады, ён нічога не ўжываў.

Гэтай раніцай прынеслі некалькі вараных бульбін. Перасільваючы боль, Антон прымусіў сябе сесці і паспрабаваў ежу. З'еўшы палову прынесенага, ён асцярожна, каб не выклікаць зноў прыступу болю, лёг на падлогу. Праз некаторы час Антон зноў адчуў стан накшталт лёгкага ап'янення. Яму нават стала крыху лягчэй. У гэты момант увайшлі трое. Адзін з іх моўчкі ўзяў посуд і выйшаў, а двое засталіся. Той, які быў у еўрапейскім касцюме, штосьці сказаў, другі пераклаў:

— Як ты сябе адчуваеш?

— А як можа сябе адчуваць чалавек, у якога зламаны рэбры, пабіта галава і яму працяглы час не аказваецца медыцынская дапамога? — пытаннем на пытанне адказаў Лявонаў.

— Мы прыйшлі, каб пазбавіць цябе ад гэтых пакут.

— Хто вам замінае? Пазбаўляйце.

— Але для гэтага патрэбны твае гарантыі. Мы сумленныя людзі, і нам будзе досыць твайго запэўнення, што ты зробіш тое, што мы скажам.

— І што ж я павінен зрабіць? — спытаў Лявонаў.

Ён раптам злавіў сябе на тым, што яму хочацца гаварыць і што настрой у яго стаў лепшы.

— Ты павінен пагадзіцца супрацоўнічаць з намі.

— А вы — хто?

— Мы барацьбіты за волю Афганістана, прадстаўнікі ісламскай партыі Афганістана.

— А, гэта тая, якой кіруе Хекмаціяр?

— Так, Гульбудзін Хекмаціяр. Ён гатовы сам сустрэцца з табой, калі ты, вядома, пагодзішся перайсці на наш бок. Гэта нашы людзі прывезлі цябе сюды, і ты ў нашых руках. Як захочам, так і паступім з табой, бо мы ні ад каго не залежныя.

---

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 10, 2012 г.

— І нават ад амерыканцаў? — яхідна спытаў Лявонаў.

— Амерыканцы — не мусульмане, мы пакуль карыстаемся іх дапамогай, не больш. Калі мы прыйдзем да ўлады, то паглядзім, што рабіць з імі. Ты павінен зразумець: ты ў нашых руках і ніякія міжнародныя арганізацыі вырашыць твой лёс без нас не могуць. Калі мы захочам, то ты жыўцом згніеш у нашых ямах і твае рускія нічога не даведаюцца пра гэта. Калі ж ты пагодзішся працаваць з намі, то станеш багатым чалавекам і зможаш з'ехаць у любую краіну, якую захочаш. Грошай у цябе будзе гэтулькі, колькі запатрабуецца да канца тваіх дзён.

— Можаце мяне хоць рэзаць на кавалкі, але нічога не дачакаецеся. Я патрабую, каб мяне перадалі пасольству Савецкага Саюза ці, у крайнім выпадку, каб далі мне магчымасць сустрэцца з прадстаўнікамі пакістанскіх улад.

— А з намі ты не жадаеш гаварыць? — ледзь стрымліваючыся, спытаў мужчына.

— Вы ж не гаспадары гэтай краіны і не з'яўляецеся яе прадстаўнікамі.

— Ну, непаслухмяны, ну, шакал! У тваёй душы жыве шайтан! — выгукнуў мужчына. — Ты пашкадуеш, што не паслухаўся голасу розуму. Тут мы гаспадары, і не разлічвай на тое, што цябе будуць выслухваць пакістанцы. Як мы захочам, так і будзе. І ты здохнеш, як сабака! Ніхто ніколі не даведаецца, дзе ты і што з табой здарылася!

Яны абодва пайшлі. Лявонаў застаўся адзін. На душы была невыносная нуда. Спрабуючы падавіць яе, Антон прымушаў сябе думаць пра штонебудзь іншае. Ён ужо які раз аглядаў сцены, адшукваючы хоць нейкі цвік. Для яго думка пра самагубства здавалася натуральнай: ён шукаў смерці. Антон вырашыў падняцца, пагляд яго спыніўся на аконнай рашотцы. Але тут за дзвярамі зноў пачуўся шум: увайшлі два ахоўнікі з аўтаматамі. Жэстамі загадалі выходзіць.

Антон выйшаў у двор і ўбачыў, як да невялікага аўтафургона падводзяць Мікалаева. Груба падштурхоўваючы, прымусілі яго залезці ўнутр. Затым да машыны падвялі і Лявонава. Ён улез у металічную будку праз вузкія дзверы. Дзверы зачыніліся, і машына адразу ж кранулася. Мікалаеў дапамог Лявонаву сесці на брудную жалезную падлогу. Абодва, узрадаваныя сустрэчай, не зважаючы на моцную трасяніну, расказвалі адзін аднаму пра тое, што адбылося з таго часу, як іх разлучылі.

— Цяпер ясна, чаму яны нас трымалі паасобку, — гучна казаў Мікалаеў. — Яны вырашылі нас апрацоўваць па адным. Хрэн ім з рэдзькай!

Машына ўвесь час падскоквала на выбоінах. Антон адчуў сябе дрэнна. Ён перастаў размаўляць і моўчкі трываў боль. На шчасце, ехалі яны нядоўга. Неўзабаве машына спынілася. Дзверы фургона адчыніліся, і хлопцы апынуліся ў вялікім двары, дзе было шмат аднапавярховых і двухпавярховых будынкаў. Двор быў абнесены высокім глінабітным дувалам, у якім меліся вялікія глухія драўляныя вароты. У двары хадзіла шмат узброеных людзей у нацыянальнай адзежы. Некаторыя з іх кідалі на іх цікаўныя і насцярожаныя позіркі і хутка праходзілі міма.

Побач з Мікалаевым і Лявонавым застаўся адзін аўтаматчык, а другі хутка пакрочыў да двухпавярховага будынка. Неўзабаве ён выйшаў у суправаджэнні высокага хударлявага мужчыны. Той падышоў да іх, на ламанай рускай мове сказаў:

— Добры дзень! Ідзіце за мной. — І ён першым пакрочыў да адзінокага невялікага дома.

Дэсантнікі пайшлі за ім. Мікалаеў ціха сказаў:

— Ну вось, здаецца, і добрае слова пачулі...

— Ты маеш на ўвазе «добры дзень»?

— Так. З намі ж дагэтуль ніхто не вітаўся.

— Паглядзім, што за гэтым будзе... галоўнае, каб нас не разлучалі, — сказаў Лявонаў, тужліва пазіраючы па баках. — Тут у іх штосьці накшталт гарнізона.

— Так, падобна да таго. Я вось толькі ламаю галаву, дзе мы знаходзімся.

— Разбяромся.

Яны падышлі да дома. Дзверы былі адчынены. Іх завялі ў цесны калідор, суправаджаючы жэстам паказаў на дзверы, што былі справа. Пераступіўшы парог, яны апынуліся ў невялікім памяшканні. Дзверы за імі тут жа зачыніліся. Хлопцы азірнуліся і ўбачылі, што ў дзвярах выразана маленькае акенца з дзверцамі. Справа невялікае закратаванае акно. Шкла няма. Мікалаеў зазірнуў.

— Здаецца, гэта наша турма. Камера падрыхтавана для ўтрымання людзей. Бачыш, нават ахоўнік ля дзвярэй можа назіраць за намі.

Лявонаў, не адказваючы, таксама зазірнуў у акно. Ён убачыў той жа ўчастак двара, дзе іх высадзілі з аўтафургона. Але калі паглядзець налева і направа, то можна бачыць амаль увесь двор.

Вароты, праз якія іх завезлі, былі якраз насупраць доміка. У гэты момант яны адчыніліся, і ў двор заехаў велізарны, з нарошчанымі высокімі бартамі, грузавік. Машына, смуродзячы дымам, цяжка вуркаючы, павольна развярнулася і, даўшы назад, спынілася ля нейкага будынка. Абедзве паловы дзвярэй тут жа расчыніліся, да машыны падышлі душманы і пачалі разгружаць грузавік.

— «Мерседэс», — ціха сказаў Мікалаеў. — Бачыш, доўгія скрыні — гэта «эрэсы». Зброю, сволачы, прывезлі.

— Ведаю, захоплівалі мы такія.

— А гэта станіна ад цяжкага кулямёта, — ціха сказаў Аляксей. — А вось і сам кулямёт. О, яшчэ адзін...

Лявонаў адышоў у кут і асцярожна апусціўся на падлогу. Слухаючы, як Аляксей каменціруе разгрузку машыны, падумаў пра дом. І адразу ж шчымлівая туга ахапіла яго.

Вярнуў Лявонава да рэчаіснасці Мікалаеў.

— Антон, Антон, ты паглядзі! Яшчэ два грузавікі прыехалі, таксама са зброяй!

— Запамінай, запамінай, нашым паведамім, — змрочна пажартаваў Лявонаў, а сам нават не зварухнуўся.

Праўда, праз хвіліну Аляксей хутка адышоўся ад акна і сеў побач з Лявонавым.

— Да нас двое ідуць. Па-мойму, жратву нясуць.

І сапраўды, у дзвярах пачулася мітусня, у пакой увайшлі двое. Убачыўшы аднаго з іх, Антон радасна ўсміхнуўся. Гэта быў вознік. Праўда, у таго ніводны мускул на твары не здрыгануўся, калі ён ставіў перад Антонам кубачак з чаем і невялікую пластмасавую міску. І толькі перад тым, як выпрастацца, кінуў на хлопца ўважлівы позірк. Другі мужчына паставіў ежу на падлогу перад Мікалаевым. Затым абодва, так і не сказаўшы ні слова, выйшлі з пакоя. Ахоўнік гэтак жа моўчкі адразу ж зачыніў дзверы. Мікалаеў ускочыў на ногі і хутка падышоў да акна. Ён прасачыў, у які будынак яны ўвайшлі, і задаволена сказаў:

— Ну вось, дзе ў іх кухня, мы ўжо ведаем.

— А навошта гэта табе?

— Як навошта? — Мікалаеў сеў. — Павінны ж мы перад тым, як уцячы, рэкагнасцыроўку мясцовасці зрабіць.

— Ты лічыш, што гэта магчыма?

— А як жа! Калі яны пакінуць, напрыклад, грузавік ля дувала, мы ахоўніка ўначы — па башцэ, заскочым на грузавік, з яго на дувал — і прывітанне бацькам!

— А ну, дапамажы ўстаць, — ажывіўся Антон.

Асцярожна, з дапамогай таварыша, ён падняўся і падышоў да акна. Добра, што яно было размешчана на ўзроўні чалавечага росту. Лявонаў убачыў, што грузавік, які прыбыў першым, стаіць ушчыльную ля дувала, і што душманы цяпер разгружаюць другі.

«Мабыць, праўда на баку Лёшкі. Кузаў грузавіка амаль дастае да грэбня дувала. — Ён перавёў пагляд на вароты. Там стаялі два ахоўнікі з аўтаматамі. — Ды і гэтых уначы, калі паціху наблізіцца, можна цюкнуць і рвануць».

Антон вярнуўся на сваё месца і ціха сказаў:

— Па-мойму, сапраўды шанец ёсць.

— Але каб сігаць праз дувал, табе трэба адужаць. — І Аляксей падсунуў яму міску.

У місцы была фасоля, запраўленая таматамі. Паспрабавалі: салёная, з вострым перцам. Ні лыжкі, ні відэльца не далі, і Антон еў рукамі. Думка пра ўцёкі прымушала не зважаць ні на агідны пах, што ішоў ад ежы, ні на тое, што яна была з вострай прыправай. Антон з’еў усё і запіў цёплым, без цукру, чаем. Паглядзеў на Аляксея. Той таксама з’еў і выпіў усё, што прынеслі.

Антон пажартаваў:

— Лёша, у цябе лішняй сурвэткі няма?

— На жаль, сэр, скончыліся.

— Я, здаецца, пасплю. — Антон асцярожна лёг на спіну.

Але зноў адчыніліся дзверы, і ўвайшоў... вознік. Забіраючы посуд, ён усміхнуўся Лявонаву. Антон, улучыўшы момант, калі ахоўнік, які стаяў каля дзвярэй, не глядзеў на іх, ціха спытаў:

— Ісламабад?

Вознік спалохана азірнуўся на ахоўніка, узяў посуд і ціха сказаў:

— Пешавар.

Дзверы зачыніліся, хлопцы радасна глядзелі адзін на аднаго.

— А ведаеш, — шэптам сказаў Аляксей, — гэты мужык пачынае мне падабацца. Калі мы застанёмся тут, то ён нам можа быць карысным.

Раніцай Лявонаў прачнуўся позна. Аляксей яшчэ спаў. Антон падышоў да акна. Грузавікі, выстраіўшыся ў адзін рад, стаялі ля дувала. Паглядзеў лявей: у далёкім куце стаяла група ўзброеных людзей. Пачулася рэзкая каманда, і яны, пастроіўшыся па два ў шарэнгу, накіраваліся да варот. Усе ў нацыянальнай адзежы, з аўтаматамі на плячах. Ішлі не ў нагу, моўчкі, і нейкая пакорлівая засмучанасць была ў іх постацях.

— Напэўна, на стрэльбішча ці на палігон накіраваліся, — пачуў голас Аляксея Лявонаў.

— А, і ты ўжо вока працёр?

— А як жа, рыхтуюся да сняданка.

— Не, галубчык, спачатку фіззарадку зрабі.

— Комплекс?

— Ага.

— Ёсць, комплекс! — І Аляксей адышоў на сярэдзіну пакоя, паставіў ногі

на шырыню плячэй, развёў рукі ў бакі. І ў гэты момант у дзвярах пачуўся шум, і тут жа з’явіўся вознік з ежай. Ён паставіў усё на падлогу, дзе ўчора вячэралі палонныя, зірнуў на Антона і моўчкі выйшаў.

Мікалаеў пачакаў пакуль зачыняцца дзверы і кінуў:

— Глядзі, як баіцца, нават слова не сказаў.

— Зразумець яго можна. Але даю руку на адсячэнне, ён шукае з намі кантакту. Можа, яго кіраўнікі такім чынам да нас падлашчваюцца, а можа...

— Пажывём — пабачым, — махнуў рукой Аляксей. — Давай пачнём зараджацца энергіяй.

Ахоўнік часта зазіраў у акенца ў дзвярах і, як толькі ўбачыў, што палонныя паелі, гучна крыкнуў. Тут жа з’явіўся вознік. Мікалаеў жэстам паказаў яму, што яны жадаюць памыцца. Вознік паглядзеў на ахоўніка. Той адмоўна пакруціў галавой. Тады Мікалаеў умудрыўся зрабіць жэст, які азначаў, што яны хочуць у туалет. Ахоўнік сказаў: «Саіс», выпусціў возніка і, штосьці яму загадаўшы, зачыніў дзверы.

— Ну, ты — артыст! — усміхнуўся Лявонаў. — Умееш тлумачыць.

— Чаму ты дзівішся? Я ж з імі вёў гутарку на міжнароднай мове. Але калі яны не захочуць адгукнуцца на маю просьбу, са мной здарыцца бяда.

— А гэта ў іх новы метад катаванняў. Раптам не вытрымаеш і пагодзішся на іх прапанову.

— Я сапраўды магу не вытрымаць, і тады... — Аляксей недагаварыў. Зноў пачуліся галасы, і ў дзвярах з’явіліся двое ўзброеных мужчын. Яны жэстам паказалі Антону выходзіць, але Лявонаў прапанаваў Мікалаеву:

— Давай, Лёша, жмі. Саступаю табе сваю чаргу.

Мікалаева вывелі ў двор і павялі за вугал хаты. Аказалася, што праз акно хлопцы бачылі толькі меншую частку тэрыторыі, абнесеную дувалам. Яны мінулі палаткі, якіх было не менш за сотню, і нарэшце Аляксей апынуўся каля туалета.

Калі ён вярнуўся ў камеру, ахоўнікі павялі Лявонава. Пасля яго вяртання ў камеру ўвайшлі двое мужчын. Яны былі без зброі. Абодва былі ў нацыянальнай адзежы, але на адным з іх быў апрануты яшчэ і пінжак. Ён загаварыў першым. Другі аказаўся перакладчыкам. Перакручваючы словы, ён перакладаў:

— Мы прыйшлі, каб адкрыць вам вочы на рэальнасць, расказаць вам праўду. Вы простыя, цёмныя людзі і слепа ішлі за сваімі камандзірамі і камуністычнымі правадырамі. Вы не ведаеце, што так званы ўрад Афганістана прыйшоў і трымаецца ва ўладзе толькі дзякуючы савецкім штыкам. У Афганістане цяпер кіруюць тыя, каму напляваць і на савецкіх людзей, і на свой уласны народ. Яны здрадзілі ісламу — самай святой і адзінай правільнай і справядлівай веры на зямлі. Вам, савецкім салдатам, вядома, вашы камандзіры і правадыры не сказалі праўды пра тое, што тых, хто не адракаецца ад ісламу, урад адпраўляе ў рабства ў Савецкі Саюз і Манголію, дзе гэтых ні ў чым не вінаватых людзей прымушаюць амаль без адпачынку і сну працаваць глыбока пад зямлёй, здабываць небяспечную для жыцця чалавека руду. Вось толькі за адзін месяц з Афганістана вывезена больш за дзесяць тысяч чалавек для гэтай рабскай працы. Вас ашукваюць, калі кажуць, што нічога Савецкаму Саюзу тут не трэба. А ці ведаеце вы пра сакрэтны план Савецкага Саюза захапіць усе краіны ў гэтым рэгіёне і атрымаць доступ да Персідскага заліва? Вам, вядома, ніхто пра гэта не казаў, разумеючы, што калі вы, савецкія салдаты, даведаецеся праўду, то вы неадкладна павернеце зброю супраць сваіх несумленных кіраўнікоў. Вам, вядома, ніхто не казаў, што вы асуджаны ў гэтай вайне на смерць. Нам, вольным і ганарлівым афганскім маджахедам, дапама-

гае ўвесь свет. Нашы сябры даюць нам усё, што неабходна, для перамогі над нявернымі.

Лявонаў, ледзь стрымліваючыся, спытаў:

— Скажыце, шаноўны, а як упісваецца ў вашу тэорыю тое, што, ваюючы супраць няверных, вы з вялікай радасцю прымаеце дапамогу ад няверных. Бо амерыканцы, французы, заходнія немцы, італьянцы, японцы і іншыя вашы памагатыя не з'яўляюцца мусульманамі?

— Але яны дапамагаюць нам. Нашы амерыканскія сябры бескарыслівыя. Яны даюць нам грошы, зброю. Яны вераць нам, а мы верым ім...

— Але яны ж няверныя? — сказаў Мікалаеў.

— Але яны — за нас, — упарта паўтараў «прапагандыст».

— Значыць, і няверных, калі яны даюць вам грошы і зброю, вы прызнаяце? — насядаў Мікалаеў. — Бо гэтай зброяй абдураныя мусульмане збіваюць грамадзянскія самалёты, руйнуюць мячэці, забіваюць настаўнікаў, якія хочуць навучыць вашых жа дзяцей грамаце, рэжуць на кавалкі ўрачоў, якія ратуюць жыццё мусульманам?

— Гэта прапаганда! Я прыйшоў сюды, каб адкрыць вам вочы, а вы не даяце мне і слова сказаць! — нерваваўся «прапагандыст».

— Хопіць! — Мікалаеў рашуча ўстаў з падлогі. — Майму сябру нельга так доўга быць у напружанні, у яго баліць галава і сыходзяць крывёй раны, якія вы, нават насуперак патрабаванню Карана, не хочаце перавязаць.

— І наогул, — падтрымаў Мікалаева Лявонаў, — будзе лепш, калі вы да нас больш не прыйдзеце. Паверце, мы добра разбіраемся ў палітыцы. Ваша, вядома, справа — каму служыць, але адну параду вам дамо: нічога няма на свеце больш ганаровага, чым служэнне свайму народу. Вы ж служыце сваім заакіянскім і іншым імперыялістычным гаспадарам. Вам напляваць на гора, слёзы і пакуты свайго народа. Для вас галоўнае — атрымаць за гэта свае сярэбранікі. Ваша вера не іслам, а долар, марка і іншая валюта.

Душман працягваў сваё:

— Вы абодва нават не ведаеце, што губляеце. Ісламская партыя Афганістана, якую ўзначальвае вялікі Гульбудзінін Хекмацiяр, прывядзе нас да перамогі. Ён узброіў свае атрады і накіраваў на святую вайну.

Лявонаў павольна падняўся на ногі.

— А ведаеце вы, пан добры, які загад аддаў ваш Хекмацiяр? Ён загадаў гэтым самым атрадам «засцерагаць усякую ўласнасць, назапашаную сумленнай працай», а што гэта значыць?

— Гэта значыць, што наш паважаны Хекмацiяр хоча, каб нават самая маленькая ўласнасць была захавана для сваіх законных уладальнікаў.

— Не, — запярэчыў Лявонаў, — гэта значыць жорстка распраўляцца з тымі, хто згаджаецца прыняць ад народнай улады канфіскаваную ў феадалаў зямлю. Дарэчы, пан добры, не вашаму Хекмацiяру належыць пальма першынства ў выданні такога загада. Першым ад сваіх падначаленых запатрабаваў абараняць «набытую ўласнасць», хай нават за кошт крыві іншых, Бурханудзін Рабані — былы буйны землеўладальнік з Бадахшана, якому было мала зямлі ў сваёй правінцыі, і ён меў буйныя ўчасткі і ў правінцыі Кабул, і ў правінцыі Нангархар. Ну, а што да Гульбудзіна Хекмацiяра, то мы знаёмыя і з яго «праграмай», якая патрабуе ад усіх мусульман выканання «вялікіх наканаванняў ісламу». У ёй, вядома, няма ўказанняў забіваць дзяцей, жанчын і старых, але ж менавіта ён, Гульбудзін Хекмацiяр, першы вызначыў тарыфы за забойства яго ж суайчыннікаў-мусульман. Дастаткова прынесці вуха мужчыны, жанчыны ці дзіцяці, каб даказаць, што ты забіў ворага. Нам добра вядома, хто прыдумаў

гэты «тарыф». Яшчэ ў В'етнаме амерыканцы, прыносячы сваім камандзірам вушы, атрымлівалі ўзнагароду за забойства байца В'етконга.

«Прапагандыст» узарваўся:

— О, як вы размаўляеце з намі, няўдзячныя! Цяпер я бачу, што з вамі трэба паступаць інакш. Я думаю, што голад і яма пераканаюць вас лепш, чым нашы словы.

Ён рэзка павярнуўся і пайшоў з перакладчыкам.

Хлопцы нейкі час маўчалі. Потым Мікалаеў з павагай сказаў:

— Добры ўрок ты ім падаў. Дзе толькі вычытаў усё гэта?

— Трэба, дарагі мой, рэгулярна на палітзаняткі хадзіць, тады і будзеш ведаць гэтую праўду.

— Ды я хадзіў, але, шчыра кажучы, мяне заўсёды больш цікавілі тактыка верагоднага праціўніка, навінкі ўзбраення. Бач ты, — вылаяўся ён, — гады якія пайшлі, ямай нас палохаюць. Добра, чорт з імі, давай раны паглядзім.

Для перавязкі выкарысталі пакінуты кавалак майкі.

— Прамыць бы раны, — сказаў Мікалаеў і прапанаваў: — Калі прынясе ежу наш знаёмы, папросім у яго яшчэ адзін кубак чаю і прамыем.

Каб забыцца на боль, Антон спытаў:

— Аляксей, а адкуль цябе прызывалі ў войска?

— З Іванава.

— З горада нявест. Не жанаты?

— Не, не паспеў, хоць дзяўчат у нас сапраўды шмат. На любы густ.

— Доўга выбіраў?

— Не, рана яшчэ. Давай так дамовімся: калі вырвемся адгэтуль, то едзем да мяне ў Іванава і ажэнімся. А?

— Паглядзім, — усміхнуўся Антон. — Хто ў цябе ў Іванаве застаўся?

— Бацькі. Бацька ў выканкаме працуе, а мама ўрачом на тэкстыльнай фабрыцы. Ёсць яшчэ дзве сястры. Адна ў дзявятым, другая ў пятым класе вучацца. Добры ў нас горад. А месцы якія! Плёс... чуў, нябось, пра левітанаўскія мясціны?

— Чуў. Недалёка ад Іванава і Суздаля?

— Так. Праўда, гэты горад ужо ва Уладзімірскай вобласці, але ўсё адно блізка. Вось прыедзеш да мяне ў госці, — пачаў марыць хлопец, — пакажу табе ўсе запаветныя мясціны, горад пакажу... Убачыш, спадабаецца табе.

— Добра, добра, — горка ўсміхнуўся Лявонаў. — Толькі для гэтага трэба самую дробязь — ірвануць адгэтуль.

— Так, твая праўда, — адразу стаў сумным Мікалаеў. — Калі не вырвемся, то і жыць не трэба.

— Я таксама так думаю... Не дае мне спакою сорам, што я — дэсантнік і ў палон патрапіў. Я ж ваяваў, не хаваючыся за спіны іншых, у якіх толькі пераплётах не пабываў, а тут — на табе, у рукі душманаў трапіў.

І Лявонаў упершыню расказаў сваю гісторыю. Калі скончыў, Мікалаеў аўтарытэтна заявіў:

— Факт, на спячага накінуліся і, як курапатку, аглушылі, а затым звязалі...

— Ды не магло гэтага быць, — перабіў яго Лявонаў. — У нас хлопцы ў аддзяленні дасведчаныя, ведаюць, што нельга спаць у такім становішчы... Мне камандзір загадаў спаць, а астатнія, я ўпэўнены, не спалі. Кінуць яны мяне не маглі... Вось ужо які дзень ламаю галаву, што магло здарыцца.

— Так, з табой нельга не згадзіцца, — хмурна сказаў Аляксей. — Я ж таксама разрываюся тым жа. Атрымліваецца: адышоў убок і знік...

## «Сыночак, родненькі!»

Ніна Цімафееўна прыляцела ў Ташкент уначы. Браць таксі і ехаць шукаць месца ў гасцініцы сэнсу не было, і яна ў аэравакзале прадрамала тую частку ночы, што засталася.

У восем гадзін з тэлефона-аўтамата патэлефанавала ў шпіталь. Жанчына, якая адказвала ёй, неахвотна паведаміла адрас шпіталя, і Чайкіна адразу ж накіравалася да стаянкі таксі.

У прахадной шпіталя яе сустрэў пажылы мужчына з чырвонай павязкай на рукаве.

Ніна Цімафееўна растлумачыла яму, хто яна і што ёй трэба. Той накіраваў яе да двухпавярховага будынка.

Ля ўвахода ў будынак з такой жа павязкай на рукаве, як у старога, стаяў салдат. Чайкіна спытала ў яго:

— Скажыце, калі ласка, з кім мне можна пагаварыць, каб наведаць сына?

— Прайдзіце да дзяжурнага. Першыя дзверы налева, — суха адказаў салдат.

Ніна Цімафееўна ўвайшла ў доўгі, паўцёмны, прахалодны калідор і рашуча пхнула дзверы, на якія паказаў салдат. У прасторным пакоі сядзеў капітан. Адказваючы на прывітанне, ён устаў.

— Слухаю вас.

— У мяне тут сын ляжыць. Я хачу яго наведаць.

Яе горла імгненна перасохла. Капітан узяў вялікі журнал, што ляжаў на стале, і спытаў:

— Як прозвішча?

— Чайкін... Павел... Ён паранены ў Афганістане, — хутка сказала яна і, адчуваючы ў нагах слабасць, разгублена азірнулася. Толькі б не зваліцца, хоць бы крэсла стаяла побач!

А капітан, адшукваючы ў журнале старонку з літарай «Ч», не гледзячы на яе, прапанаваў:

— Прысаджвайцеся.

У гэты момант Чайкіна заўважыла побач з бар’ерам крэсла і села.

— Так, — задуменна прагаварыў капітан, — радавы Чайкін... — Яго палец, які ішоў па прозвішчах зверху ўніз, спыніўся. — Вось ён. Ляжыць у другой хірургіі, палата нумар трыццаць два.

— Скажыце, што ў яго? — ледзь чутна спытала маці.

— У яго? Раненне нагі. — Капітан хацеў яшчэ штосьці сказаць. Хутчэй за ўсё хацеў прачытаць услых словы, дзе гаварылася пра ампутацыю нагі, але ён быў ужо дасведчаным у падобных сітуацыях, відавочна, яму ўжо не раз даводзілася адказваць на такія пытанні. Таму толькі сказаў: — Вы праходзьце, калі ласка, у другую хірургію, там урачы вам усё скажуць.

— А дзе знаходзіцца другая хірургія?

— Вас салдат правядзе.

Капітан узяў яе сумкі і першым выйшаў з пакоя. У двары ён загадаў салдату, міма якога нядаўна праходзіла Чайкіна:

— Вазьміце сумкі і правядзе грамадзянку ў другую хірургію.

Салдат узяў сумкі і пайшоў наперадзе. Чайкіна ішла следам.

Яны ішлі па шырокай алеі, а вакол было мора зеляніны. Велізарныя дрэвы ўтваралі шчыльны цень. Паміж дрэвамі — акуратныя кусты, кветнік і травяны газон. У шматлікіх месцах устаноўлены лаўкі. Прагульваліся і сядзелі параненыя. Яны ажыўлена размаўлялі паміж сабой, смяяліся.

«Госпадзі, — думала Чайкіна, — якія ўсе маладзенькія, зусім дзеці! Як яны цешацца жыццю!»

Яна пільна глядзела на хлопцаў з раненнем ног, якія сядзелі на лаўках, і маліла Бога: «Толькі б у яго былі ногі цэлыя, толькі б...»

Раптам яна заўважыла сына. Ён падыходзіў да доўгай лаўкі і не бачыў яе. Павел быў на мыліцах, і там, дзе павінна была быць правая нага, з жахлівай пустэчай боўталася калашына сініх шпітальных штаноў.

Салдат, які суправаджаў Чайкіну, мінуў Паўла, а Ніна Цімафееўна, адчуваючы, што сілы пакідаюць яе, спынілася. Яна не магла прамовіць ні слова, толькі бязгучна адкрывала рот.

А Павел, стоячы да яе бокам, глядзеў на дрэва, на якім сядзелі птушкі.

Ніна Цімафееўна зрабіла некалькі асцярожных крокаў і ледзь чутна сказала:

— Сыночак! Пашачка!

Павел рэзка абярнуўся на голас. На яго твары з’явіліся і ўсмешка, і разгубленасць, а маці ўжо цягнулася да яго.

— Сыночак, родненькі!

Павел выпусціў мыліцы, застаўся стаяць на адной назе і працягваў да яе рукі.

— Мама! Матуля!

Яна сутаргава абхапіла яго за шыю, прыціснула да сябе яго галаву і, заліваючыся слязамі, цалавала яго твар, а ён, абдымаючы і адначасова абапіраючыся на яе, таксама не ўтрымаў слёзы.

— Матуля, родная, вось мы і сустрэліся! Ты прабач мне, матуля! Прабач!

Вакол іх пачалі збірацца параненыя. У вачах кожнага можна было прачытаць і зайздрасць, і трывогу за хуткую сустрэчу з бацькамі.

Салдат паставіў сумкі на лаўку, падняў мыліцы і збянтэжана падаў іх Паўлу.

— Вазьмі, табе ж нязручна стаяць.

Павел узяў мыліцы і накіраваўся да лаўкі. Маці з нямым болем у вачах глядзела на сына.

— Што ж ты, сынок, вырашыў хавацца ад мяне? Ты ж ведаеш, што бяду лягчэй пераносіць разам.

— Я проста не хацеў цябе хваляваць заўчасна, думаў, раскажу, калі прыеду ў Мінск. — І раптам спахапіўся: — Мам, а як ты даведалася, што я паранены? Хто табе сказаў?

— Ніхто мне нічога не казаў, Пашачка, — сумна ўсміхнулася маці. — Сэрца мне падказала пра тваю бяду, калі лісты з пахам лекаў пачалі прыходзіць.

— Як з пахамі лекаў?

— А вельмі проста. — І Ніна Цімафееўна расказала сыну, як яна адшукала яго.

Да іх падышла маладзенькая медсястра і строга сказала:

— Чайкін, ты дзе знікаеш? Табе ж трэба быць на перавязцы.

Павел зірнуў на гадзіннік.

— Ой, Дзіна, прабач. Я загаварыўся, мама прыехала.

Медсястра пільна пагледзела чорнымі вачыма на Ніну Цімафееўну і, прывітаўшыся, сказала:

— Вам лепш прайсці ў аддзяленне, таму што пасля перавязкі яму трэба будзе ляжаць.

Ніна Цімафееўна пацягнулася да сумак, але тут нібы з-пад зямлі з’явіўся салдат, які суправаджаў яе. Аказалася, што ён нікуды не сыходзіў, а стаяў непадалёк, стараючыся не замінаць. Ён падхапіў сумкі.

— Я правяду вас.

Медсястра прапанавала пачакаць Паўла ў холе. Ніна Цімафееўна спытала:

— Скажыце, а як мне пагаварыць з урачом, які лечыць яго?

— Ён цяпер на перавязцы, калі вызваліцца, сустрэнецца з вамі, я яму скажу пра ваш прыезд.

— А як я з Пашам убачуся?

— Пасля перавязкі ён будзе ў сваёй палаце. Яна на другім паверсе. Вы пасядзіце тут, а пасля перавязкі я праводжу вас туды.

Павел моўчкі ўсміхнуўся маці і пайшоў да ліфта.

Ніна Цімафееўна прысела ў крэсла і паглядзела на салдата.

— Дзякуй табе, сынок, пакідай сумкі тут, я буду чакаць.

Вярнуўшыся, медсястра сказала:

— Ну вось, парадак. Цяпер Павел у палаце, а мы з вамі пройдзем да ўрача, які лечыць яго. Да маёра Гусева Уладзіміра Паўлавіча. Рэчы пакінем у гардэробе.

Калі яны падышлі да ліфта, то ім прыйшлося прапусціць маладзенькага хлопца. Ён гэтак жа, як і Павел, быў на мыліцах. Худыя запалыя бледныя шчокі, блакітныя сумныя вочы. Ён моўчкі стаў у куце кабіны. Медсястра спытала:

— Як справы, Алік?

— Звычайна, Дзіна. Быў на прагулцы, стаміўся трохі.

— Нічога, хутка прывыкнеш. Самае горшае ўжо мінула.

Ліфт спыніўся, і хлопец, выходзячы з яго, сумна адказаў:

— А мне здаецца, што мінула самае лепшае.

Кальнулі гэтыя словы Ніну Цімафееўну ў самае сэрца.

— Госпадзі, Дзіна, як гэта страшна. Маладзенькі, зусім яшчэ хлопчык, а ўжо бязногі!

— Але ён жа жывы! — ціха, але з нейкім сваім сэнсам адказала Дзіна, а калі яны выйшлі з ліфта, растлумачыла: — У мяне ў Афганістане загінуў муж. Ён быў лейтэнантам, і ішоў яму дваццаць чацвёрты год.

Яны ішлі па доўгім калідоры, і Дзіна расказвала:

— Тут у нас ляжаць хлопцы з выбітымі ці выпаленымі вачыма. Учора адзін хацеў павесіцца. Разумееце?!

Яны спыніліся, Дзіна пастукала ў дзверы і, не чакаючы адказу, адкрыла іх. Насустрач Чайкінай з-за стала падняўся высокі мужчына ў белым халаце. Ён прывітаўся першым і прадставіўся:

— Гусеў Уладзімір Паўлавіч. Я лячу вашага сына. Прысаджвайцеся, калі ласка.

Ніна Цімафееўна прысела на краёчак крэсла. Дзіна, спытаўшы дазволу, выйшла. Перад тым як пайсці, яна сказала Чайкінай:

— Калі вы скончыце гутарку, мяне Уладзімір Паўлавіч пакліча і я вас праваду да сына ў палату.

Пасля таго як яна сышла, наступіла пакутлівая цішыня. Гусеў адкрыў гісторыю хваробы Чайкіна.

— Справы ў вашага сына пайшлі на папраўку. Неўзабаве накіруем яго ў санаторый.

— Доктар, прабачце, Уладзімір Паўлавіч, а можна яго накіраваць далячыцца ў Мінск? — І, баючыся, што пачуе адмоўны адказ, Ніна Цімафееўна паспешна дадала: — Ён у мяне адзін, і я змагла б кожны дзень бываць у яго, даглядаць яго. Зразумейце мяне, Уладзімір Паўлавіч, я ж маці!

— Ну што вы мяне ўгаворваеце, — стомлена сказаў Гусеў. — Я ўсё выдатна разумею. Добра, я пагавару з начальствам, высветлю, ці магчыма накіраваць яго ў мінскі шпіталь. Усё, што змагу, зраблю. Гэтым хлопцам цяпер самае лепшае лячэнне — дом.

— Скажыце, а як гэта атрымалася, што яму... — Ніна Цімафееўна хацела знайсці іншае слова, але не знайшла і скончыла: — адарвала нагу?

— А ён вам не расказваў?

— Не. Мы яшчэ не паспелі пагаварыць.

— Тут, у гісторыі хваробы, напісана, што ён падарваўся на проціпяхотнай міне.

— Жудасна, — прашаптала Ніна Цімафееўна. — Божа мой... як страшна.

— Выздараўленне ў яго праходзіць звычайна, наступстваў ад кантузіі мы ўжо не назіраем. Вы правільна зрабілі, што прыехалі. Дзецям цяпер вельмі патрэбна мацярынская ласка.

У палаце стаяла чатыры ложкі, было чыста і акуратна. Павел ляжаў на ложку ў куце. Побач стаяла крэсла. Ніна Цімафееўна прысела і пагладзіла сына па руцэ, якая ляжала на коўдры.

— Ну як ты, сыночак, пасля перавязкі?

— Звычайна, мама, усё ў парадку, рану апрацавалі і перавязалі.

Ніна Цімафееўна зірнула на медсястру.

— Дзіначка, а як мне ўзяць маю чырвоную сумку, я ў ёй сяго-таго смачненькага прывезла.

— Зараз я прынясу. — Дзіна накіравалася да дзвярэй.

Ніна Цімафееўна тужліва агледзела хлопцаў. Усе маладыя, у кожнага каля ложка мыліцы. Ёй было шкада не толькі свайго сына, але і яго таварышаў, бо кожнага з іх дзесьці чакаюць бацькі. А хлопцы імкнуліся здавацца абыякавымі, нібыта і не прыехала да аднаго з іх маці. Кожны займаўся чымсьці сваім. Але Ніна Цімафееўна адчувала, як яны напружаныя. Напэўна, у гэты момант кожны ўяўляў сваю сустрэчу з маці. Дзіна прынесла торбу і адразу ж сышла, паабяцаўшы праз гадзіну прыйсці.

Ніна Цімафееўна з ліхаманкавай паспешнасцю пачала распакоўваць сумку.

— Я прывезла твой любімы торт. — Яна дастала з торбы каробку з тортам, паставіла сабе на калені. — Зараз знайду нож і пачастую ўсіх вас, хлопцы.

Падзяліўшы торт на чатыры часткі, яна раздала іх хворым. Хлопцы збянтэжана дзякавалі і адразу ж прыmaліся за ласунак. Павел, набіўшы поўны рот, ад задавальнення нават зажмурыўся.

— Адчуваю сябе як дома, памятаеш, апошні дзень майго нараджэння перад прызывам у войска? Я тады еў такі ж торт. А ведаеш, колькі разоў я яго потым успамінаў?

— Еш, еш, сынок. Зараз ты, лічы, ужо дома.

Яна дастала вялікую каробку з цукеркамі і таксама падзяліла іх на чатыры роўныя часткі.

Хлопцы паступова ажыўляліся. Пачалі ўсміхацца, расказваць пра сябе.

Неўзабаве прыйшла Дзіна. Яна сказала Чайкінай:

— Вас просіць зайсці Уладзімір Паўлавіч.

Ніна Цімафееўна хутка дастала з сумкі і паклала на тумбачку ўсё, што там было.

— Сынок, падзяліце ўсё гэта з хлопцамі і еshце, я хутка прыйду.

— Не, — растлумачыла Дзіна. — Вы зможаце прыйсці толькі з пяці да сямі вечара. Ім трэба прымаць працэдуры, а пасля абеду адпачываць.

— Так-так, я разумею. — Ніна Цімафееўна нахілілася да Паўла і пацалавала яго ў лоб. — Да вечара, сыночак.

Урач Гусеў паведаміў:

— Я далажыў начальніку шпіталя пра вашу просьбу. Тут у нас яшчэ чацвёра параненых з Мінска. Ён распарадзіўся запытаць тэлеграмай у Мінск, і калі дазволяць, то адправім вашага сына туды.

— Скажыце, а можна мне яго суправаджаць?

— Ох ужо гэтыя маці! — засмяяўся ўрач. Смех у яго быў вясёлым, нават не верылася, што гэты стомлены і сумны з выгляду чалавек можа так весела смяяцца. — Давайце пачакаем адказу з Мінска, а затым будзем вырашаць і гэтае пытанне. Ну, а цяпер едзьце ў гасцініцу і адпачывайце.

Уладкаваўшыся ў гасцініцы, Ніна Цімафееўна адразу ж пабегла на рынак. Купіла рознай садавіны і ў сямнаццаць гадзін была ўжо ў шпіталі.

На наступны дзень Гусеў сказаў, што яе сын праз два дні самалётам будзе дастаўлены ў Мінск.

— З вамі паляцяць яшчэ чацвёра параненых і медсястра.

Ляцелі доўга, з трыма пасадкамі, і ўсю дарогу Ніна Цімафееўна не адыходзіла ад параненых. То вады дасць, то садавіну прапануе. На адным з прыпынкаў да самалёта пад'ехаў «рафік», на якім прывезлі гарачы абед.

У Мінск прыляцелі ўвечары. Проста ля трапа Чайкіна ўбачыла Веру Фёдараўну. З апухлымі ад слёз вачамі яна дапамагла Ніне Цімафееўне сысці з трапа. Яны абняліся і крыху адышлі ў бок. Параненых размясцілі ў машынах «хуткай дапамогі», але Чайкінай і Коблік ехаць з параненымі не дазволілі. Параненых суправаджала Дзіна.

Жанчыны паехалі ў горад рэйсавым аўтобусам. Яны ўладкаваліся на апошнім сядзенні, і Вера Фёдараўна падала Чайкінай канверт.

— Сёння ад Колі атрымала. Прачытайце.

«Добры дзень, мае дарагія мама і Сяргей! Дзве гадзіны назад вярнуліся з баявых. У нас запар два няшчасці. Знік Антон Лявонаў. Уначы быў бой, і ён, хутчэй за ўсё, паранены патрапіў у рукі духаў. Шукалі ўсім батальёнам, афганцы і авіяцыя дапамагалі нам, але, на жаль, не знайшлі. Цяпер яго пошукам займаюцца іншыя, а перад нашым батальёнам пастаўлена новая задача. Не магу прыйсці ў сябе. З Антонам мы былі як браты, і вось — на табе, як у ваду кануў! Калі ён у руках духаў, то гэта страшней за смерць. І яшчэ адно гора ў мяне, мае родныя. Я не паведамляў вам пра аднаго дарагога мне чалавека, Пашу Чайкіна...» І Мікалай без утойвання напісаў, як падарваўся на міне яго сябар.

Ніна Цімафееўна асцярожна ўклала ліст у канверт і сумна сказала:

— Ну вось, нарэшце я даведалася, як гэта адбылося.

— А вы што, не спыталі Пашачку пра гэта?

— Паверце, не змагла.

Яны выйшлі з аўтобуса, пешшу дайшлі да кватэры Чайкінай і, дамовіўшыся, што на наступны дзень разам сходзяць у шпіталь, разышліся.

Вера Фёдараўна заспяшалася дахаты. Яна заказала тэлефонную гутарку з бацькамі Лявонава, заставалася да гэтага часу каля дваццаці мінут.

## І зноў равуць бронемашыны...

У батальён, які вось ужо трэція суткі знаходзіўся на адпачынку, прыехала вялікае начальства: генерал-лейтэнант Дубік і генерал-маёр Шчарбак. З імі прыбылі афіцэры штаба, сувязісты.

Камбат Бунцаў быў незадаволены.

— Толькі хлопчыкі пачалі прыходзіць у сябе, і вось — на табе, у батальён, заўваж — не ў полк, прыбываюць адразу два генералы. Ну, разумею, прыехаў бы генерал-маёр Шчарбак. Любіць ён наша падраздзяленне, дык не, прывёз і свайго начальніка.

Убачыўшы, як генералы выходзяць з машыны, сказаў:

— Рыхтуйся, камісар. — І, папраўляючы фуражку, накіраваўся насустрач генералам. — Цяпер пачнецца.

Ён перайшоў на страявы крок, спыніўся, выразна далажыў.

Генерал-лейтэнант Дубік, ледзь прыжмурыўшы блакітныя вочы, моўчкі разглядаў камбата, затым перавёў вочы на Шукаліна. Той узяў пад казырок і прадставіўся:

— Намеснік камандзіра батальёна па палітычнай частцы маёр Шукалін.

Генерал-лейтэнант пацісну ў абодвум рукі і неяк будзённа, нават нейкім прабачлівым тонам сказаў:

— Вось прыехалі да вас паглядзець гаспадарку, ваша жыццё-быццё. Не пакрыўдзіцеся?

— Што вы, таварыш генерал-лейтэнант, — схітраваў Бунцаў, — гасцям мы заўсёды рады.

— А начальству па статуце трэба радавацца, — падтрымаў яго Шукалін.

— Ну, гэта вы, таварыш маёр, загнулі, — усміхнуўся Дубік. — У статуце пра гэта нічога не сказана. Ну добра, вядзіце нас у штаб.

У сваім кабінеце Бунцаў прадставіў генералам начальніка штаба батальёна. Міснік рассунуў шторку, за якой на сцяне вісела карта, і Бунцаў, не спяшаючыся, далажыў абстаноўку. Калі ён згадаў імя малодшага сяржанта Лявонава, які знік, генерал-лейтэнант спахмурнеў. Ён папрасіў Бунцава далажыць пра страты батальёна. Камбат падрабязна расказаў, як загінуў ці быў паранены кожны чалавек.

Дубік нейкі час моўчкі глядзеў перад сабой, а затым ціха прамовіў:

— Шмат страт... Бачу, што асабоваму складу дасталося за апошнія месяцы. Генерал-маёр Шчарбак яшчэ ўчора мне далажыў, што салдаты выматаліся да мяжы. Ён, дарэчы, па сваёй лініі рыхтуе вам канцэрт, шэфаў у госці прывязе. Бачу, вы правільна вырашылі, Валянцін Рыгоравіч, несумненна, асабоваму складу патрэбна перадышка.

Генерал-лейтэнант прайшоўся па кабінеце і зноў спыніўся каля Бунцава.

— Як з харчаваннем? Мяса, садавіна, гародніна ёсць?

— Так точна. Атрымалі ўсё, што прасілі. Шасцярых салдат давялося змясціць у санчасць. Падчас баявых дзеянняў выматаліся да такой ступені, што страцілі па дванаццаць—пятнаццаць кілаграмаў вагі.

— Так, хлопчыкі маладыя, ім бы цяпер сілкаванне ды расці сабе, а тут ваяваць трэба...

Камандзіры ведалі, як нялёгка даецца служба ў гарах. З рэчмяшком кілаграмаў на сорак, а то і на ўсе пяцьдзясят, пры саракаградуснай спякоце, знаходзячыся ў пастаянным нервовым напружанні, прайсці дзясяткі кіламетраў у дзень — гэта не назавеш прагулкай. Генерал-лейтэнант не раз бачыў, як салдаты падаюць на зямлю ад стомленасці. Яны, ведаючы кошт аднаго патрона, імкнуцца браць паменей кансерваў, а паболей боепрыпасаў.

Дубік доўга цікавіўся побытам салдат, пытаннямі палітычнай вучобы, станам дысцыпліны, а затым загадаў правесці яго па тэрыторыі гарнізона. Пабываў на кухні, зняў пробу абеду, агледзеў казармы, тэхніку. Пасля гэтага начальства паехала.

А тым часам салдаты ўзвода старшага лейтэнанта Мядзведзева разбіралі пошту. Снайпер Папоў атрымаў адразу чатыры лісты. Уладкаваўшыся ў цені палаткі, ён паглыбіўся ў чытанне і нават не заўважыў, як да іх у госці завітаў сам Святцаў. Прапаршчыка ўсюды лічылі сваім. Пра яго вясёлы нораў ведалі ўсе. Дэсантнікі яшчэ больш ажывіліся, чакаючы ад Святцава вясёлых гісторый. Святцаў па ўзросце быў старэйшы за ўсіх салдат, дома яго чакалі жонка і дачка. Прапаршчык імкнуўся пацешыць тых салдат, якія не атрымалі лістоў, і расказваў анекдоты.

— А вам, таварыш прапаршчык, жонка піша? — пацікавіўся малодшы сяржант Полін. — Нябось, чакае не дачакаецца?

Святцаву чамусьці не вельмі спадабалася гэта пытанне, і ён нейкі час абдумваў, што адказаць, а затым сказаў:

— Ёй адзін жартаўнік, накшталт цябе, Сяргей, напісаў, што мне тут нагу адарвала.

— Ну і што, не піша?

— Ды не, напісала...

— І што яна напісала? — спытаў Полін.

— «Што напісала», «што напісала», — буркліва перадражніў яго Святцаў і раптам дадаў: — А напісала так: хай без ног, хай без рук, галоўнае, каб не калека.

Грукнуў такі рогат, што нават Папоў адарваўся ад чытання і падышоў да натоўпу.

У гэты момант раздаўся сігнал трывогі. Салдат нібы ветрам здзьмула, і яны ўжо праз некалькі мінут, апранутыя, са зброяй і рукзакамі, беглі да сваіх баявых машын.

Здарылася вось што.

Душманы нечакана атакавалі малалікі пост царандоя, які ахоўваў подступы да мячэці і да жаночага ліцэя, дзе вучыліся дзеці качэўнікаў. Павятовы сакратар Народна-дэмакратычнай партыі з групай партыйных актывістаў і салдат царандоя арганізаваў кругавую абарону, звязаўся па радыё з афганскімі таварышамі і папрасіў дапамогі.

З усіх афганскіх і савецкіх падраздзяленняў бліжэй за ўсіх да паста царандоя знаходзіўся дэсантны батальён Бунцава.

Пакуль салдаты займалі месцы на брані, а баявыя машыны выстройваліся ў калону, камбат і начальнік штаба схіліліся над картай, плануючы свае дзеянні.

Салдат-радыст далажыў:

— Генерал-лейтэнант Дубік на сувязі!

Сувязь была закрытай, і падпалкоўнік казаў адкрытым тэкстам:

— Загадваю, таварыш падпалкоўнік, пакінуць на месцы адну роту, а самому з астатнімі сіламі фарсіраваным маршам — наперад. Калі паспеем, пакінутую на месцы роту пасадзім на верталёты і дэсантуем для блакіравання банды з поўдня і захаду. Май на ўвазе, камбат, там ёсць плаціна, пабудаваная савецкімі спецыялістамі, нельга дапусціць, каб душманы падарвалі яе. Вада залье ўсе сялянскія палі і хаты.

Бунцаў перадаў радысту мікрафонную трубку і загадаў аднаму з дзяжурных афіцэраў штаба:

— Камандзіра першай роты капітана Бачарова сюды! І павярнуўся да Місніка. — Пастаўце Бачарову задачу дэсантавацца паўзводна вось у гэтыя тры кропкі. Трэба блакіраваць праціўніка з поўдня і з захаду, не дапусціць яго адступлення ў горы і «зялёнку». Я ўпэўнены, Бондараў пратрымаецца да

нашага падыходу. Вы застанецеся тут. Арганізуйце сувязь са мной і Бачаровым, пасняшайцеся з верталётамі.

— Камандзір, — узмаліўся Міснік, — дазволь мне з першай ротай дэсантавацца!

— Нельга. Ты патрэбен мне ў штабе. Мы ж не ведаем, як усё можа абярнуцца. Звяжыся з камандаваннем афганскай дывізіі, агавары магчымыя варыянты. Будзь на пастаяннай сувязі.

Калона, зароўшы магутнымі маторамі, ірванулася наперад. Бунцаў дзелавіта азірнуўся: усе машыны ў руху. Тады ён спусціўся ўніз праз верхні люк, прыстроіўся да маленькага століка і разаслаў на ім карту. Ісці трэба было каля дваццаці кіламетраў. За гэты час ён павінен быў паставіць задачу камандзірам, яшчэ раз прайграць на карце і абдумаць свае дзеянні.

Міснік паведаміў, што верталёты з дэсантам пайшлі. Іх маршрут пралягаў за хрыбтамі гор, менавіта яны і прыкрыюць дэсант падчас падыходу да цэлі.

Бунцаў аддаваў неабходныя распараджэнні па радыё, але тут яго зноў выклікаў на сувязь Міснік. Ён паведаміў трывожную вестку. У пяці кіламетрах паўднёвей павятовага цэнтра спынілася на адпачынак афганская аўтакалона з васьмідзесяці сямі адзінак тэхнікі. Гэта калона везла насельніцтву суседняга павета харч, газу, салярку, адзежу. Душманы нейкім чынам даведаліся і некалькі мінут назад напалі на калону. Ідзе бой. Суправаджэнне калоны просіць дапамогі. Затым Міснік паведаміў камбату, што афганскім камандаваннем да іх накіраваны на дапамогу дзве роты бліжэйшага батальёна «Камандос». Разліковы час прыбыцця гэтых сіл — не раней як праз гадзіну.

І зноў Бунцаў схіліўся над картай. Да падыходу да павятовага цэнтра заставалася тры кіламетры. Камбат думаў. Думкі працавалі выразна і хутка. Ён абдумваў варыянты бою, свае дзеянні і дзеянні праціўніка, магчымыя нечаканасці.

А вось і апошні паварот.

Наперадзе павятовы цэнтр. Справа ад дарогі бачны клубы дыму. Бунцаў падняўся на браню. У бінокль пачаў сачыць, як з-за грэбня гор выскоквалі верталёты і рэзка ішлі на зніжэнне. Калона ўжо ўваходзіла ў гарадок, а душманы яшчэ ніводным стрэлам не сустрэлі батальён. Прама з дарогі паўзводна баявыя машыны рэзка паварочвалі направа, пакідаючы за сабой доўгія шлейфы пылу і дыму, з ходу ўступалі ў бой. Нібы ў мультфільме, дзейнічалі артылерысты і мінамётчыкі. Тысячаразова завучанымі рухамі яны рыхтавалі свае гарматы і мінамёты да бою. Дэсантнікі дзейнічалі проста з борта, ашаламляючы і душачы праціўніка агнём і моцай «брані». Але вось першыя шэрагі дасягнулі «зялёнкі». Далей машынам не прайсці. Фруктовыя дрэвы, хмызняк і арыкі былі сур’ёзнай перашкодай. Паступіла каманда спешыцца. Салдаты спрытна саскоквалі з машын і, разгортваючыся ў ланцуг, працягвалі наступленне. Душманы ўжо апамяталіся і, адстрэльваючыся, пачалі адступаць ад будынка павятовага камітэта, а праз некалькі хвілін пабеглі яны і ад будынка царандоя.

Цяжэй прыйшлося дэсантнікам каля ліцэя. Душманы паспелі схавацца за тоўстымі дуваламі. Іх гранатамётчыкі адкрылі агонь па баявых машынах, якія падышлі сюды. Адзін бронетранспарцёр задыміў, і неўзабаве з яго маторнай часткі выплюхнулі языкі полымя. Весці агонь з цяжкай зброі атакуючыя не рашаліся, за дуваламі маглі быць і дзеці, якіх бандыты наўмысна не выпускалі з ліцэя. Таму камандзір разведвальнага ўзвода, выставіўшы тры БМП на прамую наводку, не адкрываў агню з гармат. Ён шукаў выйсце са становішча,

што нечакана ўзнікла. Душманы, заняўшы пазіцыі на плоскіх дахах дамоў і, схаваўшыся за грэбнямі дувалаў, вялі шалёны агонь.

Цалкам акружыць тэрыторыю ліцэя атрымалася хутка. Але як патрапіць унутр?

Да старшага лейтэнанта, які схаваўся за БМП, падбег камандзір сапёрнай роты Фаменка.

— Слухай, у мяне ідэя. Давай паставім дымавую завесу і пад яе покрывам мае хлопцы падарвуць вароты?

— Але ты ж бачыш, які шчыльны агонь. Не загубім людзей?

— А ты адну БМП пастаў насупраць варот і хай б'е з кулямёта па грэбні дувала, а астатняе я зраблю.

Іванько далажыў камбату становішча і пра тое, якое рашэнне яны прынялі. Бунцаў пагадзіўся з ім. Старшы лейтэнант ускочыў у БМП, і машына пачала ад'язджаць назад. Затым яна развярнулася і, зрабіўшы крук, пераадолеўшы невялікі арык, спынілася метрах у пяцідзесяці ад варот. Душманы ўзмацнілі агонь. Кулі загрукалі па брані. Але вось запрацаваў кулямёт БМП. Ён прайшоўся доўгай чаргой па версе дувала. Пад яго прыкрыццём аддзяленне дэсантнікаў залягло ў складках мясцовасці ў ланцуг. Салдаты адкрылі агонь з ручнога кулямёта і аўтаматаў.

Камандзір узвода загадаў аднаму аддзяленню заняць пазіцыі па баках дувала так, каб салдаты маглі бачыць дувал нават тады, калі будзе пастаўлена дымавая завеса.

Пасля гэтага наступіла чарга сапёраў. Праз хвіліну суцэльная сцяна дыму стаяла перад душманамі, і тыя стралялі наўздагад. Неўзабаве грукнуў выбух — і вароты разляцеліся ўшчэнт. У двор накіравалася баявая машына пяхоты. Дэсантнікі, схаваныя за бранёй, з абодвух бартоў вялі прыцэльны і шчыльны агонь. За БМП на тэрыторыю ліцэя ўварваліся сапёры і яшчэ адно аддзяленне дэсантнікаў...

А да гэтага моманту тыя, хто быў блакіраваны душманамі ў будынках павятовага царандоя і камітэта партыі, ужо змаглі злучыцца з савецкімі салдатамі і разам з імі пачалі праследаваць ворага.

Бунцаў разам з работнікамі павятовага камітэта партыі і начальнікам аддзела царандоя спяшаліся да жаночага ліцэя. Туды іх тэрмінова выклікаў камандзір разведвальнага ўзвода Іванько.

Калі прыбылі на месца, насустрач ім з-за дувала пачалі выходзіць чатырнаццаці-шаснаццацігадовыя дзяўчаты. Многіх выносілі ці выводзілі салдаты.

— Што тут у цябе? — спытаў камбат у старшага лейтэнанта Іванько, які падышоў да яго.

Твар камандзіра ўзвода быў бледным.

— Таварыш падпалкоўнік, я такога яшчэ не сустракаў. Ідзіце паглядзіце, што гэтыя звяры зрабілі з дзяўчынкамі-падлеткамі.

Ён павярнуўся і пайшоў наперадзе. Увайшлі ў вароты. Усярэдзіне тэрыторыі віднеўся яшчэ адзін дувал. Праз вузкую брамку прабраліся ўнутр. І тут, здранцвеўшы ад жаху, яны спыніліся, здзіўленыя чалавечай жорсткасцю.

— Звяры!.. — толькі і змог выдыхнуць Бунцаў і, павярнуўшыся да нампаліта, крыкнуў: — Дзе ўрачы?! А раптам хто-небудзь яшчэ жывы?!

Сакратар павятовага камітэта крануў за рукаў камбата і ціха сказаў паруску:

— Не трэба ўрачоў, таварыш! Усе яны мёртвыя, бачыце, душманы распаролі ім жываты... Дзякуй вам, што астатніх дзяўчынак выратавалі, іх тут вучылася трыста дваццаць.

Да камбата падбег пасланец і далажыў:

— Таварыш падпалкоўнік! Камандзір трэцяй роты старшы лейтэнант Пузанаў паведамляе, што плаціна ў праціўніка адбіта. Ён просіць тэрмінова прысланць сапёраў, там выяўлены нейкія правады, якія цягнуцца ўбок.

Бунцаў загадаў капітану Фаменку неадкладна адправіцца са сваімі людзьмі да плаціны і падышоў да радыста.

— Сувязь з нашымі, якіх накіравалі да аўтакалоны!

Праз хвіліну камбат з палёгкай уздыхнуў: паспелі. Бандыты не змаглі знішчыць калону, і цяпер афганскі батальён «Камандос», які падаспеў своечасова, праследваў іх у «зялёнцы».

Салдаты працягвалі выводзіць з ліцэя палонных душманаў. Камбат разумеў, што вестка пра злачынства вось-вось распаўсюдзіцца па павятовым цэнтры, і тады абураныя жыхары могуць паспрабаваць здзейсніць свой суд над катамі. Ён загадаў утварыць баявымі машынамі квадрат, унутр якога, пакуль не падыдзе афганскі батальён, сагнаць палонных.

Бунцаў, не спяшаючыся, адышоў у бок і, прыхінуўшыся да ствала дрэва, дастаў з нагруднай кішэні пісьмо. Яно было раздрукавана: камбат ужо чытаў яго сёння. Ён разгарнуў невялікі лісток. «Можаш на мяне крыўдзіцца, Міша, але я так больш не магу. Быць замужам і жыць без мужа — гэта не для мяне. Не хаваю, сустрэла я тут аднаго чалавека, ён мне па душы. Таму будзь у сваёй Афганіі колькі хочаш, а мне дай згоду на развод, абавязкова пісьмовы, а то ў ЗАГСе не пагодзяцца на афармленне дакументаў...»

Далей Бунцаў не стаў чытаць. Ён скамячыў ліст і, сціскаючы яго ў руцэ, праз сад накіраваўся туды, дзе загадаў разгарнуць медыцынскую палатку. Ля палаткі гарэла невялікае вогнішча, кіпяцілі ваду. Бунцаў кінуў у агонь ліст і спытаў Шукаліна, які падышоў да яго:

— Якія страты?

— Двое хлопцаў загінула, пяцёра паранены, двое з іх цяжка, адзін бронетранспарцёр выведзены са строю.

## «У вас зваротнага шляху няма»

Дні ішлі за днямі. Усё менш Лявонава турбаваў боль у баку. Разам з Мікалаевым яны ўжо распрацавалі план уцёкаў і цяпер чакалі зручнага выпадку. Ім быў неабходны грузавік, пакінуты на ноч каля дувала, ды яшчэ каб дзяжурыў круглатвары з кароткімі вусікамі душман. Ён ніколі ўначы не сядзеў ля дзвярэй, а выходзіў з калідора і ўладкоўваўся на прыступках дома.

Неяк Лявонаву, калі ён у суправаджэнні двух канваіраў накіроўваўся да туалета, трапіўся на вочы кавалак тонкага дроту. Але як яго падняць? У туалеце Лявонаў прыдумаў, што зрабіць, і, калі выйшаў у двор, рукамі падтрымліваў штаны, бо загадзя вырваў гузік. Канваіры смяяліся, нават сам Антон усміхнуўся. Ён дэманстратыўна агледзеў мясцовасць: ці няма чым прымацаваць штаны, і, «убачыўшы» дрот, падняў яго. Ахоўнікі не сталі забіраць знаходку.

У камеры Лявонаў паказаў Аляксею дрот.

— Малайчына, Антон! — узрадаваўся той.

Абдзіраючы доўгія пазногці, рукамі ўзрыхлілі зямлю ў куце і схавалі туды дрот. Пасля гэтага доўга глядзелі ў акенца. Хлопцы ўжо ведалі парадак службы ахоўнікаў. Праўда, засмучала яшчэ адна акалічнасць: да іх перастаў прыходзіць афганец-вознік, на якога абодва рабілі вялікую стаўку, спадзеючыся паступова схіліць яго на свой бок, каб ён аказаў ім дапамогу.

І вось цяпер, стоячы каля акна, яны ўспаміналі пра яго.

— Чорт вазьмі, я так спадзяваўся на яго, — казаў Лявонаў. — Ён жа сам неўзаметку для іншых імкнуўся выказаць нам сваю сімпатыю.

— Я таксама ўсё ламаю галаву, што з ім магло здарыцца.

— А я думаю, што яго кудысьці накіравалі. Раней, калі ён да нас і не заходзіў, то ўсё адно праз акно яго можна было ўбачыць у двары, а вось ужо дзён пяць ці шэсць — як у ваду кануў.

— Вядома, дрэнна, што мы з табой іх мовы не ведаем, а то можна было б паспрабаваць нагледзець патрэбнага чалавека.

Мікалаеў павярнуў да Лявонава свой схуднелы, даўно не голены твар. Ён быў вышэйшы за Лявонава амаль на цэлую галаву, і Антон бачыў, як пад падбародкам у Аляксея ходзіць вялікі востры кадык. Лявонаў сумна ўсміхнуўся.

— Калі б нас такімі ўбачылі мамы. Не ведаю, як твая, а мая сапраўды страціла б прытомнасць.

— Мая мама ўрач. Галоўнае — драпануць нам з табой, а там паедзем да мяне ў Іванава, і мая мама за тыдзень зробіць з нас людзей.

У гэты момант за дзвярыма пачуўся нейкі шум, і яны, нібы па камандзе, селі на падлогу. Нельга было паказваць ворагу, што іх цікавіць жыццё ахоўнікаў.

Моўчкі ўвайшлі двое мужчын, і адзін з іх ткнуў пальцам у Лявонава.

— Буру!

— Куды гэта яны цябе? — трывожна спытаў Мікалаеў.

— Чорт іх ведае. — Лявонаў павольна ўставаў.

Выйшаўшы на ганак, Антон на імгненне прыпыніўся ад лёгкага галавакружэння, але яго тут жа хтосьці з канваіраў падпіхнуў у спіну.

Гэтым разам яго вялі да самага далёкага дувала. Там аказаліся вузкія дзверы. Аўтаматчык ля ўвахода, уважліва разглядаючы рускага, адкрыў іх. Пераступіўшы праз высокі земляны парог, Лявонаў апынуўся яшчэ ў адным вялікім двары. На пляцы выстраілася шарэнга людзей з аўтаматамі. Перад імі стаяў замежны інструктар, які праз перакладчыка расказваў аб будове пераноснага зенітна-ракетнага комплексу. Антон такога раней не бачыў і падумаў: «ПЗРК, але чый? Нейкі вялікі кантэйнер і антэны дзіўныя, як пласціны».

Адзін з ахоўнікаў, які ішоў крыху ззаду, убачыўшы з якой цікаўнасцю рускі разглядае ракету, хвалячыся, моцна перакручваючы словы, прамовіў:

— Карашо! Шураві самалёт хораб. — Ён паказаў рукой на ракету і дадаў: — Эмерыкэн «Сцінгер».

«Сцінгер»? Вось ён які! — Антону адразу ж успомнілася, як аднойчы на занятках афіцэр расказваў пра «Сцінгер». — Няўклюда, я ж бачыў гэты комплекс на плакаце ў батальёне. Божа мой, як даўно гэта было!»

Неўзабаве яны наблізіліся да невысокага плота з металічнай сеткі. Увайшлі ў брамку, ля якой стаяў душман з аўтаматам на плячы, і адразу ж апынуліся ў райскім кутку. Пад пышнымі кронамі дрэў пахлі кветкі, на зялёных газонах стаялі распырсквальнікі. Вада зіхацела вясёлкавымі праменямі. Уздоўж дарожкі з бетонных плітак цягнуўся густы, акуратна падстрыжаны хмызняк. Яны абмінулі дом і апынуліся каля басейна. Чыстая, блакітнаватая вада так і вабіла. Нясцерпна захацелася кінуцца ў яе, адчуць яе жыватворную прахалоду. Антон нават галаву ў бок павярнуў, каб не бачыць гэтай спакусы. Ім нават ні разу не далі папіць уволю, а тут адразу гэтулькі вады!

За басейнам стаяла вялікая белая двухпавярховая віла. Лявонава ўвялі туды. Пасля жабрацкага існавання хлопец нават спалохаўся такой раскошы. Прайшоўшы па бездакорна чыстай падлозе, ён па шырокіх сходах падняўся

на невялікую пляцоўку. Тут ад канваіраў яго прыняў апрануты па-еўрапейску мусульманін і правёў у прасторны пакой. Па знаку суправаджаючага Антон спыніўся і пачаў разглядаць пакой. Справа, на ўсю сцяну — велізарнае акно, якое выходзіць у сад. Злева ў сцяне камін, крыху далей стаяла некалькі крэслаў і даўгаваты эліпсападобнай формы нізкі мармуровы столік. Прыцягвала позірк шырокая, з вялікімі мяккімі падушкамі, канапа.

Мужчына, які суправаджаў Лявонава, напружана глядзеў на прыгожыя драўляныя дзверы ў процілеглай сцяне. Адтуль, відавочна, і павінен быў з'явіцца той, з-за каго прывялі сюды палоннага.

Антон перавёў пагляд на акно. Прыгожыя празрыстыя фіранкі. Праз іх добра бачны дагледжаныя газоны і кветнікі. Вочы ўжо прывыклі да прыцемку і прагна глядзелі на зеляніну.

У гэты момант адчыніліся дзверы, і ў залу ўвайшоў... Роберт. Яго суправаджалі ўжо знаёмая Антону Людміла Торн і яшчэ трое нейкіх мужчын з фотаапаратамі. Тут жа з дзвярэй, якія знаходзіліся за Лявонавым, ценем вынырнуў слуга. Ён паставіў на часопісны столік паднос, на якім стаялі вялікія талеркі з рысам і мясам, бутэлькі з кока-колай.

Роберт, весела ўсміхаючыся, шырока раскінуў рукі і ішоў праз усю залу да Лявонава. Побач з амерыканцам тупаў перакладчык.

— О, Антон! Я рады вас зноў бачыць, — нібы старому сябру, казаў ён, выказваючы жаданне абняць Лявонава.

Антон ухіліўся ад яго рук. Амерыканец, робячы выгляд, што не заўважае насцярожанасці хлопца, сілком абняў яго за плечы, мабыць, пазіруючы людзям, якія здымалі гэту сцэну. Затым ён падвёў Лявонава да століка з ежай.

— Садзіся, падмацуйся, сябар.

У Антона ад паху ежы пацямнела ў вачах, закружылася галава. Ён зразумеў задуму амерыканца: зрабіць фатаграфію рускага салдата ў выдатным становішчы, за ежай. Антон адвярнуўся і са злосцю сказаў:

— Нас тут кормяць і ўтрымліваюць, як сабак. А вы, пан харошы, жадаеце паказаць гэта інакш. Не выйдзе! Я патрабую, каб мяне і майго таварыша перадалі прадстаўнікам маёй Радзімы! — голас у Антона раптам сарваўся. Ён гнеўна зірнуў у вочы амерыканцу. — Не трэба спрабаваць зрабіць з мяне здрадніка Радзімы! У вас нічога не атрымаецца!

Роберт выслухаў перакладчыка, павярнуўся да аднаго з суправаджаючых яго мужчын і пстрыкнуў пальцамі. Той падышоў да амерыканца і перадаў яму нейкі часопіс. Роберт адкрыў яго на патрэбнай старонцы.

— Паглядзіце, таварыш малодшы сяржант Лявонаў!

Антон убачыў некалькі фатаграфій у часопісе. Савецкія салдаты ў кішлаку, на фоне дувалаў, страляюць у мірных людзей. На зямлі ляжаць забітыя жанчыны, мужчыны, дзеці... І раптам хлопца нібы токам працяло. Ён убачыў сябе. Антон стаяў ля нейкай сцяны. Непадалёку ляжалі забітыя. Побач з гэтай фатаграфіяй была іншая. На ёй яго ваенны білет. Выразна былі бачны яго фатаграфія, прозвішча...

— Ды што ж гэта такое?! Хто вам даў права фальсіфікаваць фота? — ён люта ступіў да Роберта.

Амерыканец спалохана адскочыў.

— Спакойна, малады чалавек. Я хачу, каб вы самі зразумелі, што зваротнага шляху ў вас няма. Пасля публікацыі гэтых фотаматэрыялаў усе будуць упэўнены ў тым, што вы добраахвотна перайшлі на наш бок. А гэта значыць, што вам застаецца змірыцца з лёсам і думаць рэальна. Зразумейце, вы нічога не губляеце. Вы ўжо сталы чалавек. Адкіньце ўсе сентыментальнасці, дума-

ючы пра сваіх сваякоў. Так уладкавана жыццё, а вам усміхаецца шчаслівая зорка: набыць волю, мець усё неабходнае пад рукой, ездзіць куды захочацца. Дарэчы, нямала савецкіх салдат, якія раней апынуліся ў вашым становішчы, паслухаліся нас і цяпер не шкадуюць аб гэтым.

— Гэта хлусня! — сам таго не заўважаючы, крычаў Лявонаў. — Ніхто з савецкіх людзей не пойдзе на повадзе ў вас. Ведайце, што сярод савецкіх салдат вы не знойдзеце здрадніка. Вашы фоташтучкі — брудная хлусня і правакацыя! Ніхто ім не паверыць.

— Я цяпер не буду ўступаць з вамі ў палеміку. Думаю, час і ваша становішча прымусяць вас быць разумным і прыслухацца да нашай прапановы...

Лявонаў увайшоў у камеру і, не хаваючы слёз, расказаў аб усім Аляксею.

Мікалаеў нервова хадзіў з кута ў кут, затым сеў побач з Антонам і дакрануўся да яго пляча.

— Я ўпэўнены, што ніхто не паверыць гэтай фотамазні. Нашы ведаюць, на што яны здольныя. — Мікалаеў нечакана ўсміхнуўся. — Ты так знерваваўся, што нават не заўважыў, што сёння дзяжурыць «наш» ахоўнік, а каля дувала за час тваёй адсутнасці сталі два грузавікі.

— Гэта так? — ускочыў на ногі Лявонаў.

Ён падбег да акенца і радасна пацёр рукі.

— Ну, Лёша, ці сёння, ці ніколі! Даставай дрот, зробім кручок!

— Не спяшайся, Антон, зоймемся гэтым, калі сцямнее, ды і пажраць яшчэ прынясуць.

Іх план, на першы погляд здавалася, нельга здзейсніць, але гэта быў адзіны шанец вырвацца адгэтуль. Пра тое, што іх чакае, калі ўцёкі скончацца няўдачай, хлопцы не думалі. Калі ўцячы не атрымаецца, то сэнсу жыць далей няма. Яны былі гатовыя да ўсяго дзеля барацьбы за сваю волю.

Неўзабаве прынеслі ежу: кожнаму па невялікай аладцы і чай без цукру. Кармілі іх два разы ў дзень. Раніцай, як правіла, нейкай бурдой, якую называлі супам, і варанай фасоляй, якая кепска пахла. Хлопцы ж, апантаныя думкай пра ўцёкі, не зважалі ні на тое, як выглядала ежа, ні на яе пах, ні на брудны посуд. Елі ўсё, абы падтрымаць сілы. Вось і цяпер яны, не спяшаючыся, з’елі і выпілі ўсё, што ім прынеслі. Дачакаліся, калі прыбяруць посуд, дасталі дрот, асцярожна прымерылі яго і вырабілі кручок, якім праз маленькае акенца можна будзе дацягнуцца да засаўкі, што зачыняе дзверы. Яны добра вывучылі звычкі сённяшняга ахоўніка. Да наступу цемры ён сядзіць ля дзвярэй, а затым выходзіць на невялікі каменны ганак, садзіцца на прыступкі. Калі-нікалі, бавячы час, ціха напявае нейкі матыў.

У гэты вечар для хлопцаў час цягнуўся пакутліва доўга. Ахоўнік, здавалася, паводзіў сябе сёння не так, як звычайна: на ганак не выходзіў, уладкаваўся на самаробным зэдліку ля самых дзвярэй камеры і часта зазіраў туды праз маленькае акенца. Мікалаеў, каб яшчэ раз агледзецца, папрасіўся ў туалет. Але ахоўнік адмоўна пакруціў галавой.

— Што гэта з ім? — ціха спытаў Лявонаў. — Чамусьці паводзіць сябе насцярожана. На двары ўжо сцямнела. Звычайна такім часам ён ужо на ганку тырчыць. Адчувае, напэўна... — Лявонаў лёг на падлогу. — Кладзіся і ты, хай думае, што мы ўжо спім.

Аляксей лёг. У калідоры пачуліся гучныя галасы. Прыйшло некалькі чалавек, яны пра штосьці пагаварылі з ахоўнікам і нават зазірнулі праз акенца ў камеру.

— Бач ты, — шапнуў Мікалаеў, — нават пост правяраюць. Але ўнюхаць жа пра нашы намеры яны не маглі.

Ахопленыя трывожным чаканнем, яны праляжалі яшчэ каля гадзіны. Рух у двары паступова спыніўся.

— Позна ўжо, а ён сядзіць, як балван, ля дзвярэй! — злосна прашаптаў Лявонаў, але больш нічога сказаць не паспеў.

У двары пачуліся галасы, тупат ног. Хлопцы падышлі да акенца і ўбачылі, што там сабралася не менш за сотню чалавек. Па нечай гучнай камандзе адчыніліся велізарныя вароты. Людзі пастроіліся ў шарэнгу па двое.

Праз некалькі хвілін у двор заехалі тры джыпы. Яны спыніліся якраз насупраць акон камеры, але разгледзець, хто прыехаў, Лявонаў і Мікалаеў не змаглі. Тыя, што прыехалі, падышлі да шарэнгі душманаў. Хтосьці з іх пачаў гаварыць. Па ўрыўках фраз хлопцы зразумелі, што ён звяртаўся да душманаў па-англійску, а перакладчык перакладаў на дары.

— Напэўна, банда сабралася ў паход, а гэтыя прыбылі іх натхніць, — выказаў здагадку Мікалаеў.

Неўзабаве з вуліцы данесліся гукі матораў. Мабыць, бандытаў чакалі грузавікі. Група, якая прыехала, рушыла да джыпаў.

І вось у двары наступіла звычайная для гэтага часу глыбокая начная цішыня. Нават вартавы, зразумеўшы, што больш гасцей і правяраючых не будзе, прычыніў акенца ў дзвярах, накінуў невялікі кручок і ўладкаваўся на сваё звыклае месца на ганку.

Неўзабаве ён завуркатаў свае любімыя матывы.

— Ну што, брат, пачнём? — перарывіста дыхаючы ад хвалявання, паціху спытаў Лявонаў.

— Так, Антон, пара! Калі што здарыцца з кім-небудзь з нас, другі не спыняецца, сыходзіць. Галоўнае, каб на Радзіме даведаліся праўду.

Лявонаў выцягнуў з земляной падлогі дрот, асцярожна засунуў яго ў шчыліну, намацаў кручок і пачаў паволі яго прыўздымаць. Пачулася лёгкая пстрычка: акенца было адкрыта.

Ахоўнік працягваў свой матыў. Антон перавёў дыханне, падкасаў правы рукаў і ўзяўся за дзвярную завалу. Дацягнуўся да яе кручком, учапіў і пачаў павольна цягнуць...

У гэтыя секунды вырашалася ўсё. Варта было ахоўніку ўстаць і падысці да свайго месца ля дзвярэй — і здарылася б непапраўнае. Але, на шчасце, ён сядзеў і нягучна спяваў.

Увесь потны, дрыжучы ад напружання, Антон павольна цягнуў на сябе завалу. І вось дзверы здрыгануліся і злёгку прыадчыніліся. Цяпер наступіла чарга Мікалаева. Ціха ідучы босымі нагамі — ён загадзя разуўся, — Аляксей пачаў набліжацца да ахоўніка. Аўтамат таго ляжаў на ганку пад правай рукой. Але цяпер галоўная небяспека была не ў зброі, а ў тым, што душман падыме крык.

Яшчэ днём Аляксей пераканаў Лявонава, што ахоўніка павінен браць ён: «Я ж самбіст, а ты, нягледзячы на тое, што дэсантнік, моцна аслаб, не акрыяў ад ран».

Падкраўшыся да душмана, Аляксей нечакана схапіў яго правай рукой за шыю, а левай закрыў яму рот. Лявонаў забраў аўтамат. Душман быў так ашаломлены і спалоханы, што практычна не аказаў ніякага супраціўлення. Яго хутка ўвалаклі ў камеру, знялі кашулю, разарвалі яе і, зрабіўшы кляп, заткнулі яму рот. Палонныя рэмнем надзейна звязалі ахоўніку рукі, а лапікам кашулі ногі, каб ён не змог, дабраўшыся да дзвярэй, стукаць. Паклалі яго ў камеры ў дальнім куце і замкнулі дзверы. Зараз спыніць іх магла толькі смерць, а яны былі гатовыя і да яе. Хлопцы бясшумна дабраліся да аўтама-

шыны і залезлі ў кузаў. Узлезлі на борт, а з яго забраліся на дувал. Мікалаеў зашаптаў:

— Антон, трымайся за рэмень аўтамата і спускайся.

— А ты як?

— Саскочу, не хвалюйся. Дзейнічай.

Дувал у вышыню быў не менш як чатыры метры. Мікалаеў усеўся на яго верхам і моцна ўзяўся за аўтамат. Лявонаў, учапіўшыся за рэмень, пачаў спускацца. Неўзабаве ён павіс на руках. Да зямлі было яшчэ далекавата. Але што зробіш? І ён, расціснуўшы рукі, цяжка зваліўся на зямлю. Ускочыў на ногі — здаецца, усё ў парадку! Ціха сказаў:

— Кідай аўтамат, Лёша...

Аўтамат з ляскам зваліўся ўніз. Мікалаеў папрасіў:

— Адыдзі крыху ўбок, а то я цябе не бачу. — Ён лёг жыватом на дувал і саслізнуў. Саскочыў, але не ўтрымаўся і зваліўся.

— Як, цэлы? — абмацваў сябра Антон.

— Так, здаецца, парадак. Дзе аўтамат?

Мікалаеў схапіў аўтамат, і яны пабеглі ўздоўж дувала.

## Сапёры

Камбат Бунцаў і яго намеснік па палітрабоце Шукалін адкрыта радаваліся званку генерал-лейтэнанта Дубіка, які паведаміў, што асабоваму складу батальёна даецца пятнаццацідзённы адпачынак. Праўда, крыху азмрочвала радасць тое, што сапёрная рота капітана Фаменкі, якая была нададзена батальёну, адзывалася для выканання нейкага тэрміновага задання.

— Так, шкада, вядома, будзе, калі роту нам не вернуць, — буркліва казаў Бунцаў, адначасова назіраючы праз акно, як да штаба набліжаюцца афіцэры Фаменка і Антоненка.

Калі яны з’явіліся ў дзвярах, Бунцаў устаў і, накіроўваючыся насустрач, спытаў:

— Ну як, Мікалай Георгіевіч, зрабіў сваю «чорную» справу?

— На жаль, так! — прытворна ўздыхнуў Антоненка і тут жа, усміхнуўшыся, дадаў: — Ды не смуткуйце, мужыкі, праз дзесяць дзён вярну вам і Фаменку, і яго малайцоў.

Бунцаў і Шукалін добра ведалі Антоненку. Невялікага росту вусаты маёр карыстаўся аўтарытэтам «спеца» па ўсім, што толькі можа падарвацца. Маёру досыць было глянуць на любую міну, узрыўчатку, фугас, каб адразу ж вызначыць, што гэта за штука, чыя яна і што ад яе можна чакаць.

Антоненка знешне быў падобны на легендарнага Чапаева. Гэта падабенства ўзмацнялі вусы і адважны, рашучы характар.

— Скажу вам, браткі, што не толькі людзі, нават тэхніка стамілася. — Антоненка спагадліва глядзеў на афіцэраў. — Дасталося вам у апошні час, нічога не скажаш.

— А што за спешка? Чаму роту тэрмінова кідаюць на новае заданне? Сам жа бачыш, што салдаты вельмі змучыліся, — спытаў Шукалін.

— А вам не сказалі? — здзівіўся Антоненка.

— Мне патэлефанаваў генерал-лейтэнант Дубік, — растлумачыў камбат, — і загадаў падрыхтаваць роту да выхаду з гарадка. Сказаў, што за ёй прыбудзе маёр Антоненка. І ўсё.

— Справа ў тым, што трэба неадкладна дапамагчы афганскім сябрам даставіць аўтакалону ў адну даліну. Антоненка падышоў да карты, якая вісела на сцяне, і паказаў пальцам у патрэбную кропку. — Як бачыце, вы бліжэй за іншых ад гэтага раёна.

Бунцаў, гледзячы на карту, заклапочана пацёр падбародак.

— Ведаю я гэтыя мясціны: суцэльная «зялёнка» і мін як бульбачкі — на кожным кроку. А як жа хлопцы будуць дзейнічаць без прыкрыцця?

— Калону суправаджаюць афганскі армейскі батальён, браня. Прадугледжана і верталётнае прыкрыццё. А раён, я згодзен, складаны. Да яго вядзе толькі адна дарога. Але нічога не зробіш. Душманы знішчылі ўвесь ураджай, адабралі ў сялян харч, нават насення не пакінулі. Сялянам пагражае голад. Урад Афганістана вырашыў тэрмінова накіраваць туды дапамогу. Калона вязе харч, газу, дызельную станцыю, збожжа, насенне. Сапёры павінны не толькі забяспечыць праходжанне машын, але і ачысціць палі ад мін, каб сяляне маглі пачаць сяўбу. — Маёр паглядзеў на Фаменку. — Генерал-маёр Шчарбак прасіў цябе, Валянцін, калі будзе магчымасць, аказаць мясцовым жыхарам дапамогу: аднавіць школу. З калонай ідзе група настаўнікаў-добраахвотнікаў, якія будуць вучыць мясцовых дзяцей.

— Што ж зробіш, — уздыхнуў Бунцаў, — загад ёсць загад. Адпраўляйцеся, таварыш капітан, і не сумнявайцеся, калі спатрэбіцца наша дапамога — прыйдзем. За дапамогу батальёну — велізарны дзякуй.

— Што вы, таварыш падпалкоўнік, — усміхнуўся Фаменка. — Мы яшчэ разам паваюем!

— Калі маёр Антоненка не адбярэ вас з нашага батальёна, — хітра зірнуў на таго Бунцаў.

Развітаўшыся, Антоненка і Фаменка накіраваліся да роты, якая ўжо была гатовая да руху.

Да сустрэчы з афганцамі заставалася крыху больш за гадзіну. Антоненка сказаў:

— Давай каманду «наперад!».

Афіцэры залезлі на бронетранспарцёр, і калона рушыла ў дарогу.

Цэзар, зручна ўладкаваўшыся ля ног капітана, запытальна зазіраў яму ў вочы так, нібы хацеў спытаць, якое новае заданне яны атрымалі. Фаменка, думаючы пра штосьці сваё, машынальна пагладзіў сабаку. Сабака прылёг на пыльны бот капітана.

Дарога была ўся ў калдобінах, але бронетранспарцёры — не аўтамашыны, якія павінны кланяцца кожнай яме. Сталёвыя машыны ішлі плаўна, не разгойдваючыся.

Было спякотна. Пыл, падняты баявымі машынамі, сцяной вісеў над дарогай. І Антоненка, не вытрымаўшы, схаваўся ў люк. Усярэдзіне БТР хоць і горача, але няма гэтага задушлівага пылу.

Фаменка застаўся на брані. Ён не хацеў пакідаць Цэзара аднаго. Сабаку няпроста спускацца праз верхні люк унутр бронемашыны.

Неўзабаве прыбылі на шашу, да месца сустрэчы. Афганская калона таксама была ўжо на падыходзе, гэта было відаць па доўгім шлейфе пылу, які ўсё набліжаўся. Антоненка сабраў усіх афіцэраў роты і яшчэ раз старанна правёў з імі інструктаж.

Наперадзе калоны ішлі два танкі. Магутна грукаючы гусеніцамі, яны прайшлі крыху наперад, а затым, мабыць, атрымаўшы радыёкаманду, спыніліся.

З баявой разведвальна-дазорной машыны лёгка саскочыў сярэдняга росту хударлявы афганскі маёр. Афіцэры казырнулі адзін аднаму, пасля чаго пазнаёміліся. Маёр назваўся Муртазі Раімам. Антоненка прадставіў яму Фаменку і сказаў:

— Камандзір сапёрнай роты, якая пойдзе з вамі.

Капітан Фаменка не раз суправаджаў калоны і добра ведаў, як важна мець манеўранае падраздзяленне, якое бачыць перад сабой усю калону, і на выпадак нападу ворага прапанаваў паставіць у «хвасце» тры танкі.

На тое, каб перастроіцца, шмат часу не пайшло, і неўзабаве калона была гатовая да руху.

Антоненка развітаўся з афіцэрамі, і два яго БТР рушылі ў той бок, адкуль прыбыла калона.

Фаменка размясціўся на першым бронетранспарцёры. Быць наперадзе — гэта яго правіла, якому капітан ніколі не змяняў. Пакуль мін не трэба было баяцца, і калона даволі хутка пераадолела першыя дванаццаць кіламетраў. Але вось першая машына павярнула на захад і ўзяла кірунак у бок гор. Цяпер патрэбна было быць вельмі пільнымі, пачынаўся небяспечны ўчастак шляху.

Афганскія дарогі... Якія толькі міны не захоўваюць яны: амерыканскія, італьянскія, бельгійскія, дацкія, пакістанскія і японскія...

— Міна! Стоп! — гучна крыкнуў Святцаў.

Бронетранспарцёр стаў, як скамянелы. Капітан убачыў, што парушана пылавое покрыва дарогі. Ён саскочыў з БТР і загадаў сабаку:

— Цэзар, шукай!

Сабака спачатку абнюхаў зямлю ля ног гаспадара, нібы яму трэба было пераканацца, што таму нічога не пагражае, а затым, нацягнуўшы ланцужок, апусціў нос да зямлі і змейкай пайшоў па дарозе.

А вось і тое месца, на якое звярнуў увагу прапаршчык Святцаў. Пяцісантыметровы пласт пылу ляжыць, здавалася б, роўна, але нюх Цэзара пацвердзіў інтуіцыю Святцава. Сабака сеў на дарогу і сумна глядзеў на Фаменку. Цэзар разумеў: цяпер гаспадар загадае яму адысці і легчы, а сам застанецца сам-насам са смерцю.

— Цэзар, адыдзі! — сказаў нягучна капітан.

Апусціўшы галаву, згорбіўшыся, Цэзар адышоў да бронетранспарцёра і лёг у пыл.

— Таварыш капітан, дазвольце мне? — сказаў Святцаў.

— Не, Святцаў, зніму я. Усім схавацца!

Фаменка прысеў на кукішкі і чулымі пальцамі правёў па пыле, затым асцярожна выцер яго. А вось і міна: светла-карычневая, рабрыстая, пластмасавая, процітанкавая «італьянка». Корпус толькі ледзь-ледзь прытоплены ў грунт. Фаменка ачысціў барты міны: ніякіх правадоў няма, але насцярожвала тое, што яна была ўстаноўлена незвычайна. Капітан уладкаваў металічную «котку» так, каб яе лапы трымаліся за бок «італьянкі», і, размотваючы доўгі лінь, адышоў за бронетранспарцёр. «Котка» выцягнула з ямкі міну. Фаменка агледзеў яе і вывернуў узрывальнік. Усё. Цяпер яна ўжо не ўяўляла небяспекі. Капітан узяў за пластмасавую папружку, прымацаваную ўзбоч, і нядбайна кінуў на бронетранспарцёр.

— Далей пойдзем ножкамі. Прапаршчык Святцаў! Па чатыры чалавекі ў шарэнгу, дзейнічаць шчупамі. Наперадзе пойдзе малодшы сяржант Полін з Альфай.

І вось сапёры рушылі наперад. Альфа, нацягнуўшы ланцужок, зрэдку чхаючы ад пылу, старанна нюхала зямлю.

Да наступлення цемры заставалася не менш за гадзіну, калі прыбылі ў вызначаную кропку. Тут спыніліся на начлег. Паставілі ўшчыльную да невялікай высоткі бензавозы, прыкрылі іх з флангаў бронетранспарцёрамі і баявымі машынамі, каб, калі раптам пачнецца абстрэл, абараніць цыстэрны. Баявая тэхніка, цяжка равучы, займала ўсе бліжэйшыя высоткі, у розныя бакі высоўваліся дазоры. Калі сцямнела, у кірунку гор ценямі заслізгалі разведчыкі. Сапёры ўзвода Святцава размясціліся крыху ўбаку. Вогнішчаў не раскладвалі, каб не выявіць сябе.

Як толькі ўступаюць у свае правы афганскія ночы, чалавек, які за дзень знямог ад спякоты і паветра, прасякнутага пылам, адразу адчувае велізарную палёгку. Але праходзіць гадзіна-другая, і гора таму, хто не мае чаго-небудзь цёплага. Ад холаду цела хутка калее, і ўсё жывое нецярпліва чакае сонейка.

А ў спальніку добра. Лашчыцца і адпачывае натруджанае за дзень цела, а прахалоднае горнае паветра спрыяе моцнаму сну.

Роўна ў тры гадзіны Фаменку разбудзіў днявальны. Капітан загадаў паднімаць другі ўзвод, сам жа хутка памыўся, улез у бронетранспарцёр і на невялікім століку разаслаў карту.

Лейтэнант Кузнец прыбыў, каб атрымаць баявое заданне, ужо апрануты па-паходнаму. Фаменка пачакаў, пакуль ён разгорне сваю карту, і сказаў:

— Ваша задача, таварыш лейтэнант, сіламі вашага ўзвода праверыць дарогу да гор. У цясніну не ўваходзіць. У гэтым месцы, — капітан алоўкам паказаў кропку на карце, — у шасцістах метрах ад уваходу ў цясніну знаходзіцца афганскі ўзвод. Яго размясцілі там яшчэ з вечара. Узвод атрымаў загад прыкрыць вас з боку гор. Працуйце не спяшаючыся. Добра праінструктуйце салдат. Сувязь са мной падтрымлівайце ўвесь час. Па баках у вас будзе рухацца баявая ахова афганцаў, але не расслабляйцеся і самі. Усе тры бронетранспарцёры трымайце ў поўнай баявой гатоўнасці.

Да Фаменкі падышоў камандзір афганскага падраздзялення.

— Наш сакрэт перахапіў невялікую банду. Давайце пагаворым з палоннымі.

У іншай сітуацыі Фаменка, вядома, адмовіўся б, але ў яго з галавы не выходзіла думка пра Лявонава. Хто ведае, можа, захопленыя ў палон душманы штосьці чулі пра яго? І Фаменка згадзіўся. Узяўшы з сабой перакладчыка Рустамава, ён прайшоў да палаткі, дзе размясціўся штаб батальёна. Зблізку яе пад аховай аўтаматчыкаў сядзелі трое. Палонных увялі ў штабную палатку. Двое пажылых і малады, не больш за дваццаць пяць гадоў, мужчына. Адзін з іх быў паранены ў руку, у маладога твар у брудзе і драпінах.

Камандзір батальёна, гледзячы на палонных, растлумачыў:

— Гэтыя двое, — ён кіўнуў на старэйшых, — калі ўбачылі, што іх сябры загінулі, адразу ж паднялі рукі і здаліся, а вось гэты... — Муртазі раптам запнуўся. Твар у яго спачатку стаў напружаным, а затым разгубленым. Маёр зрабіў некалькі крокаў да маладога душмана і здзіўлена спытаў: — Алі Махамад, ці ты гэта?

— Так, Муртазі, гэта я. Я цябе адразу пазнаў.

— А як жа ты апынуўся ў душманаў? Бедны дэхканін, які сумленна адслужыў патрэбны тэрмін салдатам. Ты ж нядаўна адважна ваяваў з контррэвалюцыяй, а цяпер ваюеш супраць тых, з кім дзяліў рыс і ваду! Што здарылася з табой, Алі Махамад?

Махамад гнеўна бліснуў вачыма.

— Калі вярнуўся ў свой кішлак, то даведаўся страшную вестку. Мой бацька, абраны жыхарамі кішлака вакілем, нізашто, па загадзе людзей Аміна,

быў схоплены, зганьбаваны пры ўсіх жыхарах нашага кішлака. Неўзабаве прыйшла вестка, што майго дарагога бацьку, усімі паважанага чалавека, расстралялі. За што, я вас пытаю? Што вам зрабіў мой просты, бедны бацька? Нам казалі, і ты, Муртазі, таксама шмат разоў казаў, што мы ваюем за рэвалюцыю, супраць тых, хто прыгнятае наш народ, што мы ваюем за шчасце бедных людзей. А насамрэч што адбываецца? Мой бацька як мог імкнуўся служыць людзям, дапамагаць рэвалюцыі. І што з гэтага атрымалася?

Наступіла цяжкая паўза. У цішыні было чуваць, як перакладчык нягучна перакладае савецкаму капітану словы палоннага.

— Так, горкую вестку паведаміў ты, Махамад. Зараз мне зразумелая твая крыўда на ўладу, зразумела і тваё рашэнне. Але паслухай і ты мяне. Пасля тваёй дэмабілізацыі мяне таксама арыштавалі. — Маёр хутка расшпіліў кіцель і агаліў грудзі і левае плячо. На іх добра былі бачны рубцы. — Бачыш, што рабілі амінаўцы са мной? Яны катавалі мяне і здзекаваліся штодня амаль чатыры месяцы. Толькі Алаху вядома, якім цудам я застаўся жывы. Ты мяне ведаеш, Махамад. Скажы, чым я заслужыў гэта?

Палонны не адказваў, але ў яго вачах нянавісць змянілася цікаўнасцю і нават спачуваннем. Нарэшце ён сказаў:

— Скажы, Муртазі Раім, як жа ты пасля гэтага працягваеш службу ў іх?

— Чаму ў іх, Махамад?! — усклікнуў Муртазі Раім. — Здраднік Амін скінуты і панёс заслужаную кару. Тыя, хто быў з ім, таксама панеслі пакаранне. На змену рэжыму Аміна прыйшла народная ўлада, якая не толькі засудзіла Аміна, але і вызваліла ўсіх людзей, схопленых ім. Мяне не толькі вызвалілі, але, як бачыш, павялічылі ў пасадзе і званні. Калі гнеў не затуманьвае твой розум, то ты павінен зразумець, чаму я пайшоў служыць новай уладзе. Калі ты, Махамад, спакойна падумаеш пра тое, што я табе паведаміў, то ты зразумееш, што новая ўлада лічыць твайго бацьку героем.

Камандзір батальёна загадаў даць Махамаду коўдру, каб ён мог паспаць. Двое салдат адвялі палоннага, а Муртазі Раім сказаў Фаменку:

— Ён служыў у маім узводзе. Адважны і дысцыплінаваны быў салдат. — Камбат памаўчаў трохі, а затым з сумам заўважыў: — Так, дапушчана нямала памылак. Колькі людзей адштурхнулі ад рэвалюцыі Амін і яго асяроддзе... Я часта думаю пра тое, як гэта магло здарыцца. Ну, дык добра, давайце пагутарым з гэтымі. — Ён кіўнуў галавой на двух душманаў, якія працягвалі стаяць ля ўвахода.

Радавы Рустамаў ціха перакладаў іх гутарку. Адзін з захопленых душманаў быў старэйшым групы. Ён адкрыта паведаміў, што група была накіравана верхаводам банды, каб заблакіраваць мінамі іх стаянку.

Муртазі спытаў:

— Як вы даведаліся, што мы спыніліся тут?

— З вяршыняў гор амаль цэлы дзень назіралі за вамі. Насір, наш кіраўнік, сказаў, што вы накіроўваецеся ў горы.

— Ну і што ён намерваецца рабіць? — спытаў Муртазі.

— Не ведаю. Ён праз свайго намесніка загадаў мне ўстанавіць на вашым шляху міны. Але нам не пашанцавала. Больш за палову маёй групы загінула...

Камандзір батальёна зірнуў на Фаменку: ці ёсць пытанні?

— Рафік Муртазі, спытай, ці не чуў ён пра савецкага салдата, які трапіў у палон.

Палонныя адмоўна паківалі галовамі.

Пасля таго як душманаў адвялі, камбат сказаў:

— Я прапаную зноў пагутарыць з Махамадам.

Фаменка завагаўся:

— Ці варта мне замінаць вам? Вы з ім даўно знаёмыя, і гутарку лепш весці сам-насам.

— Не-не, вы не перашкодзіце. Я ўпэўнены, што змагу знайсці з ім агульную мову, а гэта значыць, што мы зможам даведацца многае, у тым ліку і пра палонных салдат.

Муртазі загадаў дзяжурнаму афіцэру прывесці палоннага.

Махамад увайшоў у палатку, жмурачыся ад святла. Твар пакамечаны, заспаны. Муртазі прапанаваў яму сесці на складное металічнае крэсла. Сам сеў насупраць.

— Чаю хочаш?

— Спаць хачу. Цяпер самае лепшае — гэта выспацца перад смерцю.

— А чаму ты вырашыў, што цябе чакае смерць?

— Ды я ж ведаю, што вы робіце з тымі маджахедамі, якія трапляюць да вас у палон.

— Гэта няпраўда, Махамад. Усіх, хто трапляе ў палон, аддаюць пад суд. Суд толькі заўзятых бандытаў прыгаворвае да вышэйшай меры пакарання. Суддзі разбіраюцца, як і чаму чалавек апынуўся ў бандзе, і, калі пераканаюцца, што той не катаваў, не забіваў нікога, вызваляюць яго. Народная ўлада імкнецца да дабрабыту і шчасця народа, а твае новыя гаспадары і іх заакіянскія саветнікі хочуць перашкодзіць гэтаму.

— Мы — барацьбіты за веру, — збянтэжана прамовіў Махамад.

— Пра што ты кажаш, Махамад?! — усклікнуў Муртазі. — Тыя, хто накіроўваюць тваю руку і рукі такіх, як ты, бедных людзей, і ёсць адрачэнцы ад веры. Няўжо ты не бачыш, як банды руйнуюць мячэці, як душманы паднімаюць руку на дзяцей, гвалтуюць жанчын, учыняюць разбоі на дарогах, у кішлаках?

— Я гэтага ніколі не рабіў.

— Я ўпэўнены ў гэтым, таму і размаўляю з табой. Махамад, табе ніколі не даводзілася чуць пра рускіх салдат, якія патрапілі ў рукі душманаў?

Палонны падчас гутаркі некалькі разоў кідаў кароткія цікаўныя пагляды на савецкага капітана.

— Я чуў, што ў суседнім атрадзе быў адзін рускі салдат. Яго ўзялі параненым, і ён памёр.

— Калі гэта было?

— Дзён восем-дзесяць назад.

— Чыя гэта банда?

— Ісламскай арганізацыі Афганістана.

— Хто верхавод?

— Саід Ака.

— Хто ён?

— Не ведаю. Ён прыбыў у гэты раён з правінцыі Логар.

— Колькі чалавек у яго ў бандзе?

— Сапраўды не ведаю. Думаю, што чалавек сорак.

— Дзе цяпер гэта банда?

— Там, у гарах... Чакае вас.

Муртазі Раім падсеў са сваім крэслам бліжэй да палоннага.

— Махамад, я хачу, каб ты дапамог нам. Павер мне, ты ніколі не пашкадуеш пра тое, што паслухаў свайго былога камандзіра.

У палатцы наступіла напружанае маўчанне. Махамад думаў. Гэта было відаць па наморшчаным ілбе, па густых чорных бровах, якія амаль сышліся ля

пераносся. На яго твары нават выступілі кропелькі поту, выразна пазначыліся жаўлакі.

— Я веру табе, Муртазі, і дапамагу вам. Што цябе цікавіць?

— Дзе размясціліся бандыты? Колькі іх? Хто верхаводы?

Муртазі падышоў да складнога стала, дзе ляжала карта.

— Не навучыўся ты разбірацца па карце? Ідзі сюды.

Махамад устаў, падышоў да стала і колькі часу моўчкі глядзеў на карту. Нарэшце спытаў:

— Дзе мы знаходзімся?

— Вось тут, — Муртазі паказаў кропку на карце.

— Вы хочаце ісці гэтай дарогай і праз перавал патрапіць у гэту даліну?

— Так.

— Нашы камандзіры так і мяркуюць. Я ўпэўнены, што ўсе сем кіламетраў ад пачатку цясніны і да даліны вам прыйдзецца ісці з боем. Для сустрэчы з вамі ўчора аб'ядналася сем фарміраванняў. Яны належаць ісламскай партыі Афганістана і ісламскаму грамадству Афганістана. Праўда, паміж сабой яны жывуць як шакалы, але на кароткі час перасталі грызціся...

— Якая ў іх зброя?

— Усякая. Ёсць і зенітныя гарматы, і ДШК, і мінамёты, шмат ручных гранатамётаў. Рэактыўныя ўстаноўкі, па-мойму, ёсць у кожнай бандзе. Яны рыхтуюцца весці бой не толькі з калонай, але і з авіяцыяй. Учора ўвечары Ханаго, ён агульны камандзір усіх сямі банд, накіраваў на вяршыні гор не менш за дзесяць зенітна-кулямётных разлікаў.

— А дзе яны размяшчаюцца?

— Не ведаю. Ханаго сам ставіў перад імі задачу.

Камандзір батальёна ўжо вырашыў загадаць адвесці Махамада, калі той папрасіў:

— Муртазі, вазьмі мяне з сабой. Я ж сам мініраваў дарогу і змагу паказаць, дзе закапаны кіруемыя па правадах фугасы. Яны спецыяльна для танкаў прызначаны.

Рустамаў пераклаў сказанае Фаменку. Капітан ажывіўся.

—Удакладніце ў яго, колькі ўсяго мін пастаўлена на дарозе і як яны размешчаны?

Махамад нейкі час маўчаў, падняўшы ўгору вочы. Ён падлічваў...

— Думаю, што мін дзвесце — дзвесце трыццаць. Ставілі іх лесвічкай...

Фаменка дастаў з шырокай нагруднай кішэні нататнік і працягнуў маёру.

— Хай накрэсліць схему, у якім парадку ставілі міны.

Махамад схіліўся над нататнікам і праз хвіліну працягнуў яго савецкаму капітану.

Фаменка паглядзеў і задаволена прамовіў:

— Ясна. Калі гэта сапраўды так, то мы зможам рухацца досыць хутка. Спытайце ў яго, ці пойдзе ён са мной наперадзе калоны?

— Так, пайду. Я пакажу... — адказаў Махамад і ўпершыню паглядзеў савецкаму капітану проста ў вочы.

— Саіс, — нечакана прамовіў Фаменка і ўсміхнуўся. — Значыць, ідзём разам.

Салдат вывеў Махамада са штабной палаткі, а афіцэры схіліліся над картай.

А на двары была ўжо раніца, і калона пачала рыхтавацца да руху. Да гэтага моманту камандзір другога ўзвода лейтэнант Кузнец далажыў: шлях да гор ачышчаны ад мін.

Пяцікіламетровы ўчастак калона прайшла хвілін за дваццаць. Ля самага перадгор’я іх сустрэў узвод лейтэнанта Кузняца і афганскія салдаты, якія адказвалі за бяспеку сапёраў.

Фаменка і маёр Муртазі хутка вызначылі пляцоўку для размяшчэння артылерыі і іншай тэхнікі.

Два ўзводы і «браня», вылучаная для іх аховы, пачалі займаць кругавую абарону.

Праз паўгадзіны, перастроіўшыся, рушылі далей. А вось і ўваход у цясніну. Следам за бронетранспарцёрам сапёраў, на якім знаходзіліся Фаменка з Махамадам, рухаліся два танкі. За танкамі — афганскі бронетранспарцёр. За ім ішло шэсць машын з грузам, потым зноў бронетранспарцёр і баявая машына пяхоты з салдатамі, следам зноў машыны з грузам і гэтак далей. У сярэдзіне і ў хвасце калоны — па два танкі. Душманы пакуль маўчалі. Але для сапёраў іх нібы і не існавала. Уся іх увага — дарозе! Пакуль мін не было, але ўсё адно хуткасць чарапашая, каб не апярэдзіць бакавую ахову.

Махамад раптам саскочыў з бронетранспарцёра і, прабегшы наперад метраў дзесяць, спыніўся, падняўшы руку. Фаменка заспяшаўся да Махамада. Рустамаў не адставаў. Ён жа і пераклаў словы Махамада, які, ткнуўшы нагой, заявіў, што ён стаіць на фугасе. Фаменка пахаладзеў: «Калі цяпер душманы зразумеюць, што фугас выяўлены, то адразу ж уключаць падрыўную машынку!» Выцягваючы на хаду з ножан штык-нож, загадаў Рустамаву:

— Скажы яму, каб паказаў, дзе провад!

Махамад падбег да абочыны і хутка адшукаў прысыпаны пародай тонкі карычневы провад. Фаменка імгненна перарэзаў яго, змахнуўшы з ілба пот, перавёў дух і сказаў Рустамаву:

— Перакладзі яму, каб надалей ён не бег да фугаса, а загадзя папярэджваў нас, растлумач, чым гэта можа скончыцца.

Рустамаў пераклаў. Махамад адказаў, што зразумеў, і растлумачыў:

— Цяпер пачнуцца міны, а метраў праз трыста закапаны яшчэ адзін фугас. Ён крыху адрозніваецца ад гэтага, бо зверху зарада мы змясцілі англійскую процітанкавую міну, абгорнутую ў кавалак гумы ад аўтамабільнай шыны.

«Бач ты, — падумаў Фаменка, — міну паклалі на той выпадак, калі не пройдзе да фугаса электрасігнал. Ну, а гума для таго, каб мінашукальнік ці сабака не выявілі».

Фаменка прыкінуў на вока шырыню дарогі і загадаў чацвярым сапёрам пастроіцца ўступам. Наперадзе іх паставіў Поліна з Альфай і двух сапёраў з мінашукальнікамі.

Група рушыла наперад, і хутка сапёр, які ішоў крайнім злева, падняў руку. Гэта азначала: «Увага! Міна!» Да яго накіраваўся Фаменка. Група працягвала працу.

— Таварыш капітан, камбат паведамляе, што калона цалкам увайшла ў цясніну, — сказаў перакладчык.

«Цікава, чаму яны не страляюць? — падумаў Фаменка і тут жа сам сабе адказаў: — А, ясна! Галава калоны не падышла да «сваёй» засады. Што, духі, аблічыліся? Вы, вядома, яшчэ ўчора прыкінулі даўжыню калоны, а яна аказалася карацейшай!»

Ён зірнуў па баках. Панурыя скалы як быццам драмалі, побач з імі магутныя баявыя машыны здаваліся запалкавымі каробкамі, а людзі — гномікамі.

Дарога пайшла ўгару, да перавала. Хоць людзі і чакалі гэтага моманту, але ўсё адно ён наступіў нечакана. Скалы, здавалася, здрыгануліся ад магутных выбухаў і стрэлаў. Душманы з маршчын і складак гор, з пячор і з-за вялікіх валуноў ударылі па калоне з двух бакоў.

Сапёры заляглі за прыдарожныя камяні. З другога боку іх прыкрыў сваім корпусам бронетранспарцёр. Фаменка ляжаў побач з афганскім радыстам і Рустамавым. Весці агонь па нябачных цэлях з аўтамата не было сэнсу, і капітан, гледзячы ў бінокль, вышукваў пазіцыі душманскіх кулямётаў і безадкатных гармат.

Калона не спяшалася прасоўвацца. Людзі надзейна схаваны за «бранёю», а іх гарматы пачалі бязлітасна і метадычна граміць душманскія пазіцыі. Праўда, у калоне таксама з'явіліся страты: загарэліся два грузавікі. Танк, які ішоў у сярэдзіне, змог прыблізіцца да іх і адзін за адным сапхнуў грузавікі з дарогі. Пасля гэтага танк заняў месца гэтых машын. Так вырашыў камбат узмацніць галаву калоны.

Фаменка, лежачы за каменем, у пякельным грукаце бою ўлоўліваў «свае» ноткі. Выразна гучалі стрэлы аўтаматычных гранатамётаў. Сапёры выцягнулі іх з браніраваных машын і цяпер абсыпалі гранатамі пазіцыі праціўніка.

Неўзабаве ўсё было скончана. Да дарогі пад аховай салдат спусцілася дваццаць шэсць душманаў. Палова з іх былі паранены. Пакуль імі займаліся ўрачы, салдаты прачэсвалі мясцовасць, вышукваючы душманаў і збіраючы зброю.

Фаменка, не губляючы часу, загадаў сапёрам працягваць работу.

Сапёры ішлі ўсё вышэй і вышэй угару. Дарога стала намнога вузейшай. Злева пацягнуўся абрыў. З кожнай сотняй метраў ён станавіўся ўсё глыбейшым. На адным з паваротаў па сапёрах ударыў ДШК. Велізарныя разрыўныя кулі з віскам высякалі з камянёў агонь і разрываліся на дробныя часцінкі. Добра, што сапёры змаглі адразу ж засекчы пазіцыю душманаў.

Пачаўся самы небяспечны ўчастак шляху. Да перавала заставалася метраў восемсот, транспарт лезе ўгару пад неймаверна вострым вуглом. Бронетранспарцёр нагадвае вусеня, які марудна паўзе ўверх. Усе яго восем колаў на ўсе жылы чапляюцца за кожны шматок дарогі і рухаюць, рухаюць сталёвы гмах наперад.

Махамад зноў і зноў папярэджваў капітана Фаменку: перад самым перавалам адразу чатыры фугасы і вельмі частая «пасадка» мін, а на самым перавале пазіцыі душманаў. У іх і ДШК, і гранатамёты, і базукі...

Фаменка моўчкі ківаў галавой: ён ужо даўно зразумеў, што галоўная небяспека і галоўны агонь душманскага супраціўлення там. Капітан ламаў галаву, як без страт узяць перавал.

З такой жа трывогай прыйшоў і камандзір афганцаў Муртазі Раім.

— Рафік капітан, — звярнуўся ён да Фаменкі, — я хачу, як толькі з'явіцца хоць маленькі пятачок, на якім можна будзе размінуцца, выпусціць два танкі наперад. На перавале душманы моцна ўмацаваліся і могуць падпаліць ваш бронетранспарцёр.

— Так гэта, таварыш маёр, — заўважыў Фаменка, — але ж маім хлопцам усё адно трэба ісці наперадзе калоны. Міны, калі іх не зняць, спыняць любую тэхніку.

У гэты момант Фаменка заўважыў, што малодшы сяржант Полін са сваёй Альфай і яшчэ двое салдат з мінашукальнікамі завярнулі за чарговы выступ скалы. Капітан вырашыў паглядзець, ці няма там месца, дзе маглі б размінуцца танк і бронетранспарцёр. Ён сказаў пра гэта Муртазі і ў суправаджэнні Рустамава і радыста заспяшаўся наперад. Капітан хутка дагнаў салдат-сапёраў, якія ішлі лесвічкай і метадычна ўторквалі ў камяністую паверхню доўгія металічныя шчупы. Не спыняючыся, Фаменка крочыў далей. Ён ішоў па дарозе, якая была замініравана, але нейкае пачуццё падказвала яму, што тут

проціпяхотных мін няма, а ісці па процітанкавых для дасведчаных сапёраў было звыклай справай.

Вугал скалы, за якую сыходзілі Полін і два «слухачы» з мінашукальнікамі, быў закруглены, і Фаменка, не губляючы іх з вачэй, хутка даганяў сваіх. Калі капітан амаль наблізіўся да іх, Полін, які ішоў за Альфай, ужо абагнуў скалу і апынуўся на прамым участку дарогі. Вось і сяржант Валадзько, які быў крыху наперадзе Маланніна, таксама выйшаў на прамую. Фаменка дагнаў радавога Маланніна, і яны адначасова завярнулі за скалу. Капітан зірнуў наперад, і яго мозг імгненна працяла думка: небяспека!

Не, ён не ўбачыў нікога, але дасведчаны погляд «змаляваў» сітуацыю, Фаменка зразумеў, што ў скалах схаваліся душманы. Перад імі кожны, хто з'явіцца з-за павароту як на далоні. Капітан крыкнуў:

— Усім — стоп! Неадкладна назад!

Полін спыніўся і здзіўлена паглядзеў на камандзіра, а Валадзько і Маланнін працягвалі вадзіць рамкамі мінашукальнікаў над паверхняй, іх вушы былі закрыты навушнікамі.

І ў гэты момант здарылася тое, што павінна было здарыцца ў такой сітуацыі. Грымнуў залп. Сапёры ўпалі, заскуголіла і завалілася на бок Альфа. Скалы, у якія ўпіралася дарога, ашчэрыліся водбліскамі аўтаматнага і кулямётнага агню. Фаменка паспеў схавацца за выступ вялікага каменя. Толькі на секунду ён абярнуўся і крыкнуў радысту:

— БТР і танк на прамую наводку!

Пасля гэтага ўся яго ўвага пераключылася на салдат. Па тым, як Маланнін ляжаў, ніякавата ўткнуўшыся лбом у дарогу, зразумеў: самая вялікая бяда з ім. Валадзько пачаў павольна адпаўзаць да скалы, якую яны нядаўна абмінулі, ледзь варухнуўся Полін. Ён тузаў за ланцужок Альфу і штосьці казаў ёй. А дарога кучаравілася ад куль. З віскам яны ўразаліся і ў камень, за якім схаваўся Фаменка.

Наблізіўся бронетранспарцёр, Фаменка адным махам ускочыў на яго і хутка ўлез унутр. Загадаў падрыхтаваць аўтаматычны гранатамёт і кінуў механіку-вадзіцелю:

— Лук'янаў, як толькі павернеш за скалу, стань як мага бліжэй да камянёў. Там дарога крыху шырэйшая, танк зможа гарматай працаваць! Давай цісні!

Бронетранспарцёр рушыў наперад. Толькі ён паказаўся з-за павароту, як па брані адразу ж загрукаталі кулі. Фаменка пачаў страляць з кулямёта. З-за бронетранспарцёра выскачылі лейтэнант Кузнец і адзін з салдат. Яны падбеглі да Маланніна, паднялі яго і панеслі за бронетранспарцёр. Прыгінаючыся, трымаючыся рукой за левае плячо, адыходзіў Валадзько. Толькі Полін марудзіў. Ён, не зважаючы на кулі, якія свісталі побач, важдаўся з Альфай. Нарэшце і ён, узяўшы сабаку на рукі, хістаючыся, павольна, зусім не прыгінаючыся, пайшоў да бронетранспарцёра. Прама за паваротам Полін асцярожна паклаў Альфу на вялікі пакаты камень. А міма санітары пранеслі на насілках Маланніна.

Фаменка загадаў кулямётчыку біць па душманах доўгімі чэргамі, а сам праз ніжні люк выбраўся з бронетранспарцёра і, нібы не было душманскіх куль, стаў жэстамі кіраваць рухам танка, які павольна выпаўзаў з-за павароту. Не, дзве бранявыя машыны не маглі размінуцца, але палова корпуса танка выглядала з-за бронетранспарцёра. Экіпаж танка атрымаў магчымасць весці агонь, што ён, не марудзячы, і зрабіў. З люка вылез афганскі салдат. Ён хутка разварнуў кулямёт, і праз некалькі хвілін роўны магутны пошчак кулямёта ДШК уліўся ў агульны гул бою. Гэта было своечасова. Было відаць, як бандыты замітусіліся, асобныя з іх адкрыта пабеглі, скачучы з каменя на камень.

Наперадзе бронетранспарцёра з’явіліся Святцаў, Цюкачоў і яшчэ двое сапёраў. Што б там ні здарылася, трэба было правяраць дарогу. Дзе-нідзе душманы яшчэ працягвалі весці агонь, і кулі з віскам адскоквалі ад камянёў. Але сапёры працавалі. За імі, літаральна па пятах, рухаўся бронетранспарцёр, а следам — танк. Яго левая гусеніца ішла па самым краі абрыву. Відаць, што вадзіцель-механік быў не з пачаткоўцаў.

Да Фаменкі падышоў лейтэнант Кузнец. Перакрыкваючы грукат стрэлаў, сказаў:

— Маланнін забіты, Валадзько — паранены. Забіта Альфа.

Фаменка моўчкі кіўнуў галавой. Ён сам ужо ўсё бачыў. І цяпер абавязаны быў пільна сачыць за боем, больш думаць пра жывых.

Пачуліся цяжкія разрывы. Гэта на перавале пачала біць артылерыя. Цяжкія стодваццацідвухміліметровыя снарады крамсалі скалы, спрабуючы дастаць усё жывое, што хавалася за імі.

Прайшло яшчэ некалькі мінут, і супраціўленне душманаў было падаўлена.

Фаменка адразу ж увёў у дзеянне яшчэ два аддзяленні. Цяпер сапёры атрымалі магчымасць працаваць аднначасова на трох участках. Нягледзячы на тое, што артылерыйскія снарады працягвалі разрывацца на перавале, ад іх асколкаў сапёраў абараняла высокая скала, у абыход якой і ішла дарога.

Бакавая ахова афганскага батальёна пад прыкрыццём артагню змагла зайсці душманам у фланг. Салдаты дружна атакавалі бандытаў на самай верхавіне перавала, а танкі падтрымалі іх сваім агнём. Душманы, што засталіся ў жывых, пабеглі ўніз. Шлях быў свабодны. Калона павольна пераваліла вышэйшую кропку і, набіраючы хуткасць, накіравалася ўніз, дзе яе чакалі жыхары вялікай даліны, схаванай у шырокіх горных масівах.

## Уцёкі

Яны беглі доўга. Адкуль толькі браліся сілы ў змучаных, аслаблых ад голаду хлопцаў? Зрэдку яны пераходзілі на крок, потым зноў пачыналі бегчы. Яны перасеклі нейкі гай, затым поле, некалькі арыкаў. Лявонаў бег першым, за ім з аўтаматам Мікалаеў. Наперадзе, усплываючы цёмнай плямай, зноў была нейкая «зялёнка». Хлопцы ўбеглі ў яе. Стала зусім цёмна, і яны перайшлі на крок.

— Кіламетраў пяць адмахалі, — цяжка дыхаючы, сказаў Лявонаў.

— Не менш. Галоўнае, каб не збіліся і не кружылі вакол лагера. Як ты сябе адчуваеш?

— Звычайна, — адказаў Лявонаў, у якога на самай справе сілы былі на зыходзе. Ён глынуў пабольш паветра. — Асноўнае для нас — адысці далей і да раніцы знайсці зацішнае месца.

— Антон, стой! — раптам выклікнуў Мікалаеў. — А дзе магазін? Мы ж страцілі магазін! — ён ліхаманкава круціў у руках аўтамат.

Лявонава нібы токам ударыла. Ён намацаў у руках Мікалаева аўтамат... Так, магазіна ў аўтамаце не было. Антон нагнуўся і пачаў мацаць рукамі па зямлі.

— Няўклюда! — дрыготкім ад гневу голасам сказаў ён. — Таксама мне, салдат знайшоўся! Яму дaручылі зброю, а ён кату пад хвост магазін сунуў! Што стаіш?! Шукай!

Мікалаеў спусціўся на зямлю, але шукаць не стаў.

— Бескарысна ўсё гэта, Антон. Магазін выпаў з аўтамата, калі я скінуў яго з дувала. І, калі мы беглі, магазіна ў аўтамаце ўжо не было. Я ў спешцы і хваляванні не сцяміў, што нясу не зброю, а звычайную цацку.

Лявонаў уздыхнуў і падняўся на ногі.

— Эх ты! Мы ж засталіся бяззбройнымі, цяпер няма чым адбівацца, каб даражэй аддаць сваё жыццё.

Яны павольна, натыкаючыся на дрэвы, пайшлі наперад.

Неўзабаве Лявонаў дакрануўся да пляча Мікалаева.

— Ты прабач мне, я пагарачыўся...

— Кінь, Антон. Я б і сам сабе морду набіў. Сапраўды — няўклюда.

— Добра, забудзься пра гэта. Аўтамат возьмем з сабой, хоць палохаць калі што якое будзем.

— Сапраўды. Галоўнае, што мы ўцяклі. Хутка раніца, трэба абавязкова знайсці месцейка, дзе зможам схавацца. Потым вырашым, што рабіць далей.

— Вядома, нам будзе нялёгка: без ежы, без зброі, не ведаем мовы і нават напрамку, куды ісці...

— Нічога. Калі сонца ўзыдзе, вызначым кірунак. Я думаю, што лепш за ўсё рухацца на паўночны ўсход, да афганскай мяжы.

— А можа, на Ісламабад ці Карачы?

— Я лічу — гэта бессэнсоўна. Без карты, праз усю краіну — пападзёмся. Лепш ісці да гор. Там больш шанцаў патрапіць да сваіх. Праўда, не ведаю, што рабіць са жратвой. Вось калі б атрымалася запасціся хоць бы аладкамі, а ў гарах ваду знойдзем.

Неўзабаве гай скончыўся, і яны спыніліся каля невялікага арыка. Вада з ціхім цурчаннем цякла ля ног, але хоць і хацелася піць, яны не сталі гэтага рабіць. Вырашылі патрываць.

— Давай пачакаем світанку, — прапанаваў Мікалаеў. — Адшукаем які-небудзь будыначак ці ў «зялёнцы» зацішнае месцейка знойдзем.

— Іншага выйсця ў нас няма, — пагадзіўся Антон.

Яны селі пад дрэвам. Нягледзячы на тое, што ноч была бяссоннай і стомленасць скоўвала цела, спаць не хацелася.

— Ты ведаеш, — парушыў маўчанне Мікалаеў, — толькі цяпер я зразумеў, што мы ўцяклі. Слова гонару, раз дзесяць шчыпаў сябе: ці не сон гэта?

— А я зразумеў гэта тады, калі мы пералезлі праз дувал і пабеглі ўздоўж вулачкі...

— Антон, глядзі, світае!

Яны глядзелі на ўсход, дзе на небе ўсё больш шырылася светлая палоска. Але на зямлі яшчэ панавала ноч. Мікалаеў летуценна ўспомніў:

— Гадоў пяць назад баця ўзяў мяне з сабой на рыбалку. Мы начавалі на беразе Волгі. Як толькі пачала набліжацца раніца, баця пабудзіў мяне, і мы пачалі рыхтавацца. Ён у мяне заўзяты рыбак і да гэтага занятку ставіцца ох як сур'ёзна! У цемры накачалі мы лодку, і тут з'явілася на небе вось такая ж светлая палоска, а баця жартуе: «Глядзі, гусак лапчасты, не празявай, як дзень нараджаецца. Ты ж у мяне паспаць герой і ў жыцці світанку не сустракаў». І раптам з'явіліся першыя сонечныя прамяні. Прыгажосць! Нават цяпер з падзякай успамінаю тую карціну. А ты, Антон, сустракаў калі-небудзь світанак?

— Я? — усміхнуўся Лявонаў. — Так, сустракаў. — Ён памаўчаў трохі. — Ёсць у мяне дзяўчына. Кацярынай яе завуць. Разам у школе вучыліся. Напера-дзе мяне ў класе сядзела. Я часта за косы яе тузаў... Памятаю, як пасля дзявя-тага класа нас, некалькі чалавек, накіравалі ў піянерскі лагер піянерважатымі. Мы з Кацярынкай у адзін лагер патрапілі. Калі канчалася трэцяя змена, пасля вогнішча пазаганялі мы малечу па палатках спаць, а самі — чалавек восем —

— Вядома. Я зараз жа вам прынясу.

Хлопец адразу ж пайшоў.

— Як думаеш, Лёша, пашанцавала нам ці мы нарваліся на правакацыю?

— Давай паразважаем. У мусульман ёсць такі звычай: калі чалавек прыйшоў да яго ў дом, то ніводная валасінка не павінна зваліцца з яго галавы. Калі б яны хацелі нас схапіць, то, па-мойму, не сталі б запрашаць да сябе ў дом. Ім жа нічога не варта выклікаць душманаў сюды і атрымаць за нас узнагароду.

Хлопцы былі ні ў чым не ўпэўненыя. Яны ніяк не маглі разабрацца: цешыцца гэтай сустрэчы ці ж засмучацца і рыхтавацца да горшага.

Афганец прыйшоў хутка. Ён прынёс вялікі гарлач вады і свежыя, яшчэ цёплыя аладкі. Антон і Аляксей адразу ж накінуліся на ежу. Афганец сеў насупраць і з непрытоеным жалем глядзеў на іх.

— Гэта ўсё, што мы ўзялі з сабой у поле. Вечарам абавязкова пакормім вас рысам і мясам.

— Як цябе клічуць, сябар? — пацікавіўся Лявонаў.

— Азізі.

— А чаму ты хочаш, каб мы абавязкова пайшлі да цябе дамоў?

— Я і мой бацька запрашаем вас, але калі вы не хочаце, то мы не пакрыўдзімся.

Лявонаў сказаў:

— Нам трэба падумаць. Ты не пярэчыш, Азізі?

— Не, вядома. Я прыйду да вас вечарам, і як вы захочаце, так і будзе.

Ён не стаў забіраць гарлач, у якім яшчэ заставалася вада, і пайшоў.

Старанна ўзважыўшы ўсе «за» і «супраць», хлопцы вырашылі даверыцца Азізі, і калі той прыйшоў, паведамілі яму пра гэта.

— Правільна. Вы вельмі стаміліся, і вам абавязкова трэба адпачыць, ды і трэба пачакаць, пакуль душманы супакояцца, а то гойсаюць, як сабакі, па ўсіх дарогах.

Яны дачакаліся цемры і выйшлі з хлява. Спусціліся з гары і накіраваліся да таго ж кішлака, у якім мінулай ноччу спрабавалі знайсці зацішнае месца.

Па стромкіх вузенькіх усходках, у поўнай цемры, хлопцы падняліся на другі паверх і апынуліся ў маленькім пакоі. На коўдры, пасланай проста на гліняную падлогу, сядзеў сівы стары. Недалёка ад яго на падлозе стаяла газавая лямпа. Стары, убачыўшы гасцей, устаў, і яго цень закалыхаўся на сцяне і на столі.

Хлопцы ціха і збянтэжана прывіталіся. Стары адказаў «салам алейкум» і, ветліва ўсміхаючыся, жэстамі запрасіў садзіцца. У пакоі не было ніякай мэблі, акрамя невялікага нізенькага стала прамавугольнай формы. Антон апусціўся на коўдру, побач сеў Аляксей. Стары нейкі час моўчкі і пільна разглядаў рускіх хлопцаў. Пра што ён думаў у той момант, цяжка было здагадацца: на твары — векавы спакой і непранікальнасць. Праўда, паўза была недоўгачасовай. Стары пацікавіўся здароўем — знак павагі да гасцей — і толькі пасля гэтага сказаў:

— Мяне завуць Саід Хасан.

Стары з дапамогай Азізі сцісла расказаў пра сябе, як і чаму ён вырашыў пакінуць сваю радзіму.

Хто яны, стары не спытаў. Паводле звычаю, у госця пра гэта не пытаюць, калі захоча, сам раскажа.

Лявонаў, разумеючы, што душманы распускаюць пра іх рознае глупства, спрабуючы прывабіць насельніцтва да пошуку, сцісла паведаміў, хто яны і як апынуліся ў Пакістане.

Стары спакойна заўважыў:

— Мы і не паверылі душманам. Але ўсё адно, паважаныя, вам трэба асцерагацца, тут жывуць розныя людзі. Адны з-за прагнасці, іншыя, паверыўшы душманам, могуць паведаміць ім пра вас.

У пакой увайшоў малады хлопец. Ён моўчкі паставіў перад гасцямі паднос з гарачым рысам, над якім узнімалася пара, і адразу ж пайшоў. Гаспадар хаты сказаў:

— Дзеці, ешце на здароўе.

У хлопцаў пацямнела ў вачах. Яны не маглі адвесці позірку ад ежы.

— Мы ўжо даўно не мыліся. Ці можна памыць рукі? — Лявонаў праз сілу падняўся.

Азізі ахвотна ўскочыў на ногі.

— Хадзем у двор.

З задавальненнем памыўшыся, хлопцы больш стрымліваць сябе ўжо не маглі і накінуліся на ежу. Затым пілі моцны зялёны чай.

Гаспадары бачылі, што ў рускіх літаральна зліпаюцца вочы, і Саід Хасан, дачакаўшыся, калі панясуць посуд, устаў і жэстам паказаў ім на дзверы ў куце пакоя.

— Там можаце адпачыць, а раніцай пагаворым аб справе.

Хлопцы, стомленыя ад напружання і бяссоння, асалавелыя ад ежы, хістаючыся, прайшлі ўслед за Азізі ў маленькі пакой і адразу ж зваліліся на ватовыя матрацы.

Першым прачнуўся Лявонаў. Звыклым рухам рукі праверыў: ці на месцы аўтамат. Адкрыў вочы і ўбачыў нізкую гліняную столь. Агледзеўся. Аляксей, згарнуўшыся абаранкам, салодка спаў. Лявонаў падняўся і падышоў да невялікага акенца. Яно выходзіла ў двор. Там ля студні стаяла маладая дзяўчына. Учора яе хлопцы не бачылі. Антон зачаравана глядзеў на яе. Ззаду пачуўся шоргат. Мікалаеў прачнуўся.

— Што, ужо раніца?

— Давай уставай, соня! Ці ты жывеш па прынцыпе: салдат спіць, а служба ідзе?

Мікалаеў цяжка падняўся з ватовага матраца і падышоў да акенца.

— Ух ты, як добра! Вады — колькі хочаш, голад не мучыць, духаў няма — прыгажосць!

— Пагаліцца б, — пакратаў рукой падбародак Лявонаў.

— Гэта ты, гледзячы на яе, пагаліцца марыш? — кіўнуўшы галавой у бок дзяўчыны, спытаў Мікалаеў.

— Ну цябе! Патрэбна яна мне, — буркнуў Лявонаў і адышоў ад акна.

У гэты момант у пакой увайшоў Азізі.

Пасля ўзаемных прывітанняў, высвятленняў, як спалася гасцям, Азізі запрасіў ісці снедаць.

Саід Хасан падчас гутаркі сядзеў на маленькай мяккай падушцы і церабіў маршчыністай рукой бараду. Лявонаў спытаў у старога:

— А вы не хочаце вярнуцца дадому, у Афганістан?

Стары доўга разважаў, перш чым адказаць.

— Цяпер пакуль рана казаць пра гэта... Хоць некаторыя ўжо вяртаюцца. Вы, вядома, не чулі пра загад Гульбудзіна Хекмаціяра? Ён патрабуе, каб кожны, хто хоча вярнуцца ў Афганістан, быў пакараны на месцы.

— Ну, а калі, нікому нічога не кажучы, сабрацца і з’ехаць?

— Э, дарагі, гэта не так проста, — сумна ўсміхнуўся Саід Хасан.

Паступова яны перайшлі да галоўнага: што рабіць далей.

— Разумееце, — казаў стары, — у вас вельмі мала шанцаў дабрацца да мяжы. Цяпер душманы, ды і пакістанскія ўлады, павялічылі на дарогах свае пасты.

— Гэта з-за нас? — пацікавіўся Мікалаеў.

— І з-за вас, і з-за таго, што шматлікія бежанцы бягуць дадому, а іх не пускаюць. Людзей ловяць, саджаюць у турму, расстрэльваюць на месцы. Толькі за тое, што чалавек слухае афганскае радыё, яму пагражае смерць.

Казалі пра рознае, але кожны раз вярталіся да сітуацыі, у якой апынуліся савецкія салдаты. Адчувалася, што стары шукаў рашэнне, яго пытанні толькі на першы погляд здаваліся выпадковымі, не звязанымі адно з адным. Салдаты расказалі пра тое, як іх захапілі душманы.

Саід Хасан спытаў:

— А не баіцеся, што вас зноў схопяць, тады ж вам пагражаюць катаванні і смерць?

— Не, бацька, — цвёрда сказаў Лявонаў, — мы не баімся смерці. Калі не наканавана нам вырвацца адгэтуль, то лепш смерць!

Пераклаўшы гэтыя словы, Азізі спытаў:

— Бацька, дазволь мне пайсці з імі?

— Пачакай, сынок, — ласкава сказаў Саід Хасан, — мы яшчэ не вырашылі, як гэта зрабіць. Ты лепш налі гасцям чаю, бачыш, іх піялы пустыя.

У гутарках прайшоў амаль увесь дзень. Як ні трывожна было ў хлопцаў на душы, яны з цікаўнасцю слухалі, як жывецца афганскім уцекачам на чужыне.

— Вядома, той, хто змог абзавесціся тут дуканам, ці, вось як я, мае аўтамашыну ды яшчэ і зямлю, ці атрымлівае падтрымку ад багатых сваякоў, той ставіць на стол рыс і раз у тыдзень мяса. Але такіх афганцаў мала. Ну, зразумела, я не маю на ўвазе такіх, як Рабані, Хекмаціяр, якія цалкам знаходзяцца на забеспячэнні імперыялістаў, ды і нарабавалі яны — адзін Алах ведае колькі, — ціха казаў Саід Хасан.

— Паглядзелі б вы, — з гаркатой казаў Азізі салдатам, — як жывуць бежанцы ў лагерах! Голад, хваробы косяць людзей. Невялікая палатка на дзесяць чалавек. Хоць усе яны паверылі такім, як Хекмаціяр, і былі ашуканы.

— Тут апынуліся не толькі ашуканыя, — дадаў Саід Хасан, — нямала сярод бежанцаў і тых, хто спалохаўся пагроз з боку баяў і душманскіх верхаводаў, якія патрабавалі, каб людзі пакінулі свае дамы і сыходзілі ў Пакістан ці Іран.

Стары і яго сын былі нядрэнна інфармаванымі людзьмі. Яны даволі добра разбіраліся ў абставінах. Гэтаму спрыяла і тое, што яны, маючы аўтамабіль, шмат раз'язджалі па бліжэйшых раёнах, размаўлялі з людзьмі.

Потым стары спытаў пра жыццё сялян у Савецкім Саюзе. Саід Хасан і Азізі дзівіліся пачутаму, часам, не хаваючы сваіх сумненняў, адмоўна ківалі галовамі.

Хлопцы, бачачы гэта, гарачыліся, даказвалі, што гавораць праўду.

— Ды што вы здзіўляецеся і не верыце нам, — з крыўдай у голасе казаў Лявонаў. — У вас жа ў Афганістане медыцынская дапамога, вучоба дзяцей у школах ужо таксама бясплатная.

— Ці вазьміце хоць бы такое пытанне, як зямельнае, — падтрымаў сябра Мікалаеў. — У Афганістане за зямлю, якая выдаецца сялянам, дзяржава ж не бярэ грошай. Надыдзе час, і вашы дэхкане будуць атрымліваць пенсію, адпачываць у санаторыях і дамах адпачынку.

Наступіў вечар, і стары, нібы падводзячы вынікі гутаркі, сказаў:

— Значыць, зробім так: вы сёння пераначуеце ў нас, а заўтра раніцай я на машыне павязу вас да мяжы.

— А можа, лепш уначы? — падаў голас Лявонаў.

— Уначы на машыне, ды яшчэ ў бок мяжы, не пад'едзеш. Ісці вам пешшу таксама нельга. Яны акрамя пастоў выстаўляюць засады, і вас сапраўды схопяць. Таму лепш за ўсё вам схавацца ў кузаве. Вы сядзеце ля самай кабіны, а астатнюю частку закладзём дровамі. А па дарозе я падбяру пару пасажыраў, з імі і пад'едзем бліжэй да мяжы. Высаджу вас у гарах, прадам у кішлаку дровы і вярнуся назад.

Азізі прапанаваў:

— Бацька, а можа, дазволь, я іх адвязу?

— Не. Гэта зраблю я. Па-першае, да старога чалавека менш чапляцца будуць, а па-другое, калі што і здарыцца, то са мной яны не будуць такія жорсткія.

Пасля гэтага была вячэра, а затым хлопцы накіраваліся ў адведзены ім пакой. Калі яны пайшлі, Саід Хасан сказаў Азізі:

— Калі мяне схопяць душманы, бяры ўсіх сваіх і сыходзь у Афганістан. Сам ведаеш, сын мой, чым рызыкуем, і не трэба дапускаць, каб гэтыя шакалы выразалі ўсю нашу сям'ю, зганьбілі тваю сястру.

Лявонаву і Мікалаеву нарэшце пашанцавала. Яны сустрэліся сапраўды з бескарыслівымі, сумленнымі і адважнымі людзьмі.

Наступіла раніца. Рыхтавалі машыну ўсёй сям'ёй. Савецкіх салдат размясцілі ля самай кабіны, атулілі коўдрамі, а затым заклалі дровамі.

Неўзабаве машына павольна выехала з двара і па пыльнай дарозе накіравалася ў паўночна-заходнім кірунку. Праз кожныя дзесяць-пятнаццаць кіламетраў машыну спынялі пасты. Салдаты чулі, як стары размаўляў з кімсьці, затым садзіўся ў кабіну і заводзіў матор.

Зрэдку ў пустэльных месцах Саід Хасан спыняў машыну і старанна аглядаў кузаў: ці не разпаўзліся на дарожных выбоінах дровы. Гучна казаў «хуб» і зноў садзіўся за руль. Праехалі не менш за дзве гадзіны, і вось хлопцы пачулі, як на адным прыпынку ў кабіну села некалькі чалавек. У такім мікрагрузавіку на пярэднім сядзенні, побач з вадзіцелем, маглі сесці два ці тры чалавекі. Машына пачала спыняцца ўсё часцей і часцей, першая прыкмета таго, што набліжаліся да мяжы.

На прыпынку Саід Хасан спакойным голасам тлумачыў, хто ён і куды едзе, прад'яўляў дакументы і пасля таго, як душманы бегла аглядалі кузаў, ехаў далей. Недалёка ад гор людзі, якіх падвозіў Саід Хасан, сышлі, і ён застаўся ў кабіне адзін. Хутка горы, там адзін з апошніх кардонаў, а потым у якім-небудзь бязлюдным месцы можна будзе высадзіць шураві, што спадабаліся яму.

Саід Хасан ганарыўся, што змог дапамагчы рускім салдатам і, мурлыкаючы нейкі матыў, адважна пад'язджаў да паста. Вось адзін з салдат жэстам паказаў на абочыну нешырокай дарогі: стань тут. Саід Хасан плаўна затармазіў. Убачыў, што на пасту акрамя салдат ёсць і душманы. Прад'явіў дакументы. Яму загадалі выйсці з кабіны. Двое душманаў агледзелі кабіну і, падышоўшы да кузава, зазірнулі туды. Адзін з іх сказаў:

— Разгружай дровы!

— А навошта? Няўжо не бачыш: дровы як дровы. А я стары чалавек, і мне цяжка іх цягаць...

— Разгружай, стары, дровы, — запатрабаваў другі душман. — А не то перавернем тваю калымагу і вытрасем усё на дарогу.

— Навошта крыўдзіш старога чалавека, — паспрабаваў угаварыць іх Саід Хасан. — Тады я паеду назад, а вам хай будзе сорамна!

Ён накіраваўся да кабіны, але адзін з душманаў выняў ключ з замка запальвання.

— Не, стары, спачатку мы паглядзім, што ты вязеш, а потым можаш і паварочваць!

Саід Хасан зразумеў, што справы дрэнь, і паспешліва стаў выцягваць з кішэні грошы.

— Вазьміце, толькі не затрымлійце мяне, я вельмі спяшаюся. Назад буду ехаць — бакшыш прывязу.

Адзін з душманаў працягнуў руку і ўзяў грошы, але другі заўпарціўся:

— А чаго гэта ты баішся, стары? А раптам ты вязеш тых людзей, якіх мы шукаем?

Другі душман прымірэнча сказаў:

— Добра, стары, мы дапаможам табе. — І, ступіўшы да кузава, пачаў разгружаць дровы.

Саід Хасан, пабляднеўшы, схапіў доўгі карчак:

— А ну, адыдзі ад машыны! Гэта мая ўласнасць, і я не дам нічога чапаць тваім брудным рукам!

А вакол ужо сабралася каля дзясятка салдат і душманаў. Некаторыя з іх з рогатам пачалі дапамагаць разгружаць «таёту». Гэта быў канец, і Саід Хасан узмахнуў карчаком, спрабуючы дацягнуцца да спіны бліжэйшага душмана.

Але хтосьці апярэдзіў яго і ўдарам кулака збіў на зямлю. На старога ўселіся двое і прыціснулі яго да зямлі.

Душманы разгрузілі дровы і прыпаднялі коўдры.

Лявонаў, трымаючы аўтамат за ствол, кінуўся наперад. Ён збіў з ног двух душманаў, якія на імгненне разгубіліся, але страшны ўдар ззаду па галаве паваліў яго на зямлю. Мікалаеву таксама ўдалося выскачыць з кузава, ён адкінуў ад сябе некалькі чалавек, аднак на ім павіслі чацвёра і звалілі яго на зямлю.

Саід Хасан напружыў усе свае сілы і змог скінуць з сябе душманаў. Ён ускочыў на ногі, схапіў камень і замахнуўся. Але тут душман ускінуў вялікі пісталет. Прагучалі адзін за адным два стрэлы, і Саід Хасан спінай перакуліўся на капот сваёй машыны.

А акрываўленых рускіх хлопцаў душманы звязвалі і цягнулі ўбок. Лявонаў не адчуваў удараў прыкладамі. Яго сэрца рвалася ад болю, што загінуў пажылы афганец, які ахвяраваў сваё жыццё дзеля савецкіх салдат.

## «Сыночак!!!»

Была субота. З самай раніцы Вера Фёдараўна пачала збірацца ў райваенкамат, але Сяргей параіў ёй спачатку патэлефанаваць туды і спытаць, ці будзе на месцы ваенкам Сумскі. Яна так і зрабіла. Дзяжурны афіцэр адказаў:

— У нас ваенкам палкоўнік Чарноў.

— Як Чарноў? — узрадавана перапытала Вера Фёдараўна. — Ён жа, як мне сказалі, з'ехаў.

— Так, ён з'язджаў на вучобу, — растлумачыў дзяжурны, — але ўжо вярнуўся. Яму прысвоена чарговае званне, і ён працягвае службу ў нас.

— Ён будзе сёння ў ваенкамаце?

— Цяпер ён паехаў на аэрадром і будзе тут гадзіны праз тры.

Вера Фёдараўна не стала пытаць, ці можна сёння звярнуцца да Чарнова, яна была ўпэўнена, што палкоўнік прыме і зразумее яе.

Адно тое, што ёй не трэба будзе прыніжацца перад маёрам Сумскім, які быў ёй непрыемны, падняло настрой. Нават хваляванне і трывога, якія не пакідалі яе два мінулыя дні, уляглiся, на душы стала спакайней.

Вырашыўшы, што ў ваенкамат пойдзе пасля абеду, Вера Фёдараўна прынялася за ўборку.

Сяргей, цмокнуўшы маці ў шчаку, пайшоў на работу. Вера Фёдараўна старанна прыбрала свой пакой, затым другі, перайшла ў кухню. Сабака Кузя працягваў панура ляжаць на сваёй падсцілцы, зрэдку клапатліва паварочваючыся і павiскваючы. «Усё-ткі ён прыхварэў, ужо трэці дзень не можа есці, небарака».

Вера Фёдараўна пагладзіла Кузю. Той лізнуў яе руку, ціха завішчаў, адвярнуўся, выцягнуўшы шыю, паклаў галаву на падлогу. Вочы яго былі сумныя.

Вера Фёдараўна навяла ў кватэры парадак і пачала збірацца ў ваенкамат. Яна ўзяла гаспадарчую сумку, вырашыўшы, што пасля ваенкамата зойдзе на рынак. Зачыніла на замок дзверы і накіравалася па лесвіцы ўніз.

Яна чула, што ў пад’ездзе шмат людзей: раздаваліся нягучныя галасы, цяжкія крокі. Вера Фёдараўна спусцілася на паверх ніжэй, павярнула да наступнага лесвічнага пралёта і раптам убачыла, што да пляцоўкі паміж першым і другім паверхамі павольна паднімаўся афіцэр, а за ім салдаты ў блакітных берэтах неслі штосьці цяжкае.

«Дэсантнікі, як мой Коля, — падумала яна, і тут страшная здагадка, нібы маланка, асляпіла яе. — Дык гэта ж труна, цынкавая труна! Не, не, гэта не да мяне... Гэта да кагосьці іншага!!!»

У гэты момант афіцэр ступіў на лесвічную пляцоўку і ўбачыў Веру Фёдараўну. Нейкі час ён сумна глядзеў на яе і, нічога не кажучы, зняў фуражку.

Вера Фёдараўна, нібы адганяючы жахлівую яву, застагнала, затым моўчкі ўзняла перад сабой рукі, каб загарадзіцца ад яе...

Салдаты, трымаючы труну на плячах, цяжка ўзышлі на пляцоўку і, упёршыся ў афіцэра, спыніліся. Вера Фёдараўна бачыла твары толькі двух хлопцаў, якія былі з гэтага боку труны. Яны таксама глядзелі на яе.

— Не, не! — закрычала Вера Фёдараўна, прыціскаючы рукі да грудзей. — Толькі не гэта!

Яна пачала адыходзіць назад, уверх па лесвіцы. Афіцэр і салдаты рушылі за ёй.

Вера Фёдараўна, не памятаючы сябе, крычала:

— Гэтага не можа быць!

Яна павярнулася і пабегла да сваёй пляцоўкі. Убегла ў вузенькі, цёмны калідорчык і ліхаманкава важдалася з замкам. А страшная працэсія ішла за ёй. Вось яна ўжо дасягнула трэцяга паверха. Наперадзе хутка паднімалася жанчына ў белым халаце. Яна спяшалася да Веры Фёдараўны, якая, каб схавацца ў кватэры ад гэтага жаху, спяшалася адкрыць замок. За труной, апусціўшы галаву, праз сілу перастаўляючы ногі, ішоў палкоўнік Чарноў.

Адчыніўшы дзверы, Вера Фёдараўна паспрабавала тут жа зачыніць іх за сабой. Але ўрач, якая падаспела, не дазволіла ёй гэта зрабіць.

— Не трэба, Вера Фёдараўна, трымайцеся, дарагая! З вялікім горам мы да вас...

Дзіка ўскрыкнуўшы, Вера Фёдараўна кінулася ў свой пакой. Следам за ёй ішлі ўрач і афіцэр.

Бедная жанчына ўцякала ад іх. З яе вуснаў нёсся толькі адзін працяглы гук: а-а-а-а!

Раптам яна кінулася да акна і адкрыла балконныя дзверы. Першым апамятаўся афіцэр. Ён паспеў абхапіць папярок тулава звар'яцелую ад гора Веру Фёдараўну.

— Не трэба, не трэба, галубачка! — мякка казала ўрач, якая падаспела на дапамогу афіцэру.

Вера Фёдараўна, як у сне, глядзела міма іх, праз балконныя дзверы ў пакой, дзе салдаты паставілі на падлогу труну. Схапіўшыся рукой за сэрца, яна пачала павольна асоўвацца і нямогла павісла на руках афіцэра і ўрача.

Яны ўнеслі яе ў пакой, паклалі на канапу, але ўрач перадумала і сказала:

— Перанясём яе ў другі пакой. Яна не вытрымае тут, побач з труной.

Яны аднеслі яе ў Сяргееў пакой. Урач тут жа ўзялася за шпрыц, а афіцэр, бледны, з дрыготкімі рукамі, выйшаў на балкон, падняў з падлогі сваю фуражку і, вярнуўшыся да салдат, ціха сказаў:

— Паглядзіце ў кухні табурэткі, труну паставім на іх.

Неўзабаве цынкавая труна стаяла на чатырох табурэтках, а з кухні, куды забіўся пад стол сабака Кузя, неслася працяглае выццё. Ля пад'езда, на лесвіцы, ля дзвярэй кватэры тоўпіліся людзі, чуліся ўзбуджаныя галасы.

У кватэру ўвайшлі ваенкам Чарноў і тры жанчыны. Палкоўнік сказаў:

— Гэта суседзі, пабудуць з маці.

Афіцэр, а гэта быў нампаліт роты, старшы лейтэнант Бакін, кіўнуў галавой і ціха загадаў салдатам:

— Ідзіце ў двор і чакайце мяне.

Салдаты з берэтамі ў руках накіраваліся да выхаду. Чарноў, высветліўшы ў жанчын, дзе працуе Сяргей, пачаў па тэлефоне шукаць яго. А ў двары дэсантнікаў акружылі людзі. Чуліся галасы:

— Раскажыце, як гэта здарылася?

— Яго забілі ў Афганістане?

— Вы адтуль?

Але салдаты, нахмурыўшыся, маўчалі. Яны выконвалі загад: хто яны і адкуль, дзе загінуў Коблік — не казаць.

***Пераклад з рускай Алеся МАРЦІНОВІЧА.***

## Мікола МАЛЯЎКА



### КАСМІЧНАЯ ПРАПІСКА

***Касманаўт Пётр Клімук браў з сабой у палёт кніжку вершаў Якуба Коласа.***

Касмічны томік у паэта ёсць.
Ён з роднай мовай выйшаў на арбіту —
Бліжэй да сонца, зорак і блакіту.
З паэтаў у нябёсах — першы госць.
Не думаў пры жыцці і сам, нябось,
Што зашумяць у космасе адкрытым
Рачныя хвалі, і дубы, і жыта —
Наднёманскага краю прыгажосць.

Класічныя радкі — як пазыўныя,
Не змоўкнуць у вяках яны, жывыя.
Акрыленыя, сілу збераглі
І не лятаюць над радзімай нізка:
У Коласа, паэта ад зямлі,
Высокая касмічная прапіска.

---

***Маляўка Мікалай Аляксандравіч*** *нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Карэліі лесарубам. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душою» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы ды сосны…» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2012).*

## ЯКУБ КОЛАС НА НАРАЧЫ

Адзін, без сяброў і агню,
Сядзіць ён на беразе Нарачы.
Заглыбіўся ў цішыню,
Ужо не аб чым не марачы.

Крутых паваротаў і ям
Хапала ў жыцці няпростым.
І мары прыземлены там,
Далёка ў мінулым —
На ростанях.

Што бачыць у думках ён
І чым успаміны спатольвае?
Падобны роздум на сон —
З яго, паэтавай, доляю.

Вяртаюць у век малады,
Хвалююць з новаю сілаю
І вёскі, і гарады,
І постаці, сэрцу мілыя.

Жывыя, пад небам зямным,
Яны выплываюць з цемені —
То ясна так, па адным,
То разам, цэлымі сем'ямі.

Выходзяць з дзіцячых гадоў,
Выходзяць з юнацтва трывожнага.
І ноч ён праседзець гатоў,
Каб толькі прывеціць кожнага.

Падзякаваць ім за хлеб,
За вернасць суровай часінаю,
Калі яшчэ не акрэп,
Не стаў на крыло салаўінае.

І павініцца без слоў
На споведзі гэтай запозненай:
Не ўсіх атуліў цяплом,
Правёў у дарогу апошнюю.

Назад, за абсяг зямны,
Сплываюць вобразы родныя,
І не парушаюць яны
Яго глыбокага роздуму.

Гусцее сутонне, як дым,
А памяць жыццё ўсё высвечвае…
Запомнім яго такім —
Сам-насам з прыродай
І вечнасцю.

## ВОБЛАКІ ПЛЫВУЦЬ

Пасля маланак і грымот пасля
Адпачывае ціхая зямля.

І Коласавы воблакі любімыя
Плывуць у ясным небе над радзімаю.

Яны, пушыста-белыя, з пяшчотаю
Пакрыты зверху сонца пазалотаю.

А знізу, як дзівосныя жамчужыны,
Блакітнаватай дымкаю асмужаны.

І не спяшаюцца яны, павольныя,
Сплываць у вечнасць, Коласавы воблакі.

Нібы і іх, каб аздаблялі свет,
Пакінуў нам у спадчыну паэт.

## ЯК БЫЦЦАМ МАМА ЗАКАЛЫХВАЕ

Пад калыханку матчыну калісьці
Я засынаў, малы хлапчук.
І не трывожыў потым шолах лісця,
І не палохаў ветру стук.

За дзень стаміўся, а не спіцца ўночы.
Ці хутка пойдзе дождж, гляджу.
І неўпрыкмет заплюшчваюцца вочы
Пад манатонны шум дажджу.

Трымае тут, на спадчыннай сядзібе,
Да каранёў сваіх любоў.
Чый голас льецца музыкаю дзіўнай —
Адна мелодыя, без слоў?

Плыву з дрымоты ў сон, і лёгка дыхаць —
Жаданы дождж спакой прынёс,
Як быццам гэта мама закалыхвае
Мяне адтуль ужо, з нябёс.

* * *

Зязюля позняя кувае ў лесе,
Чуваць і тут, у вёсцы, каля весніц, —
І голас вешчы
Ласкаю жывой
Кладзецца на душу,
На роздум мой.

На раздарожжы Бацькаўшчына наша.
І хто з людзей-пракаў скажа:
— Куды ідзём?
Як заўтра будзем жыць?..
Няпэўна ўсё,
А час —
Ідзе,
Бяжыць…

Кувай, зязюля мілая, кувай,
Не за сябе прашу —
За родны край.

* * *

На небасхіле ўспыхваюць зарніцы,
Трывожаць і маю душу,
Як водсветы далёкай навальніцы —
Без грому, ветру і дажджу.

А можа, гэта Божыя анёлкі
Ўсміхаюцца святлом —
Без слоў
Прарочаць дзень
З блакітам і вясёлкай,
З прыязным клёкатам буслоў.

І думаць пра нядобрае не трэба:
Трывога лішняя, калі
Вось так, зарніцамі, начное неба
Спрыяе людзям на зямлі.



Казімір КАМЕЙША

# САМ-НАСАМ З ЧАСАМ

*Лірычныя мініяцюры*

Пакрысе вяртаю словы са свайго далёкага дзяцінства. Вярнулася і гэтае — рондаль. Гэта тая ж самая пасудзіна, якую сёння ўсе называюць каструляй, толькі з даўгаватай ручкай. Праз памяць смакую і малодзіва, запечаную салодкую малочную гушчыню, малако ад толькі ацеленай каровы. У слова, што мае, відаць жа, нямецкае паходжанне, зусім роднае гучанне, абсмакаванае ўжо нашымі вуснамі.

* * *

Самае дарагое начынне для шапавала — капылы. Гэта я зразумеў толькі потым, калі досыць пахадзіў у валёнках-катанках. Цяжкаватая, скажу вам, хада. Зусім іншая, чым у ботах, не кажучы ўжо пра лапці. Але ж якое цяпло нагам! Зласнаватыя марозы апошніх нашых зім вяртаюць заўсёды ў маю памяць і тыя валёнкі. А вось пра саміх шапавалаў згадваюць у нас даволі рэдка. Людзям цікавая толькі сама рэч, а тое, як і хто яе стварае, для іх зусім нецікава. Можа быць і ёсць тут нейкая рацыя. Калі ў кожнай справе прыадчыняць усе яе таемныя бакі, у свеце яшэ больш дабавіцца тае самае абыякавасці.

* * *

Сярэдзіна жніўня… Сіні ветрык прыўсміхаецца мне на высокім верасе, а ў кошыку маім толькі пару лісічак ды сумнаватая чырвоная сыраежка. Але лес пакідаць неахвота. Цягне як магнітам да таго верасу, дзе ўжо выразна

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кніг прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

чуваць пчаліная, як мёд, цягучая песня. Дзе, пэўна, ёсць пчолкі і з нашых вулляў. Усё ўрэшце тут звязана нейкім нябачным сваяцтвам.

* * *

Ад зямлі мы хочам мець больш, чым даём ёй самі. Пасеялі жменю, а хочам сабраць мех. А калі зусім не даваць.Так і будзем заставацца — кожны пры сваёй невінаватасці. Ні ты мне, ні я табе… Грэх вялікі зямны… Але ж і грэшнікаў хапае…

* * *

Кожны ў жыцці піша сваю ўласную кнігу, нават калі яе не піша. Нават самыя блізкія людзі змест яе ведаюць толькі прыблізна. Але самае каштоўнае ў гэтай кнізе тое, што хаваецца паміж радкамі. Яно цалкам належыць толькі некаму аднаму, толькі аўтару і амаль заўсёды застаецца непрачытаным. Яно і адыходзіць разам з чалавекам. Гэта тыя самыя таямніцы, якія чалавек давярае толькі сабе ды Богу. Ах, якая бібліятэка непрачытанага!..

* * *

Раніцай двойчы пацешыў сваім пошчакам тэлефон. Гаспадар спрабаваў пераканаць маладую жанчыну, што на ніякі сеанс манікюру ён не запісваўся, нават спрабаваў пажартаваць. Было восем гадзін раніцы, ён ляжаў яшчэ ў ложку і ніякіх званкоў не чакаў. Ён пасмяяўся, паклаўшы слухаўку, але праз хвіліну званок паўтарыўся. Той жа самы голас назваў нумар яго тэлефона і строга запытаўся:

— Гэта ваш нумар?

— Ну мой, — незадаволена буркнуў гаспадар.

— Дык вось жанчына пад гэтым нумарам запісана сёння на манікюр…

— Паслухайце! Па-першае я вам не жанчына, — і не дагаварыўшы кінуў слухаўку.

І тут з ложка падхапілася гаспадыня:

— Дык гэта табе любоўніцы звоняць! Кот памаўзлівы!.. І пачалося, і пачалося… Вось і шукай тут вінаватых..

* * *

Калоў бярозавыя дровы. Возьмеш у рукі паленца — зверху белай празрыстай лупінкай цягнецца бяроста. Бязважкая, як пёрыйка, яна адразу адлятае з ветрам. Сонца паліла цэлае лета. І ўнутры, як расколеш, паленцы цёплыя, сарцавіна нібы дыхае цёплай лагодай.

— Пачакайце! —хочацца сказаць,— яшчэ рана аддаваць вам сваё цяпло. Будзе на гэта зіма…

Бяроза палявая, задубелая на вятрах, колецца з неахвотай. Тут адным «г-а-а — хам» не возьмеш. Нават калун адскоквае, як гумовы. Раб-б-ботка! Але наша, лясная…

* * *

Зноў гартаю свой стары, у чырвоных вокладках, блакноцік, мой асабісты, мной задуманы слоўнік. Зноў упісаў туды новае (старое) слова, якое толькі

выплыла з памяці — «вопсас», што значыць — стрымгалаў, напралом, імкліва (вопсас кінуўся да кагосьці). Зазірнуў у слоўнік паўночна-заходніх гаворак — няма такога. Ах, як шмат харошых, міла-ласкавых слоў назбірала мне мая памяць. І цяпер па адным, як па ягадцы, зрэдку выкідае ў маё сённяшняе здзіўленне. Хацелася б кожнае з іх прыжывіць, прышчапіць у нейкі тэкст. Але тэксты маіх сённяшніх дзён занадта беднаватыя для такой прышчэпкі. Трэба і іх браць адтуль, з памяці. Тады, можа, і прыжывуцца.

* * *

Рэдактары ўсіх часоў баяліся ў аўтарскім тэксце слоў «быў», «было», «былі». А без іх і майстравітыя класікі не маглі абысціся. Бывае, што і ў адным сказе некалькі разоў улепіцца-ўціснецца тое «было». І што ты з ім зробіш, калі яно сапраўды было. Проста ёсць у тэксце словы, якія выконваюць ці рухаючую, ці цэментуючую ролю. А ці вытыркаецца са сцяны гэны самы «цэмент», тое ўжо залежыць ад узроўню творчага майстэрства ці наогул наяўнасці яго як такога.

* * *

У сённяшнім жыцці назіраеш і такую парадаксальную рэч: новыя словы, часта не лепшага гатунку, выцясняюць старыя, устойлівыя, звыклыя. Ужо, здаецца, і з тэлебачання прагучала — «засяленец». Гэта той, хто толькі засяліўся ў новую кватэру. А было ж, колькі памятаю, — «навасёл».

«Ну і нармальна, — не падзяліла са мной маю крыўду ўнучка. — Ты што не чуеш, што ў тваім «навасёл» прысутнічае і гэны «асёл?» А тут яшчэ нейкая паэтка з радыёэфіра пахвалілася, як яна пераборліва вызначаецца са словам: «Я ніколі не ўжываю слова «нясецца», ёсць жа слова «імчыцца», а «нясціся» можа толькі курыца…»

Ну, што ж вы, спадарыня паэтка, так збядняеце нашу мову? Вы ж узялі толькі адно, «сядзячае» значэнне слова, а яно ж мае і яшчэ сваё рухомае значэнне. За прыкладам раю звярнуцца ў трэці том тлумачальнага слоўніка роднай мовы.

* * *

Двор за акном абгарадзілі ружова-белай, паласата-папераджальнай істужкай — скідваюць са стрэх снег, абіваюць ледзяшы. Цяжкія ледзяныя іклы падаюць ля самых машын, якіх за дзень, як тых апенькаў у грыбны год, нарастае пад вокнамі. Машыны — бяда сённяшніх нашых двароў, ды і вуліц — таксама. Нехта перакручвае на новы лад стары анекдот: «Во развялі машын — ледзяшу няма дзе ўпасці». Але хіба можна бязлітасна абражаць тое аўтастаткавае мноства?! Гэта тое самае, калі мы пачнём абурацца залішнім прыростам зямных насельнікаў. Думаць трэба. І думаць тады, калі яшчэ збіраемся нешта будаваць. Думаў жа некалі селянін, калі пачынаў будаваць дом, дзе ў яго будзе хлеў, гумно, дрывотня, тая ж прыбіральня…

* * *

Курская магнітная анамалія. Мала што гаварылі мне тыя тры словы, пакуль на свае вочы не пабачыў той самы Міхайлаўскі руднік за Жалезнагорскам. Уразіў нязвычнасцю сам кар’ер, які зверху нагадваў нейкую казачную

арэну, па якой сноўдалі нашы магутныя самазвалы, якія там, на глыбіні, здаваліся цацачнымі. Ды і ўсё там выглядала вельмі цацачна, нават самі людзі здаваліся мітуслівымі мурашкамі. Я пачаў згадваць, што ўсё гэта калісьці бачыў у нейкім сне. Наогул, у сённяшнія свае немаладыя гады пачынаю разумець, як многа таго, што некалі наплялося ў дзіцячых снах, сёння ў вачах паўстае рэальнасцю. І я пачынаю праціраць, заслёзнелыя ад яркага чэрвеньскага сонца вочы: няўжо і праўда — сон?

Недзе цякуць марудлівыя рэкі Пагаршына, Рэчыца, Чэрнь, упадаючы ў Свапу, і грозна шуміць дрымучы лес, перагукваючыся з нашымі беларускімі баравінамі… Калі нам, людзям, тут не патрэбны перакладчыкі, дык яны, дрэвы, нават па адмаху галінкі разумеюць адно другое. Шумяць, растуць, нават падаюць яны ўсе аднолькава. А там, унізе, на вялікай рабочай арэне, равуць, чмыхаюць дымам самазвалы і экскаватары, а думкі мае імкліва бягуць у мае родныя Навікі, пад суседнюю вёску Аколава, у «глыбіню стаўбцоўскіх руд». Там геолагі ўжо даўно адшукалі вялікія залежы жалезнай руды. Да распрацоўкі, праўда, справа яшчэ не дайшла. Можа, зусім падобная «арэна» ці «анамалія» чакае і майго нашчадка? Мы ж, налібоцкія, з той самай жалезнай руды і пачыналіся. І назва Налібокі (налі бакі) ідзе, напэўна, адтуль, здалёку. Але цяпер «бакі» будуць зусім іншымі. І ці застанецца між іх месца маім Малым Навікам? «Хто будзе жыць, той пабачыць», — любіла казаць мая маці. Але тут, за Курскам, нават нескладана ўсё тое ўявіць.

* * *

Інтэлігент, ад якога і праз слой адэкалону пахне вёскай, так і пражыве свой век (большы ці меншы), прытвараючыся не тым, кім ёсць.

* * *

Чалавек страшны сваёй бяспамятнасцю. У нас шмат людзей, асабліва сярод моладзі, якія памятаюць толькі сябе саміх, і то, пачынаючы ад сцен дзіцячага садка. Пра гэта мы размаўлялі і са сваім далёкім родзічам, які мінулым летам наведаўся да мяне ў вёску з мноствам пытанняў. Задумаў ён скласці свой радавод, адшукаць кожную галінку свайго радзіннага дрэва, якое каранілася тут, у пушчы. Мы ездзілі на могілкі, прачытвалі надпісы на старах помніках і крыжах, звяралі з памяццю старых людзей старыя фотаздымкі. А ў вёсцы старэйшых ад мяне амаль не засталося. І ніхто нам не дапамог распазнаць жаночыя твары на фотаздымку. Толькі здагадкамі ды падабенствам мы кагосьці нібы пазнавалі. Госць на ўсялякі выпадак пакінуў мне тую фотку. І добра, што пакінуў. Другі мой польскі родзіч, які гасцяваў у вёсцы тым жа летам, але пазней, пазнаў на ім сваю маці. Адшукалася, значыць, адна страчаная галінка.

Так, трэба часцей звяртацца нам да сваёй памяці. Бо не ведаць каранёў сваіх — гэта тое ж самае, што і не быць хрышчоным. Хрысціць чалавека варта не толькі храмам, але і гісторыяй.

* * *

Збіраючы ў пушчы грыбы, не так страшна наткнуцца на звера-драпежніка, як натрапіць на самагонны апарат і чалавека пры ім. Хаця — як для каго. Тут ужо цікавай можа быць сама разгубленасць таго і гэтага боку, і не спалоханае,

а нейкае разгублена-незразумелае гледзіва адно аднаму ў вочы, усмешлівае бязмоўе. І добра, калі пасля гэтае анямелае збянтэжанасці атрымаеш цёплае запрашэнне прысесці. І калі ў грудзях пекане той казытлівы хлебны агонь, уся няёмкасць абодвух бакоў адразу знікае.

— Ганіце на здароўе, — карціць сказаць тады гаспадару пры агні, бо, урэшце, сама яна не гоніцца, гнаць яе трэба некаму.

…Вясковы даносчык, выконваючы свой не вясковы «абавязак» лёгка на гэты раз асачыў сваю ахвяру (выбраў, прыпільнаваў таго, хто яму некалі добра насаліў) і замальдаваў своечасова «куды трэба». Рабіў ён гэта, як заўсёды, праз свой «цэнтр сувязі», праз нейкія другія і трэція вушы. І вось па сцяжыне з яшчэ свежымі слядамі, крыху прытойваючы дыханне, крадуцца два міліцыянеры. Яны спыняюцца і прынюхваюцца — цягне-цягне знаёмым дымком. Толькі б не спалохаць «здабычу». Не ведаю, чым усё тое «паляванне» скончылася, вяскоўцы вельмі дасціпна распісваюць і той, і гэты сюжэт ліквідацыі «местной алкогольной точки», мне асабіста падабаецца наступны. Наш герой, згледзеўшы праз кусты хітраватыя цені, схапіў у рукі ўважысты глячок і кінуўся за канаву, а з таго берага паслаў яшчэ і паветраны пацалунак.

Толькі пазней, блукаючы грыбнымі сцяжынамі, я наткнуўся на сляды былой разборкі: пакалечаны чорны кацёл, пасечаныя медныя «скрэнты» (змеявік) ды астылае даўно вуголле. Вось і ўсё, што засталося ад міні-броварчыка. Падняў адсечаны кавалачак меднай трубкі — спатрэбіцца, магчыма, і ён у маёй небагатай гаспадарцы. Пацешна глядзеў на даўно астылае вуголле ды яшчэ доўга спрабаваў уявіць, як яно магло ўсё тут адбывацца.

* * *

Старасць — не радасць. Хто з гэтым будзе спрачацца?! А калі не радасцю была і маладосць? Як тады чалавек пачуваецца ў сваю самую важкую па гадах пару? Хіба ён вам скажа, стары чалавек? Але ў яго, напэўна, сваё разуменне радасці.

* * *

Кіцель маршала Георгія Жукава, кажуць, разам з медалямі і ордэнамі важыў цэлы пуд. Колькі ж тады важаць яго мужнасць і талент палкаводца? З нядаўняга тэлесерыяла я гэтага так і не зразумеў.

* * *

Самае непрыемнае для прыстойнага пісьменніка — гэта калі цябе просяць напісаць сачыненне за свайго ўнука. Адмовіцца нельга — раззлуеш усю радню. А сам ужо наперад ведаеш, што траяк (ці як ён там зараз называецца?), якім узнагародзяць унука, а часцей за ўсё так і бывае, будзе траяком тваім. А ты, грэшны, і сваіх даўніх яшчэ не забыў. Але балазе ніколі ў нікога нічога не спісваў, спадзяваўся і спадзяешся толькі на сябе.

* * *

Аддаць апошняе — гэта зусім не тое, што забраць апошняе. Забіралаў у нас вельмі шмат. Было і будзе. Але як добра, што ёсць і тыя, хто гатовы з вамі падзяліцца апошняй капейчынай. Нават калі вы гэтага не просіце. Радуйцеся

і дзякуйце Богу, што такога чалавека вы маеце. Я сустракаў у жыцці падобных людзей. А ці сам я такі? Дайце падумаць… Здаецца, я адношуся да тых, хто пад п’яную руку можа аддаць апошняе, а потым пашкадуе. Але потым ужо не лічыцца, як кажа мой дасціпны ўнук.

А ўсё ж яны ёсць на свеце, добрыя людзі. Свет не без добрых людзей.

* * *

Лежачы на вясковай печы паспрабаваў вярнуцца ў далёкія дзіцячыя гады. Думаў, гэтаму дапамогуць сучкі на столі, якія мне некалі нагадвалі вельмі выразныя пушчанскія малюнкі. Але за добрым слоем фарбы тыя сучкі даўно зніклі, а многія проста вылушчыліся са старой пушчанскай суфіткі, якую цяпер называюць вагонкай. Пашкадаваў, паўздыхаў…

Колькі ўсяго прыемнага сэрцу знікла пад тоўстымі наслаеннямі часу! І той старадрэвінны скошаны вушак, які бацька спрабаваў паправіць простым счэсваннем, як быццам пагладчэў і пры маім з’яўленні ажно адхіляецца ўбок. Ён нібыта адчувае віну, што дарэмна выткнуўся з усёй гэтай пушчанскай зладжанасці і згоды. Сумна тут усяму без мяне, а мне гэтак жа сумна без яго.

* * *

Таварыства аматараў кнігі. Існавала некалі і такое. Праз гады ў сябе пытаюся: «А навошта яно тады спатрэбілася, калі за кнігай людзі сапраўды «палявалі»? Вось сёння, калі тая кніга мала каму патрэбная, магчыма, і бракуе таго таварыства. Даруйце мне, кнігалюбы маёй маладосці, гэта мне не прыснілася, але смешна падумалася. Анойчы здарылася так, што творца з чытачом памяняліся месцамі. І вось у святочнай святліста-прасторнай зале сабраліся шчыльным гуртам пісакі, каб паслухаць свайго адзінага чытача. І ён пачынае знаёміць іх з кухняй свайго чытання, паказвае закладкі, якімі ён карыстаецца, чытаючы кнігу, лямпы, згадвае свой чытацкі шлях ад нараджэння, сваю першую кнігу, нават бэсціць свайго нелюбімага пісьменніка.

Тут жа падымаюцца ўдзячныя аўтары, асыпаюць адзінага кветкамі, бяруць у яго аўтографы на сваіх кнігах. Потым частуюць яго чаркаю пад бутэрброд з ікрою. А ў бібліятэках шукаюць грошы на прэмію лепшага чытача года. Гэта мая прыдумка, але ці ні рыхтуе нам час сустрэчу, падобную на гэтую?

## Чалавек з малпачкай на плячы

У Мінску гэты чалавек, магчыма, быў самым найвядомым. Але зусім не дзякуючы сваім малюнкам, якім ён аддаваў бальшыню свайго часу, бо зарабляў тым самым на хлеб надзённы. Дый мастаком слыў таленавітым, да таго ж з кагорты карыкатурыстаў, лік якім заўсёды — адзінкі. Вядомы чалавек быў сваёй малпачкай, якую заўсёды насіў на плячы, як нейкі жывы кудмень ці што.

Блізка з ім мы не былі знаёмыя, але некалькі разоў сустракаліся паміж іншым. Адну сусрэчу я добра запомніў. Гэта адбывалася ў вестыбюлі Беларускага радыё на Чырвонай, 4. Мяне зацікавіла нейкая незвычайная, даволі ўзрушаная гамана на першым паверсе, і я хуценька спусціўся ўніз са свайго звыклага другога. Ля паставога міліцыянера сабраўся цэлы натоўп люду: журналісты, дыктары і нехта яшчэ, а ўся ўвага іх была скіравана на шуструю мал-

пачку, якая перабягала з пляча на плячо, яе частавалі цукеркамі і апельсінамі, а можа, і яшчэ чым — праз час гэтага не разгледзіш, — да слёз пацяшаючыся незвычайным відовішчам. Бо хто калі яшчэ з мінчан бачыў экзатычнае стварэнне на плячы ў чалавека?!

Другі раз чалавека з малпачкай мне пашанцавала бачыць на галоўным праспекце сталіцы. Ён ішоў ад Плошчы Перамогі да цырка, а ўслед за ім рухалася цэлая працэсія маладых людзей з эцюднікамі за плячыма. З радаснымі воклічамі яны запоўнілі ўвесь правы тратуар праспекта, так што сустрэчнаму чалавеку было цяжка размінуцца. Спыніць гэту працэсію, якая забірала пад сваё крыло ўсё больш людзей, мог толькі сам мужчына з малпачкай на плячы. Так яно ўрэшце і здарылася насупраць будынка цырка, і тады яны з малпачкай абраслі цэлым натоўпам.

Чалавека звалі Леанардам Чурко. Мастак скончыў Маскоўскі паліграфічны інстытут, займаўся станковай і прамысловай графікай, афармляў кнігі, маляваў плакаты. Сваім чалавекам лічылі Леанарда ў часопісе «Вожык». Карыкатуры яго вылучаліся не толькі колерам і нечаканасцю кампазіцыі, але і шматфігурнасцю малюнка. Не кожнаму карыкатурысту пад сілу ў невялікім малюнку адлюстраваць цэлы гурт асоб і надаць кожнаму твару сваё гумарыстычнае непадабенства. Гэткімі ў маёй памяці застаюцца малюнкі «У магазіне самаабслугоўвання», «Увага да марафона», яго непаўторныя абразкі гарадскога жыцця.

Як згадваюць сябры, па натуры сваёй Леанард слыў чалавекам вясёлым, здольным на розныя прыдумкі і розыгрыш. Неяк раніцай зайшоў у выдавецтва «Беларусь», якое месцілася тады ў старым будынку Дома друку. Прынёс нейкі выкананы заказ. Пастукаўся ў дзверы рэдакцыі афармлення, патузаў іх — ніхто не адчыніў. На ўсялякі выпадак мастак насіў з сабою стары стаптаны чаравік. Тут жа выцягнуў яго з сумкі і яркаю фарбай напісаў на падэшве: «Быў. Чакаў. Не дачакаўся». Усё гэта разам з аркушам малюнка сунуў у ручку дзвярэй. Потым усё выдавецтва рагатала з гэтага мастакоўскага жарту-прыдумкі.

У Леанарда Чурко было шмат сяброў, але найлепшым сябрам сам лічыў прыручаную малпачку, якую ён прыдбаў падчас нейкай далёкай паездкі. З малпачкай яны былі неразлучныя і дома, і ў гасцях, і на вуліцы. Чалавек з малпачкай на плячы неўзабаве стаўся неад’емным жывым вобразам беларускай сталіцы.

Калі ён з’яўляўся ў «Вожыку», малпачка ахвотна ішла ў рукі да кожнага з супрацоўнікаў, яна вельмі любіла яблыкі, і гэты пачастунак заўсёды мелі ў рэдакцыі.

На жаль, лёс — рэч непрадказальная. Жыццё вясёлага чалавека з малпачкай на плячы трагічна абарвалася зімой 1983 года. Тым зімовым днём яны каталіся на лыжах у Раўбічах. І тут іх нечакана акружылі падвыпітыя дзецюкі. Яны пачалі здзекавацца з малпачкі. Ён кінуўся на яе абарону. І паплаціўся жыццём.

Часам, калі я іду праспектам Незалежнасці ў напрамку цырка, мне карціць азірнуцца. А, можа, зараз мяне дагоніць той вясёлы чалавек з малпачкай на плячы…

* * *

На лецішчы часта ўключаю старую радыёлу і слухаю даўно забытую музыку са старых пласцінак-кружэлак. Патрэсквае-парыпвае іголка на даўно раз’езджаных дарожках, а на вачах наварочваюцца слёзы. Гэта музыка, якой сёння мала, але якой просіць разам з памяццю сама душа. Трэба паслухацца іх, а потым і паслухаць саму пласцінку.

* * *

Спешлівая гаворка жаночых абцасікаў за дзвярыма чужой кватэры. Не, я не памыляюся — абцасікі сапраўды размаўляюць, і я адчуваю нават, які ў іх сёння настрой. На гэты раз ён нязвычна вясёлы. А ўчора быў зусім іншы, бо не грымелі б так гнеўна невінаватыя ні ў чым дзверы. Па абцасіках я нават звяраю ранішні час. Дваццаць хвілін на восьмую. Абцасікі ў гэтым сэнсе вельмі дакладныя. Няма ў іх, каб хвіліна туды ці сюды. Гэта рэжымапаслушэнства змушае задумацца і над сваім глумленнем часу, як быццам яго ў мяне такі вялікі запас, што хапіла б на два жыцці. Абцасікі заціхаюць… Абцасікі не здагадваюцца пра мае думкі…

* * *

Пяць белых ружаў, падараваных учора ўнучкай Дашай, ранкам завялі і адразу амаль сталіся свежым зімовым гербарыем. Некалі я любіў засушаныя кветкі, травы. І сёння часта знаходжу іх між старонак нейкіх кніг. Тут жа пачынаю з імі размаўляць.

Вось гэтыя званочкі і рамонак адразу нагадалі някрасаўскую Карабіху 1984 года. Я адшукаў іх у альбоме «В краю моем родимом», што выйшаў у выдавецтве «Советская Россия» тым жа годам. Званочкі ляжалі пад здымкам калодзежнага жураўля ля гэтых вось радкоў:

В полдневный зной вошел я в старый сад.  
В нем семь ключей сверкают и гремят.  
Внимая их порывистому пенью,  
Вершины лип таинственно шумят.

Тады, пасля выступлення, букецік лугавых кветак падаравалі мне нашы беларускія дзеці, якія завіталі ў Карабіху на свята. Мы нават сфатаграфаваліся на памяць. Здымка, на жаль, я не маю. А кветкі захаваліся.

У засохлых кветках прывабнае само спачуванне прыродзе і хараству. І ўсё ж яны намнога жывейшыя, чым малюнак ці той жа фотаздымак.

* * *

Фальш у мастацтве — рэч недаравальная, нават небяспечная. Па-першае, ён заўсёды відаць, а па-другое, ён не робіць гонару самому аўтару. Асабліва шмат фальшу даводзілася назіраць мне ў кіно. Асабліва шмат яго ў агучванні нейкіх эпізодаў. Відаць, там прытрымліваюцца свайго правіла: калі ёсць капыты, яны абавязкова павінны цокаць. Вось часам і цокаюць коні, ступаючы праз зялёны лясны мох. Не варта і слых напружваць, каб тое заўважыць.

* * *

У перадвеснавым гарадскім двары з раніцы пішчалі і агрызаліся, стралялі пілавіннем маторныя сучкарэзы. Салодка пахла, ужо набрынялае вясной, жывое дрэва. Куксаватыя, падстрыжаныя і абрэзаныя таполі выглядалі калі не смешна, дык пацешна. А то і жахліва. Калі б дрэвы маглі гаварыць, думаю, яны б не пабаяліся сказаць зеленабудаўцам пра сваю даўнюю крыўду. Ну навошта іх усіх пад адзін грабянец? Сутнасць іх — уся тая ж лясная дзікасць. Вось і паспрабуй у гэтым аднолькаватварым гурце выбраць сабе

нявесту-таполю. Але ж тут горад, свае законы і правілы. Гэта мне, лясному, хочацца нечага іншага. Мне так часта і кажуць. А я, дзівак, усё не згаджаюся з гэтым.

* * *

Мне, старому радыйцу, што больш як дзясятак гадоў жыцця аддаў Беларускаму радыё, прыемна было пачуць ад сваёй колішняй супрацоўніцы і такое прызнанне:

— Што б ні казалі, а тэлебачанню не ўдасца выцесніць радыё. Тэлебачанне крадзе, сілком забірае ў чалавека дарагі час. Хочаш нешта пабачыць — кідай усё і бяжы да таго экрана. А радыё наша ўсюды ідзе за намі. Я спакойна магу рыхтаваць на кухні ежу і слухаць радыёперадачу.

Я згаджаюся з ёю і дадаю, што радыё можна слухаць, дзе захочаш, абы меў чым лавіць тыя радыёхвалі. А яшчэ згадаў пра тыя «радыёкропкі», што праз цэлыя дні гамоняць у вясковых хатах. Праз іх я і надта быў некалі вядомы ў сваім родным краі. Так што кропку на радыё ставіць не варта, лепш у хаце паставіць радыёкропку.

* * *

— Ах, як добра, што ты прыехаў, як парадаваў мяне. А то сны апошнім часам нейкія неважнецкія сніліся… — гэтыя словы часта казала мне мама, калі прыязджаў дамоў знянацку. Наўрад ці знойдзецца сёння хто, каб паўтарыць іх з той жа радасцю.

* * *

А добрая гэта прыдумка маёй даўняй знаёмай: са старога радыёдынаміка яна змайстравала шпакоўніцу. Цяпер з гэтай, некалі крыклівай скрынкі, пачалі і на самай справе вылятаць жывыя галасы. Слава чалавечай прыдумцы!..

* * *

— Не мае значэння, што ён піша. Галоўнае, што піша, — казалі пра чалавека.

О, калі б яно яшчэ мела і нейкае значэнне!

* * *

«Што мне рабіць»? — часта гэтымі трыма словамі з пытальнікам чалавек пазначае мяжу сваёй безвыходнасці. Рэдка знаходзіцца адказ на гэтае запытанне. Але моцнае яно тым, што перамагаючы слёзы і боль, чалавек шукае той самы правільны адказ толькі ў сябе. І часта яго знаходзіць. Колькі разоў адбывалася такое і са мною. Трэба памятаць, што выхад ёсць з любога становішча, акрамя хіба смерці.

* * *

Як спаваюць немаўля? Мабыць, не ўсе маладыя матулі пакажуць вам сёння, як тое робіцца. Смешна, але я ў свае дзевяць гадоў даволі спрытна спа-

віваў малодшага брата. Бацька з маці, ад’язджаючы ў поле «на Маргі», дзе ў нас было пасеяна жыта, пакідалі мяне за няньку. Я гайдаў драўляную калыску на рожках-ножках, ладзіў цукровую «суслу», што замяняла соску і… спавіваў. Мама навучыла мяне, як загортваць пялёнкі, як спавіваць пасля гэтага малога паяском. Навуку гэту я асвоіў вельмі хутка.

Баяліся бацькі толькі аднаго: хаця б не ўгаварылі мяне вясковыя сябрукі адправіцца з імі на той жа выган, дзе дымілася вогнішча, пяклі ў прысаку бульбу, а на ражэнчыках смажылі сала. Вясковыя свінапасы на такое гурманства былі здатныя. Часта я спакушаўся на тыя ўгаворы. За ўсю гэту правіннасць частаваў потым бацька сырамятнай папружкай, пра якую ў сталасці чамусьці ўспамінаеш з любоўю і павагай. З усяго спакушальнага, што было ў маім жыцці, сёння я спакусіўся б хіба што дзяцінствам.

* * *

Не ведаю, як і назваць гэтае адчуванне, якое ўжо даўнавата не дае супакаення маёй душы. Я разгубіўся і не кінуўся на дапамогу жанчыне, якае падала побач, зачапіўшыся за нейкую няўдалую прыступку. Гэта зрабілі іншыя. Але я, здаецца, быў бліжэйшы ад іх.

У жыцці неаднойчы здаралася, што падаў я сам. Я добра ведаю тое адчуванне няёмкасці, калі ты падаеш на вачах у іншых. Як добра, калі знойдзецца чалавек, які шчырым спачувальным словам здыме з вашага сэрца камень той няёмкасці. Я не зрабіў гэтага. Даруйце мне, жанчына!

* * *

Маленькі шчанючок, што гуляе ў двары з уласным ценем, прымаючы яго за некага чужога, дзвюма чорнымі маслінкамі вачэй зазірае мне ў твар, стрыжэ вострымі вушкамі, як быццам нечага просіць. Але чаго? Ласункамі яго ўжо частавалі, цяпер, напэўна, хочацца нейкай гульні, забаўляння, цацак, усяго таго, чаго заўсёды бракуе неўгамоннай малечы. І аднаго не разумее, што мне зараз не да гуляў. А можа, і разумее. Але ж не скажа. Яму, ці што, пачытаць свой вершык, які, відаць жа, пішу толькі для сябе, бо ўжо і самы апошні мой чытач падаўся ў паэты. У яго з’явіліся грошы, і яму абяцаюць выдаць усё, што ён здольны напісаць. Добра, што пра гэта не ведае мой сабачка.

* * *

За гэтым сталом і блізкі сусед, і далёкі родзіч былі ў аднолькавых правах. Стол быў памінальны. Усё за ім перамяшалася: пах тытуню з пахам воску і валяр’янкі, пах гарэлкі з пахам свежай салаты, чыясьці сляза з суседскім вясёлым прыпамінам. І так многа адразу ўмясцілася паміж блізкім суседам і далёкім родзічам, аж добрых паўвёскі людскіх лёсаў і жыццяў.

* * *

Кіем ні ад бяды, ні ад старасці не адаб’ешся, а вось хворай назе можна дапамагчы. І згадаўся мне той ядлаўцовы, сукаваты, якога сам выразаў у амшары і які разам з нямоглай мамай адпраўляўся ў Рубяжэвіцкую бальніцу, а вярнуўся ўжо без яе.

— Забірайце нябожчыцу сёння, бо ў нас морга няма, — патэлефанавалі мне з бальніцы. Цёмным дажджлівым вераснёўскім вечарам мы забіралі яе з бальніцы, і тут на білцы ложка я заўважыў, як самотна глядзіць сучкамі той кіёк.

Ён і зараз сіратліва ляжыць на чарэньцы роднай печы і нагадвае мне адзінокую стрэлку ў старым забытым гадзінніку. Кіёк памятае ўсё, што яшчэ нядаўна памятала мама: халаднаваты дотык падлогі ў роднай хаце, здаровы пах травы ў двары, чужых курэй, якіх неаднойчы ганяў ён з градаў, уключальнік на сцяне, які даводзілася турбаваць аошнім часам з дапамогай яго (павышэла ці што хата?), а яшчэ агонь у стаяку, дзе ён часта ўлагоджваў занадта стральцаватае вуголле. І, напэўна ж, памятае цяпло мамінай рукі, можа, нават трымае ў памяці і мой сцізорык, які выразаў і скабліў яго. Калі памірае чалавек, кожнае рэч, якая слугавала яму пры жыцці, пераходзіць адразу ў Памяць.

## Знахар

Перад маімі вачыма, як нейкі сон, прамільгнулі ажно тры калены іхняга роду, і я ўсё не магу паверыць у адсутнасць нават самага старэйшага, якога звалі Адольфам. Сядзіба іх месцілася воддаль вёскі, пры самым лесе, але хутаранцамі іх ніхто ніколі не лічыў, і самі яны называлі сябе нашымі засцянкоўцамі. Дасюль мне цяжка верыцца, што дзядзька Адольф ведаў нейкія боскія сакрэты, шэптам, нейкімі словам-замовамі здатны быў лячыць любыя чалавечыя хваробы. Кніжка, кажуць, была ў яго такая. Нешта пачытае па ёй — і чалавеку памагае. Кнігу тую быццам прывёз ён з Амерыкі, калі ездзіў туды на заробкі. Невядома, зарабіў ён там ці не зарабіў, а жылі яны нягорш за іншых. Магчыма, і знахарства тут неяк собіла. Старэйшыя расказвалі, што вярнуўся дзядзька з Амерыкі сапраўдным амерыканцам, пры капелюшы. Але тутэйшыя зайздроснікі хутка адвучылі яго ад гэтага не нашага галаўнога ўбрання, і ўсе пра той капялюш, як і сам ён, неўзабаве забыліся. А было во як.

Завітаў неяк Адольф на вясковую вечарыну, добра выфранчаны, пры хроме ды тым самым капелюшы. Ну і чарку, вядома, добрую ўзяў перад гэтым. І пайшоў у скокі. І ў таго дзяўчыну выхапіць з-пад рук, і ў гэтага. Мясцовыя кавалеры, вядома ж, злуюцца. І прыдумалі, як правучыць задаваку. Убачылі, што на ложку, за шафай, між падушак ляжыць гэны самы амерыканскі капялюш. Ну, і не тут кажучы, выкарысталі яго заміж начнога гаршка. Рогату было на цэлую хату і на многія гады. А сам Адольф і выкінуў птушкам на гняздо той злашчасны капялюш, і рукі выцер адразу: «На ліха ты мне!»

Мог бы лёгка паўтарыць дзядзькаву памылку і я сам, бо калі быў маладзейшым, неяк прыехаў у вёску ў модным капелюшы. Таксама пафранціць надумаў. Астудзіў мяне нехта з вяскоўцаў, згадаўшы пра той самы выпадак на вечарынцы, пасля чаго я свой мадняцкі кацялок далучыў да рабочага дачнага адзення.

Стары Адольф часта згадваў, як ён кінуўся адкрываць Амерыку. Хоць і кажуць, што Калумб быў беларусам, але ж не ўсім беларусам шанцуе на Амерыку, тым больш на нейкае адкрыццё. А вось з кнігай лекавай яму пашанцавала. І ён пачаў лячыць. Рэкламу ж, без якой сёння і кроку не ступіш, яму рабілі самі хворыя. Людзі хварэлі часта, дактароў амаль не было. І лекар Адольф не паспяваў прымаць сваіх пацыентаў. Шчасце сваё, як зразумеў ён цяпер, трэба чалавеку шукаць толькі дома, тамсама, дзе жыве яго няшчасце. Хоць, калі разабрацца, якое тут шчасце, — бачыць кожны дзень хворых людзей, ды калі яшчэ і сам не надта здаровы?!

Час ішоў, а ў кожнага ён адмераны сваім аршынам. Неўзабаве старога Адольфа не стала. Пасля смерці бацькі, нейкі час счакаўшы, за боскую справу лекавання ўзяўся адзіны сын Адольфа. Запаветная кніга перайшла ў ягоныя рукі. Бывала, прачнешся пад раніцу, а нехта барабаніць у шыбу:

— Ці ні тут жыве пан знахар?..

Мы жылі таксама з краю вёскі, толькі з другога яе канца, і людзі, шукаючы крайнюю хату знахара, траплялі да нас. Калі старому лекару я яшчэ давяраў, у здольнасці маладзейшага верылася слаба. Гэтаксама, па ўзаемнасці якой, ці што, не верыў ён і ў мае паэтычныя задаткі. Бывае, выступаю па радыё, чытаю свае вершы, я і працаваў тады там, а ён толькі ходзіць ды пасміхаецца. Вершы пачуюць вяскоўцы, кажуць пра пачутае майму бацьку, а ён сваё:

— Ды гэта не твой сын. Я ведаю, ёсць другі Камейша. Той піша вершыкі…

Цяпер смяецца ўжо бацька, а сёй-той верыць і лекару. А бацьку і самому не падабаецца, што я пішу тыя вершы, але ў хаце яшчэ ёсць і некалькі маіх кніг, якімі лёгка падцерці нос няверцу. Да гэтага не даходзіць. Хоць калі сутыкаюцца два нявер'і, дрэннага ў гэтым нічога няма. Людзям тады хутчэй адкрываецца сама праўда.

Але пакінуў гэты свет і ён. На здароўе быў слабаваты. Неяк я падвозіў яго нават дамоў на сваёй машыне, калі той выпісаўся са Стаўбцоўскай бальніцы, а потым яны разам з бацькам лячыліся ў Рубяжэвічах, бачыў я, як заўзята рэзаліся ў карты на бальнічным ложку. Згадваючы яго, неяк з вяскоўцамі мы *сумна* пашкадавалі: «Не будзе цяпер каму лячыць, адышоў апошні лекар…»

І… як прагаварыліся. Боская лекавая кніга неўзабаве апынулася ў руках ягонай жонкі. Хапала і ёй сваіх пацыентаў. Ішлі, ехалі. І, мабыць, некаму дапамагала, бо ўслед за імі ішлі і ехалі новыя. Людзей лечыць часам сама надзея. Але любы чалавек, нават той, каму сам Бог даверыў нейкія свае сакрэты, не вечны. Не так даўно пайшла з жыцця і яна. Хтосьці з вяскоўцаў зазірнуў у самую далёкую хату, адчыніў дзверы і там пабачыў страшнаватае відовішча. Яна ляжала на падлозе мёртвая, у хаце было ўсё параскідана, на падлозе стаяў тэлефонны апарат і ляжала збоку знятая слухаўка. Відаць, перад смерцю жанчына спрабавала некаму дазваніцца. Калі яе хавалі, ціснуў моцны мароз. Яе сын папрасіў мяне дапамагчы з машынай. Мы ўдвух доўга муштравалі мае старыя «Жыгулі», але яны не завяліся. І я нібыта застаўся вінаватым, што не змог яму дапамагчы.

Нядаўна хадзіў у грыбы, спыніўся, пастаяў каля зачыненай на ўсе замкі хаты. Некалі добра ўходжаная, даволі немалая сядзіба, выглядала пад шатамі старога лесу даволі сіратліва. Міжволі падумалася і пра тую «боскую кнігу». Не здзіўлюся, калі яна зноў нагадае пра сябе і пачне лячыць. Узяць у рукі яе ёсць каму. Бог надзяліў гаспадароў дзвюма дочкамі і двума сынамі. Усе яны жывуць у горадзе. І, думаю, што не забыліся пра свае родныя вясковыя карані.

* * *

Суседскі вясковы кот любіць шпацыраваць па плоце. Спачатку ўзбіраецца на шуло, а потым, мякка прысядаючы, ідзе, нібы перабірае вострыя канчуры старых шчыкецін. Ступае ўзважана, як у цырку, крыху жмурачыся ад сонца. Пройдзе ўвесь плот, потым вяртаецца назад той жа самай паходкай. Вось такая ў яго цыркавая прагулянка. Ідзе і як быццам ведае, што я са свайго акна бачу яго і нават падахвочваю.

* * *

Ужо добрага паўдня бадзяюся па лесе. А ён высвечвае мяне вачыма нейкіх птушак, вавёрак, вужоў і яшчарак. Быццам баіцца, хаця б чаго не натварыў кепскага. Вунь той, што прайшоў перада мною, нават цыгарэты не затушыў, шпурнуў пад ногі, і яна цяпер дыміцца пад нейкім вільготным лістком. А той замахнуўся пустым пачкам ад цыгарэт, а яшчэ нехта нагадаў пра сябе пустой пластыкавай бутэлькай. Цікава, што пакіне наступны. А я пакідаю табе, пташка, свой хлебны акрайчык. Навошта думаць пра нешта пустое?

* * *

Згадалася недзе пачутая прытча. Сэнс яе такі. Стары манах выпраўляе малодшага і загадвае пасадзіць дрэва. Але пасадзіць не каранямі ў зямлю, а кронаю.

— Яно ж не вырасце! — здзіўляюцца і пярэчаць усе, хто гэта чуе.

— Так, дрэва не вырасце, — згаджаецца манах, — затое вырасце паслухмянства.

Тлумачэнне і надта пераканаўчае. А паспрабуй ім пакарыстацца, тады ўсе пушчы нашы будуць расці ўверх каранямі. Багата паўсюль непаслухмянства.

* * *

У застоллі, калі госці крыху захмялелі, гаспадар надумаў пацешыць іх і музыкай — хай ведаюць, што ён і яшчэ на нешта здатны. Тут жа прынёс гармонік, начапіў на плечы рамяні і забегаў пальцамі па гузіках. Але то было не гранне, а нейкае кульгавае пілíканне з вельмі смешным падвыццём у канцы акордаў. Тады гармонік папрасіў адзін з гасцей. Ды так залівіста ўрэзаў і адну, і другую мелодыю, аж сцены пасвятлелі і заіскрылася ў вачах, а нехта нават, седзячы, прытупнуў. І тады няёмка адчуў сябе гаспадар, пахмурнеў, насупіўся, забраў у госця гармонік і адразу пачаў наліваць у чаркі.

* * *

У вішняку нейкі свой, асаблівы цень, ён нібыта наспех перамешаны святлом. Можа, таму, што вачам светла падміргваюць агністыя накіпы цягучай смалы. Вясковым хлапчукам яна часта замяняе гарадскую жвачку. Яна і жуецца, як тая цягучая гума. А цяністасці пасабляюць чорныя мітуслівыя агеньчыкі спелых вішань. Прыемна, калі праз дрымотную лістоту прадзярэцца і нейкая залётнае птушанё, той жа дрозд, што крадком дзеўбане таго саладкавага агню. І птушцы, і табе прыемна.

* * *

Сёння праехаў праз увесь Мінск і адчуў, як цяжка вялікаму гораду ў сваёй размашыстасці. Бетоннымі хвалямі расцякаючыся па ўскраінах, ён яшчэ больш сціскаецца ўнутры, па цэнтры. Як тут усё нагадвае перапоўнены гарадскі аўтобус, дзе нехта крычыць табе ў самае вуха:

— Грамадзяне! Паціснемся яшчэ на адны плечы!..

* * *

Мінаў парк Горкага, і сама па сабе з памяці выскачыла вясёлая згадка. Гэта ж недзе тут прыпыніліся аднойчы тры класікі: Янка Брыль, Васіль Вітка і Іван Мележ. Усе ў палітонах аднолькавага крою, пры берэтах з пупсікамі. Прыпыніліся ды разгаманіліся. І тут шпількамі туфелек прастраляла па асфальце маладая Вера Вярба з цыгаркай у тонкіх пальцах. Параўняўшыся з класікамі, кінула вясёлае:

— Привет, мальчики!

І «мальчики» разгублена ўсміхнуліся.

* * *

Вось і пакінуў сумаваць сіратой сваю вясковую хату, шчыльна пазачыняў, заняволіў на клямкі і замкі ўсе дзверы і падаўся да машыны. А няма каму праводзіць, як некалі гэта было заведзена. Тады мама выходзіла і ішла за мной аж да самай горкі за хатай. Ды вось назаўсёды праз той самы ўзгорачак на ўзгорак іншы правёў яе самую. Даўно сумую. Нават кот, што клубком скруціўся на ганку, усё гэта добра разумее. Трэба забіраць з сабою і яго. І забраў…

* * *

Як цудоўна бывае на душы, калі чакаеш нечага прыемнага, жаданага, калі ўпэўнены, што вось-вось яго абавязкова дачакаешся. А бываюць і іншыя, больш пакутлівыя чаканні, але ўжо непрыемнага, і тут таксама ведаеш, што яно мае адбыцца. Урэшце, і першае і другое самаўраўнаважваюцца. Але на гэта, як і на ўсё, патрэбен час. А яшчэ чаканне ў часе.

* * *

Пасля зімы не пазнаў свой дачны двор. Ён быў увесь у кратавінні і нагадваў пабіты воспай твар. Во папрацаваў мой нябачны шахцёр. Рахункі ў нас з ім старыя. Але ён пакуль што няўлоўны. Ён здзекуецца і насміхаецца з мяне. Але чым гэта ўсё скончыцца? Далей пытання пакуль што справа не ідзе.

* * *

У малюнках і ў празаічных тэкстах Язэпа Драздовіча шмат касмічнага. Часта здзіўляюць самі фантазіі гэтага дужа зямнога чалавека. Відаць, космас для яго стаўся магчымасцю ўцячы ад беднасці і вандроўнага жабрацтва.

* * *

У пісьменніка павінна быць сваё, унутранае адчуванне слова. Калі яго няма, ніякія слоўнікі, ніякае чытво тут не дапаможа. Сённяшнія маладыя часта спрабуюць рэанімаваць даўно забытыя словы, аднак тыя ўсёадно застаюцца ў сваім мёртвым стане. Хоць словы не паміраюць. Ім проста не хапае першапачатковага паветра.

* * *

Я люблю кветкі, але не люблю іх дарыць. Штохвіліну на планеце памірае шмат людзей, але намнога больш памірае кветак. Кветкі паміраюць разам з мёртвымі і жывымі. І мне шкада іх гэтак жа, як людзей. Таму я рэдка рву кветкі і амаль ніколі іх не дару. Гэта ўжо маё асабістае дзівацтва.

* * *

А нядаўна я ўсё ж набыў зусім незвычайную кветку. Яна стаіць у маім пакоі, дорыць мне вецер і гэтым ратуе ад спёкі. Кветку завуць — вентылятар.

* * *

Нехта нябачны завёў у двары гуллівы матор завеі. І цяпер яна на ўсю моц круціць свае белыя жорны, перамолвае цэлыя горы халоднай мукі. Сёння я вельмі падобны да мельніка. Гэтым і пацешны для астатніх.

* * *

Згадаў і такое. Бацька зажураны стаіць падчас імшы ў халодным ад настылага каменю касцёле, дзе ацяпленне не прадугледжана. Паліто ў яго расшпілена і кашуля — наросхрыст. Асцярожна і незаўважна падышоў ксёндз і зашпіліў яму каўнер кашулі. Потым прыўсміхнуўся. І, нібы заўважышы гэта, прыжмурыліся скоклівым полымем свечкі на алтары.

* * *

Іван Курбека меў добры дар імітацыі чужых галасоў. Пэўна, у некага захоўваюцца запісы, дзе ён прамаўляе голасам Маўра, Семяжона, Калачынскага, Шырмы, выкарыстоўваючы пры гэтым вельмі трапныя гумарыстычныя сюжэты. Я чуў калісьці такія запісы ў Хведара Чэрні. Здаецца, меў іх і Алесь Масарэнка. На жаль, самі творцы не дужа прыхільна ставіліся да свайго імітатара, добрае пачынанне таленавітага чалавека не падтрымалі. А маглі б мы мець у асобе Івана Сцяпанавіча самабытнага нацыянальнага чытальніка. Шкадуючы, не дагоніш. Ужо няма між нас і самога Івана Курбекі. І ўсё ж спадзеўку, што голас ягоны яшчэ загучыць, хоць і ў старым запісе, я маю.

Іван Курбека быў гумарыстам прыроджаным. У яго вуснах любое слова набывала гумарыстычнае адценне. Ды ў музеі Якуба Коласа разам з Іванам Сцяпанавічам нёс штатную службу і другі чалавек, схільны да гумару, — паэт Алесь Камароўскі. Здатны на розыгрыш, ён таксама часта карыстаецца імітацыяй. І ягоныя нумары бываюць удалымі. Алесь можа іншы раз нават гаварыць жаночым голасам. Мяне ён часцей за ўсё «купляе» голасам Уладзіміра Дамашэвіча. На яго прыдумкі я часта адказваю так:

— Таварыш Камароўскі, здыміце маску Дамашэвіча.

Да гэтых розыгрышаў ужо прывыкла і мая жонка. Ды аднойчы спаткнулася аб такі канфуз. Патэлефанаваў неяк адзін наш вядомы паэт і папрасіў паклікаць да тэлефона мяне. А яна яму як ляпне:

— Алесь! Кінь выдурняцца!..

А Алесь тут і Богу душой не вінаваты. І без розыгрышу часам розыгрыш атрымоўваецца. Не трэба баяцца жартаваць!

* * *

Па радыё чую музычнае пажаданне: «Желаю вам снега надежд и метелиц любви!» Во даюць!.. Аж не захацелася слухаць нейкую там песню пасля гэтага.

* * *

Жывуць яшчэ на свеце жартаўнікі, якія любяць перайначваць вядомыя песні на свой жартоўны лад. Часта лад гэты бывае чыста алкагольнага характару. Прычым перайначанае вельмі хутка прыжываецца. Памятаю, вядомая песня, якая яшчэ і дасюль сядзіць у вушах гучала так:

Пусть всегда будет водка,
Калбаса и селёдка…

А далей вы ведаеце. А нядаўна пачуў на вядомы матыў во якое:

Немало я странного видел,
Шагая с поллитрой в руке…

Для мяне дык «странным» убачыўся сам герой, што крочыць па вуліцы, размахваючы пляшкай у руцэ. Хоць бы ў кішэню схаваў яе…

* * *

Заўсёды хочацца глядзець у калодзеж і бачыць, як у глыбіні, на воднай гладзі, хваліста пагойдваецца ваш твар. Гэта ж самы жывы ваш партрэт, на які не здольнае і люстэрка. Але ўзгадалася даўняе, дзіцячае, калі адзін палохае другога:

— Уцякай, а то вядром па патыліцы як стукну!..

* * *

Класік крыху памыліўся, прызнаючыся: «Узброіў свой нос акулярамі». А чаму забыты вушы, на якіх трымаюцца дужкі акуляраў? А правільней было б «вочы ўзброіў..» Даруйце, гэта не прыдзірка. Але хай ведаюць.

* * *

Ёсць два словы, якім не патрэбен перакладчык. Гэта совы «так» і «не». Іх здольныя разумець і прамаўляць нават нямыя.

* * *

Вясна… Кожны год яна прыходзіць пад ваша акно, як найпрыгажэйшая ў свеце паненка, у яркім бела-квяцістым уборы. І ўспыхваюць вочы яе то зялёным, то блакітным агнём, ад якога і старому робіцца хораша, і ён хапае кульбу, расчыняе вокны і дзверы насцеж. Сама яна не ведае, а ён добра разумее, што паненка гэта для яго ўжо занадта чужая, хоць некалі былі яны ў блізкім сваяцтве. Вясна просіць цяпла і музыкі, хмелю і бушуйства, а з яго вачэй выціскае толькі жаласную слязу. «Дай божа, перазімаваць, — жадае чалавек, — а там…» А там закружыць яго такі вір клопату, што пра ўсё сумнае і думаць не захочацца, дый не будзе калі.

Што я дадам да таго, што сказана пра яе ўжо да мяне. Хіба сваёй слязы, свайго шкадавання страчанага, хоць шчаслівая птушка над маёй галавою спявае зусім не пра тое.

* * *

Жанчына, што накіроўваецца ў вясковую краму, чуе паўсоннае мужава наўздагон:

— Пойдзеш, дык там пляшку хлеба вазьмі!

— Добра, — адказвае. — І буханку гарэлкі вазьму…

* * *

Паэты шмат пішуць пра сваё дзяцінства і юнацтва, пра шчаслівае вяртанне туды. Вяртацца то можна, але сумная гэта даволі справа. Вось і зноў, праз паўвека, запрасілі на сустрэчу былыя аднакласнікі. І я спалохаўся, ужо наперад ведаючы, што пачнуцца тыя «охі» ды «ахі», ад якіх будзе няёмка, нават балюча: «Ох, што з табой зрабіў час» (а ці толькі ён ), «Ах, як ты пастарэў» (а ці толькі я?) і г. д. А сябе ледзь ні кожны лічыць жа, напэўна, маладым. Яно і праўда, на такія сустрэчы кожны прыязджае са сваім маладым люстэркам. Але ж мы яшчэ, дзякаваць богу, не сляпыя.

Не, куды лепш кожны дзень сустракацца з тымі, хто ўжо звыкся з кожнай тваёй маршчынкай, бачыць, як з'яўляюцца новыя, як на іх вачах павялічваецца плошча тваёй лысіны. Ты для іх і яны для цябе — нязменныя. Час ідзе, тупае недзе побач з намі, а нас не чапае. Ах, як добра быць самападманутым. А ў дзяцінства хочацца. Ды на сустрэчу, відаць, не паеду. Хачу, але баюся. Хай памятаюць нас маладымі!..

* * *

Як весела праходзяць нашы творчыя сходы, калі на іх з'яўляецца нейкі дзівак. Дзівакоў не любіць начальства, і яны паступова зводзяцца. На маёй памяці было ўсяго: і міску баршчу падносілі высокаму начальніку на ганаровым пасяджэнні, і пляшку белай камусьці ставілі на трыбуну, і два класікі выводзілі «пад ручкі» маладога і здавалі ў міліцыю, а той праз хвіліну з'явіўся зноў, цэленькі і ўсмешлівы. А было і такое. Ідзе партыйны сход, абмяркоўваюць сур'ёзныя праблемы, і тут слова бярэ невядомы малады чалавек і даволі аргументавана, абапіраючыся на прыклады, пачынае бэсціць усю тутэйшую арганізацыю. Зала дружна падтрымоўвае прамоўцу авацыяй, бо гаворыць праўду. Малады чалавек выгаварыўся і падаўся за дзверы. І толькі тады спахапіўся прэзідыум: «А хто гэта быў?» Адказам было маўчанне. Не, я не агітую за дзівацтва, якое часта пераўзыходзіць і само нахабства. А ўсё ж нядрэнна, калі нехта з галёркі разварушыць прыгнечаную залу дасціпнай рэплікай.

* * *

Калі ўрачыстасць складаецца з адных толькі «ўра», яе варта так і называць — УРА-чыстасць, інакш кажучы, «чыстая алілуйшчына», што заўсёды любяць і чым цешацца закаранелыя славалюбцы.

* * *

Часам, адчыніўшы вясковую шафу, агорне сум ад усведамлення, што некалі ў ёй віселі і чакалі свайго часу касцюм і сукенка для пахавання. І дачакаліся.

А з весялейшага тое, што стаяў у ёй жоўты гліняны глячок, прыткнуты тугім папяровым коркам. І часам, калі нікога не было дома, сваімі вуснамі ты прыкладваўся да яго, па-заечы рассечанага рыльца, і адразу ўцякала ў рай яшчэ зусім маладая душа.

* * *

На вечарыне выступіла і яна, прыгажуня з Мікалаеўшчыны, дзе працуе цяпер настаўніцай, — Ніна Загарэўская. Дзяўчаты часам любяць мяняць свае імёны, і зараз яна ўжо не Ніна, а Ніяна. Памятаю яе першую кніжку, якую мы выдавалі некалі ў «Бібліятэцы «Маладосці». Была такая магчымасць. А на вечарыне выйшла з гітарай, і так прайшліся па сэрцы яе пяшчотныя словы, агучаныя і меладычным звабным голасам. І праслязіўся я, стары яе рэдактар. І не толькі я адзін. Поспехаў і жыццёвага шанцавання табе, Ніна-Ніяна!...

## Закалец

Я часта чуў гэтае слова ў сваім пасляваенным дзяцінстве. Сённяшнім маладым хацеў бы патлумачыць, што яно такое — закалец. Гэта сыры, недапечаны слой хлеба знізу. Закальцу, як агню, баяліся гаспадыні, гэтым словам іх часам ганьбавалі строгія гаспадары. Запомнілася і даўняя прымаўка: «Закалец на палец, а калі ўдава, дык і — на два». Які тут сэнс? Удаве ўсё даруецца, яе няма каму ўшчуваць? Не, здагадваўся я, будучы яшчэ малым, ёсць тут нейкі інтымны падтэкст. Бо надта ж весела цытавалася тое за сталом у адсутнасці жанок, у чыста мужчынскай кампаніі.

У так званым «куплёным» хлебе заклыцу мне не даводзілася сустракаць, хоць боханы з прыпаленай верхняй скарынкай сустракаю яшчэ і сёння. Вельмі часта бывае прыпаленым і славуты «Нарачанскі» хлеб. Як ні загортваюць яго ў цэлафан, а прыгарка тая ўсёадно вытыркаецца. Але, нягледзячы на гэта, хлебапёкаў я люблю і вечна ўдзячны ім. Гэта добра, што маем мы шмат розных хлебных гатункаў. А я сам з таго пакалення, хто памятае хлеб траякі — чорны, белы і ніякі.

А самым лепшым хлебапёкам у свеце лічу сваю маму. Хлеб яе ніколі не быў закалістым, ён мог не чарсцвець тыднямі. Можа, гэтаму дапамагалі далонькі кляновых лісцяў, на якіх пякліся боханы? Ведаю, што многія гаспадыні націралі свае дзежкі цыбуляю, але хлеб усёроўна меў закалец. Многае залежала і ад самой печы, ад таго, як ты яе падрыхтуеш да печыва і сам яе под, куды спаўзаюць з драўлянай лапаты боханы.

Слова «закалец» згадаў я яшчэ вось чаму. Калі некалі ні з таго ні з сяго захапіўся пісаннем вершаў і пачаў аддаваць ім увесь свой час, бацьку тое не спадабалася. Аднойчы ён не выцерпеў: — Ну пачытай сваю пісаніну, паглядзім, колькі ў тваіх «сцішках» закальцу…

Я тады пакрыўдзіўся і не пачытаў. А можа, і дарэмна. Пазнейшыя крытыкі не надта звярталі ўвагу на «закалец» у маіх вершах. У каго яго не было?!.

А што тычыцца хлебапёкаў, дык ад іх я даўно чакаю хлеба на кляновых

ліцях. Гатовы сам назбіраць таго лісця. А можа б, мы і здзівілі свет гэтай навіной, пазычанай у самой даўнасці.

* * *

Неяк акадэмічна на гэты раз выглядалі старыя наднёманскія дубы. Рэдка цокалі ў траву жалуды, нават не было авацый лісця, калі зямлячкі мае вытанцоўвалі сучасную польку з нязвычным напевам пра «штаны малыя і спадніцу вузкую». Гэта, можа, і добра, што мы хутка вырастаем са сваіх штаноў і спадніц, але нікуды не варта, калі дубы вырастаюць са сваёй кары. Бачыў там на беразе іх ствалы, падлечаныя цэментам. Нешта не тое дзеецца з нашымі волатамі.

* * *

Працаваць трэба, не думаючы пра ўзнагароды, а заслужыўшы іх, не забываць і працу. Добра вядомая ўсім ісціна. Але пра ўзнагароды мы думаем, і, атрымаўшы іх, часта працуем абы-як.

* * *

Шаноўнапаважанаму, з якім, калі ён быў маладзейшы, нават часта сустракаліся, але ўжо даўно не бачыліся, размінаючыся на гарадской вуліцы, паслаў сваё «Дзень добры». А ён так заспяшаўся і яшчэ доўга азіраўся, гадаючы, ці гэта хто яго знаёмы ці тут павага ягонай усёвядомасці.

* * *

— Куды ж ты, Мікіціха, куды йдзеш?
Калі на імшу, дык позна ўжо.
— А туды йду, куды ногі вядуць…
— Ну дык пойдзем разам тады,
Бо і мне самому туды…

І ўжо разам кіруюцца ў адзін двор. І суседка, і сусед жывуць у адным рытме, таму і размовы ў іх амаль вершаваныя выходзяць.

* * *

Старому, каб памаладзець, многа і не трэба — дастаткова зацягнуць нітку ў вушка іголкі. Але ж паспрабуй яе зацягні!..

* * *

Вунь аж куды вяртаюць нас нашы сны! Сёння прысніў сябе ў нашай пачатковай школе, у тым самым былым панскім маёнтку пад лістоўніцай. Здаецца, я не вывучыў урок, і нас трох (не памятаю двух іншых) пакінулі «па ўроках», мучыцца над тым учарашнім дамашнім заданнем. Ужо цямнее, а да дому майго ажно чатыры кіламетры, роўна столькі, колькі і класаў у школе. Мне страшна. Знадворку нас зачынілі на замок, вокны не адчыняюцца. Я плачу і прашу: «Аляксандра Сямёнаўна! Адпусціце — я заўтра вывучу!»

Я прачынаюся і яшчэ доўга веру ў тое, што гэта ява, а не сон. А потым пачынаю згадваць, што некалі і сапраўды такое было. Ах, як добра, што яно прыснілася. І твар, і голас, і імя настаўніцы так ясна выбліснулі здалёку. Настаўнікаў было шмат у жыцці, а сніцца чамусьці яна, першая. На жаль, не ведаю пра лёс яе. Ці жывая? Разам з сям’ёй яна даўно з’ехала ў горад. А я яшчэ раней падаўся туды. Цікава, якія сны сніліся ці сняцца ёй?

* * *

Літаратурны сон бывае больш працяглым і небяспечным, чым сон літургічны. Але добра, што ў тым і гэтым можна прачнуцца.

* * *

Кажуць, уся савецкая літаратура вырасла і выйшла са сталінскага «галіфэ». Чаму ж тады постсавецкія «шорцікі» перад ёю амаль незаўважныя?

* * *

Вераб’іная бойка ў ранішнім яблыневым голлі. У адным клубку — пер’е, лісце і задзірыста-свіргатлівы рассыпісты перасвіст. І чыясьці перамога, і чыесьці ўцёкі ў суседскі агарод. А потым зноў вяртанне і ўжо мірнае чырыканне. Зусім як у дзяцей.

* * *

Трактар ніколі не зразумее, пра што думае ровар, хоць ехаць ім даводзіцца часта па адной дарозе. Надта ж вялікая розніца ў размаху іхніх колаў.

* * *

Веер хутчэй падобны не да крыла, а да вейкі, і гучанне ў іх амаль аднолькавае. Зрэшты, не трэба адмаўляць і ветру, які ён мусіць імітаваць.

* * *

З афарызмаў Язэпа Драздовіча: «Бязбожніцтва — таксама культ і з фанатыкамі свайго роду». Згодзен. Трэба яшчэ некалькі пакаленняў, каб гэты культ, усталяваны бальшавікамі, быў забыты. Бачу яшчэ і сёння, як некаторыя жагнаюцца, нібыта аглядваючыся, неяк сарамліва. Гэта — рэшткавасць ад культу атэізму.

* * *

Зноў жа Драздовіч: «Не будзь ні горкі, ні салодкі. Будзеш горкі — праклянуць, а салодкі — праглынуць». Дык якім быць? Бедны і галодны, але таленавіты мастак гэтага не ведаў. Але прыклад ад самога ёсць: трэба быць, калі не таленавітым, дык сумленным.

* * *

У пушчу даўно ступіў новы час. А як наслядзіў. Што ні пень — то і след. А пнёў тых ужо больш, чым саміх дрэў. Суцэльная — ПНЁЎманія. Так можна было б назваць хваробу ляснога вынішчэння.

Цяпер ужо і чарніцы не збіраюць. А жнуць. Папрыдумвалі людзі для зручнасці ягадныя камбайны. Жнуць сам ягаднік. Ён тут жа і высыхае. Ах, гэты новы час!..

* * *

Ганад Чарказян падзяліўся са мной вось якой гісторыяй. Будаўнічая ўстанова, у якой ён працаваў нейкім начальнікам, з яго ж ініцыятывы задумала парадаваць аднаго інваліда па зроку бясплатным рамонтам кватэры. Будаўнікі пастараліся, кватэра пасля рамонту выклікала захапленне. Бо рабілі хлопцы ўсё, як для сябе. А гэта ўжо зусім іншы рамонт, чым «не для сябе». Чакалі, што гаспадар будзе ўдзячны. А той замест падзякі прынёс скаргу. Шпалеры, бачыце, не тыя паклеілі, схалтурылі.

— Ну што, атрымаў? — пасмяяўся з меншага начальніка большы.

Памаўчалі. І тут нехта ашарашыў пытаннем:

— А як жа ён, невідушчы, тыя шпалеры разгледзеў?

— Сваякі разгледзелі, — быў адказ. Выходзіць, каб нешта добрае зрабіць чалавеку, трэба часам раіцца і з яго сваякамі.

* * *

Смешныя гісторыі здараюцца і там, дзе грэшна смяяцца, — на могілках.

Да гадавіны смерці маці мне трэба было выбіць на помніку апошнюю яе дату жыцця. Навошта некага там шукаць, падумаў я, калі ў мяне ёсць добры сябра скульптар. «Няма праблем, — сказаў мне мой Алесь, калі я заікнуўся наконт просьбы. — Вазьмі толькі паперчыну і зрабі адбітак папярэдніх лічбаў, па ім я падрыхтую трафарэтку, а потым прыедзем і выб’ем».

Я і зрабіў усё так, як ён казаў. Узяў аркушык белай паперы, прыклаў да лічбаў на помніку, а потым доўга шмараваў тую паперку жальцам алоўка. Яно ламалася аб халодны камень, і мне ўвесь час даводзілася заточваць той аловак, пакуль у руцэ не застаўся толькі яго нейкі агрызак. Лічбы, хоць і не зусім выразна, але праявіліся. Так мы некалі, малыя, пераносілі на паперу малюнкі арла і рэшкі з савецкіх манет. Недзе і сёння ў старых вучнёўскіх падручніках захаваліся тыя адбіткі з самымі рознымі лічбамі кошту манет.

На лета я з’ехаў у вёску, туды мне аднойчы і патэлефанаваў Алесь. Паведаміў, што ўсё ў яго гатова і заўтра ён збіраецца прыехаць. Мяне ж папрасіў сустрэць яго ў Рубяжэвічах.

Назаўтра, як і дамовіліся, я чакаў яго ля касцёла. А ён у памочнікі ўзяў з сабою і брата. Я слаба ўяўляў, што гэта за работа такая, якая патрабуе яшчэ нейкай падмогі. Толькі потым зразумеў, што высілкаў яна каштуе не малых.

Мужчыны прыклеілі да пліты тую трафарэтку, а потым па чарзе пачалі грукаць малаткамі. Камень быў дужа непадатлівы, зубільцы тупіліся, але лічбы пакрысе вымалёўваліся. Дзяўблі асцярожна, каб, не дай бог, не вышчарбіць саму пліту. А паміж іншым згадвалі і нейкія жыццёвыя гісторыі, большa-

сцю — смешныя. Алесь распавёў, як аднойчы, выконваючы падобную работу, яго знаёмы дабавіў камусьці ажно трыццаць не сваіх гадоў. Пасмяяліся. Я ў сваю чаргу расказаў, як з маёй былой цешчы на помніку зрабілі мужчыну — была Яўгенія Іванаўна, а сталася Яўгенам Іванавічам. Пасмяяліся зноў. А потым Алесь папрасіў мяне схадзіць да машыны, што стаяла ўнізе за магілкамі, і прынесці пляшку з вадой і яшчэ нейкую фарбу.

Калі я вярнуўся, мужчыны завяршалі сваю справу. Я абрадаваўся, што мы апераджаем час і зможам яшчэ добра пасядзець у мяне дома. І вось Алесь рвануў тую ліпучку з пліты, і адразу высвецілася срэбрам сама лічба. І тут мяне як хто дубцом сцебануў. Гляджу і не веру сваім вачам: заміж лічбы 2010 свеціцца 1010.

— Ну ты і знаёмага свайго пераплюнуў, — кажу Алесю. — Той толькі трыццаць дабавіў, а ты цэлую тысячу забраў.

Мужчыны спачатку спахмурнелі, а потым і рассмяяліся. «Во як не трэба пад руку некага высмейваць», — казалі мы сабе. Тая ж трафарэтка была гатова даўно, мы тысячу раз на яе глядзелі, параўноўвалі з адбіткам на паперы, а памылкі не бачылі.

І пачалі мае госці выштукоўваць з адзінкі двойку. Вось тут і папацелі. Але людзі майстравітыя, зрабілі ўсё як мае быць, тут і камар, як кажуць, носа не падточыць. Балазе летні дзень вялікі, засталося часу і на шашлыкі. Вечарам мужчыны ад'язджалі. На дарогу я загадзя падрыхтаваў ім лісічак — іншых грыбоў тым летам не было. Вось вам і яшчэ адзін прыклад для навукі. Вучыцца, аказваецца, можна і на смешным.

* * *

Услухоўваюся ў дачны дыялог. Добрых гадоў жанчына пытаецца ў суседкі цераз плот:

— Перац ты абабрала?..

—…

— Перац, пытаюся, ты абабрала?

—…

— Ты, што, не чуеш? Перац, кажу, абабрала?

Тая, сагнутая, паціху разгінаецца, папраўляе валасы пад хусцінаю:

— А што, не бачыш хіба?

— А я свой абабрала…

На гэтым дыялог канчаецца.

* * *

Звычкі новага часу. Сёння калі вы папросіце на гарадской вуліцы паратунку ці дапамогі, вас не кінуцца ратаваць, а здымуць на камеру мабільніка. Гэта не я першы сказаў. Я толькі пацвярджаю.

* * *

Смешнага вакол сябе бачыш штодзённа безліч. Смешна бывае, калі аб сумленнасці на поўным сур'ёзе гаворыць зацяты злодзей, калі, бяздарны сам, на чым свет лае падобных сабе бездараў. І як не ўсміхнуцца, калі парады і лякарствы супраць аблысення дае чалавек, зусім лысы сам.

## «Вырасце — раскажа»

Бацька меў сад, але не быў садоўнікам. А вось дрэвы садзіў, як сам казаў, з добрай хэнцю. Прычым садзіў без асаблівага разбору. Нагледзіць недзе страйнаватую дзічку — давай яе сюды, да нашага дварышча. Дзве ягоныя дзічкі разрасліся сёння так, што вясной, калі зацвітаюць, свет слепне ад белага накіпу суквеццяў, а летам не ведаеш, што рабіць з пладамі.

А неяк пасадзіў ліпу. Прыгледзеў недзе роўненькі чаранок, яшчэ зусім дубчык, і пасадзіў бліз калодзежа.

— Нашто яна табе? — казалі вяскоўцы.

— Вырасце — раскажа, — пасміхаўся бацька.

Яго ўжо даўно няма з намі. А яна расце, разрастаецца, кроністая, з добрым медацветам летам. І… расказвае, так шмат расказвае. Сім-тым з яе нашэптаў я дзялюся і з вамі. Астатняе — маё…

* * *

«Звезды падают вниз..» — спяваецца ў той назойлівай песні, што далятае з чыйгосьці акна. Уніз, вядома, падаюць. А куды ж ім, бедным, падаць? Не ў верх жа…

* * *

Ружаваты акраец маладзіка прыхінуўся сваім паўкругам да коміна хаты ды так і заснуў на сінім палотнішчы неба. Тут і дамалёўваць больш нічога не трэба. Малюнак для душы, нечаканы, але завершаны.

* * *

Прадаўшчыца арэхаў на Камароўскім рынку нагадвала мне пушчанскую вавёрку. Гэткая ж дробненькая, вёрткая, увішная, у куртачцы з агністым каўнерыкам. Арэхі хадзіў купляць толькі да яе. І… даволі часта.

* * *

Які роўны збег трох слоў у адным — УПОПЕРАК. Смешна, але і страшна, калі ўявіць…

* * *

І яшчэ адно страшнае ўяўленне. Клюшка ў руках хакеіста ў любы час можа перавярнуцца і стацца кульбаю. Па слоўніку Ажэгава яна і ёсць «палка з крывым верхнім канцом для апоры пры хадзе».

* * *

Хто не будаваў уласнымі рукамі хаты, у якой можна шчасліва ці нешчасліва жыць, той не можа зразумець шчасця птушкі, якая звіла сабе гняздо. Я збудаваў ажно дзве хаты і добра ведаю, што такое птушынае шчасце. А як жа адчувае сябе той, хто ўсё жыццё будуе не сабе, а некаму, а сам часта жыве без

хаты ці ў хаце чужой? Напэўна, гэта пакутліва. Нават літаратура, калі ты ёй толькі на хлеб зарабляеш і не можаш зарабіць, пакутлівая.

* * *

У маім садзе расце прыгожая, высокая і кроністая яблыня, але які ўжо год не пладаносіць. Самае жахлівае для прыроды — гэта бясплоддзе. Але не менш жахлівага бачыцца мне і ў тым, калі дрэва шчодра да зайздрасці пладаносіць, а плады яго нікому не патрэбныя. Ёсць у іх і здаровасць, і румянасць, і смак, а попыту няма. Іх не клююць нават галодныя птушкі. Яблыкі для сябе самой? Гэта — як і вершы для сябе самога.

* * *

Пятро Ліпай. Усмешлівы, кампанейскі, вясёлы гаварун з глебкаўскага роду, пра якога трэба ўжо, на вялікі жаль, гаварыць у мінулым часе. Зноў той самы трагічны выпадак. А дзесьці за тыдзень быў у нас, у «Вожыку», і я падараваў яму часопіс з караліўшчавіцкай эпіграмай Вялюгіна, якую ён мне зняў са сваёй памяці.

Некалі нам нават пашанцавала адзін толькі месяц папрацаваць у дзяржынскай раёнцы, а потым сустрэліся ў Мінску ў інтэрнаце на Свярдлова студэнтамі. Пісаў ён мала, а гаварыў многа. Быў гаварун. Пасада намесніка дырэктара Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў яму адпавядала, а можа, ён ёй адпавядаў. На ўсіх застоллях Пятро паўтараў свой любімы двухрадковік:

Не той паэт, хто піша вершы,
А той паэт, хто вып’е першы.

Радкі сталіся вядомымі. Неяк я паспрабаваў адказаць яму сваім двухрадковікам:

За двухрадковік свой Пятро
Грэў чаркаю не раз нутро.

Маё не прыжылося. Яго яшчэ жыве.

Ён выхоўваўся ў сям’і свайго дзядзькі Пятра Глебкі, ведаў шмат цікавага з жыцця класікаў і ўсё збіраўся пра гэта напісаць. Былі ў яго і свае песні, яго вершы, здаецца, амузычыў сам Ігар Лучанок.

Рана памерла яго жонка, і яны жылі ўдвух з дарослым сынам. Часта ён наведваўся ў Стоўбцы, дзе меў шмат сяброў. І сам ён быў чалавек сяброўскі, увесь, як кажуць, з дабрыні. А такіх людзей у нас сёння не так і многа.

* * *

Вясковец, з якім не бачыліся добрых паўгода, пачынае гаворку са звыклага:

— Ну што там добрага ў свеце чуваць?

— Ды тое і чуваць, што чуем з тэлевізара, — гэтак за мяне адказвала яшчэ жывая тады мама. — А што добрага чутно тут, у нас? — пытаюся ўжо я.

Гаворка адразу ж перакідваецца на сумнае, на хваробы.

— Хварэюць надта людзі, — кажа ён, бо і сам толькі з бальніцы. І ў сям’і яшчэ двое хворых. А ў бальніцы пабудзеш, дык, здаецца, што і ўвесь свет хворы.

— Дык, можа, у хату зойдзем? — намякаю я на тую самую дарожную чарку. — Не бойцеся, толькі за здароўе будзем піць.

— Не, я сваё ўжо адпіў, — кажа.

— Эх, калі б ведаць, дзе яно, тое «сваё», — смяюся я. — А так, можа, даўно ў чужое залез.

І ён ціха смяецца, падымаецца з лаўкі і ідзе за мною ў хату, бо хоча, бачу, і ў сваім нечым паспавядацца, як быццам я тут ксёндз нейкі. Дый пра маё, асабістае, хоча распытацца. А ў хаце мне ўвесь час трэба выконваць ролю вялікага горада, а яму — вёскі. І глядзіць ён увесь час на мяне, як на экран таго ж тэлевізара, думаючы: «Верыць табе ці не?» Мне ж хутчэй хочацца перавесці нашу гаворку на тое, далёкае, што ён яшчэ сваёй памяццю не згубіў, а я яго проста не ведаў. Але яму тое нецікава. Ён тысячу ўжо разоў пра гэта расказваў. Часта за сталом паўтараецца адно і тое ж, і гэта пры невялікай чарцы адразу заўважаецца. «Языком малоць, не рабіць», — будзе смяяцца ён потым, развітваючыся. І я не захачу яму пярэчыць.

* * *

Не толькі клін выбіваюць клінам, можна і цвік выбіць цвіком. І гэта яшчэ пры жыцці даказаў наш славуты Уладзімір Караткевіч.

Вядомыя людзі любяць прыгоды і нават калі іх не шукаюць, усё роўна на іх натыкаюцца. Прыгоды могуць падсцерагаць чалавека і дома, у яго ўласнай кватэры. Так адбылося і на гэты раз. Але дамо слова другому класіку — Янку Брылю:

«…Аднойчы за сцяной у мяне пачуўся спачатку нібы асцярожны, але ўсё больш ды больш настойлівы стук малатка. У тым месцы, дзе гэты стук цэнтраваўся, на сцяне маёй пачаў прыкметна ўздрыгваць, напухаць, трэскацца пафарбаваны тынк. Кавалачак яго вось-вось мерыўся адваліцца. А потым, ад стуку таго, не вельмі ахвотна, а ўсё ж палез, пачаў вытыркацца даволі вялікі цвік.

Першае, што я зрабіў, гэта гукнуў туды: «Эй, вы!» І на дадатак грукнуў у сцяну кулаком. Тады пайшоў да суседа. Маё «эй, вы» сказалася як быццам у прадчуванні, што гаспадар там не адзін. І сапраўды — удвух, з Мальдзісам. Сабраліся прыладзіць на сцяне драўлянага, у блякла-светлых фарбах старадаўняга касцельнага або каплічнага анёла. Для гэтага спачатку трэба было ўбіць цвік, прытым адпаведна надзейны».

Пра гэты фантастычны выпадак чуў я даўно. Думаў, выдумалі хлопцы. Дык не, класікам засведчана. Штосьці падобнае, падумаў я, напэўна, было і з клінам.

Ну, трэба ж так — дзюбка ў дзюбку — каб цвік выпаўз капялюшыкам са сцяны. Такое і фокуснік не зможа. А вось паэты здатныя на ўсё. Сапраўдны паэт абавязкова павінен выбіць свой цвік, ды каб дзюбка ў дзюбку. Хай сабе ён будзе не ў сцяне, а ў тым жа чаравіку.

* * *

Летні дзень пагоды не абяцае. Ужо з самага рання на чыстым небе пачынаюць жабраваць кудзелістыя хмаркі.Так і глядзі, неўзабаве назбіраюць дажджу.

— А як жа мне сена сушыць? — ці ў сябе, ці ў неба пытае спахмурнелы вясковец.

— Што, ты яго першы раз сушыш? — пытаннем на пытанне адказвае кабета і дадае: — Сушылі ж неяк тыя гады і зараз высушым.

А гарадскі сынок іх ніякавата глядзіць то на неба, то на лес, думаючы: «Хай бы і ўлупіў, ды каб зацяжны, каб і ў лес выскачыць, грыб нейкі падняць…» За грэшныя думкі нікога не караюць, бо ты пра іх і на споведзі не скажаш.

## З вепручком на Камароўку

Калі быў маладым, дык шмат чаго саромеўся ў гэтым жыцці. Асаблівая сарамлівасць была ў мяне да гандлярства, дзе мой бацька пачуваў сябе і надта практычным чалавекам. Сённяшняя моладзь вельмі проста прымае ўсе гандлярскія хітрыкі, лёгка купляе і прадае, бо сам час скіраваў яе ў рынак.

Час не мяняе людзей, але ў паводзінах іх заўсёды нешта зыначвае, дадае ці выкрэслівае. Сёння мне, бывае, сорамна робіцца за той колішні сорам. Даруйце за таўталогію. А чаго, калі запытацца ў сябе, было саромецца тады? А тады бацька закалоў двух важкаватых вепручкоў. Выкармілі двое старах на пушчанскіх кармах пры добрым старанні.

— А нашто нам столькі мяса? — сказалі яны, калі запоўнілі кубелец ды з дзялянкай прайшліся па суседзях і блізкіх.

— Трэба везці на Камароўку. Нездарма сніў яе праз дзве ночы, — разважаў бацька.

— Думаў, дык і сніў, — казала маці.

Праз аграномку Жэню, якая мела ў хаце тэлефон, паклікалі з Мінска мяне. А назаўтра досвіткам мы ўжо сядзелі ў маіх «Жыгулях» і імчаліся да сталіцы. Раніцой машын малавата, і мы даехалі хутка. Стары даўно не быў у Мінску і па дарозе захапляўся яго размахам.

— Ты бачыш, як адбудаваўся. Некалі ж во тут вёсачкі ўсё былі, а цяпер такія даміны стаяць.

Я расказваў яму, нібыта хваліўся, пра гарадскія крутабуды, а ён усё слухаў ды ахкаў. І вось Камароўка. І адразу пачаліся чэргі, пра якія я дагэтуль і не падазраваў. Спачатку выстаялі ў чарзе, каб заехаць у двор рынку, адразу ж занялі новую ў лабараторыю, дзе клеймяць тую свежаніну. З крэктам зацягнулі свае ванзэлкі — вепручок то ўважысты — і прымасціліся ля парога адчыненых дзвярэй. Другая чарга была маруднейшай, чым першая. Мы доўга пасоўваліся да сталоў, на якіх раскладвалі свежапрыстылыя тушы, свінячыя галовы ўверх лычамі, усе ўнутраныя смакоты з пячонкай і сэрцам. Да стала падбягалі ўвішныя жанчыны ў белых халатах, спрытна махаючы нажамі, выразалі самае прываблівае з тых тушаў і шпурлялі ў бляшаны таз. Усё гэта адпраўлялася на аналізы і ўжо назад не вярталася. Для навічкоў на гэта ўсё глядзець было нязвычна, сёй-той здзіўляўся ў голас:

— Куды яны ўсё гэта дзяюць? За дзень так можна і на вагу кабана наўразаць…

Другі, ужо, відаць, бывалы, тлумачыў:

— Цягнуць потым сумкі дамоў, а то і прададуць з-пад прылаўка. У іх на гэта ёсць свае людзі. А калі і вам даручаць, хіба не прадасі?..

— Цішэй вы, — астудзіў нехта. — А то яшчэ пачуюць і не заклеймяць. Скажуць, што крупчак які. У мяне было…

Мужчыны адразу прыціхлі, а я разглядаў вялізныя плакаты, якімі былі запоўнены ўсе сцены лабараторыі, — з іх страшнавата глядзелі на мяне, пад-

крэслена чырвоныя, усе тыя хваробы, якія падсцерагаюць нашу скаціну. Апетыту такія малюнкі, вядома ж, чалавеку не прыбаўляюць.

Калі дастаяліся свайго ў другой чарзе, мы развязалі ванзэлкі, добрым вузлом завязаныя крэпкія вясковыя абрусы, выклалі на стол увесь цяжар, і я пабег шукаць цялежку, каб потым завезці ўсё ў павільён.

Вепручок наш не падвёў нас, быў здаровым і неўзабаве мы стаялі яшчэ ў адной чарзе — па фартухі і гіркі для вагаў. Набліжаўся поўдзень, калі бацька стаў нарэшце за прылавак. Пры белым фартуху, белых нарукаўніках і каптуры, ён нагадваў мне знаёмага повара з даўняга малюнка. У свае маладзейшыя гады бацька быў нярэдкім госцем на гэтым старым рынку, прывозіў сюды не толькі свежаніну, а і пушчанскія далікатэсныя грыбы, і цяпер за прылаўкам пачуваў сябе таксама даволі звыкла. Я, хоць была аплачана і на мяне тая гандлярская форма, тупаў па другі бок прылаўка.

— Ідзі і ты сюды, чаго там топчашся? — не выцерпеў бацька. — Нашто мы два фартухі тады бралі?

— Я лепш буду цябе з гэтага боку апякаць. А то многа знаёмых маіх тут ходзіць. Сорамна будзе спаткацца…

— А скварку табе нашу есці не сорамна? — злаваў бацька.

І праўда, толькі мы так перакінуліся словамі, як бачу: тупае знаёмы класік з нейкай вялізнай скуранай сумкай у руцэ. Я падаўся ў супрацьлеглы бок, дзе было лёгка згубіцца ў густаватым гурце людзей і назіраў за ўсім здалёку.

Класік прайшоўся па адным, другім радзе і, не дайшоўшы да бацькавага месца, пачаў запаўняць сваю сумку. Тым часам пераваліла за полудзень, і народу ў павільёне пабольшала.

На рынку часцей за ўсё бывае пакрыўджаным не той, хто прадае, а той, хто купляе. Але ніводзін пакупнік не пашкадуе прадаўца, у якога тавар не хочуць купляць. «Як жа там бацькавы справы?» — не цярпелася даведацца, і я пакінуў сваё тулянне, падаўся ў знаёмы рад. Па твары бацькі зразумеў, што пакупнікі яго не крыўдзяць. Дзейнічае і яго пушчанская рэклама: бацька дзе словам, дзе жэстам падыграе.

— Бяры з пушчы тавар — будзе добры навар! — чуваць камусьці наўздагон яго голас. А сам сабе дадае: «Не ганячы, не купіш, не хвалячы, не прадасі». Я ўрэшце асмеліўся зайсці за прылавак. Дваім і сапраўды зручней і весялей. Ён важыць і бярэ грошы, а я рэшту адлічваю. Гіркі, большыя і меншыя, спрытна скачуць у руках бацькі. Дзіўлюся яго дакладнасці адкройваць на вока той кавалак, які папросіць пакупнік. Амаль ніколі не прамахнецца. Усё, як у аптэцы. Адразу, без ніякага калькулятара, ён да капейкі называе і цану. Я толькі дзіўлюся гэткай здольнасці неадукаванага чалавека.

Паназіраў я і пазайздросціў таму спрыту, з якой працуюць рубшчыкі. Ах, які хлёсткі і дакладны ўзмах сякеры на калодцы! Асабліва, калі тушу падносіць да калодкі навічок.

— Ты хоць уважліва паглядзі, што ён будзе рабіць, — кажа між іншым бацька.

Як у гадзіннікавым механізме, роўна і рытмічна чахкае вастрыё сякеры, лёгка ляцяць у паднос кавалкі мяса, а некалькі, пакуль прадавец зявае, трапляе незаўважна ўніз, у іншы паднос. На такое майстэрства, смяюся я, не грэх і спісаць тыя некалькі мясных кавалкаў.

— А пакрысе за дзень і збіраецца, — кажа бацька. Мяснікі-рубшчыкі амаль усе знаёмыя яму. Яны тут нязменныя, памятаюць бацьку яшчэ з пасляваеннага часу.

Шмат чаго змянілася, пакуль бацька не наведваўся на Камароўку. Змяніўся, залез пад цяжкую бетонную цюбецейку сам рынак. Вырасла шмат гароднінных радоў на вуліцы.

Цікавым было знаёмства ў бацькі з першым платным туалетам.

— Плаціце! — затрымала яго ля ўваходу маладая падмалёваная кабета.

— За што? — здзівіўся бацька.

— Ну. За…гэта самае…

— Я заплачу за тое, што паеў, а за тое, што с… буду, плаціць не прывык. — Адштурхнуў жанчыну плячом і падаўся да кабінкі.

— Я міліцыю паклічу! — прыгразіла кабета.

— А хоць усё войска беларускай акругі! — азваўся з кабінкі.

Жанчына супакоілася, нават усміхнулася: «Што ты з ім зробіш?»

Рыначны калаўрот так закружыў галаву, што я ўжо зусім забыўся пра класіка, нават добра ўжыўся ў ролю гандляра, нешта важыў, бегаў мяняць грошы. А потым я пайшоў пацікавіцца, якія фрукты прадаюцца на дварэ, час гэта быў зімовы. І тут твар у твар сустрэўся з іншым класікам. Выкручвацца не было сэнсу, расказаў яму ўсю праўду.

— Ідзём хутчэй да бацькі! — загарэўся класік, хачу яго бачыць.

Некалі ён гасцяваў у нашай хаце, запомніў цёплую пушчанскую гасціннасць.

Бацька не адразу ўспомніў колішняга госця, але ў размове, якая адразу пайшла на вясёлай ноце, шмат чаго адразу выплыла з агульных успамінаў.

Класік быў шчодры, не шкадаваў грошай, напіцаваў цэлую сумку свежанінай і, паглядзеўшы на гадзіннік, жартам сказаў:

— Вепручок не зразумее нас, калі мы не абмыем яго чаркай.

Ён згадзіўся пакурыць, пачакаць пакуль мы не ўправімся са сваім таварам. У павільёне ўжо запалілі святло, канчаўся працоўны дзень. Было пуста і ў нашых ванзэлках. Сабраўшы ў торбу нейкія абрэзкі, я панёс здаваць наша гандлярскае начынне.

А потым мы сядзелі ў блінай на рагу вуліцы, непадалёку ад рынку. Класіку было прыемна пагаманіць з простым пушчанцам, адчувалася, што ён стомлены адзінотай, даўно не выходзіў у людзі, а тут раптоўна трапіліся такія ўважлівыя слухачы.

Мы заседзеліся да самага закрыцця тае бліннай, а потым праводзілі да хаты класіка, а ён доўга ўгаворваў зайсці да яго на кватэру. Ды так і не ўгаварыў. Пазнавата было. А ўспамін застаўся прыемны. І ўсё ў ім, нібы тая свежаніна, свежае.

* * *

Павітаўшыся са мной, нават мацнавата паціснуўшы руку, ён пахваліў мой новы касцюм. А потым дагнаў ля другіх ці трэціх дзвярэй і сам зашпіліў гузік на пустой дзірачцы маёй кашулі. І гэта мяне кранула, бо нагадала нейкі прыемны жэст вядомага крытыка. Як быццам ён падкрэсліў мне маё «не тое» слова. Крытык ён і сапраўды паважаны.

* * *

Дзіўная рэч, у дарозе, дзе часта не хапае вачэй на ўсё ўражлівае, чалавек чамусьці аддае перавагу думкам, нават не заўсёды вясёлым. Колы ўмеюць разварушыць нашы думкі. Але што рабіць з вачыма, якія гэтым часам бачаць

больш цікавага, чым прапануюць думкі? О, як гэта сумна, калі глядзіш на адно, а думаеш пра другое.

* * *

Вечаровыя пасляваенныя застоллі ў нашай засцянковай хаце часта працягваліся да самага рання. Мясцовае начальства ўсё яшчэ расслаблялася пасля нядаўняй «партызанкі», пачувала сябе даволі гераічна. Не браў сон і нас, малечу. Адгароджаныя ад таго застолля нейкай старой шафай, мы толькі прытвараліся, што спім. Самі ж, вытыркнуўшы маладыя вушы з-пад цёплай коўдры, уважліва ўслухоўваліся ў тую, самую непаўторную застольную драматургію.

Начальства любіла размах, калі не крамлёўскі, дык надта-пушчанскі. А чаму было «ні пець ды не гудзець», калі лясныя браты-бандыты пастрэльвалі ўжо недзе далёка, усе засцянковыя гумны звезлі, каб скласці адно калгаснае вялікае, коні ўсе таксама сталіся калгаснымі, а самых лепшых забрала сабе начальства. І сёння ў вушах маіх сядзіць застольная песня таго часу, якую часам падцягвалі і мы, малыя:

За Леніна, за Сталіна,
За Толіка, за Явіда,
За Созу, і за Гірачку—
Ўпярод!..

Усе яны, акрамя хіба бацькі майго ды Гіркі, ці — Гірачкі, былі высокай тутэйшай уладаю, згуртаваныя партызанскай таварыскасцю. Кожны — пры кані ды кабуры з пістоляю. «А за песню гэту маглі і па с…ы даць, каб хто данёс яшчэ вышэй», — казалі потым вяскоўцы. Ніхто не данёс. Свайго суровага начальства баяліся нават даносчыкі.

Усё тое застолле добра падагравала наша дубовая бочачка, якая хавалася ў склепе. Яна пусцела на вачах, але і хутка потым напаўнялася.

* * *

«Наша поле камяніста…» — проста ў камень біла старая прыпеўка. Кожнай вясной мае вяскоўцы выходзілі збіраць тыя каменні, яны нібыта раслі на нашых нівах. Даўняй марай і земляка нашага Якуба Коласа было сабраць тыя каменні, каб лягчэй дыхалася роднай зямельцы. Яшчэ нядаўна пушчанскія загуменні ды прысады абрасталі крушнямі. А сёння іх і следу няма. Хто ж так дапамог нашаму полю?

Нядаўна дабіраўся з Мінска ў свае Навікі. Да Стоўбцаў даехаў электрычкай, потым гадзіны тры чакаў аўтобуса да Гуменаўшчыны. Астатнія пяць кіламетраў трэба тупаць сваімі нагамі. Тут адразу згадаў маладосць. Тады для маладых ног тыя пяць кіламетраў здаваліся толькі лёгкай прабежкай. Але ж мінула паўстагоддзя, а мае тыя кіламетры як былі, так і засталіся пешымі. Дык няўжо ж нічога так і не змянілася ў гэтым свеце? Не, чаму ж, змянілася. Ногі мае сталіся старымі, а дарога хоць і апранулася ў лёгкі асфальт, а мераць яе мне трэба пешшу. Ну хто дзеля мяне аднаго будзе пасылаць са Стоўбцаў цэлы сучасны аўтобус?! Якая каму справа, што ты ў наш век не маеш свайго аўтамабіля?!

І вось тэпаю я, абцяжараны дзвюма сумкамі, у свае Навікі, паведамляю праз мабільнік пра тое жонцы, і тут за спінай скрыгочуць тармазы. Азіраюся: мяне запрашае адчыненай дверыной вялізны самазвал.

— Казік, сядай хутчэй! — крычаць з машыны. Я ўціскваюся ў кабіну, дзе ўжо і без мяне цесна ад трох вясёлых малайцоў. Разгаманіліся. Яны пра мяне ведаюць усё, а я пра іх — анічагусенькі. Але прытвараюся, каб не пакрыўдзіць, што ведаю.

— Ты ж яшчэ пішаш там нешта? — пытаецца той, што за рулём.

— Пішу, — кажу абыякава.

— А мы во, каменне дабываем, — апярэдзіў ён маё пытанне.

— Што, са Стоўбцаў сюды па каменне едзеце? — здзівіўся я.

— А як жа… Будуемся. Патрэбны камені на падмуроўку.

І тут я даведваюся, што камення ў нашым краі сёння проста не хапае. Людзі шмат будуюцца, дамы ставяць з размахам. Не дамы — а дамішчы. А дзе на іх камення набрацца? Крушняў, якія я абяцаў паказаць сваім спадарожнікам, даўно і ў паміне няма. Вось так. А я яшчэ плачуся, што нічога не змянілася ў гэтым свеце. Змянілася, але для кожнага — па-свойму. Відаць, і сапраўды, прыйшоў час збіраць камяні…

* * *

Яшчэ ўчора мой знаёмы згаджаўся з тым, што тэатр пачынаецца з вешака. А сёння, калі пасля спектакля прыйшоў і ўбачыў, што на вешаку ў гардэробе няма яго андатравай шапкі, тэатр для яго закончыўся на тым вешаку.

* * *

Не спытаеш, ці добра выспалася за зіму пушчанская зямля. На гэты раз белая яе коўдра была цёплая, відаць жа, і ўтульная. І сам нібыта праспаў усю зіму ў цёплай гарадской кватэры і цяпер толькі прачнуўся. Стаю, схіліўшыся ля гэтага знаёмага ствала, дзе ў слоік ціха капаюць сіняватыя бярозавыя слёзкі. Сам-насам з пушчай, сам-насам з часам, хораша снуюцца думкі, светла бачыцца новы дзень, блізкія і далёкія абрысы пушчы. Лёгкае воблачка пары марудна спаўзае на ядлаўцовыя кусты, растае ля ног, сеецца па сцяжыне, якая яшчэ помніць твае леташнія сляды. Хораша вяртацца дамоў старой, даўно знаёмай, яшчэ добра неабсохлай сцяжынай, адчуваючы, што з табой, плячо да пляча, ступае новая вясна, яшчэ добра не апяяная птушкамі, не аблашчаная сонцам і маладой зелянінаю. Яшчэ малавата цяпла ў старых і новых гнёздах, але ўжо многа спадзеўкі на добры рост, красу, цвіценне і каласаванне.

Мінск—Малыя Навікі,
2011 г.



Юрка ГОЛУБ

# З КНІГІ «АБЕРУЧ»

## НАВАЛЬНІЧНАЕ

Калі з прырэчнай паласы
Збягала рэха карнавала,
Маланка поначы лясы
Шчарбатай дзідай карчавала.

Шырэлі зрэнкі ў катуха,
А прастарэк заплюшчваў вочы.
Чарот раку раскалыхаў,
Да выгінастае ахвочы.

І дождж, бы цеста, што ў дзяжы,
Мясіў штосілы гразь на сцежцы.
А ў грому трэснулі гужы
Нячыстай сіле на пацешку.

Ізноў світала — паўставаў
Спачатку певень. Потым шыбы.
Туман у белых пасталах
Пры лазняках марудна дыбаў.

Дзе пад завязку плот зграз,
Падняў угору палец месціч:
Па форме ночка ў самы раз!
І непаўторная па змесце!

## ПРА ГЕРОЯ ПАЭМЫ

***…і ў вусны моладасць сваю***
***пацалаваў на развітанне.***
В. Таўлай, «Сустрэча».

Было. Закляты час нявечыў
Жывога дух і сон магіл.
Ты адчыняў у слова вечка,
Як адчыняюць небасхіл.

Глухою сцежкай у падполлі
З лістоўкай шэрхлай з рукава,
Араты зор на мёрзлым полі,
Ты вершы ў памяць друкаваў.

Натуру меў у выраб штучны,
Як ліст разны, салоўкі свіст.
А сам не волат, ды рашуча
Сцягі разгортваў нарасхрыст.

Калі ўзыход барвовым пэндзлем
З размаху вежы фарбаваў,
Дык крат наглядчык гыркаў:
«Прэндзэй!»
І скроб мярзліну на брывах.

---

***Голуб Юрый Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). Працаваў на Гродзенскім абласным тэлерадыёаб'яднанні, у газеце «Гродзенская праўда».*

*Аўтар паэтычных кніг «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (2000).*

Каран не ў скруце — век пры турку.
А рогат дурня — за дары.
Трывала турмам на падмурках,
Ды ўсё ж хістаюцца муры!

Аднойчы лёсы зводзіць клінам,
Ды выбіваюць клінам клін.
Калі ў камін вуголле кінеш,
Дык загудзе, як звон, камін.

Наступнік — сказу завадатар,
Паэме сцежку наглядаў:
А там сустрэў яго суаўтар,
Што на Лукішках галадаў...

## ТРЫПЦІХ З РЫГОРАМ СЕМАШКЕВІЧАМ

### 1

Пазёмка, сабе не верачы,
Праспект пацягнула цугам.
Там Гамлетам Семашкевіча
Анатоль ахрысціў Вялюгін.

І з той пары адмыслова
Пытаў Анатоль Сцяпанаў:
«А дзе тваё, Гамлет, слова
І сябра твайго, васпане?»

Схіляй галаву, як грэшнік:
Не будзеш запанібрата!
Бо рыфмам патрэбны вершнік,
А вершам — нябось, Сакраты?

Даруйце, непаслушэнства
Не мае прыкмет дзікунства.
А пёрку ўжо як пашэнціць:
Напоўніцу, або — пуста.

Глядзеў дальнабачны Гамлет
Праз росныя акуляры.
Тым часам анёлаў гамы
Не бавіліся ў кулуарах.

Аднойчы ад інтэрната
Ці прысвяткам ад кавярні
Вяла нас сталіцы рата,
А можа, й намер ахвярны.

Знячэўку спыніўся Гамлет,
Забойца пустых трактатаў:
«Намацваюць дол нагамі,
Няма нам гатовых трактаў.

Праз бездараж і лагчыны
Краса прызначае трасу.
Чаму? Адпаведным чынам,
Няздару дазнацца — трасцу!»

Узгоднена з цыферблатам,
На сцэну ступала драма,
Махала ваўсю булатам,
А з тылу апратка драна.

Нязвыкла стаіўся пошум.
Палае лісцём дуброва.
Сканала цвярозай пошасць?
Ды не! Адшукала бровар!

### 2

Каса з канюшынных долаў,
З біклагай спатнелай чэрвень:
Там слова пускала долю
У сонечнае качэўе.

Надарыцца скарб — выгода.
А з выгадай знацца — марна.
Раздольна радок разгойдваць
На стропах травы і хмары.

І сябра майго юнацтва,
Магчыма, і сам (часткова)
Не ўмелі з гарланнем знацца,
Як пеўнікі на частаколе.

### 3

Гартаецца неба згадак
Над пецярбургскім шпілем.
Хадзіў тут прамы нашчадак
Слядоў Эпімаха-Шыпілы.

Згібець жа сляды не раяць:
Над імі ад сонца кроплі,
Як пальчыкі над раялем,
Як пацеркі на раскопе.

Суполка «Загляне сонца
І ў наша ваконца» — побач.
Туды адчыніць заслонку
Хацелася з першай спробы.

Быў здатным на споведзь дзённік,
І чайкі над ім літалі.
Адхуканыя, бо сцюдзёна,
Лісты з Нявы даляталі:

«Дабранач!
На ціхую воду
Ляглі вечаровыя цені.
Дабранач!
З якое нагоды
Мой голас амаль што асенні?»

P. S.
Не стане расстанне здрадай.
Абдыме шану папера…
Развітваюся з баладай.
Вяртанне — заўжды наперад…

## НАЗІРАННЕ ЗА ВОСЕННЮ

Восень вывела дах
З жоўталістае гонты,
А на тую замах
Робяць слоты, як готы.

Мкнуўся дуб з жалуда,
А вадзіца — з крыніцы.
Неба дуб зажадаў,
А вадзіца — спраміцца.

Узграблася на брод,
Рэчка ў даль пазірае,
Дзе туманы чарот
Разадраў пазурамі.

Дубу — край як спяшаць:
Дуба хмара не спыніць.
Першабытны пяршак
Дзьме агнём на асіну.

І затрэсла — не жыць —
Ліхаманка лістоту.
Жыць абы набяжыць —
Толькі слабкім ахвота.

Дзе зашэрхлы надзел,
Бусел дзюбу адверне,
Страж чырвоных нядзель,
Строю белага вернік.

Ён жа, высі сваяк,
Дражніць талерам скнару:
Ці не хочаш, дзівак,
Драла даць на Канары?

## З МУЖЫЦКІМ УХІЛАМ

***Пакуль гром не грымне,***
***мужык не пеаржагнаецца.***
Прымаўка

Калі ў алмазах неба блешча
І па калена мора глыб,
Дык жыта шэптам польна-вешчым
Не ўсе расчуліцца змаглі б.

Калі ўздымае змроку вечка
І сонца радугу ліе,
Нашто бязглузды гурт авечы —
І той захоплена бляе.

Калі ўварваў з кубельца шчасця,
Дык не лічы, што Боскі смык,
Бо як шырока ні качайся,
А вузкім здарыцца сяннік.

Не перастаў радок жахацца
І шэпча ўпотайкі пяру:
Пара-пара перажагнацца —
Няхай адпусціцца Пярун.

## АПОЎДНІ

Дарога руйнуе слупы
З трухлявае эры.
І дрэўца адчайна ліпіць
На ўскрайку кар’ера.

Займае нягегламу дых.
Спатнела спякота.
Прамень над мятліцаю — жых
Абапал балота.

Міражна трымціць далягляд.
Самлела пакоша.
Вунь бусел ахвяру дагнаў —
Расплата па коштах.

Падзею схапіў аб'ектыў:
Падоўжыў імгненне.
Няўжо тут таптаўся Батый
З арапнікам гнеўным?

Знянацку на згадку набрыў
Пра страчаны дождждык,
Дзе падалі кроплі на брыль —
Хацелася доўжыць.

А смага дастала да дна.
Расшпілены… босы…
Насупраць вясёлка відна —
Брама ў нябёсы.

* * *

Слізне маланка раптам
Расколінай на камень.
Не ведаюць пра страты
Дзяўчаты з юнакамі.

І з імі неба побач,
І вечаровы подых,
Відаць, з нямарнай спробай:
Яднаць дзяцей прыроды.

Абдасць расіца жарам:
Адна з тутэйшых звычак.
Рыпіць пясок стажарны…
Нябіты чаравічак.

Сабе стварыла коптур
Руладамі гаёўка.
Мастак рабіць падкопы
Пад сэрцаў гай салоўка.

Атуліць рунь завея.
Не змеркне згадка ў часе.
Бо што яе заменіць?
Наўрад нуда чыясьці…



**Янка СІПАКОЎ**

# МАЯ БІБЛІЯТЭКА

*Кніга пра кнігі*[1]
*Паліца другая. Аўтографы*

## 12

Даражу я сваімі аўтографамі і з вялікай рускай літаратуры. Я перакананы, што яна дала сусветнаму прыгожаму пісьменству чатырох несумненных геніяў: Пушкіна і Лермантава — у паэзіі, і Талстога і Шолахава — у прозе.

Маю першую паэтычную кніжку «День», якая ў цудоўных рускіх перакладах выйшла ў 1974 годзе ў Ленінградскім аддзяленні «Советского писателя». Падаравалі мне яе вядомыя паэты: Бранiслаў Кежун, Уладзімір Тарапыгін, Леанід Хаўстаў, Сяргей Кашырын, Сямён Батвіннік, Павел Жур, Глеб Пагіраў, Анатоль Чапураў. Усё ленінградцы! Слынныя тады паэты. Да іх далучыліся толькі масквіч Аляксандр Нікалаеў ды Леанід Рашэтнікаў з Новасібірска.

Таму, зразумела, кнігі гэтых паэтаў з аўтографамі найперш упрыгожылі маю бібліятэку.

Шмат падарункаў у мяне ад Бранiслава Кежуна, які многае зрабіў і многае пераклаў, каб кніга «День» з’явілася па-руску. На томіку паэзіі Бранiслаў Кежун напісаў: «Янке Сипакову — чудесному поэту и другу. 11.IX.76 г.».

Бранiслаў Кежун — не толькі тонкі і назіральны лірык, а яшчэ і выдатны гумарыст, жартаўнік. Вось яго пародыя на С. Кірсанава «Мояси и твояси»:

Однажды Тасе, немного боясь,
В любви объяснился Вася,
Он нежно сказал ёй: «Я — Твоясь,
А ты Мояся Свояся!

Под крышей одной с тобой поселясь,
Мы будем счастливы, Тася.
И будем няньчить Твоясь и Моясь,
И маленького Свояся».

Шмат перакладаў у маім ленінградскім «Дне» С. І. Кашырына. Сяргей Кашырын — ваенны лётчык. І цікавы паэт! Большасць яго вершаў прысвечана гэтай суровай і рамантычнай прафесіі. Нават у лірычных творах — ён лётчык: «Лечу!», «Не завидую птицам», «Звуковой барьер», «В облаках», «Мёртвая петля», «Над облаками», «Лечу со скоростью снаряда», «Мы налетались нынче вволю», «С небесами расстаться не требую»…

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 2, 3, 5, 6, 10 2012 г.

Сваю кнігу паэзіі Сяргей Іванавіч падпісаў мне і даслаў з Ленінграда: «Дорогому Ивану Сипакову с благодарностью за «Вече славянских баллад». 23.3.77 г. Ленинград».

У «Днях» у ягоных перакладах выйшлі самыя дарагія мне вершы: «Які чалавек вуглаваты», «Вячэрнія песні лесаўшчыка», «Малітва сталу», «Адзінец», «Зялёнае воблака», «Сярод ночы прачнуўся я», «Вара на муку пабегла» і іншыя. Ладнага паўтара дзясятка вершаў! Любімых маіх вершаў! Ды як яны перакладзены! Цудоўна!

У маіх архівах багатая перапіска з гэтым паэтам і лётчыкам. Аднак з самім Сяргеем Іванавічам, мы, хоць многа збіраліся, але так і не сустрэліся…

Уладзімір Тарапыгін адну са сваіх кніг падпісаў мне так: «Янку Сіпакову — на памяць пра сустрэчу ў Мінску. 20.5.75 г.»

Марыя Камісарава падпісала мне сваю кнігу «Лиза Чайкина», якая выйшла ў бібліятэцы «Огонёк»: «Янке Сипакову — на доброе внимание. 11.VI.68 г. г. Ленинград».

У гэтай жа аганькоўскай бібліятэцы выйшла і кніжка вершаў Л. Рашэтнікава «Сосновый бор зимой», якую Леанід Васільевіч прыслаў мне з надпісам: «Янке Сипакову, талантливому поэту и прозаику, — с чувством давней симпатии и лучшими пожеланиями — Леанид Решетников. 4.07.81». Вяцкі вясковы хлопец, які вайну прайшоў у якасці артылерыста, сувязіста, танкіста. Удзельнічаў у баях на Курскай дузе. Двойчы паранены. Узнагароджаны двума баявымі ордэнамі. Пасля вайны — карэспандэнт «Красной звезды» ў розных ваенных акругах і групах войскаў. А які паэт:

Качалась земля под ногами,
Моталась луна меж голов.
Да билось, пульсируя, пламя
На выходах черных стволов.

Верш называецца «Начная атака». Здорава! Нават у гэтай адной страфе якая шырыня і дакладнасць начнога — менавіта начнога! — бою.

З Леанідам Васільевічам я пазнаёміўся ў Ялце, у Доме творчасці. І ведаеце, неяк нечакана мы добра пасябравалі. Ідзём разам, прагульваемся, а ён і кажа: «А ці ведаеш, хто любіў той нумар, паказвае на мой балкон, у якім вы жывяце? Канстанцін Паўстоўскі! Ён кожнае лета менавіта ў ім тут і пісаў». І я ўжо тады па-іншаму пачаў прыглядацца да свайго нумара. Ці переставіў ён што? Ці так і пісаў вось за гэтым сталом, на якім у мяне стаіць зараз ваза з вінаградам. І тады я ўспомніў, што Бунін захапляўся Паўстоўскім. Пра гэта мне гаварыў зноў жа мой усявед А. К. Бабарэка на сцежках Кактэбеля.

Мне было вельмі цікава хадзіць з ім. Леанід Васільевіч тады ўжо жыў у Новасібірску, але шмат ведаў маскоўскіх падзей. Ад яго я даведаўся пра тое, як Еўтушэнка звёў ад Уладзіміра Лугаўскога жонку, як той, ужо немалады, перажываў. Дарэчы, Лугаўскі памёр у Ялце і пахаваны ў Ялце — збоч сцежкі, якая паднімаецца на гару да Дома творчасці.

Я з задавальненнем перакладаў Рашэтнікава на беларускую мову:

Спадаў, напоўнены журбою,
Тужлівы гук на сум палёў.
То плыў высока нада мною
У вырай ключык жураўлёў.
Грудзьмі рассоўваючы сонны
Нябёсаў восеньскі блакіт,
За хмары ключ чапляўся звонам
І пух губляў на сон ракіт.

Потым я сустракаўся з Леанідам Васільевічам і ў Беларусі. На днях расійскай паэзіі. Разам ездзілі ў Гомельскую вобласць. Мы з ім былі неразлучныя. Памятаю пасеку, на якой у нас адбылася незвычайная сустрэча. Пчолы чамусьці выбралі аднаго яго — пакусалі Аляксандра Васільевіча так, што не пазнаць — усё паапухала, заплылі вочы. А ён, і такі апухлы, замілавана глядзеў на соты, поўныя янтарным мёдам, якія падаравалі нам, удзельнікам свята, і шчасліва ўсміхаўся: ён убачыў беларускую зямлю!

Я маю яшчэ адзін аўтограф на кнізе, што выйшла ў гэтай жа «Библиотеке «Огонька»: «Дорогому Ивану Сипакову, который мне выдавал стипендию всего лишь три года, а запомнился, хороший друже, на всю жизнь, на полвека нашей дружбы хотя бы. Эдуард. 25.8.75 г.».

Эдуард Карпачоў — мой аднакурснік па журфаку БДУ. Гэта сын Маркі Карпачова, вядомага ў свой час «маладнякоўца». Эдуард пісаў па-руску, пасля заканчэння ўніверсітэта паехаў у Маскву, і ўжо і я, і ўся беларуская літаратура лічыла яго рускім пісьменнікам з беларускімі каранямі…

Другую кніжку «Конный патруль», у якую ўвайшлі апавяданні і аповесці, упрыгожыў-такі Эдуардаў аўтограф:

«Ваня, пасылаю табе свой зборнік у надзеі, што ты мяне неўзабаве таксама парадуеш будучай кнігаю, пра якую ўжо цяпер ідзе добрая молва. Жму руку! Эд. Карпачоў. 27.10.75 г.».

Размова ідзе пра маю кнігу «Жанчына сярод мужчын», рукапіс якой ужо быў у «Советском писателе».

Зноў Ленінград. Леонцій Ракоўскі. «Блудный бес». Аповесць. Кніга выдадзена ў 1931 годзе з цудоўнымі гравюрамі на дрэве. Падпісаў кнігу мне Леонцій Іосіфавіч вясною 1974 года ў Ленінградзе: «Оршанцу — от Лепельца. Автору прелестных белорусских баллад, милому Янке Сипакову. Сердечно — Леонтий Раковский». Цікава, піша «Лепелец», а сам, як сцвярджае «Краткая литературная энциклопедыя», нарадзіўся ў мястэчку Глыбокае. Так, ён і праўда добра ведае быт беларускіх мястэчак, асабліва яўрэйскага насельніцтва — гумар, сакавітасць жанравых замалёвак.

«Ні ў кога ў мястэчку не было стольbig мянушак, як у гандляра са Шкляной вуліцы Шэндэра Фікса. Звычайна мяшчане прызывалі адно аднаго за які-небудзь недахоп. Напрыклад, краўца Ісера Драпа ўсе звалі «локшэн», таму што ён, на самай справе, быў худы і доўгі, нібы макароны. А Тэвеля, які прадаваў паперу, таўсцяка і каратышку, наадварот, празвалі фарфелем. У вонкавым жа выглядзе гандляра Шэндэра Фікса ніхто не знайшоў бы заганы. Ён не быў ні кульгавым, ні касавокім, не валодаў ні заечай губой, ні грыжай».

А вось і завязка, і развязка, і кульмінацыя:

«Дык вось гэта — ваш сын. Бачыце, вось метрыка. Маці хлапчука памёрла вясной, ні маёмасці, ні родзічаў не засталося. Суд пастанавіў перадаць мальца бацьку. Распішыцеся!

Па зморшчанай шчацэ старога ў рыжую бараду паўзла сляза, але ён таксама, здавалася, не заўважаў нічога: Шэндэр Фікс штосьці прыпамінаў».

Такога Ракоўскага мы, школьнікі, не ведалі. Мы ведалі яго як аўтара гістарычных раманаў «Генералісімус Сувораў», «Адмірал Ушакоў», «Кутузаў», «Канстанцін Заслонаў», якія вывучаліся ў школе.

Маё ж краязнаўства пачалося таксама з Ленінграда. Праўда, перад гэтым да замілавання родным краем мяне падахвоціў Генадзь Каханоўскі, з якім мы дружылі. А потым, вядома ж, быў ён. Не, не ён сам, а яго цудоўныя, наладаваныя фактамі кнігі.

Не меншую ролю сыграў Валянцін Пятровіч Грыцкевіч, выкладчык з кафедры музеязнаўства Ленінградскага інстытута культуры. Першую яго-ную кнігу «Путешествия наших земляков» я набыў сам. Яна мяне ўразіла і ашаламіла: гэта і славуты падарожнік Мікалай Радзівіл Сіротка, і акулістка турэцкага султана Саламея і прэзідэнт сената Гавайскіх астравоў Мікалай Судзілоўскі, і герой Чылі Ігнат Дамейка…

Другую ж «От Нёмана к берегам Тихого океана» Валянцін Пятровіч прыслаў мне з Ленінграда ўжо з аўтографам:

«Івану Данілавічу Сіпакову на добры ўспамін з пажаданнем поспехаў. В. Грыцкевіч. 28.ХІІ.86 г. Ленінград». А ў кнізе — яркія партрэты Івана Чэрскага, імем якога названы горы і пралівы ў Сібіры, кражы і цэлыя горныя сістэмы, даліна ў Саянах; Эдуарда Пякарскага — бацькі якуцкай літаратуры; Іосіфа Гашкевіча, белавалосага консула ў Японіі, пра якога шмат напісаў Іван Ганчароў у сваёй кнізе «Фрэгат "Палада"». Усе ж яны — беларусы! Якія так стараліся, так шчыравалі на карысць іншых народаў!

## 13

Пра тое, што Друцкае княства — маё княства, бо на ўсіх старажытных картах ёсць і мае Зубрэвічы — я ўжо расказваў і даўно агучыў, што мае Зубрэвічы былі калісьці сталіцай удзельнага княства, і ў вёсцы жыў князь Мітка Сякіра, які меў пячатку і на ўсіх сваіх паперах падпісваўся: «Князь Дзмітрый Зубрэвіцкі». Ён быў віднай фігурай у тагачасным жыцці на тэрыторыі сённяшняй Беларусі. Мітку добра ведаў кароль Польшчы Ягайла, яго жонка, каралева Соф'я Гальшанская, стрыечная Мітказа сястра, з якою яны, круглыя сіроты, выхоўваліся ў Друцку амаль аднaчасова. З вечным паўстанцам, Вялікім князем ВКЛ Свідрыгайлам Мітка ўдзельнічаў у вайне супраць Жыгімонта і быў паланёны пад Ашмянамі разам з меншым братам Васілём Красным, якога ўспамінае нават Ян Длугаш. Дарэчы, завяшчанне яго на карысць жонкі і дзяцей чацвёртага сына Друцкага князя Сямёна Дзмітрыевіча, датаванае 7-м індыктам (годам 15-гадовага каляндарнага цыкла, прынятага ў Візантыі і на Русі, захоўваецца ў Маскоўскім архіве Міністэрства юстыцыі («Описание документов и бумаг». Кн. 21. — М. 1915. Ст. 404).

У Друцку Ягайла ўпершыню і ўбачыў Соф'ю і папрасіў Вітаўта сасватаць яе яму. Тут жа адбыліся і заручаны Соф'і з Ягайлам.

У 2001 годзе Друцк сціпла святкаваў сваё тысячагоддзе. Да гэтага юбілею ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» выйшла кніга «Друцк старажытны», якую мне падпісаў Рыгор Часлававіч Ляньевіч, ураджэнец Талачыншчыны, палкоўнік беларускага войска, прафесар Ваеннай акадэміі Беларусі.

«Янку Сіпакову з удзячнасцю за дапамогу ў справе адраджэння старажытнага Друцка. Старшыня грамадскага камітэта па святкаванні 1000-годдзя Друцка. Лянькевіч. 12.12.2000 г.».

Лянькевіч быў, як кажуць, рухавіком гэтага святкавання. У ім згадзіліся прыняць удзел лётчык-касманаўт Уладзімір Кавалёнак, які нарадзіўся на друцкай зямлі, доктар гістарычных навук з Масквы Леанід Аляксееў, які 30 гадоў даследаваў полацкую зямлю і Друцк, кіраўнік Упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама, Мікалай Пятровіч Пашынскі, які стаў членам рэдкалегіі гэтай кнігі.

Друцк — гэта «Друцкае евангелле» і найстаражытнейшы на беларускай зямлі праваслаўны храм, аднаўленне якога падтрымаў Мітрапаліт Мінскі і

Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі Філарэт: «Гэтае пачынанне ўхваляю і жадаю Божай дапамогі ў добрай справе».

Легендарны Друцк і невялікая вёсачка Друцк на 110 двароў і з 295 жыхарамі, якая сціпла прытулілася да сваёй колішняй велічы — да высокіх, як горы, земляных валоў.

А Друцк жа старэйшы за Маскву і Мінск!

Цікавае разважанне з кнігі «Друцк старажытны»:

«Нейкі час Друцк моцна сапернічаў з Мінскам, друцкія князі чамусьці не ўжываліся, ваявалі з мінскімі. Хто ўзяў верх у гэтых бітвах — зразумела, пакольні цяпер сталіца Беларусі знаходзіцца не ў Друцку, а ў Мінску. Хоць магло быць, самі разумееце, і наадварот. І тады, магчыма, Мінск, у 2000 годзе быў бы ціхай вёсачкай над Свіслаччу»…

А ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» ў шасці тамах, якой ганарыцца мая бібліятэка, пра свайго Мітку Сякіру ў артыкуле «Друцкія» я прачытаў наступнае:

«Дзмітрый (Мітка) Сякіра (каля 1400? — пасля 1440), сын Сямёна. Ад назвы маёнтка Зубрэвічы ў Аршанскім пав. Пісаўся кн. Зубрэвіцкі. Валодаў таксама Быхавам, Добаснай каля Рагачова, Асцёрам у Кіеўскім пав. і інш. Яго дачка Марына (каля 1425? — 1495) выйшла замуж за кн. Сямёна Сямёнавіча Гальшанскага-Трабскага, пасля смерці якога доўгі час валодала вотчынамі мужа і бацькі. Перажыўшы адзіную дачку, жонку Марціна Гаштольда, завяшчала свае ўладанні ўнуку Альбрэхту Гаштольду (гл. у арт. Гаштольды)».

Альбрэхт Гаштольд — унук Міткі Сякіры, князя Дзмітрыя Зубрэвіцкага? Намеснік наваградскі, падчашы літоўскі, ваявода наваградскі, полацкі, трокскі, віленскі, канцлер ВКЛ, наймагутнейшы землеўладальнік у Еўропе, выстаўляў у войска ВКЛ 466 вершнікаў. Ён удзельнічаў у падрыхтоўцы Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 года. Быў ініцыятарам стварэння першай разгорнутай рэдакцыі беларуска-літоўскіх летапісаў. Ад бабулі Марыны, унучкі Дзмітрыя Зубрэвіцкага, атрымаў вялізную Міткаву спадчыну.

А магутны доўгі час род Гаштольдаў згас у Геранёнах, што цяпер паміж Лідаю і Іўем, у 1542 годзе, калі памёр апошні з Гаштольдаў Станіслаў Гаштольд, ваявода наваградскі і трокскі. А правільней, пяць гадоў таму, калі ён у 1537 годзе менавіта ў Геранёнах, у касцёле святога Мікалая павёў пад вянец сваю выбранніцу Барбару Радзівіл — яго каханая была бяздзетуха. Так, у яе, у аўдавелай Барбары Радзівіл, яшчэ наперадзе былі і страснае, незвычайнае каханне, і патаемнае вянчанне з Каралём у Вільні, і яшчэ адзін шлюб з каралём Польскім і Вялікім князем ВКЛ Жыгімонтам II Аўгустам, і каралеўская карона, і нелюбоў, нават нянавісць свякрові Боны Сфорцы, і заўчасная смерць неўзабаве пасля каранавання ў Кракаве — кажуць, што яе атруцілі, і зайздрасць, і непрыняцце сям'і караля. Але дзяцей у Барбары і ў гэтым шлюбе не было.

Так што і род майго аднавяскоўца Міткі Зубрэвіцкага па кудзелі таксама скончыўся на Барбары Радзівіл.

Дзіўна! Цікавыя кругі гісторыі! Аказваецца, і яна, Барбара Радзівіл, славуцейшая асоба беларускага Сярэднявечча, калі б зачала, магла б нарадзіць майму Мітку Зубрэвіцкаму спадкаемца, прадаўжальніка добрага роду.

А касцёл у Геранёнах, дзе адбыўся шлюб Станіслава Гаштольда і Барбары Радзівіл, пабудаваў Міткаў праўнук Альбрэхт Гаштольд. Дарэчы, памяшканне касцёла захавалася і сёння: позняе барока з элементамі готыкі, а ў сярэдзіне — класіка і ракако.

А вось замак, пабудаваны зноў жа Гаштольдам, не захаваўся. Толькі рэшткі магутных сцен, складзенных з палявога каменя, якія з дзесяціметровымі валамі адгароджвалі аграмадную плошчу ў 30 кіламетраў, сведчаць пра тое, што гэта было адно з магутнейшых абаронных фартыфікацыйных умацаванняў таго часу: сцены — па два метры.

Значыць, Друцкае княства — маё княства. Дзе б дручане ні былі — у Полацкай зямлі, у ВКЛ, заўсёды з імі і мае Зубрэвічы.

Стаю на высокіх валах былога замчышча старажытнага Друцка. Магутныя, як горы, валы і такія далячыні раскрываюцца з іх — аж дух перахоплівае.

І праўда, я верыў, што нічога новага не адкрыю, не даведаюся, не разгадаю. Але ўсё ж стаю. Проста так стаю. А хіба гэтага мала — яшчэ раз выразна адчуць, як яны, вятры стагоддзяў, шумяць у цябе над галавою…

А ўнізе, пад валамі, у вёсцы Друцк, што нібыта ўціскаецца ў гару, гучыць музыка — там школьнікаў урачыста прымаюць у дручане…

Орша ў 1997 годзе адзначыла сваю 930-ю гадавіну з дня першага ўпамінання аб ёй у «Аповесці мінулых гадоў». З гэтай нагоды выйшла кніга вядомага краязнаўца Святаслава Асіноўскага «Орша: Залатыя стрэлы на блакітным полі» — першы на Беларусі багата ілюстраваны храналагічны даведнік, прысвечаны асобнаму гораду. І ў ім прасочваецца гісторыя горада за вельмі працяглы час.

Сваю кнігу Святаслаў Асіноўскі падараваў мне з аўтографам: «Янку Сіпакову, паэту і земляку ад аўтара на доўгі ўспамін. 14.04.08 г.».

Я праглынуў даведнік з узрушэннем. Вядома ж, гэта клад! Унікальны збор! Прачытаўшы кнігу, я яшчэ болей пачаў ганарыцца сваім родным горадам.

Вось універсал ад 16 лютага 1654 года, які гетман ВКЛ Януш Радзівіл даў ваяводам — аб прывядзенні войскаў пад Оршай у баявую гатоўнасць у сувязі з пагрозай наступлення маскоўскага войска:

«Мною атрыманы дакладныя звесткі аб набліжэнні да межаў Рэчы Паспалітай моцнага маскоўскага войска. Збіраючыся найхутчэй даць адпор гэтаму непрыяцельскаму нашэсцю, папярэджваю вашых міласцей і ўладаю сваёй строга загадваю вам заставацца пад сваімі харугвамі, у сваіх ротах, не адлучаючыся ад іх ні на крок. Калі ж хто-небудзь знаходзіцца дома ці яшчэ дзе-небудзь, няхай тут жа вяртаецца ў любы час дня і ночы. І хаця я вымушаны знаходзіцца на пасяджэннях сейма з-за неадкладных спраў, што тычацца карысці ўсёй Рэчы Паспалітай, аднак, прабыўшы там больш як два дні і атрымаўшы загад яго каралеўскай вялікасці (Яна ІІ Казіміра Вазы), я тут жа накіруюся ў Оршу, не спыняючыся на начлег. І калі я, вярнуўшыся, не застану каго-небудзь з вашых міласцей пад харугвамі і ў ротах, то такому … не дапамогуць ніякія апраўданні».

Ратуючы ВКЛ, потым ён, паслядоўнік незалежнасці ВКЛ ад Польшчы, падпіша ў Кейданах дамову са Швецыяй аб пераходзе княства пад яе пратэктарат, за што быў аб’яўлены здраднікам.

Пачалася вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай за Беларусь і Украіну.

Вядомы беларускі гісторык Генадзь Сагановіч у сваёй кнізе «Невядомая вайна» піша:

«Калі б у мяне спыталіся, што ў беларускай гісторыі я лічу найслаўнейшым, а што — самым трагічным, дык на першае пытанне адразу, бадай, не знайшоў бы адказу, а на другое сказаў бы без сумневу: вайна 1654—1667 гг.».

14 сакавіка 1653 г. маскоўскі патрыярх Нікан блаславіў цара Аляксея Міхайлавіча на «благое дело» — на вайну супраць Рэчы Паспалітай.

Гэтая вайна, як сцвярджаюць даследчыкі, стала самаю крываваю ў гісторыі Беларусі. Яна нанесла генафонду беларусаў страшны ўдар, пасля якога мы яшчэ і цяпер не можам аправіцца.

«Падчас гэтай жудаснай бойні загінулі 53 працэнты насельніцтва Беларусі (у яе сучасных межах). Калі браць пад увагу толькі гарады (а ім дасталося найбольш), то ў Вяжычах (пад Віцебскам) загінула 98 працэнтаў жыхароў, у самім Віцебску — 94, у Полацку — 93, у Ляхавічах — 92 працэнты.

Як сведчаць дакументы тых часоў, і Орша была таксама «бясконцымі маскоўскімі нападамі не раз спалена і цалкам зруйнавана» і ляжала «пустой» яшчэ напрыканцы XVIII ст.

Да пачатку гэтай вайны, паводле дадзеных Васіля Мялешкі, у Аршанскім павеце налічвалася 473 200 жыхароў, у 1667 г. у жывых засталося толькі 145 015. Такім чынам, загінула 69,3 працэнта насельніцтва павета. У Копысі было, паводле дадзеных Юзафа Можы, 450 дымоў (гаспадарак), ацалела ўсяго 267; невялічкая Барань страціла 27 з 38 (71 працэнт) дымоў. Полымя вайны праглынула 45 290 з 67 000 дымоў у Аршанскім павеце».

І ўсё ж Аляксей Міхайлавіч не дасягнуў сваёй мэты: Беларусь і Правабярэжная Украіна засталіся ў складзе Рэчы Паспалітай.

І як вы думаеце, хто ён, гэты цар Аляксей Міхайлавіч Раманаў, які ўчыніў такую бойню? Наш зямляк, нашчадак у дзясятым калене аршанскага баярына Андрэя Іванавіча Кабылы! Дарэчы, і Пётр I, сын Аляксея Міхайлавіча, таксама спадкаемец усё таго ж Кабылы — толькі ўжо ў адзінаццатым пакаленні…

Дарэчы, падчас расійска-шведскай вайны Пётр I быў у Оршы і ў Копысі.

А Копыскае і Аршанскае гарадзішчы ў розныя гады даследавалі такія слынныя археолагі, як А. Ляўданскі, Г. Штыхаў, Л. Міхайлоўскі, Л. Побаль, Э. Загарульскі, В. Ляўко.

«У адной з легенд аб старажытнай Оршы распавядаецца, што продкі аршанцаў, крывічы, былі незвычайна дужымі і высокімі. Такімі высокімі, што сучасныя людзі ім да калена не даставалі б. Найглыбейшыя рэкі ім таксама былі толькі па калена. Таўшчэзную калоду яны круцілі лёгка, як палку, былі мацнейшыя за мядзведзя, і ніхто не мог іх перамагчы. Менавіта з-за сваёй сілы і непераможнасці пачалі аршанцы пагражаць самому Богу…»

Гэтае наіўнае, але з вялікай гордасцю да сваіх землякоў прамоўленае слова, я вычытаў у альбоме «Орша і Аршанскі раён»: вось мы, маўляў, якія — самому Богу пагражалі…

А пачынаецца альбом з мініяцюры Радзівілаўскага летапісу «Захоп Усяслава Чарадзея з сынамі — «на Ръши у Смолиньска». Менавіта першае ўпамінанне пра Оршу ў «Аповесці мінулых часоў» звязана з гэтай падзеяй: 3 сакавіка 1067 года адбылася вядомая бітва на Нямізе, — «галовы сцелюць снапамі» — паміж войскам полоцкага князя Усяслава Чарадзея і войскам трох братоў — кіеўскіх князёў Яраславічаў. Усяслаў пацярпеў паражэнне і падчас перагавораў каля Оршы вераломна быў захоплены з сынам і зняволены ў Кіеве. Праўда, праз нейкі час ён быў вызвалены з цямніцы народам і тут жа абраны на Кіеўскі прастол і сем месяцаў княжыў у Кіеўскім княстве, а пасля усё ж вярнуўся ў Полацк.

Вітаўт пабудаваў Аршанскі замак.

Канцлер ВКЛ Леў Сапега набыў у самым цэнтры Оршы ўчастак зямлі і пабудаваў на ім першы ў горадзе каталіцкі касцёл. За будаўніцтвам Калегіума пільна сачыў папа Павел V, а рэзідэнцыя езуітаў у Оршы па загадзе генерала ордэна ў 1616 годзе была пераабсталявана ў калегіум.

З 1842 года, калі Ордэн езуітаў па загадзе імператара Аляксандра І быў адменены на тэрыторыі Расійскай імперыі, памяшканне пераабсталявалі і ў ім — сто пяцьдзясят гадоў! — была турма.

Цяпер калегіум адрамантавалі. Ён стаў упрыгожаннем Оршы. У ім размешчана дзіцячая бібліятэка імя У. Караткевіча, мастацкая галерэя Віктара Грамыкі, Дом рамёстваў і аддзел культуры Аршанскага райвыканкама.

Орша памаладзела. Асабліва, калі адкрылі пагляду галоўнае хараство Оршы — Дняпро.

Які прыгожы ў альбоме «Орша» панарамны фотаздымак майго роднага горада! Як цікава яго разглядаць зверху, калі ўвачавідкі здаецца, што ты крылаты і ляціш над найпрыгожэйшым для цябе горадам, пазнаючы знаёмыя табе мясціны: і той самы калегіум, і справа той жа яшчэ не магутны, але паўнаводны ўжо і ў нас спакойны Дняпро, і злева Аршыцу, якая таксама спакойна ўліваецца ў яго, і Прыдняпроўскі парк, у якім стаіць лірычны помнік яму, майму шаноўнаму земляку — Уладзіміру Сямёнавічу Караткевічу.

Вельмі сур'ёзнае даследаванне гісторыі Оршы і Аршаншчыны ў кнізе аршанскага гісторыка Ігара Яршова «Вежы над Дняпром». Кніга прэтэндуе на аб'ёмнае адлюстраванне таго, што адбывалася тут раней. Яна дае шырокі спектр, роскід думак, меркаванняў, поглядаў розных людзей. Аўтар спрачаецца, абураецца, шукае ісціну між гэтых думак.

Аршанскія майстры, таксама копыскія, куцеінскія, запрошаныя, а то і паланёныя царом, земляком Аляксеем Міхайлавічам — разбяры па дрэве, ганчары, ювеліры, збройнікі, друкары, мастакі, будаўнікі — упрыгожвалі Маскву. Яны зрабілі Збройнаю палату, прывезлі ў Маскву новы спосаб разьбы па дрэве, стварылі царскі палац у Каломенскім, які назвалі восьмым цудам свету, поўным трыумфам драўлянай архітэктуры, «цацачкай, толькі што вынятай са шкатулачкі».

«Самай каларытнай у доўгім спісе стваральнікаў «восьмага цуду свету», — піша Ігар Яршоў, — была фігура Арсенія — разьбяра, вялікага і тонкага знаўцы арнаментаў. Да прыезду ў Маскву Арсеній быў манахам Куцеінскага манастыра. Іканастас Куцеінскага жаночага манастыра, які рэзаў Арсеній, вельмі ўразіў рускага цара Аляксея Міхайлавіча і маскоўскага патрыярха Нікана ў час наведвання імі Оршы».

Гэтае грунтоўнае, клапатліва сабранае і навукова абгрунтаванае даследаванне нашай Аршаншчыны Ігар Яршоў падпісаў мне:

«Івану Данілавічу Сіпакову! Знакамітаму беларускаму пісьменніку і сыну Аршаншчыны! З удзячнасцю за памяць аб Бацькаўшчыне і шчырымі пажаданнямі творчых поспехаў, дабра, шчасця і моцнага здароўя. Зубрэвічы, 27.06.98 г.».

А на кнізе «Вёрсты пройдзеных дарог», напісанай у суаўтарстве з Валянцінай Сідняковай, тагачасным намеснікам старшыні Аршанскага райвыканкама, Ігар Анатольевіч і ўвогуле расшчодрыўся: «Івану Данілавічу Сіпакову — Беларускаму літаратурнаму «зубру» з аршанскіх Зубрэвіч! Па-зямляцку шчыра, жадаючы далейшых творчых поспехаў на карысць нашай нацыянальнай літаратуры, мовы і гісторыі. Дабра, шчасця і здароўя! На добры ўспамін ад землякоў. Орша, 12.03.04».

А ў кнізе — жыццёвыя і творчыя лёсы землякоў, асоб з творчай інтэлігенцыі краіны, тых творцаў, хто нарадзіўся на Аршаншчыне ці творчы шлях каго пачынаўся менавіта тут. Ад Філона Сямёнавіча Кміты-Чарнабыльскага, дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, аршанскага старосты, якога Уладзімір Караткевіч назваў «першым сярэдневяковым пісьменнікам Оршы», да самага

малодшага ў кнізе Святаслава Асіноўскага, гісторыка-краязнаўцы, даследчыка Аршаншчыны, які нарадзіўся ў мястэчку Смаляны.

А між імі — і заснавальнік Куцеінскага манастыра Іаіль Труцэвіч, і разьбяр Арсеній, які рабіў Каломенскі палац, і друкар Спірыдон Собаль, і паліглот з Копысі Міхаіл Уропчанка, які разам з адміраламі і мораплаўцамі Крузенштэрнам, Літке, Урангелем, акадэмікамі Арсеньевым і Струве быў заснавальнікам Рускага геаграфічнага таварыства — на пасяджэнні гэтым ён, буйнейшы даследчык у галіне геадэзіі, тапаграфіі, вядомы літаратар сядзеў побач з Уладзімірам Далем — аўтарам «Толкового словаря живого русского языка».

Аршанцы — гэта «чэлюскінец», пісьменнік Аляксандр Міронаў і яго маці вядомая актрыса Купалаўскага тэатра Кацярына Міронава, Уладзімір Караткевіч і скульптар Сяргей Вакар, чый Максім Багдановіч стаіць сёння каля тэатра оперы і балета, байкапісец Уладзімір Корбан і спявачка Соф'я Друкер з Копысі, доктар мовазнаўства, вядомая фалькларыстка Зінаіда Мажэйка і пісьменнікі Леанід Калодзежны і Алесь Стаховіч. Дарэчы, кнігу апошняга «Шырокія гарызонты», якая выйшла ў 1952 годзе, я купіў і прачытаў яшчэ школьнікам. Зразумела, што я тады яшчэ не ведаў, што гэтую кнігу пра аднаўленне разбуранай вайною вёскі Алесь Іосіфавіч напісаў пасля цяжкога інсульту… Яе потым крытыкавалі. Як і мяне.

А самы поўны збор дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Оршы і Аршаншчыны, вядома ж, у двухтомніку «Памяць. Орша і Аршанскі раён», які выйшаў у серыі «Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі». Сярод энцыклапедычных членаў рэдакцыйнай калегіі ёсць і ён, Ігар Анатольевіч Яршоў.

А ў кнігах ёсць і «мае» матэрыялы.

Гэта і эсэ «Свае партызаны», дзе я расказваю пра партызанскую брыгаду Кірпіча, якая базіравалася ў Рацаўскіх лясах, што непадалёк ад Зубрэвіч, у якой былі і мае родзічы.

Гэта і партрэты маіх таты і мамы — Данілы Іванавіча і Вулляны Пракопаўны, якіх закатавалі фашысты ў Оршы, у гестапа, у 1943 годзе за сувязь з партызанамі.

Гэта і цікавая для мяне згадка пра «Зубрэвічы»:

«7 сялян сяла хадайнічалі перад Магілёўскім губернатарам аб перасяленні іх разам з сем'ямі ў Сібір на свабодныя дзяржаўныя землі (Алімпій, Дзямід і Тарас Сідаровічы, Іван Сіпакоў, Захар Шапавалаў, Васіль Ласкоўскі, Макей Чарнышоў».

Гэта і кароценькая заметачка пра мяне — як пра земляка.

## 14

Пра Пухавіччыну, сваю малую Радзіму — якую малую, радзіма, якой бы яна ні была, заўсёды вялікая! — з любоўю распавядае вядомы краязнаўца Алесь Карлюкевіч. Распавядае сэрцам… А якая, зірніце, тапаніміка, якая прыгажосць у назвах пухавіцкай зямлі, у назвах вёсак, мястэчак, рэк, рачулак, ручаёў, лясоў, пералескаў! Балачанка, Берлеж, Блонь, Блужа, Вецярэвічы, Вузляны, Выгода, Вясёлыя, Граддзе, Зацітава Слабада, Дайнава, Загай, Ліпнікі, Пціч, Такавішча, Пухавічы. Раён Пухавіцкі, а дагэтуль сталіца яго Мар'іна Горка.

«Адзін раён, кажучы сучаснай адміністрацыйнай мовай, — здзіўляецца і сам даследчык, — умяшчае вялізарнейшую прастору. Настолькі неабсяжную, што яе можна параўнаць з касмічнымі катэгорыямі ці параметрамі».

Гэта з кніжкі «І векавечны толькі край», якую Алесь Мікалаевіч падараваў мне з аўтографам:

«Паважанаму Івану Данілавічу! З самымі добрымі пажаданнямі! З заўсёднай цікавасцю да Вашай творчасці! Алесь Карлюкевіч. 8.01.2001 г.».

Аказваецца, і славутыя «Дудуткі», што пад Мінскам, гэта ўжо таксама Пухавіччына.

Дудуткі — фермерскі эксперымент пісьменніка Яўгена Будзінаса.

«Дык што ж задумаў Будзінас? — раздумвае краязнаўца Карлюкевіч. — На тэрыторыі Пухавіцкага раёна ў свой час прадпрымальніку выдзелілі ў арэнду 160 гектараў зямлі. План быў скіраваны на тое, каб стварыць агромністую фермерскую гаспадарку. Хаця і на гэтым шляху Яўген Дамінікавіч сутыкнуўся з многімі праблемамі, расчараванні ўсё ж такі не прымусілі яго адмовіцца ад зямлі».

Сёння «Дудуткі» — сваеасаблівы, элітны музей пад адкрытым небам, куды возяць, які з гонарам паказваюць гасцям Беларусі. Чаму ж менавіта тут, на пцічанскіх берагах, у ваколіцах старажытных Дудзіч узнік гэты музей?

«Як на мой суб’ектыўны погляд, усяму першапрычынай, — тлумачыць Алесь Мікалаевіч, — памяць пра вядомага Аляксандра Карлавіча Ельскага. Якраз у гэтых мясцінах жыў гэткі пан-дзівак, лічы, паўтара стагоддзя назад. Нарадзіўся ў 1834 годзе. Памёр у 1916-м. У гісторыі ж застаўся не панствам сваім, а апантаным збіральніцтвам. Непадалёку ад Дудзіч, у маёнтку Замосце, стварыў ці не багацейшы на Беларусі музей. Сабраў у сваю хатнюю скарбніцу аўтографы Напалеона і Пятра І. Калекцыя змяшчала аўтографы славутых людзей, нацыянальных герояў, саноўнікаў Рэчы Паспалітай, вучоных, не толькі польскіх, але і многіх іншых народаў, а таксама багатыя матэрыялы аб гістарычных падзеях 1794 года, 1812, 1831, 1863 гадоў, аб чатырохгадовым сейме, Тарлавіцы і г. д.

А яшчэ ж — карціны, археалагічныя знаходкі, прадметы матэрыяльнай культуры, агромністая бібліятэка. Па часе існавання музея ў Замосці дарогу ў дудзічанскі бок зведалі многія вучоныя, гісторыкі, краязнаўцы, літаратары, этнографы з Расіі і Польшчы. Часам знаходзілі ў Замосці тое, што не маглі адкрыць у музеях і бібліятэках Варшавы, Масквы, Санкт-Пяцярбурга, Кіева, Вільні».

У кнізе А. Карлюкевіча шмат нечаканых, цікавых матэрыялаў пра знакамітых асоб.

Яны сустрэліся ў Рыме. Паэт Адам Міцкевіч і яна, Марына Мечыслаўская, уніятка, пакутніца за веру. А Міцкевіч толькі што, за дзень перад гэтым, парваў сувязі з каталіцкім касцёлам…

«Я ёсць Адам Міцкевіч, выгнанец з Літвы», — прадставіўся паэт,

«А я ёсць тая манашка, перакінутая праз цэлы свет таксама з Літвы на гэтую італьянскую зямлю…» Ён літвін, і яна — таксама літвінка. А вялі гаворку пра фарміраванне польскага легіёна ў Італіі. Вось такія яны нашы, лёсы.

Уяўляеце, які гэта разварот падзей і пачуццяў для даследчыка! І Алесь Карлюкевіч з гонарам са сваёй працаю справіўся.

У яго даследчыцкі клопат трапіла і «бабуля расійскай рэвалюцыі» Кацярына Канстанцінаўна Брэшка-Брэшкоўская, якая нарадзілася ў Невельскім павеце Віцебскай губерні, і вядомы польскі кампазітар, дырыжор, музычны дзеяч Мечыслаў Карловіч, які нарадзіўся ў вёсцы Вішнева Смаргонскага раёна, у сям’і Яна Карловіча — польскага мовазнаўцы, этнографа, фалькларыста, музыказнаўцы, які сябраваў з Францішкам Багушэвічам і якому дапамог выдаць зборнік яго паэзіі; і вядома ж, наш сучаснік — Мікола Калінковіч,

пісьменнік і краязнаўца. «Драма аднаго жыцця» — так называецца раздзел пра яго ў кнізе Алеся Карлюкевіча.

«У Міколы Калінковіча засталося шмат сяброў. Быў ён чалавекам таварыскім, кампанейскім. Умеў яднаць вакол сябе і аматараў футбола, і дасведчаных навукоўцаў. Мне пашчасціла ведаць гэтага цікавага чалавека, ліставацца з ім…»

Мікола Калінковіч пісаў Карлюкевічу і на Кубу, і ў Ашхабад, дзе Алесь Мікалаевіч служыў у вайсковых газетах.

Я ж у Міколы Калінковіча быў у гасцях. У Ашхабадзе. У сціплай двухпакаёвай кватэрцы на першым паверсе, у звычайным панельным доме… У нас, на Беларусі, была яшчэ зіма, а ў Туркменіі — ужо вясна, і я на гэтым памежжы крыху прастудзіўся — кашляў. І Мікола з жонкаю — яна медычка — лячылі мяне спіртам з мёдам… А Мікола тады працаваў у КДБ Туркменістана.

«Амаль што адразу, — разважае Алесь Карлюкевіч, — пасля заканчэння журфака Белдзяржуніверсітэта (а паступіў Мікола вучыцца на газетчыка, адслужыўшы два гады ў войску) — праца і служба ў органах дзяржбяспекі. Дзіўнае спалучэнне, ці не так? Захапленне гісторыяй і краязнаўствам, праца над словам, карпенне ў думках і за пісьмовым сталом (і пра характар нацыянальнай душы, і пра вольнасць — гісторыя і краязнаўства не маглі не падвесці да гэтага) і дзяржбяспека».

Як светла і шчыра гаварылася пра ўсё ў яго дома!

Мікола расказваў, але не скардзіўся: «Разумееш, цяжкавата тут: сама міліцыя падказвае рабаўнікам, каго трэба абакрасці, а потым сама ж пільнуе, каб ніхто не перашкодзіў ім гэта зрабіць».

Мне ж Мікалай Мікалаевіч дапамог тады купіць білет да Мары, і я ў перапоўненым, душным начным цягніку — на ніжняй паліцы! — паехаў у Каракумы («Што такое Каракумы? Гэта тры Грэцыі пяску», — тлумачылі мне туркмены). У Рэпетэкскім барханным запаведніку я пабачыў, як ходзяць пяскі, яшчэ у Мургабскім аазісе пабываў у вярблюдагадоўчым саўгасе «Сакар-Чага» — на адзінай у рэспубліцы малочнай вярблюджай ферме там даіліся тады 74 вярблюдзіцы, з малака якіх гатавалася 27 тон чала.

А пазнаёміўся я з Мікалаем Калінковічам зусім выпадкова. Я ішоў у выдавецтва «Мастацкая літаратура», а Мікола вяртаўся адтуль. Мы былі з ім зусім незнаёмыя. Але ён неяк уважліва паглядзеў на мяне і сказаў: «Здаецца, гэта Янка Сіпакоў?» І мы з ім разгаварыліся. Паўгадзіны праходзіць — а мы гаворым. Гадзіна праходзіць, — а мы яшчэ не гаварыліся.

Мікола ішоў ад Веры Палтаран, пад рэдакцыяй якой выходзіла яго кніга. Пра Блока.

Зноў жа Алесь Карлюкевіч:

«Блок, — піша ён, — Ці не палова жыцця Міколы прайшло пад уражаннем Блока, яго лёсу, яго паэзіі. Дасведчаны чытач напэўна памятае сціплую кніжку Калінковіча «Палескія дні Аляксандра Блока». Невялікая памерам, яна камусьці можа падацца плёнам працы некалькіх тыдняў, за месяц — два, няхай сабе год… Але ж Блок, асэнсаванне гэтай асобы — частка жыцця Міколы. Яшчэ школьнікам лунінецкі падлетак даведаўся пра беларускія калізіі ў лёсе славутага паэта. І пачаў паціху збіраць факты, напаўняць скарбонку ведаў пра яго. І нават калі служыў тэрміновую вайсковую службу пад Ленінградам, не забыўся пра сваю галоўную тэму. Салдатам грукаўся ў дзверы архіваў, музеяў, шукаў сучаснікаў. Адзін вучоны муж параіў: напішыце, малады чалавек, лепей пра Блока і космас… Блок на Беларусі? Не тая гэта тэма. І не тэма зусім.

Характар, апантанасць, улюбёнасць у Блока і ў сваю радзіму прымушалі не кідаць пошукаў. Так і стварыліся многія публікацыі, так і сабралася кніжка».

З Ашхабада Мікола Калінковіч піша Карлюкевічу пісьмо, дзе расказвае пра Рыгора Сільча Карэліна — прадзеда Блока па матчынай лініі. Аказваецца, у Туркменіі пра Карэліна выйшаў раман рускага пісьменніка Рыбіна, які жыў у Туркменістане.

«Папрасіў Рыбіна надпісаць на кніжцы аўтограф, — расказвае Карлюкевічу Мікалай Мікалаевіч, — прыхапіў раман з сабою падчас чарговай вандроўкі на Беларусь. І завёз у Пінск, а пасля ў Лапаціна, у музей Блока, аддаў Жураўскаму. Разам, здаецца, з часопісам «Маладосць», лістападаўскі нумар за 1980 год, у якім была змешчана мая публікацыя «Палескія дні Аляксандра Блока».

А гэтую публікацыю Міколы Калінковіча рыхтаваў да друку я. Я тады працаваў у «Маладосці» загадчыкам аддзела культуры і навукі і, памятаю, ганарыўся гэтай публікацыяй. І ўсе таксама віншавалі мяне з цікавай публікацыяй.

Мікола Калінковіч, вядома ж, і пачатак пошукаў «палескіх дзён Блока», і іх адзіны даследчык. Ён, пачаўшы шукаць сувязі Блока з Беларуссю яшчэ школьнікам, рабіў гэта шчыра і добрасумленна да самага канца свайго кароткага жыцця.

Блок на Беларусі — гэтая тэма зрабілася ягонай апошняй ідэяй і ягоным жыццём. Таму ён з душэўным болем успрымаў усё, што часам рабілася не так:

«Увогуле, мне здаецца, што пінчукі яшчэ не перайшлі да сапраўднага асэнсавання Блока, да ўсведамлення яго месца ў кантэксце сучаснай літаратуры… Суб'ектыўна? Так, магчыма, і суб'ектыўна, але ж калі быць шчырым… Словам, адносіны ў мяне да лапацінскага музея розныя. Прызнацца, засмучае, што там нахабна выперся — і ў экспанатах, і ў арганізацыі — нехта Б. Настолькі нахабна, што ад усяго адварочвае.

А я нават пакуль не адправіў ім сваю кніжку пра Блока. Ды і не звярталіся…

Дарэчы, дзеля дакладнасці, — усё ж не памятаю, адвёз кнігу Валянціна Фёдаравіча ці адправіў па пошце. Забыўся, даруй. Але ж у музеі, вядома ж, быў і з Жураўскім бачыўся.

Мне думаецца, што музей Блока трэба было рабіць у Лунінцы альбо ў Пінску. У Лапаціна ж ён беспрытульны. Выхаваўчая роля па розных прычынах зведзена на нішто… Ці нават лепшае месца для музея было б у Парахонску».

## Слова на заканчэнне

*На гэтым рукапіс абрываецца...*

*І ўжо ніколі, ніколі не дазнаемся, з кім яшчэ Янка Сіпакоў хацеў нас пазнаёміць, пра што меў жаданне нам расказаць.*

*Незвычайнае, дзівоснае падарожжа! Ад кнігі да кнігі. Ад лёсу да лёсу. Ад краіны да краіны... Якім жа няпростым, зайздросна багатым быў свет пісьменніка! І якім шчодрым, светлым быў яго талент, каб гэтак цёпла, з незвычайнай любоўю, з сардэчнай замілаванасцю ўсё ўбачанае і пачутае ўзнавіць у жывым, хвалюючым слове.*

*Застаецца толькі шкадаваць, што захапляльнае падарожжа ў гэты чароўны свет заўчасна абарвалася. Але дзякуй табе, дарагі Янка, і за тое, што ты змог зрабіць, паспеў сказаць!*

***Зіновій ПРЫГОДЗІЧ***

***Падрыхтоўка тэксту і публікацыя Сяргея СІПАКОВА.***

# З КІТАЙСКАЙ ПАЭЗІІ

*Паэтычную падборку перакладаў, якія прапаноўвае ў адзінаццатым нумары «Полымя» Мікола Мятліцкі, можна ўмоўна падзяліць на дзве часткі: у першай — вершы другой паловы ХІХ стагоддзя, другую палову падборкі складаюць творы, напісаныя ў ХХ стагоддзі. У гэты час Кітай адкрываўся Захаду. Кітайскія літаратары ў сваіх творах актыўна выкарыстоўвалі новыя для традыцыйнага мастацкага пісьменства Паднябеснай тэмы, ідэі, прыёмы.*

*Самым значным прадстаўніком новай паэзіі канца ХІХ стагоддзя з'яўляецца Хуан Цзуньсянь (1848—1905). Супрацьстаўлячы сябе косным і абмежаваным канфуцыянскім чыноўнікам, Хуан Цзуньсянь яшчэ ў маладосці абвясціў: «Я пішу, што прамаўляюць мае вусны». Прыхільнік рэформаў, ён пісаў пра нікчэмнасць маньчжурскіх кіраўнікоў, паразу імперыі ў войнах і страту нацыянальных зямель. Хуан Цзуньсянь прадэманстраваў здольнасць паэзіі своечасова рэагаваць на найважнейшыя палітычныя падзеі і выступаць аднвачасна ў ролі злабадзённай публіцыстыкі і займальнага рамана.*

*Сярод змагароў супраць манархічнага ладу таксама вылучаецца паэтэса Цю Цзінь (1875—1907). Пафас двухсот вершаў Цю Цзінь вызначаецца яе валявым і мужным характарам, жаданнем абудзіць грамадзянскія і нацыянальныя пачуцці суайчыннікаў, дамагчыся роўнасці сярод жанчын.*

*Літарутуру пачатку ХХ стагоддзя ў Кітаі прынята называць «новай літаратурай» ці «літаратурай 4 мая». На першае месца сярод тэм новай паэзіі выходзіць сацыяльна-палітычны накірунак, аднак толькі ім выбар шукальнікаў паэтычнай ісціны не абмяжоўваецца. Пейзажная, любоўная, філасофская лірыка характэрна для паэзіі таго часу. Але і яна была ўсё ж такі наватарскай — пры ўсёй разнастайнасці матываў і настрояў у ёй выразна адчуваецца вольналюбівае стаўленне да свету, непрыманне феадальнай маралі, сцвярджэнне годнасці жанчыны і яе права на каханне.*

*Го Можо (1892—1978) — відаць, самы яркі рамантык пачатку ХХ стагоддзя. Ён пачаў свой паэтычны шлях зборнікам «Нюйшэнь» («Багіні»). Багіні ў яго паэме сімвалізуюць народ, які падымаецца з каленяў, а фенікс у паэме «Нірвана фенікс» — радзіму, якая адраджацца для новага жыцця. У яго вершах адчувальны ўплыў Уітмена, матывы творчасці якога суседнічаюць з нацыянальнай класікай. Традыцыйныя вобразы ідуць поруч з новымі ўяўленнямі і новымі словамі, прыўзнятасць і патэтыка змяняюцца лірычнымі роздумамі.*

*Паэзія больш позняга перыяду — паэзія ваенных гадоў (1937—1945) — прадстаўлена ў чарговай падборцы вершамі Ай Ціна (1910—1996). Ай Цін аднолькава добра валодаў свабодным вершам, песняй, агітацыйным радком, разумеў душу селяніна і салдата, мацней за іншых выказаў сваю любоў да роднай зямлі.*

***Вераніка КАРЛЮКЕВІЧ,***
***намеснік дырэктара Рэспубліканскага інстытута***
***кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ.***

## У ЦЗАО
*(XIX ст.)*

* * *

Лістота.
Агонь ліхтара —
Цень знайшоў схоў.
Кветкі то знікнуць,
То бачныя зноў.
Рэкі, азёры
Ўсё ў думках маіх.
Але за дажджом
Ці пазнаю я іх?

* * *

Чую:
«Пагляньце,
Пакінуўшы сховы свае,
Месяц на кветкі
Зырка святлынь сваю лье!..»
О цішыня!
Голас ціня суціх.
Восені цень
На прыступках пустых.

* * *

Той жа ў прыцемках двор прада мной,
Дзе знайшла ноч прытулак і схоў.
На паперу кладзецца няўзнак
Чарада набалелых радкоў.

Той жа, з восені іншай, ліхтар,
І святло згаслых подаўна мар.

Спорны дождж шчэ з мінулай начы
Сучыць з хмарыва срэбную ніць.

І сягонняшняй ноччу ён зноў
Каля ганка няспынна шуміць.

На дасвецці ў садзе ў лісці
Будзе мройна шаптацца, як сон.
Як шкада, што бананавых дрэў
Тут, у садзе, замала здавён.

На ўвесь дом стракат-свіст цвыркуноў.
Хто палічыць, іх колькі тут зноў?

А за вокнамі гукі ўсю ноч,
І другія ўсю ноч за сцяной.
Як стамілі бразготай мяне,
Як нялёгка іх слухаць адной!

## ЦІНЬ, ЯКІ МНЕ ДАСТАЎСЯ АД СЕ ДЭШАНЯ

Ахутаны рэкі і горы
Пялёнкай імглістаю, як бывала,
Дзе кветкамі любавалася ўчора,
Дзе івалга калісь мне спявала.

Бачачы горы, цяжка ўздыхаю.
Храм адзіны закінуты перада мною.
Дзе вы, землі роднага краю,
Апаленыя вайною?

На мосце пра лёс свой гадаю,
Ды і Неба аб ім мне не скажа.
Бачу горад часцей я з гадамі,
Што на золку руінамі ляжа.

Напісала я верш сягоння,
Ды ён болем нясходным скуты!..
Каб учора сканала ў палоне,
Не займела б цяпер пакуты.

Дуцзюань над грудком хай рыдае,
З горла кроў пакуль не пральецца,
З тунга цінь няхай не змаўкае,
Песняй знанаю адгукнецца!

І пад гукі самотныя ціня
Думаць я да світання буду
Аб драконе, адважным сыне,
Што спачыў пад магільным грудам.

## ХУАН ЦЗУНЬСЯНЬ

*(1848—1905)*

### ПЕРШАЯ РАНІЦА 1900 ГОДА

Вітаючы ранак, зноў голасна певень прапеў.
Ад сонца і месяца далечы свету відны.
Дыск сонца праменіць, і месяц сысці не паспеў.
Ды нетры дрыжаць, і душою валодае гнеў:
Бо зноўку звіняць недалёка сякеры вайны.

Кітай — у абложы. Журбой пачынаецца год:
Ён з ношаю крочыць, няшчасці адно і нясе.
З вялікім спадзевам вітаем ягоны прыход,
Магчыма, старэчы, сустрэну я мір, як і ўсе.

А радасці гукі злятаюць з нябесных вышынь,
Ірдзяцца сузор'і пад купалам Храма Нябёс.
І неба сказала суладдзю — зямлю ты пакінь,
І шчасце не цешыць зямлі гарапашнае лёс.

Ужо дзевятнаццаць стагоддзяў пажару таму,
Што нішчыць хаціны, зямлю залівае крывёй.
Не знаю, што спыніць багіню вайны Сіванму,
І колькі стагоддзяў шчэ цешыцца бедамі ёй?!

### ДЗІКАЯ ГУСЬ

І цябе патрывожыў
        гук струны у сябрыне чужой,
У палёце сваім
        да майго ты прыстала парога.
Можа, тут, за марской,
        што сяброўства дзяліла, мяжой,
Мне пісьмо прынясеш
        ад далёкага сябра старога.

Сеткі ўсюды хавае
        падманная змрочная ціш.
Ні гнязда, ні прытулку
        да часу на гіблым балоце.
Прамільгнеш і, вярнуўшыся,
        зноў без супыну ляціш.
І каму запытаць,
        што ляціш ты заўжды ў адзіноце?

## ЦЮ ЦЗІНЬ

*(1875—1907)*

* * *

Самотнай раніцай ў пустым пакоі Се
Тварыла «Песню смутку і журботы».
Сцінаўся вецер. Дождж сек па страсе,
І кроплі аб карніз красалі ноты.

Не проста
Друга вернага знайсці.
Гады ляцяць так шпарка,
Як заўсёды,
І сівізне
На скронях расцвісці,
Віной —
Усе няўдачы і нягоды.

Баюся выліць
Сэрца скуты ўскрык:
Мне мроіцца
Зыход і вечар позні,
Маё жыццё —
Яно зайшло ў тупік,
І адзінота —
Мой прытул апошні.
Мне свет заўсёды толькі холад нёс,
Жанчынай быць — самотны самы лёс!

Я гавару сабе:
«Пара сказаць бывай!..»
Аднак куды
Мне суджана вярнуцца?
Гляджу ў той бок,
Дзе мой радзімы край,
Як раньш, ён спіць,
Не думае прачнуцца.

Прышэльцы
Прыніжаюць так яго,
І счэз нутром ён,
У пакутнай стоме,
Няма героя, —
Дзе шукаць таго,
Хто б змог
Навесці лад у нашым доме?!

О Неба,
Мы цяпер сляпцы, відаць,

Бо дзіўных рэк і гор
Не бачым добрым чынам, —
Няўжо, скажы,
Нам і далей трываць,
Каб варвары
Валодалі Айчынай,
Каб, гордая, канала спакваля
Ты, наша старажытная зямля?!

## ГО МОЖО
*(1892—1978)*

### ПРЭЛЮДЫЯ

Народнай вайны грымотны раскат,
Песня, гучы як прадвесне!
Заглушаны жэрлы варожых гармат
Гучнаю сілай песні.

Быць перамозе. Насустрач ідзём.
Рашучасць з'яднала роты.
Мы пад ударамі авіябомб
Вырвем прамень свабоды.

Народнай вайны грымотны раскат,
Песня, гучы як прадвесне!
Заглушаны жэрлы варожых гармат
Гучнаю сілай песні.

*Жнівень 1937. Шанхай*

### СЛАВА САВЕЦКАЙ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

Ты сказала гісторыі: «Мы — не рабы!»
    чвэрць стагоддзя таму між віхур і грамоў.
Спапяляла не раз сябе ў час барацьбы,
    ды, як фенікс, заўжды ўваскрасала наноў.

І душы тваёй полымна ўзнесены дух
    падзівіў чалавецтва багата разоў.
Гераізм у салдацкай душы не патух —
    да свабоды мільёны бясстрашна павёў.

Ленінград, Сталінград… Ты — надзейны заслон,
    як тытан, ты стаяла ў баях пад Масквой.
Сотні тысяч нацыстаў за Волгу і Дон
    не прадоўжылі рух больш захопніцкі свой.

Самалёты і танкі — трафеі баёў,
і палонныя — тысячы сумных калек.
Генералы, фельдмаршал і сотні байцоў,
ды цяпер анямела іх сіла навек.

Свет не бачыў ніколі падобных хімер:
ён, палонны, ад спуду ганебна дрыжаў,
Генерал паланёны, эсэсавец-звер,
не падобны на воіна, жабаю стаў.

Колькі ў гэтым іроніі. Гэта мацней,
чым «дыктатар» у Чапліна — прывід з кіно.
Так «вышэйшая раса» ў агні батарэй
аб сваёй «перавазе» забыла даўно.

У нябёсаў Германіі змрочлівы звод,
пахавальная музыка чэзне ўдавой.
Ўпершыню за дзясятак дыктатарскіх год
звар'яцелы яфрэйтар панік галавой.

Перамога твая гэта, горды народ,
і яна — перамога народаў зямлі.
У Чырвонае Арміі мужны паход,
каб свабоду і мір людзі ўсе здабылі.

Ды бандыты-нацысты паўсюд, як звяры,
адбіваюцца — чуюць пагібель яны,
Не пазбегнуць і нам горкіх страт да пары,
каб зламаць іх напор на пуціне вайны.

Касабланка, адзінага фронту паход, —
каб фашызм разграміць, — павярнуў на Усход.
Ужо зычыць святло перамогі зіма,
толькі фронту другога пакуль што няма!..

Ўся планета — гіганцкі тэатр вайны:
смерць з жыццём тут ваюе багата год.
Засціць вочы людзей толькі дым скразны, —
дзе ён — Азіі Захад, Еўропы Усход?

Калі хочам, каб слёзы ўдава не ліла,
не рыдалі над бацькам забітым сыны,
Дух Чырвонае Арміі — пошуг святла —
хай, як мужнасці прыклад, успрымуць яны.

Віншаванняў жывыя гучаць галасы:
на спагаду людскую наш свет не нямы.
Ў сорак трэцім свае Хуанхэ і Янцзы —
паклянёмся! — ад ворага вызвалім мы!

Перамогі ўваскрэсне няскораны дух,
і Шанхай, і Нінкан заспяваюць удвух.
І праз мора іх спеў панясецца у даль,
супакоіцца наступ пагрозлівы хваль.

Чвэрць стагоддзя назад лёсу новага ход
распачаты — няма прыгажэйшае з дат.
За Айчыну сваю, за збалелы народ
кроў гарачую зноў пралівае салдат.

Крушыш, Армія, зграі звяроў-чужаніц,
ты, як прыклад адвагі, для змоглых зямлян.
Перад духам тваім мы схіляемся ніц,
справядлівасці воін, свабоды тытан!

*1942., у Дзень Чырвонай Арміі*

## ЧЖУ СЯН
*(1904—1933)*

### СЛОВА

Для жанчыны, быць з якой хачу,
Хаваю у душы нямала слоў…
Я ўсё жыццё на іх агонь ішоў,
І, сцяўшы вусны, мо таму маўчу.

### ПОШУКІ

Палац! Душу на пошук акрылю.
Шукаю з першых дзён яго заўсёды.
У цемрыве зноў свечку запалю, —
Ды толькі будуць марнымі паходы,
Фальшывы дасканалы чалавек!

Ты паспрабуй у пекла зазірнуць:
Смала, катлы, пакутныя трызненні.
Там душы грэшных: іх не абмінуць, —
Яны усё-ткі лепей мелкай дрэні,
Фальшывы дасканалы чалавек!

### САНЕТ

Без угнаенняў дрэву не салодка,
Без гною не ўзбуяе ворны клін,
Ў цудоўным краі, дзе жыве паўлін,
Палі панішчыць грозіцца паводка.

Відаць, няма празрыстых вадаспадаў,
Тайшань нясе ў душы нямала зла;
Калі б наўсцяж пылюка не плыла,
Дык не было б ясноты даляглядаў.

Свет без кахання быў бы ўжо на зводзе,
І без культуры ён даўно б памёр, —
Калі б там продкі доўгія стагоддзі
Не курчыліся ў цемрыве пячор.

Паэт, магчыма, гэтак жа б маўчаў,
Каб свет увесь ад болю не крычаў.

## АЙ ЦІН

*(1910—1996)*

### СЛОВА СОНЦА

Расчыніце насцеж вокны,
Адчыніце вашы дзверы —
Хай загляну, хай пранікну
Ў вашы цесныя пакоі…
Кветак ранішніх букеты прынясу вам,
Водар стоенага лесу прынясу вам,
Прынясу вам рос сцюдзёных — чуйце свежасць,
Ды прачніцеся хутчэй жа, сон зганіце,
Ад падушкі адарвіцеся, не спіце,
Прыадкрыйце нерухомыя павекі,
Каб убачыць мой прыход благаслаўлены.
Сэрцы хай, як вашы цесныя пакоі,
Парасчыняць пазачыненыя дзверы,
Хай цяпло, святло, букетаў пахкасць
І раса напоўняць сэрцы вашы!

*14 студзеня 1942 года*

### ХЛОПЧЫК КОСІЦЬ ТРАВУ

Падпалены стэп барвай агністага заходу,
Касар, яшчэ падлетак, траву бясшумна косіць.
Сагне худую спіну і косіць як папала,
То побач зрэжа травы, то раптам зменіць месца…

Ужо трава хлапчыну ад позіркаў схавала,
Ў густой траве духмянай аднак я заўважаю:
З бамбуку ўжо кашолка травы духмянай поўна,
Каса пад барвай неба, як золата, бліскоча…

*1940 год*

## ВУЛІЦА

…І я на гэтай вуліцы бываў:
Тут ёсць ратоўчы бежанцаў прывал.
Цяжарная жанчына, дзед сівы…
Мяшанка разнамоўя, крык дзятвы…

Тут кожны дзень пакутны і цяжкі,
Вязуць сюды людзей грузавікі,
Бяздомны люд, галас жывой чаргі,
Салдаты без рукі ці без нагі.

Над вуліцай вайны суровы зык:
Латкоў, харчэўняў, лавак доўгі лік,
Дом, што насупраць, — сёння ўжо шпіталь,
І магазін — гасцініца амаль.

Аднойчы ў нас ўпілося сотні джал,
І гарадок ад болю задрыжаў,
Крывавай тая раніца была…
Згарэла наша вуліца датла…

Зірні! На доме віхрам знесла дах,
І сцены — крыл абвугленых размах,
Калодзеж, быццам рот, каўтае хлуд,
Чарнеча кроквяў — смерць бытуе тут.

Аслеплі людзі ад бяды такой.
Куды падацца, дзе шукаць спакой?
Ды вось суседку даўнюю сваю
Ў прахожай выпадкова пазнаю.

Яна, рукой махнуўшы мне здалёк,
Упэўнена ступае — лёгкі крок.
Маю суседку шлях вядзе адзіны —
Ў вайсковай форме крочыць па руінах.

*Вясна, 1939 год*

## СЯЛЯНЕ

Народжаны зямлёй,
На тварах — водсвет зямлі,
Ваша дыханне — дыханне зямлі;
Вялізныя рукі, грубыя, як па́лі,

Ногі ступаюць важка,
Быццам зямлю працялі карэннем.

Вы засмучоныя, як зямля,
І як зямля, маўчуны,
Упартыя і нескароныя,
Як гэта зямля.

Жывяце вы і араце,
Нябожчыкаў з сумам аддаяце зямлі.
І толькі вы адны здатны
Зямлю любіць па-сапраўднаму.

*1940 год*

## СТРАЧАНЫ ЧАС

Гэта не пакінутыя рэчы:
Іх бюро знаходак нам вяртае;
Час нам не вярнуць, як тыя рэчы, —
Невядома, дзе яго губляюць;
Па драбніцах, што драбней гароху,
Ці адразу — дзесяць год ці дваццаць —
Цэлая губляецца эпоха,
Ў горадзе, што не акінеш зрокам,
Ў пусташы, бязлюднай і далёкай,
На вакзалах, дзе б хацеў схавацца,
А падчас — бліз лямпы адзінокай,
Што жадае чадам упівацца.
Ведаю дакладна: часу страта
Не падобна на шматок паперы, —
На ваду хутчэй, што зухавата
На пяску пазнак не пакідае.
Вадкае віруючае цела —
Гэткім час імклівы уяўляю;
Сеткамі час страчаны не ловяць,
Рэшата дарэмна падстаўляюць.
(Час, не здатны ён стаць цвёрдым целам,
Час падчас бывае скамянелым,
Ён парой — ні добры і ні злосны —
У пластах пакіне след адносны.)
А яшчэ час параўнаю з газам,
З дымам над імклівым паравозам.
Сябра мне ён смутна нагадае:
Дзе ён у далечы прападае?
Ды прыходзіць вестка скрушным шквалам:
На зямлі даўно яго не стала.

*22 жніўня 1979 года,*
*Харбін*

## БЯНЬ ЧЖЫЛІНЬ
*(1910—2000)*

### ДОЎГАЕ — ГЭТА...

Доўгае — гэта косыя збляклыя цені:
Дрэва ссохлага цень адзін,
Дзеда крывуль над посахам,
Цень якога гэткі ж даўгі;
Цень на чырвонай сцяне на заходзе,
Доўгай сцяне, а над ёй —
Блакітнае доўгае неба,
Якога няма даўжэй.
Верыцца мне: дзень зімовы і шлях
Дзед адчувае, як нітку даўгую.
Бачыш, я падступіўся бліжэй,
Нам варта было б паразмаўляць.

Мы двое маўчым, і брыдуць па дарозе
Маўклівыя людзі і бязмоўныя цені.

### ПЫЛ, ЯКІ ГУЧЫЦЬ

Госць у вопратцы хакі націс на званок,
Ён на сэрца таго, хто жыве ў гэтым доме, націс.
Вырай шэрых гусей апусціўся уніз?
Або рыба аж з Жоўтага мора сюды прыплыла?
«Ты на карту зірні», — разгарнуў сябар карты абрыс,
І пазнаў я, куды сцежка лёсу мяне прывяла:
Проста чорная кропка мільгнула кароткім штрыхом.

Ды не будзь яна чорнай, будзь яна у яго залатой,
Не сядзеў бы я тут, на вяршыні Тайшаньскай гары,
Я б у месячным бляску прытул адзінокі знайшоў,
І паўстанак у стэпе, дзе рэдка гудуць цягнікі.
Я задумаўся раптам над рухам стагоддзяў былых,
На дарогу гляджу: на Сяньян прад вачмі шлях стары,
І нібыта ў цішы чую цокат імклівы капат.

*26 кастрычніка*

### СЭРЦА СТАРАЖЫТНАГА ГОРАДА

Ты чуеш, як гучыць уласны крок,
А восьмай шчэ маўкліва спіць базар
(Ён лічыцца сэрцам старажытнага горада).

Нічога нязвычнага, што крамнік тут дрэмле,
Нават лямпачкі электрычныя нейк пацьмянелі.

Ужо не вабіць спакусніц
Фірмаў такійскіх, майстэрняў шанхайскіх
На паліцах пабляклы тавар.

Гэтак можа падумаць чужак, заблукалы сюды…

Ды пачуўся дробны барабанны пошчак,
Як сэрца біццё гэтага старажытнага горада.

*27 кастрычніка, Баодзін*

## ЦІШЫНЯ

Хлапчук вясковы цішыні баіцца,
Цвыркуна дамоў прынёс, з ім спакойна спіцца.
А калі ўжо вусы вырасціў сам горда,
То гадзіннік са святлом ён набыў у горадзе.
У дзяцінстве ён зайздросціў траве на магіле,
Цвыркуны там стракаталі гучна ў дня на схіле.
Ён памёр раптоўна ўчора — маці сын адзіны,
А гадзіннік свеціцца, цікае гадзіннік.

***Пераклад з кітайскай Міколы МЯТЛІЦКАГА.***

Марына ЛЕБЕДЗЕВА

# «ВЯЧЭРНЯЕ» ЯНКІ БРЫЛЯ ЯК УВАСАБЛЕННЕ СПАВЯДАЛЬНАГА ЖАНРУ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ МЯЖЫ XX—XXI СТАГОДДЗЯЎ

Развіццё мастацкай сістэмы мадэрнізму напачатку XX стагоддзя абумовіла фарміраванне цэлага шэрагу эстэтычных прынцыпаў, якія застаюцца актуальнымі ў творчай практыцы прадстаўнікоў розных мастацкіх сістэм — рэалізму, мадэрнізму, постмадэрнізму, пострэалізму (у іх узаемасуадноснасці) — не толькі на працягу XX стагоддзя, але і на мяжы яго. У аснове мадэрнісцкай эстэтыкі — прыярытэт рэфлексіўнага спосабу адлюстравання духоўнага быцця асобы і апасродкаваных ёю рэалій навакольнай рэчаіснасці. З гэтым наўпрост звязана актуалізацыя феномена індывідуальна-аўтарскай свядомасці як эстэтычнай дамінанты творчасці. Адлюстраванне асобы ва ўсёй супярэчлівасці яе экзістэнцыяльных станаў прыводзіць творцаў да пошуку новых жанравых форм, адэкватных эстэтычнай неабходнасці ўводу ў літаратурны твор рэальных праяў «жыцця душы». Такім чынам, заканамерна сумяшчэнне дакументальнага з мастацкім у межах літаратурнай цэласнасці тэксту, што адкрывае новыя магчымасці для развіцця мастацкай прозы.

Рэаліст па творчым метадзе, Янка Брыль у сваіх празаічных лірычных творах, напісаных на мяжы XX—XXI стагоддзяў, не пазбаўлены мадэрнісцкіх уплываў і імкнецца да такой мастацкай мадэлі, паводле якой рэальнае жыццё не «мадэлюецца», а «працягваецца» ў літаратурным творы за кошт роздумаў, філасофскіх меркаванняў, успамінаў, фіксацыі імгненняў быцця. У адным з фрагментаў «Вячэрняга» (1985—1992) знаходзім доказ прынцыповасці такой эстэтычнай пазіцыі пісьменніка: «У вас тут проза ці ўспаміны?» Такое пытанне паэтычнай рэдактаркі і здзівіла мяне, і здалося крыўдным. Бо цану ўспамінам, **як прозе**, я чым далей, то больш упэўнена спасцігаю. Тая проза, якой у нас, на жаль, на сум ды раздражненне гэтак мала — побач з вялай ды прыблізнай белетрыстыкай, што не можа ўдосталь нагаварыцца» (*вылучана аўтарам твора.* — **М. Л.**) [1, с. 176]. З пункту гледжання аўтара сапраўдная проза ідзе ад сэрца, увасабляе не «прыдуманую», а рэальную карціну жыцця — свайго асабістага, родных і блізкіх, сяброў і знаёмых, вёскі і горада, краіны і свету — праз успаміны, меркаванні, роздум, праз вялікую работу душы.

Эстэтычная аснова твора Я. Брыля «Вячэрняе» найбольш дакладна вызначаецца творчым крэда самога аўтара: «Пісаць тое, што хочацца самому» [1, с. 186], пад якім, як бачым, маецца на ўвазе мастацкая фіксацыя і асэнсаванне імгненняў жыцця, асацыяцый і ўспамінаў; публіцыстычнае асвятленне хвалюючых праблем сучаснасці і культуры; філасофскае спасціжэнне кантрасту «знешняга і глыбіннага» [1, с. 197]. Я. Брыль канцэнтруецца на праблемах духоўнасці, і вынікам аўтарскай рэфлексіі з’яўляецца спавядальная танальнасць і глыбіня філасофскага зместу «Вячэрняга».

У семантыцы назвы твора — «Вячэрняе» — змяшчаецца намёк на спакой, цішыню і магчымасць паглыбіцца ў сябе. Субстантываваны прыметнік у назве, ужыты ў форме ніякага роду, толькі намякае на аб’ект як на стан, які спрыяе зараджэнню і праходжанню «адасобленых» або «вячэрніх» думак пра вечнае і часовае, аб невыказнай «праўдзе жыцця». Твор складаецца з лірычных мініяцюр,

мемуарных замалёвак, афарызмаў, філасофскіх разважанняў, сцэн з жыцця, сведкам ці ўдзельнікам якіх быў пісьменнік.

Жанр так званых «кароткіх фрагментаў» (вызначэнне М. Харытонава) на момант мяжы XX—XXI стагоддзяў усведамляецца як прадуктыўны ў літаратуры наогул, бо дазваляе сумяшчаць у межах мастацкай цэласнасці тое, што на першы погляд бачыцца несумяшчальным і не зусім мастацкім — філасофскае, публіцыстычнае, літаратурнае, дакументальнае. Але менавіта такі структурна-змястоўны кангламерат найбольш адэкватна перадае супярэчлівую карціну «жыцця душы», зменлівых экзістэнцый, канцэпцыю асобы. Імкненне сказаць сапраўднае, праўдзівае слова вызначае паэтыку «Вячэрняга». Менавіта таму жыццё чалавека «як яно ёсць», адноўленае праз лірыка-філасофскія разважанні пра час і пра сябе, успаміны пра дзяцінства, замалёўкі з прыватнага жыцця, разважанні пра творчасць, літаратуру і прызначэнне пісьменніка, складае мастацкую тканіну твора.

Тут асобнае месца займае аўтарская аўтарэфлексія, аб чым сведчыць, напрыклад, наступны фрагмент «Вячэрняга»: «Амаль кожную раніцу прачынаюся з нейкім новым, можна сказаць, болем. Яшчэ ***штосьці нібыта само па сабе згадаецца***, нейкі промах ці грэх, ***і пачынаеш разглядаць яго буйным планам, з самай павышанай ды паглыбленай пільнасцю***… І навошта гэта патрэбна? Ці не адгэтуль ідуць яны — рай, пекла, чысцілішча? Царкоўная ***споведзь***, патрэба ў ёй, хоць і не на ўсю шчырасць, — ёю ж і сёння карыстаюцца. Хто верыць. А нам нічога не падыходзіць, адно толькі ***самаедства***» (*вылучана намі.* — **М. Л.**) [1, с. 150]. Споведзь рэлігійнага чалавека атаясамліваецца з самаедствам асобы, пазбаўленай рэлігійных каранёў, што не страціла веры ў вышэйшыя каштоўнасці і таму прагне ісціны. Менавіта такі вобраз аўтара — высакароднага чалавека, які прагне ісціны — складаецца ў творы.

У матыўнай структуры «Вячэрняга» актуалізуюцца семантычныя апазіцыі любові і пакуты, жыцця і смерці. Першы «фрагмент» твора ўяўляе сабой напоўнены журботным лірызмам апавяданне-ўспамін пра памерлага сябра-настаўніка: «Памёр Алесь Руляк, мой даўні сябар па кнігах. Праз паўгода наведаўшы яго самотную ўдаву, знаёмлюся з тым, што засталося ад яго архіва, перабіраю змесціва старога чамадана. <…>» [1, с. 144]. Разбіраючы архіўныя матэрыялы, апавядальнік (у адпаведнасці з абраным спавядальным жанрам размова ў «Вячэрнім» вядзецца ад першай асобы) выклікае ў сабе асацыяцыі з дзяцінства, светлыя ўспаміны пра родныя мясціны, школьных сяброў, у якія ўразаецца трагічная рэальнасць лёсаў шматлікіх з іх.

Суб'ектыўнае перажыванне непазбежна праходзіць буйным планам у апавядальнай арганізацыі фрагмента. У наступным запісе яно звязанае з чымсьці нязробленым, упушчаным у хуткаплыннасці жыцця: «Не толькі ў мяне гэта — жаль, што нечага не зрабіў, у час не спытаўся ў кагосьці, не схадзіў, не паехаў, не напісаў… Бездапаможны жаль і непазбежны!…» [1, с. 147]. Шматкроп'е графічна передае паўзы-ўздыхі апавядальніка, надаючы ўсяму фрагменту адценне жывой прысутнасці аўтара. Апошняе наогул характэрна для спецыфікі жанру «Вячэрняга». І таму невыпадкова ў адным з фрагментаў знаходзім: «Знаёмая з тых дзён <…> сказала мне цераз стол, што даўно ўжо купіла кнігу маіх мініяцюр ***і часта па іх гаварыла са мною***» (*вылучана намі.* — **М. Л.**) [1, с. 167—168].Устаноўка на вусную мову, закладзеная ў суб'ектнай арганізаванасці твора, фіксацыя ўнутранага жыцця, назіранне за знешняй рэчаіснасцю ва ўсёй разнастайнасці яе праяў і імкненне сказаць «жывое слова» — усё гэта паказвае на спавядальнасць і прыватнасць тону так званай размовы аўтара з патэнцыяльным чытачом.

Экзістэнцыяльная праблематыка, звязаная з асэнсаваннем супрацьпастаўлення жыцця і смерці, раскрываецца ў вобразнай форме ў шматлікіх фрагментах «Вячэрняга». Так, адным з галоўных сімвалаў жыцця ў мастацкім свеце Я. Брыля выступае агонь: «Немаўля, зачараванае агеньчыкам свечкі, хоча ўхапіцца маленькай рукой за гэты цуд. І апякаецца, і плача ў горкай нечаканасці крыўды.

**Пачатак**. Трымацца за грамніцу, бачыць яе агонь — можа, ад гэтага і лягчэй. **У канцы**» (*вылучана аўтарам твора.* — **М. Л.**) [1, с. 197]. Характэрна, што і меркаванні пра культуру народа, якая непарыўна звязана з жыццём, з'яўляецца складовай часткай жыцця, актуалізуюць сімвал агню: «Агонь трэба несці!» [1, с. 201]. У сваю чаргу тэма народнай культуры на працягу твора перацякае ў разважанні пра сябе (прыватнае) і сваю еднасць з народам, з людзьмі сваёй краіны (агульназначнае): «Часам здаецца, што ніколі раней так, як цяпер, не адчуваў сябе толькі часцінкай народа, які не толькі быў і далей будзе без мяне, але сёння без мяне абыдзецца, і ў маіх гэта, як гаворыцца, інтарэсах, дый перш за ўсё — далучыць і свае магчымасці да яго стваральнай працы» [1, с. 175 — 176].

Важную ролю ў «Вячэрнім» адыгрывае філасофскае суаднесенне «вечнае» — «часовае», якое, апроч асноўнай семантычнай нагрузкі, ставарае эмацыянальны, лірычны настрой: «Часовасць, часовасць — на фоне вечнасці. Дзеці, якія жывуць, растуць, а некаторыя, што асабліва страшна, без пары паміраюць або, яшчэ страшней, знішчаюцца дарослымі… Бог мой, як гэта важна — бачыць такое ў параўнанні з вечным, з тым, што патрэбна, што важней за ўсё!.. Жыцця не хопіць, каб выказацца найлепш» [1, с. 170]. У кантэксце гэтага філасофскага разважання актуалізуецца тэма супрацьлегласці «вечнасці» і «імгнення», іх складанай суадносці паміж сабою. І ў наступным жа фрагменце гэта канкрэтызуецца з дапамогай асэнсавання праблем гуманізму і драматычных патрабаванняў сучаснасці: «Седзячы з ім, гладзячы па галоўцы, гледзячы ў чорныя вочы, адчуўшы вуснамі святасць яго нявіннасці, да болю жыва ўявіў, як гэта выгадаваць такога, а потым атрымаць з Афганістана, а перад ім з Чэхаславакіі цынкавую труну, праз акенца якое ўбачаць — не ўбачаць тое, што засталося ад сына, ад унука… І гэта — наша рэчаіснасць, цераз усё гэта трэба і светла думаць, і ўпарта спадзявацца лепшага. Ужо восьмы год…» [1, с. 170].

Прыватнае і агульначалавечае спалучаецца ў непазбежна-непрадказальным ходзе жыцця. Гуманістычная пазіцыя аўтара, які не дэкларуе сваю сістэму каштоўнасцей, а ўводзіць яе ў твор з дапамогай адбору і эстэтычнага асваення менавіта такіх з'яў прыватнага жыцця, менавіта такіх суб'ектыўных перажыванняў і пачуццяў, з'яўляецца зразумелым, блізкім і адэкватным чытацкаму ўспрыманню. Пры гэтым і сам Я. Брыль асэнсоўвае ўзаемасувязь «аўтар» — «твор» — «чытач»: «Для каго пішаш?... Цяжка ўяўляць так званага шырокага чытача, тым больш беларускага, яшчэ тым больш — будучага. Пішаш, спадзеючыся, што ён будзе, верачы ў гэта, пішаш па абавязку, з адчуваннем яго, ледзь не інстынктыўным» [1, с. 200]. Наступны ж фрагмент актуалізуе спавядальную інтанацыю і адначасова — сцвярджэнне аўтарскага крэда: «Каб не згубіцца, не разгубіцца ў процьме таго, што ўжо сказана, і паўторана, і зноў паўторана, трэба трымацца аднаго: я гэта бачыў сам, гэта чуў з першых вуснаў, ад таго, каму веру, гэта я думаў, адчуваў — я сам, і толькі гэта хачу, магу, павінен расказаць» [1, с. 200].

Фёдар Янкоўскі падкрэслівае, што «дасведчаны чытач адразу распазнае па адным ці некалькіх абзацах: гэта — Брылёва» [3, с. 316]. Абраны жанр, спецыфіка якога звязана з фрагментарнасцю кампазіцыі, архітэктонікі тэксту, а таксама з аўтарскай устаноўкай на працяг жыцця «я» ў творы, прадугледжвае яднанне апавядальніка з чытачом. Аўтабіяграфічная аснова «Вячэрняга», лірычная танальнасць і агульначалавечая праблематыка далучаюць чытача да той шчырасці і, адначасова, патаемнасці сказанага, якая і складае мастацкі свет напісанага. Слова «для сябе» аказваецца вызначальным у паэтыцы «Вячэрняга» і ў кантэксце ўсяго супрацьпастаўляецца неабходнасці ісці на саступкі для друку. Пісьменнік імкнецца духоўна рэалізавацца ў творы як у «асабістым дакуменце» (вызначэнне М. Бахціна), сказаць «сваё», суб'ектыўна, адкрыта, сцвярджаючы такім чынам «моц і вечнасць сапраўднага слова» [1, с. 227], таму што «так уражвае слова, якое ідзе ад жыцця, ад належнага бачання» [1, с. 183].

Як адзначае Ніл Гілевіч, «калі ў літаратурна-мастацкім аспекце лірычная проза Янкі Брыля вызначаецца суб'ектыўным планам апавядання (павышаная ўвага да патоку перажыванняў, пачуццяў, разважанняў, успамінаў, асацыяцый; неабыякавасць храналагічнай кампазіцыі, сюжэтнай паслядоўнасці), то ў лінгвастылістычным — яна мае ярка выяўлены эмацыянальна-ацэначны, паэтычны пачатак» [2, с. 38—39]. І гэта невыпадкова: Я. Брыль паказвае сябе празаікам, вельмі чулым да паэзіі (згадваюцца фрагменты «Вячэрняга», прысвечаныя беларускай фальклорнай паэзіі, творчасці беларускіх, рускіх і замежных паэтаў). Паэтычнае бачанне свету ўваходзіць у празаічную грунтоўнасць слова Я. Брыля, і ствараецца асаблівая стылістыка яго твораў.

Спецыфіка паэтыка-стылістычнай арганізацыі «Вячэрняга» абумоўлена перш за ўсё пільнай увагай пісьменніка да жывога паэтычнага слова і, што асабліва важна, роднага слова. Духоўнае самавызначэнне ў кантэксце вострых праблем сучаснасці асэнсоўваецца з дапамогай аналізу драматычных старонак нацыянальнай гісторыі. Важна, што гэтае асэнсаванне робіцца з асабістых каштоўнасных пазіцый аўтара. Фіксацыя «жыцця душы» з'яўляецца адзіна прымальным спосабам спасціжэння гісторыі, культуры і «мімалётнасці» бягучага моманту.

Глыбінны сэнс і прызначэнне творчасці ўсведамляецца Я. Брылём у «Вячэрнім» як магчымасць «сказаць сэрцам»: «Пісанае для сябе» нясе яшчэ і такую прыемнасць: міжволі, як быццам з боку заўважаеш, пішучы, як узнікае патрэба ў належным слове і слова тое з'яўляецца, нібы само па сабе, з таго запасу, што папаўняецца на працягу многіх гадоў пажыццёвай вучобы. Прыемны працэс, ажно нагадвае ціхенькае, шчаслівае вуркатанне свежай скібы, калі ты ішоў за плугам у баразне, босы на хлебадайнай зямлі…» [1, с. 229]. У кантэксце гэтых меркаванняў асаблівую актуальнасць набывае тэма «слова для сябе» і «дзеля друку».

Праз колькі фрагментаў ад гэтага запісу знаходзім: «Пісаць так, як я пісаў на самым пачатку і як пішу цяпер, — што хачу і як хачу, — добра гэта, прыемна, лепш сказаць: радасна. Юнаком я хацеў друкавацца, хвалююча марыў пра гэта, а цяпер, як ні дзіўна бывае самому, з гэтым спяшацца не цягне. Хоць, калі ўжо зусім шчыра, бывае і сумна. Нібыта я адбываю пакаянне за тое, што шмат друкаваўся, ідучы на кампрамісы, пішучы не заўсёды зусім па-свойму» [1, с. 189]. Ганарыстасць юнацтва (і звязаная з гэтым непазбежнасць кампрамісу з абставінамі) супрацьпастаўляецца грунтоўнасці і праўдзівасці сталасці.

У адным з фрагментаў «Вячэрняга» Я. Брыль звяртае ўвагу чытача да асобы рускага пісьменніка М. Прышвіна, дзённікі якога былі апублікаваны толькі напрыканцы 1980-х гадоў: «Прышвін, 1930 год». А друкуецца гэта праз … пяцьдзесят дзевяць гадоў. Вось на што асуджаешся, пішучы «для сябе». І застаешся сучасным. Калі пішаш праўду» [1, с. 188].

Янка Брыль падкрэслівае пастаянную значымасць, веліч праўдзівага слова, вечную каштоўнасць ісціны. Своеасаблівым духоўным запаветам пісьменніка гучаць радкі апошняга фрагмента «Вячэрняга»: «Абжытасць новага жылля не толькі ў тым, што мы тут ужо спім, ямо, працуем. Учора, праходзячы каля паштовых скрынак у нашым пад'ездзе, прыемна падумалася, што наша ўжо тым часам сагрэта пісьмамі добрых людзей, — ад яшчэ незвычайнага ў вымаўленні Санкт-Пецярбурга да Кіева, Краснадара, Лодзі, Прагі… а найбольш Беларусі і Мінска» [1, с. 233]. Новае жыццё, як і новы дом, неабходна будаваць на аснове шчырасці, чалавечнасці і дабрыні, і гэтая ідэя абагульняе філасофскія вынаходкі, зробленыя Я. Брылём у «Вячэрнім». Спавядальнасць жа мяркуецца як галоўны эстэтычны прынцып пісьменніка, а фрагментарная форма дазваляе сумяшчаць у рамках твора элементы рознай жанравай і родавай прыналежнасці; спалучаць у рамках мастацкага цэлага элементы дакументальнага, філасофскага, публіцыстычнага аповеда. І такім чынам раскрываць праз мастацкую карціну свету самае асабістае і патаемнае — жыццё душы.

## Спіс літаратуры:

1. Брыль, Я. Вячэрняе / Я. Брыль // Вячэрняе: Лірычныя запісы і мініяцюры. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — С. 144—234.

2. Гілевіч, Н. С. Стылістыка слова ў творах Я. Брыля / Н. С. Гілевіч // Пісьменнік — мова — стыль. Тэз. дакл. і паведамл. міжнар. навук. канф., прысвеч. 70-годдзю з дня нарадж. праф. Л. М. Шакуна, Мінск, 17—19 верас. 1996 г. — Мінск, 1996. — С. 38—40.

3. Янкоўскі, Ф. М. Радасць і боль: Апавяданні, навелы, мініяцюры // Ф. М. Янкоўскі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1995. — 476 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 7 верасня 2012 года.

**Марына Лебедзева**

### «Вячэрняе» Янкі Брыля як увасабленне спавядальнага жанру ў беларускай літаратуры мяжы XX—XXI стагоддзяў»

### Рэзюмэ

Артыкул прысвечаны аналізу паэтыкі і стылю твора Янкі Брыля «Вячэрняе» з пункту гледжання своеасаблівасці жанру. Характэрныя рысы жанру «Вячэрняга» абумоўліваюцца аўтарскай устаноўкай на спавядальнасць, суб’ектыўнасць, лірычную танальнасць. Вядучы жанравы фактар — сумяшчэнне мастацкага, філасофскага і публіцыстычнага ў рамках цэласнасці твора. Менавіта такі спосаб пісьма аказваецца найбольш адэкватным эстэтычным прынцыпам і канцэпцыі асобы аўтара.

**Maryna Lebedzeva**

### Yanka Bryl’s «Viacherniaye» as the Embodiment of the Confessional Prose of Belarusian Literature at the Turn of XX—XXI centuries

### Summary

The article analyses the poetics and style of Yanka Bryl’s «Viacherniaye» in the context of the specific genre. The genre attributes of «Viacherniaye» result from the author’s confessionary, subjective and lyrical set.

The main genre-making factor is the combination of the artistic, philosophic and publicistic approaches within the work’s integrity.

This way of writing is the most corresponding to the author’s aesthetic principles and personality.

Іван САВЕРЧАНКА

# ГЕНІЙ НАЦЫІ



Якуб Колас (*Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч*) (1882—1956) — фенаменальная з'ява нацыянальнай літаратуры і культуры, філасофіі і эстэтыкі. Творчае сталенне пісьменніка-інтэлектуала адбывалася на пачатку XX ст., калі гальванізаваліся працэсы фарміравання беларускай нацыі, актывізаваліся духоўныя і творчыя сілы народа. Розумам і сэрцам Я. Колас адчуваў патрэбы часу, актыўна рэагаваў на сацыяльныя змены і бягучыя палітычныя падзеі, мастацкім словам абуджаў памкненні да лепшага, усталявання дабрыні, гуманізму і грамадскага паразумення.

Літаратурны талент майстра слова фарміраваўся пад уздзеяннем вуснай народнай творчасці, беларускай літаратуры XIX ст., твораў Ф. Багушэвіча і В. Дуніна-Марцінкевіча, польскай, рускай і сусветнай класікі. Геній Я. Коласа бліскуча выявіўся ў галіне паэзіі, прозы, публіцыстыкі і мастацкага перакладу.

Творчы шлях пісьменніка пачаўся ў 1906 г. з публікацыі праграмнага паэтычнага твора «Наш родны край». Праз чатыры гады з'явіўся першы паэтычны зборнік «Песні жальбы» (1910), у якім ужо выразна акрэслілася місія пісьменніка — распавядаць пра Радзіму, мастацкім словам служыць свайму народу, выяўляць і раскрываць адвечныя мары і памкненні беларускай нацыі.

З 1911 г. Я. Колас распачаў працу над вершаванай эпапеяй «Новая зямля», над якой ён працаваў да 1923 г. Твор стаўся сапраўднай мастацкай энцыклапедыяй жыцця беларускага народа.

Каля 1911 г. з'явілася задума паэтычнага шэдэўра «Сымон-музыка». Твор зазнаў тры аўтарскія рэдакцыі: першае выданне з'явілася ў 1918 г., другое ў 1923—24 гг., а апошняя рэдакцыя — у 1924—25 гг., якія красамоўна сведчаць пра складаныя ідэйна-эстэтычныя пошукі паэта, яго светапоглядную эвалюцыю.

У галіне прозы Я. Колас паспрабаваў свае сілы ў першае дзесяцігоддзе XX ст. Першая празаічная праца пісьменніка «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» пабачыла свет у 1909 г. У зборніку дамінавалі высокамастацкія замалёўкі прыроды — вясны і лета, восені і асенніх ясных дзён, зімы і зімніх халадоў, мяцеліцы, навальніцы, дуба-асілка, ручая, летняга поўдня, разліву Нёмана, летняй раніцы ў вёсцы, летняй ночы, сушы, ляснога пажару, заходу сонца, адлёту птушак, а таксама маляўнічага народнага свята куцці.

Вельмі адметная малая проза Я. Коласа — апавяданні, аповесці, навелы. Высокім мастацкім узроўнем вызначаюцца апавяданні: «Соцкі падвёў», «Бунт», «Нёманаў дар», «Малады дубок», «Стары канакрад», «Крывы вір», «Пракурор», «Адукацыя», «Туды на Нёман», «У двары пана Тарбецкага», «Хатка над балоткам», «На святой зямлі». У іх пісьменнік стварыў мноства яркіх вобразаў, праўдзіва і рэалістычна паказаў разнастайныя аспекты сацыяльнага і грамадскага жыцця.

Найвышэйшым мастацкім дасягненнем Я. Коласа на ніве прозы з’яўляюцца «Казкі жыцця» (1907—1921). Яны ўключаюць 33 сімваліка-алегарычныя навелы, у якіх пісьменнік-інтэлектуал узняў ключавыя сацыяльна-філасофскія і маральна-этычныя праблемы.

Галоўны празаічны эпічны твор Я. Коласа — трылогія «На ростанях» (1921—1954), у якой аб’ектыўна прасочаны лёс беларускага народа ў першай палове XX ст.

Значную каштоўнасць уяўляе публіцыстычная спадчына пісьменніка. На старонках публіцыстычных твораў Я. Колас уздымае актуальныя грамадскія праблемы, пытанні развіцця нацыянальнай культуры і адукацыі. У допісе «Манаполька жыве» (каля 1914) выкрывае п’янства, якое запанавала на вёсцы і стала сапраўдным сацыяльным бедствам.

Асноўныя тэмы творчасці Я. Коласа — нацыянальнае вызваленне беларускага народа, усталяванне сацыяльнай справядлівасці і грамадзянскай роўнасці, годнае існаванне чалавека працы, развіццё краіны і дзяржавы.

Ягоныя раннія творы палітычна заангажаваныя. Мастацкае слова скіравана супраць царскага самаўладдзя, нялюдскай і крыважэрнай імперскай палітыкі расійскіх манархаў. У вершы «Мікалаю II», напісаным з нагоды разгону Думы, паэт выкрывае хлуслівую і антынародную палітыку цара, які кіруецца не клопатам пра народ і яго дабрабыт, а толькі ўласнымі непамернымі ўладнымі амбіцыямі. Я. Колас з сарказмам і гневам ускліквае:

Да чаго ж мы дажыліся!
Эх, падвёў ты нас, царок!
Каб табе даў Бог на старасць
Лапці, торбу і кіёк.

Ані хлеба, ані солі,
Ні купіць нам, не прадаць…
Эх, не вер цару ніколі —
Хоча зноў нас ашукаць.

У вершы «Вобраз самаўладдзя» Я. Колас выступае як духоўны лідар нацыянальна-вызвольнага руху беларускага народа, адкрыты змагар з царскім паліцэйскім рэжымам:

Куды ні глянь — адно і тое:
Усюды стрэльбы і «шнуры» —
Стаяць па пары і па трое
На скрыжаваннях «каўняры».

Аж у вачах яны мігцяцца,
Усюды іх, як прусакоў…
Куды пайсці і дзе схавацца
Ад гэтых рыл і «каўняроў»?!

Верш «Канстытуцыя» высмейвае царскі ўрад і яго міністраў, якія на паперы абвясцілі правы і свабоды для людзей, а на справе ўзмацнілі ціск на працоўны люд: «У астрог нас павялі // І таўкуць без меры».

Адна з галоўных творчых задач паэта — паказаць жахлівыя ўмовы існавання звычайнага беларуса, ягоны гаротны стан, беднасць, прыгнечанасць, адвечны клопат пра хлеб надзённы. У вершах «Мужычае жыццё», «Наша доля», «Вёска», «Доля батрачкі» створаны каларытныя малюнкі незлічоных пакут прыгнечанага народа, паказаны беды і слёзы пакрыўджаных людзей, з якіх высмоктваюцца апошнія сокі. Спачувальны голас паэта гучыць у абарону абяздоленых і бяспраўных людзей, кінутых у астрогі, дзе няшчасныя зняволеныя (верш «У астрозе») пакутуюць ад невыноснай адзіноты, тугі і здзекаў.

Паэт рэзка выступае супраць сацыяльнай няроўнасці, несправядлівага размеркавання ўласнасці, класавага падаўлення працоўнага люду, здзеку над чалавечай асобай. Асабліва выразна антаганізм паміж багатымі і беднымі паказаны ў вершы «Ворагам». У ім паэт асуджае няшчаднае рабаванне працоўных людзей, папярэджвае пра хуткі час расплаты над бязлітаснымі «багацеямі і панствам». Урэшце, у вершы «Покліч» Я. Колас адкрыта заклікае да супраціву, барацьбы за сацыяльныя, нацыянальныя і палітычныя правы, «змаганне за шчасце, за лепшую долю».

Як бачна, творы Я. Коласа — аб'ектыўнае адлюстраванне гістарычнага лёсу беларускага народа, пазбаўленага нацыянальных, палітычных і грамадзянскіх свабод у Расійскай імперыі. Мара пра «вольную волечку», якая даражэй за ўсё на свеце — скразны матыў творчасці паэта. Яго ідэал — заможнае і шчаслівае жыццё вольнага беларуса на ўласнай зямлі. Творам уласціва сацыяльная крэатыўнасць, што найбольш выразна выявілася ў яго паэмах «Суд у лесе» (1943), «Адплата» (1944), «Рыбакова хата» (1947).

Агульнанацыянальныя і сацыяльныя матывы гучаць у яркіх навелах з цыкла «Казкі жыцця». У навеле «У балоце» намаляваны тупік, балота, куды завёў грамадства эгаістычны пануючы клас. Праз мастацкія сродкі аўтар паказвае няздольнасць паноў рухацца ўперад, іх адмаўленне ад сацыяльнага дыялогу і ўзаемадзеяння. Брычка ў навеле сімвалізуе грамадскі прагрэс, рух наперад. Балота — яркі сімвал крызіснага стану грамадства, заняпаду і дэградацыі. Квінтэсэнцыя сацыяльнай філасофіі Я. Коласа ў тым, што фанабэрыстасць паноў, іх зняважлівае стаўленне да працоўнага люду, непавага да жыццёвай кемлівасці мужыкоў, непрызнанне іх адпрыродных здольнасцей непазбежна прыводзяць да сумных вынікаў: «На балоце стала цёмна. А брычка і паны ўсё глыбей у гразь лезуць».

Сацыяльны і нацыянальны аптымізм, вера ў перамогу здаровых народных сіл гучаць у навеле «Жывая Вада». Гара — сімвал чужога, груваcткага бар'еру на шляху свабоднага развіцця народа — будзе змыта морам, утвораным ад людскіх слёз. Арлы і коршуны — алегорыя на акупантаў і крыўдзіцеляў усіх масцей, якія звілі гнёзды на райскай зямлі, дзе струменіла Жывая Вада, — выведуцца пад корань і знікнуць назаўсёды. Мёртвае Поле пакрысе ажыве, жыццё паступова наладзіцца, усё ўвойдзе ў колішняе русла.

У навеле «Адзінокае дрэва» Я. Колас сфармуляваў філасофію выжывання адметнага індывідуума ў віхуры падзей, на пранізлівых вятрах гісторыі. На думку пісьменніка, найбольш надзейны сродак гэтага — мацней трымацца за родную глебу, абапірацца на свой народ ці, як кажа ён у вобразнай форме, «пусціць глыбей карэнні ў зямлю».

Добра дасведчаны ў гістарычнай сітуацыі і жыццёвых рэаліях, паэт разам з тым аптымістычна глядзіць на перспектывы беларускай нацыі, верыць у абуджэнне глыбінных стваральных сіл народа. Верш «Беларусам» — красамоўнае пацвярджэнне Коласавай пераконанасці ў адраджэнне Беларусі, уздым краіны, шчаслівую будучыню людзей.

Якуб Колас не толькі блiскучы майстар мастацкага слова, але i глыбокі *інтэлектуал*, яркі нацыянальны мысліцель. Мастацкімі сродкамі ён адказвае на фундаментальныя пытанні быцця, уздымае ўніверсальныя праблемы. Я. Коласа заўжды хвалявалі надзённыя грамадскія праблемы, лёс і гістарычныя перспектывы беларускай нацыі, будучыня роднага краю, становішча працоўнага чалавека.

Праз вобраз галоўнага героя трылогіі «На ростанях» — настаўніка Андрэя Лабановіча — Я. Колас раскрыў напружаныя інтэлектуальныя і духоўныя пошукі нацыянальнай інтэлігенцыі. Пісьменнік прасочвае, як Лабановіч паступова прыходзіць да ўсведамлення чароўнай велічы і прыгажосці роднага краю. Герой пераадольвае шаблонныя ўяўленні пра Беларусь як, нібыта, занядбаную і закінутую старонку, яго сэрца напаўняецца гонарам за Бацькаўшчыну. Урэшце, у яго душы выспявае пратэст супраць знявагі і прыгнёту беларускага народа, «з якім ён чуў цесную сувязь». Герой прыходзіць да выразнага ўсведамлення неабходнасці штодзённай і самаадданай працы на карысць нацыі.

Трылогія насычана шматлікімі філасофскімі адступленнямі аўтара, глыбокімі разважаннямі пра сутнасць жыцця і прыроды. Вось адна з красамоўных сентэнцый майстра слова: «Што ні кажы, а жыццё, ужо само па сабе, ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар. Ёсць важныя дзве часціны, з якіх складаецца жыццё і яго глыбокі сэнс і хараство — чалавек і прырода».

Ключавыя філасофскія ідэі пісьменнік выказвае вуснамі станоўчага персанажа твора — Андрэя Лабановіча, які абараняе сацыяльную і чалавечую годнасць простага працаўніка, селяніна, «мужыка». На думку Лабановіча, асноватворным чыннікам сацыяльных пераўтварэнняў грамадства з'яўляюцца адукацыя і асвета. Герой прыходзіць да цвёрдай высновы, што галоўная місія інтэлектуалаў і грамадскіх лідараў — навучаць людзей, развіваць змалку іх аналітычныя здольнасці, а людзі самастойна і адказана абяруць шлях, якім ім лацвей ісці: «Бо калі чалавек пачне разважаць, дашуквацца прычын таго стану, у якім ён знаходзіцца, ён напэўна не пагодзіцца са сваёй доляй і будзе старацца адваяваць сабе лепшае месца на свеце. І калі ў чалавека раскрыюцца вочы, ён сам сабе выбера дарогу і сам за сябе будзе несці адказ».

Якуб Колас у мастацкай форме адказаў на фундаментальнае пытанне сацыяльнай філасофіі — аб прызначэнні чалавека на зямлі. Так, адзін з яго герояў — настаўнік Турсевіч, адстойваючы ідэю высокага прызначэння чалавека, яго высакародную місію, сцвярджае: «Чалавек жыве дзеля дабра, для служэння праўдзе, каб ствараць нейкія вартасці жыцця і каб быць карысным для іншых». Якуб Колас, аднак, не адмаўляў прагматычнага складніка ў жыцці чалавека. Невыпадкова Лабановіч даводзіць, што кожны чалавек у жыцці кіруецца найперш «асабістай выгадай і вывуджваннем карысці для сябе». Акурат прыватныя інтарэсы з'яўляюцца галоўным матывам сацыяльнай актыўнасці асобы. Лабановіч падчас размовы з Турсевічам аспрэчвае яго рамантычныя ўяўленні пра чалавека. Так, Турсевіч кажа: «Ёсць людзі, што жывуць ідэямі агульнага дабра. За свае ідэі яны ідуць у астрогі, на высылкі; за гэтыя ідэі іх крыжавалі, давалі атруту, палілі на кастрах. Тут ёсць нешта большае, чым асабістая выгада і вывуджванне карысці для сябе. І няможна выводзіць з аднаго прынцыпу дзейнасць якога-небудзь жуліка і дзейнасць чалавека, што працуе ўсё жыццё для іншых». Лабановіч, аднак, пераканаўча пярэчыць свайму сябру-апаненту: «Гэта толькі здаецца так на першы погляд, а прынцып адзін для ўсіх. Справа толькі ў тым, якія ўжываюць спосабы, якімі дарогамі ісці і як разумець гэты прынцып. Але каго ты ні возьмеш: ці то будзе вучоны, які вышуквае новыя законы жыцця і пракладае новыя дарогі, ці які-небудзь выдумшчык — Эдысон, ці паэт, ці мастак, ці прапаведнік новага вучэння, ці самаахвярны дзеяч, вечны служка выключна для другіх, — усе яны выходзяць з таго ж самага прынцыпу. Не трэба толькі змешваць мэту з тымі дарогамі, якімі гэтая мэта дасягаецца».

Надзвычай крытычна паставіўся Я. Колас да хрысціянскай антрапалагічнай дактрыны. Праз маналог Лабановіча ён даводзіў: «О, хрысціяне — народ вельмі змыслы. Яны, бачыш, маюць вельмі шпаркі разгон і шырока расчыненую губу. Іх не задавальняе зямля і наогул гэты свет (хоць і зямлёю яны таксама не грэбуюць). Ім давай рай, вечнае збавенне, бясконцую радасць і дабрабыт. А на сваё жыццё на зямлі яныназіраюць, як на спосаб лацвей дастасавацца да банкету на тым свеце».

Пісьменніка надзвычай цікавіла праблема сацыяльнай актыўнасці асобы, канструктыўнай дзейнасці чалавека. У выніку разважанняў Я. Колас прыходзіць да высновы, што кожнаму трэба знайсці занятак, які б адводзіў чалавека ад розных спакус, непатрэбных захапленняў, надаваў сэнс зямному жыццю. Вуснамі аднаго з герояў — настаўніка Алеся Садовіча — ён сцвярджае: «Трэба ж, брат, знайсці ў жыцці нешта такое, што дадавала б сэнсу гэтаму жыццю. Трэба перш за ўсё пашыраць свой кругагляд, выблытацца з павуціння, што засланяе разумнае жыццё».

Пісьменнік бачыў супярэчлівасць прыроды чалавека, арганічнае спалучэнне ў адной асобе супрацьлеглых якасцей і адпаведна разнастайных памкненняў, што з'яўлялася прычынай дыскамфорту і ўнутранай незадаволенасці.

На старонках твораў Я. Колас часта разважае над ключавымі філасофскімі катэгорыямі — вечнага і часовага. Сузіранне ззяння начнога неба якраз схіляла галоўнага героя Лабановіча да роздуму над сутнасцю зямнога існавання чалавека, выбару ім адпаведных прыярытэтаў і паводзін. Герой пытае сябе: «І ці варта так прырастаць да гэтага жыцця, да гэтага нязначнага моманту ў ходзе часоў». Аднак пры гэтым не кідаецца ў крайнасці, ён аддае перавагу прынцыпу гарманічнага спалучэння ў чалавеку прагі да вечных каштоўнасцей і канкрэтных зямных інтарэсаў.

Інтэлектуальная заглыбленасць і філасафічнасць Я. Коласа ярка выявіліся ў яго паэме «Сымон-музыка». Праз мастацкія вобразы майстар слова ўздымае фундаментальныя праблемы жыцця і смерці, асэнсоўвае ролю творчага чалавека ў грамадстве, паказвае значэнне мастацтва для ўдасканалення прыроды людзей.

Галоўны герой — Сымон — надзелены прыродай рэдкім музычным талентам, ён чуе галасы, унутраныя рытмы ўсяго жывога. Прасочваючы жыццёвы шлях героя, паэт паказвае няпросты лёс творчага чалавека, пакуты і выпрабаванні, якія ён церпіць на сваім шляху.

Складаную праблему мяжы паміж жывым і мёртвым Я. Колас вырашае ў духу філасофскага пантэізму. Ён ставіцца да прыроды як да жывой істоты, што чуйна рэагуе на паводзіны чалавека. Разважанне хлопчыка Сымона пра боль, які адчувае зямля — выразная праява філасофскага пантэізму паэта. Галоўны герой кажа: «Усё жыве і душу мае: // Краска, дрэва і жучок…»

У паэме вельмі моцна гучыць эсхаталагічная тэма, матывы замагільнага жыцця, існавання душы пасля развітання з целам. Смерць дзеда Курылы выклікала ў падлетка роздум пра лёс усяго жывога, адвечныя пытанні пра сэнс жыцця, місію чалавека на зямлі:

А дзядка не ўгледзіш болей,
Ён памёр. І што з ім стала?
Дзе ж падзеўся яго дух?
Ці душа ў зямлі прапала,
Як агонь: згарэў — і стух?
Ці яна па свеце ходзіць,
Як туман які, адна,
І спакою не знаходзіць,
І нікому не відна?
Смерць, жыццё… Дзіўно ўсё гэта!
І нашто жыць? Каб сканаць?

Смерць прыйшла — і песня спета,
І прыложана пячаць.
І няўжо не будзе следу,
Жыў на свеце ты ці не?

Амаль кожная значная сцэна «Сымона-музыкі» мае сімволіка-алегарычнае значэнне, утрымлівае сацыяльна-філасофскі падтэкст, служыць мастацкім увасабленнем жыццёвай філасофіі паэта.

Сцэна выгнання Сымона бацькам Панасам, самым блізкім чалавекам, з хаты за малую правіннасць, — не ўбярог авечак ад ваўка, з абразліва-цяжкой характарыстыкай-прысудам — «непатрэбны дармаед», — сімвалізуе стаўленне народа да сваіх талентаў, людзей адметных — музыкаў і творцаў. Жабрацкі стан народа, клопат пра першачарговыя патрэбы поруч з татальным невуцтвам, на думку паэта, не дазвалялі належным чынам узгадоўваць таленты, годна ацэньваць творцаў, людзей духоўнай і інтэлектуальнай працы.

Сцэна на могілках, дзе Сымон звяртаецца да памерлага дзеда Курылы з жаласлівымі словамі, насычана сімволікай. Успамін пра дзеда, прычытанні па ім надаюць герою незвычайную сілу і лёгкасць. Ён узлятае і плыве над зямлёю, над крыжамі і лясамі, поруч з лёгкімі хмаркамі, купаецца ў сонечных праменях: «Лёгка, вольна і лагодна, // Бы на крылах светлых мар». Вернасць памяці продкаў, шанаванне мінулага, свайго роду і ўласнай гісторыі, паводле паэта, надзяляе чалавека незвычайнай сілай, надае асаблівую моц і ўпэўненасць, дае адчуванне палёту.

Сімвалічны сэнс мае «Песня аб званох», змешчаная ў паэме. Я. Колас у іншасказальнай форме разважае пра сапраўднае мастацтва і пустазвонства. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы для талентаў («Зноў пануе бразгатанне // Пустазвонаў клік фальшывы»), паэт верыць, што неўзабаве загучыць голас праўдзівага звону, які будуць слухаць зоры і людзі, а ён будзе велічна клікаць да волі, праўды і згоды.

У гімне вясне, якая традыцыйна выступае сімвалам абнаўлення жыцця, аптымізму і надзей на шчаслівую будучыню, Я. Колас выказаў неспатольную прагу сацыяльных і палітычных змен, паляпшэння маральнага клімату ў грамадстве, аб чым сведчаць заключныя словы-пажаданні: «Хай твая краса дабра дасць // І абудзіць родны край».

Сцэны захопленага, самаадданага грання Сымона на скрыпцы, пранікнёны голас якой закранаў усё жывое навокал, сімвалізавалі веліч музыкі, незвычайнае ўздзеянне мастацтва на чалавека праз пачуцці, яго выхаваўчае значэнне, бо яно, па словах паэта, «гоіць раны».

Прытча пра няўдалыя намеры вароны лётаць як арол або плаваць як лебедзь, якую распавёў Сымону Жабрак, павінна была прымусіць героя адмовіцца ад высокіх мэт, змірыцца з лёсам, існі каляінай, вызначанай сацыяльным статусам. Паэта, мастака з народа, на думку Я. Коласа, чакаюць безліч бар'ераў і перашкод, ушчуванні і неразуменне з боку блізкіх людзей. І толькі яго воля, характар і працавітасць змогуць пераадолець усе цяжкасці на шляху да светлай мэты.

У «Сымоне-музыку» Я. Колас стварыў вобраз дарогі і бясконцага шляху, што сімвалізуюць няспынны рух гісторыі, дзе шчыльна перапляліся мары і надзеі людзей, іх шчаслівыя моманты і трагедыі.

Ён змог убачыць у будзённай *сялянскай працы* велічнае і прыгожае. Працу земляроба на раллі прыраўноўвае да магічнага рытуалу, святочнага дзейства, якое вабіць і зачароўвае, прыносіць пачуццё задавальнення і шчасця. Пісьменнік стварае яркія малюнкі збору ўраджаю, касьбы і жніва, напоўненыя хараством, неверагоднай радасцю і асалодай.

Якуб Колас называе сялянскі падворак «прытульным гняздзечкам», дзе пануюць лад і гармонія. На сялянскай сялібе ўсё зроблена ў адпаведнасці з жыц-

цёвымі патрэбамі вясковай сям'і — пабудавана хата, узведзены гаспадарчыя прыбудовы, набыты неабходны інвентар і прылады працы, а вакол на палетках даспяваюць грэчка, авёс і ячмень.

Пісьменнік слушна адзначаў, што асновай жыцця селяніна з'яўляецца зямля. Вольны край і свабодная праца на ўласнай зямлі, даводзіў Я. Колас, галоўная ўмова асабістага шчасця і росквіту краіны:

А дзе ж той выхад? Дзе збавенне
З няволі цяжкай, з паланення?
Адзін ён ёсць: зямля-зямля,
Свой пэўны кут, свая ралля.
То — наймацнейшая аснова
І жыцця першая умова.
Зямля не зменіць і не здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасць волі, дасць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх не кіне,
Зямля — аснова ўсёй айчыне.

Менавіта сяляне, меркаваў Я. Колас, знаходзяцца ў натуральным суладдзі з прыроднай, імкнуцца аберагаць яе і ашчадна карыстацца яе дарункамі. Яны жывуць паводле даўніх звычаяў, адзначаюць уласныя пракаветныя святы, спяваюць цудоўныя песні і водзяць карагоды, пакланяюцца сонцу і моляцца язычніцкім багам, шчыра шануюць продкаў, асцерагаюцца начніц, чарцей і ваўкалакаў. Сяляне моцна трымаюцца за родную глебу, нават у момант смерці клапоцяцца пра зямлю і належны догляд гаспадаркі.

Дамінуючы лейтматыў твораў Я. Коласа — непаўторная *прыгажосць роднай зямлі*. Беларусь для пісьменніка — райскі куток, створаны для шчасця людзей, чароўнае месца, казачны край незямнога хараства. Я. Колас стварыў выдатныя ўзоры пейзажнай лірыкі. Верш «Нёман» — гімн велічнай рацэ, яе чароўнай прыгажосці і чысціні. У вершы «Дуб», напісаным у рэчышчы фальклорных традыцый, услаўляецца дрэва-волат, якое сімвалізуе прыгажосць прыроды, выклікае незвычайныя эмоцыі. Значныя мастацка-эстэтычныя вартасці маюць паэтычныя творы «Майская раніца», «Увосень», «Вецер», «Вераб'іная ноч», «Вячэрнія хмаркі», «Вясна», «Неба». У іх створаны яркія малюнкі чароўнай прыроды роднага краю.

Прадмет асаблівага захаплення майстра слова — напоўненыя жыццём і прахалодай беларускія дубровы і лясы, дзе чалавек знаходзіць прытулак і спачын:

Лес наступаў і расступаўся,
Лужком зялёным разрываўся;
А дзе прыгожыя загібы
Так міла йшлі каля сядзібы,
Што проста імі б любаваўся.

Паэт зачараваны шматквеццем і летніх лугоў:

Эх, луг шырокі! Як жывы, ты,
Праменнем сонейка заліты,
Увесь стаіш перад вачыма,
Ты міл і смуцен, як радзіма.

Цудоўныя беларускія краявіды, рэкі і рачулкі, крыніцы і азёры, на думку пісьменніка, — галоўнае багацце краіны.

Адным з першым у нацыянальнай і еўрапейскай літаратурах Я. Колас загаварыў пра першачарговую неабходнасць захавання экасістэмы, створаных прыро-

дай цудадзейных асяродкаў, надзвычай прыдатных для паўнавартаснага жыцця людзей. Паводле яго, найвялікшую асалоду ад жыцця чалавек атрымлівае толькі тады, калі жыве ў суладдзі з космасам і навакольным асяроддзем. Невыпадкова, прырода ў творах Я. Коласа адухоўленая, яна — чароўны лекар, які загойвае душэўныя траўмы, суцяшае і супакойвае сэрца яго герояў. Класічным узорам пейзажнага малюнка з'яўляецца мастацкае апісанне велічнага Нёмана і наднёманскіх прастораў. Наогул для Я. Коласа ўся Беларусь, з яе рэкамі і азёрамі, пушчамі і дубравамі, лясамі і лугамі — цудоўны рэкрыяцыйны асяродак, утульнае і камфортнае месца для шчаслівага жыцця чалавека.

У творах Я. Коласа вельмі шмат уласна мастацкіх адкрыццяў. Яго паэтычныя і празаічныя шэдэўры ўтрымліваюць безліч яркіх і полісемантычных сімвалаў. Важнейшы з іх — сімвал «шляху», што выступае ўвасабленнем бясконцасці жыцця, адбіткам падсвядомага імкнення людзей да лепшай долі, летапісам часу і пакручастых людскіх лёсаў. «Свечка», што дагарае і згасае, — увасабляе грамадскі ўпадак, цемру, невуцтва і бесперспектыўнасць.

Такім чынам, на старонках мастацкіх твораў Я. Колас ахоплівае надзвычай шырокі жыццёвы матэрыял, уздымае ключавыя сацыяльныя і грамадскія праблемы, разглядае адносіны паміж чалавекам і прыродай, выяўляе глыбінныя, архетыповыя пласты народнай этыкі і маралі.

Вызначальная рыса эстэтыкі класіка нацыянальнай літаратуры — аптымістычны погляд на чалавека і грамадства, вера ў выдатную будучыню роднага краю. Ягоныя творы напоўнены жыццесцвярджальнай іроніяй і дасціпнымі жартамі. Пісьменнік захоплены народнай карнавальнай культурай, не абмінае камічных сітуацый і забаўных здарэнняў.

Унікальная спадчына Якуба Коласа і сёння выконвае важную сацыяльную місію — кансалідуе нацыю, уплывае на станаўленне грамадскіх ідэалаў, спрыяе выхаванню адказнай і дзейснай асобы.

# «НОВАЯ ЗЯМЛЯ» — У МІНУЛЫМ І СУЧАСНЫМ СВЕЦЕ

***Несумненна, што творчасць Якуба Коласа, урэшце як і творчасць кожнага сапраўднага пісьменніка, асабліва тых, хто з'яўляецца класікам, — яркая, шматгранная і разнастайная. Аднак і ў ёй ёсць творы, што вылучаюцца на фоне іншых. У Коласа — гэта паэмы «Новая зямля», «Сымон-музыка», трылогія «На ростанях». У гэтым пераліку «Новая зямля» невыпадкова стаіць на першым месцы.***

***«Новая зямля» — паэтычны шэдэўр не толькі ў творчасці народнага песняра, але і ва ўсёй беларускай літаратуры. Перафразіруючы Аляксандра Пушкіна, нікольк не перабольшваючы, можна сказаць так: «Тут беларускі дух, тут Беларуссю пахне». У гэтай паэме ўсё на дзіва наскае. Жыццё сялянства, яго спрадвечны побыт і ягоныя, таксама спрадвечныя, памкненні і спадзяванні, сярод якіх галоўнае — прыдбаць сваю зямлю. Калі ж глядзець шырэй, пранікаць глыбей, то «Новая зямля» — гэта і жыццё ўсёй Беларусі, якая, уступіўшы ў XX стагоддзе, па-ранейшаму заставалася патрыярхальнай, традыцыйнай, але яна, гэтая Беларусь, была ўжо і непадобная на колішнюю. Гэтая Беларусь імкнула і ў новы свет, пры гэтым не збіраючыся адмаўляцца ад сябе ранейшай.***

***У беларускай літаратуры немагчыма знайсці яшчэ адзін такі твор, у якім бы гэтак праўдзіва, пераканаўча, ненавязліва было пададзена і перададзена ўсё тое, чым жыў і як жыў селянін. Канечне, у той час ён у цэлым заставаўся яшчэ «панам сахі і касы». Ды гэта, разам з тым, быў ужо не мужык Францішка Багушэвіча, а ў нейкай ступені і не мужык Янкі Купалы. У ягоным асяродку ўжо з'явіліся такія яркія прадстаўнікі, як Міхал, Антось. Тыя, хто і работы не цураецца, якой бы цяжкай яна ні была, але і за словам у кішэню не лезе, бо гэта не проста мужык, а такі мужык, які валодае вялікім пачуццём сваёй годнасці. Пакуль што годнасці чалавечай, аднак у яго паступова прачынаецца і іншае ўсведамленне — пачуццё нацыянальнай годнасці.***

***Як не прыслухацца да слоў інжынера па кадрах Астравецкага лясгаса Аксаны Сацуры: «Мне здаецца, што кожны беларус павінен абавязкова прачытаць «Новую зямлю» Якуба Коласа — гэта сапраўдны гімн здароваму народнаму духу, жыццялюбству. Кніга насычана водарам беларускіх палёў, лугоў, лясоў. Гэты твор з'яўляецца мостам, які не дазволіць перарвацца традыцыям у духоўным жыцці беларусаў».***

***Ухвальна тое, што гэты беларускі дух, дух беларушчыны праз «Новую зямлю» пачынаюць удыхаць у сябе і іншыя славянскія народы. Рускія чытачы знаёмяцца з вяршыняй творчасці класіка беларускай літаратуры праз пераклад Сяргея Гарадзецкага. Палякі ўбіраюць у сябе ўсю вабнасць «Новай зямлі» дзякуючы Чэславу Сенюху. Да ўкраінцаў наблізіў гэты найвыдатнейшы твор Віктар Стралко. Дарэчы, сам Якуб Колас марыў аб той шчаслівай часіне, калі ягоная «Новая зямля» загучыць на ўсіх славянскіх мовах.***

***Верыцца, што з цягам часу гэта абавязкова адбудзецца і такая светлая мара нашага народнага песняра здзейсніцца. Дый як жа інакш, калі і ў іншых***

***славянскіх літаратурах, апроч рускай і ўкраінскай, сапраўдныя знаўцы прыгожага пісьменства не могуць не ведаць таго, што падобныя творы, пераўвасобленыя на іншыя мовы, становяцца важкім духоўным набыткам і літаратур, якія ствараюцца на гэтых мовах. У тым жа, што працэс перакладу «Новай зямлі» на славянскія мовы праходзіць не так хутка, як таго хацелася б, нічога дзіўнага. Гэта яшчэ адно пацвярджэнне таму, наколькі паэма «Новая зямля» — арыгінальная як мастацкі твор, адметная сваімі вобразна-выяўленчымі сродкамі і якая сакавітая, непаўторная беларуская мова ў ёй. Таму, каб перакласці «Новую зямлю», перакладчыку неабходна валодаць вельмі высокім майстэрствам і, як перадумова, цудоўна ведаць як беларускую мову, так і сваю родную. Толькі ў такім разе можна перадаць усе найтанчэйшыя адметнасці арыгінала, ягоны дух, а дух гэты, паўторымся, беларускі.***

***Дык што ж такое «Новая зямля»? На гэтае пытанне мы папрасілі адказаць вядомых прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі краіны.***

**Рэдакцыя «Полымя».**

**Уладзімір ГУСАКОЎ,**
**акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі**

## МОЙ РОДНЫ КУТ...

«Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!» Што яшчэ можа быць цяплейшым і дабрэйшым за гэтыя словы, сказаныя пра свой родны куточак, дзе нарадзіўся, узгадаваўся і які любіш усёй душой. Гэтыя словы зрабіліся блізкімі і дарагімі для кожнага беларуса, для тых, хто ўсёй душою прыкіпеў да свайго краю. А для кожнага чалавека родны край — непаўторны, і толькі ён лепшы за ўсе астатнія.

Успамінаю, як яшчэ зусім малым пачуў я гэтыя словы ад сваёй маці, і яны запомніліся на ўсё жыццё, як і ласкавыя матчыны рукі, сардэчныя беларускія песні, добрае яе стаўленне да ўсіх людзей і незвычайная яе працавітасць.

Гэтыя словы з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» паўтараюцца на розныя лады і даўно зрабіліся прыказкай, калі хочацца выказаць цеплыню пачуццяў у дачыненні да сваёй малой радзімы, добрым мілагучным спевам, які набыў народны характар.

У кожнага народа ёсць знакавыя творы, якія выяўляюць душу гэтага народа, яго культуру, сілу, памкненні. Такім творам для беларусаў з'яўляецца паэма «Новая зямля». Яна не толькі характарызуе глыбіню душы і культуры беларусаў, але і шматвяковыя спадзяванні народа на лепшае і багацейшае жыццё, жаданне быць вольнымі гаспадарамі сваёй зямлі, мець справядлівы лад. Цяжка знайсці і параўнаць з «Новай зямлёй» іншыя творы, у якіх бы гэтак яскрава, нязмушана і вобразна былі адлюстраваны да драбніц асаблівасці і ўласцівасці беларусаў і беларускай зямлі.

І ўвогуле паэма «Новая зямля» — гэта гімн упартай чалавечай працы ў імя надзеі на лепшае будучае, гімн самабытнасці сялянскага ладу жыцця, які стварыў непаўторную беларускую культуру, гімн дабрыні і шчырасці чалавечых адносін, гімн прыгажосці зямлі і ўзаемадачыненняў чалавека і прыроды. Гаворыцца гэта зусім не пафасна, а справядліва і рэалістычна.

Паэму «Новая зямля» чытаюць, цытуюць, узгадваюць у якасці вобразнага прыкладу, калі трэба сказаць штосьці добрае пра сваю родную зямлю. Але, нягледзячы на гэта, паэма яшчэ не зрабілася па-сапраўднаму агульнанароднай, хоць і з'яўляецца выключна беларускай паводле духу. Яна застаецца яшчэ ў палоне тых абстрактных разважанняў, якія памылкова называлі ўласнапрыватніцкія памкненні сялян перажыткам мінулага.

Безумоўна, паэму трэба разумець. Яна неверагодна блізкая для людзей з сялянскай душой, вясковым мысленнем. Толькі сяляне могуць па-сапраўднаму ацаніць усю прыгажосць прыроды, успрыняць непасрэдныя апісанні сялянскай працы, вясковага ладу жыцця. Гараджанам гэта не па сілах — не стасуецца з іх прыродай, тым больш, што менавіта ў гарадскіх кабінетах нараджаліся ідэі калектывізацыі, сацыялістычнага абагульвання маёмасці, неперспектыўных вёсак, індустрыялізацыі аграрнай працы.

На шчасце, жыццё выявіла сапраўдную сутнасць рэчаў. Тое, што праілюстравана ў «Новай зямлі» — гэта не толькі самабытнасць беларускага ўкладу, але і пацвярджаецца сусветнай практыкай і культурай. Можна толькі захапляцца тым, з якой далікатнасцю і назіральнасцю малюе Якуб Колас беларускі сялянскі побыт і якім хоча бачыць селяніна — заможным, вольным, незалежным. І цалкам зразумела, што гэтак узнёсла і эмацыянальна адлюстраваць сялянскае жыццё і да драбніц ведаць зямлю мог толькі вялікі мастак слова, што паходзіў з вёскі, браў сілу ад зямлі і ўсё свядомае жыццё імкнуўся да таго, каб зрабіць селяніна шчаслівым. Трэба адзначыць, што калі ў Беларусі адраджалася навука і найперш быў сфарміраваны Інстытут беларускай культуры (так званы Інбелкульт) — папярэднік сённяшняй Акадэміі навук, дык Якуб Колас працаваў менавіта ў сельскагаспадарчай камісіі інстытута.

Паэма «Новая зямля» заслугоўвае таго, каб знаходзіцца ў ліку славутых літаратурных шэдэўраў, якія ствараюць аўтарытэт не толькі аўтару, але і ўсяму беларускаму народу. Гэта адначасова і гісторыя беларускага народа, і філасофія, і культура, і душа, і побыт, і яшчэ шмат якіх іпастасей, якія ўзнімаюць і ставяць беларускае грамадства паводле свайго ладу і развіцця на адзін узровень з іншымі цывілізаванымі народамі Еўропы і свету. Чытаючы «Новую зямлю», не стамляешся здзіўляцца і захапляцца здольнасцю аўтара адлюстраваць патаемныя асаблівасці характару беларусаў — кемлівасць, шчырасць, добразычлівасць, спагадлівасць, талерантнасць, рахманасць, вынаходлівасць, любоў да прыроды і, безумоўна, вялікую працавітасць. І штораз з'яўляюцца ўсё новыя і новыя грані. «Новая зямля» — энцыклапедыя беларускага народа, дзе сабраны і адлюстраваны ўсе бакі народнага жыцця. Тут можна знайсці і гумар, і сатыру, і павучанне, і традыцыі, і хітрынку, і кпіны. **Гэта значыць усё тое, што ўласціва беларускаму народу і выхоўвалася ў яго свядомасці цягам доўгіх стагоддзяў існавання на скрыжаванні шляхоў, перамяшчэння тавараў і людзей, у тым ліку наяўнасці пагрозы нападу і шматлікіх заваёў**. Беларус можа прызвычаіцца да якой заўгодна сітуацыі, да кожнага рэжыму — панскага, царскага, адміністрацыйнага, ваеннага і выжываць, як бы кепска яму ні было. Але ў душы заўсёды застаецца вольным і імкнецца да свабоды, незалежнасці, шчасця.

Пра паэму ўжо багата напісана, яна добра разгледжана ў літаратурным сэнсе. Але ёсць яшчэ адзін аспект, які пакуль што не заўважаны літаратарамі і крытыкамі. Гэта эканамічны яе складнік. А менавіта — імкненне селяніна мець сваю зямлю, уласнасць, працаваць самому на сябе, назапашваць багацце і ствараць дабрабыт сваёй працай. Аснову асноў сялянскай эканомікі, і гэтымі думкамі прасякнута ўся паэма.

Мы часта звяртаемся як да расійскіх навукоўцаў, так і да расійскіх пісьменнікаў, паэтаў, дзяржаўных дзеячаў, філосафаў, каб паказаць, напрыклад, іх погляды на ролю ўласнасці і вольнай працы ў развіцці грамадства. Прыводзім словы Ламаносава, Талстога, Пушкіна, Ільіна, Сталыпіна, захапляемся іх дальнабачнасцю і здольнасцю ўбачыць галоўнае для рускага чалавека. Але зусім не заўважаем сваіх не менш геніяльных мысляроў, якія абсалютна даходліва тлумачаць і падкрэсліваюць прыярытэты беларуса. Да такіх твораў без перабольшання належыць паэма «Новая зямля», якая не толькі дае рэальнае ўяўленне пра побыт, правы, заняткі, працавітасць і інтарэсы беларускага селяніна, але і сцвярджае яго жыццёвую скіраванасць на будучыню, на самаразвіццё, што цалкам адпавядае прыродзе беларуса-працаўніка. Гэта ў першую чаргу — свая зямля, свая ўласнасць, сваё багацце, якое з'яўляецца асновай свабоды, волі і незалежнасці.

Якуб Колас аддаў перавагу прыватнай сялянскай гаспадарцы — «сядзібе лесніка», а не буйной вёсцы з абшчынным спосабам гаспадарання. Такое вырашэнне мае глыбінны сэнс. Мы толькі цяпер навучыліся разумець, што ў аснове эфектыўнай і прадукцыйнай працы знаходзіцца прыватная (персаніфікаваная) уласнасць і самастойная праца без прыніжальнага адміністравання. Але для гэтага трэба было прайсці этапы харчразвёрсткі, калі ў сялян гвалтам адбіраліся ўсе вынікі іх працы, калектывізацыі, падчас якой абагульнялася ўся сялянская ўласнасць і працаўнік заставаўся фактычна безмаёмасным, сацыялістычнага будаўніцтва, калі дзяржаўнае і грамадскае абвяшчалася першасным, галоўным і зневажалася асабістае. І толькі цяпер мы прыйшлі да неабходнасці адраджэння сапраўды незалежнай прыватна-ўласніцкай сялянскай гаспадаркі, хоць і зроблена ў гэтым накірунку яшчэ занадта мала.

Палясоўшчык Міхал і яго брат Антось — галоўныя героі паэмы, а таксама іх сямейнікі пераканаты ў тым, што чалавек павінен лічыцца з законамі вядзення сельскай гаспадаркі і не парушаць законаў прыроды. Імкненне да справядлівасці, прага вольнай працы ўсведамляюцца імі як штосьці цалкам натуральнае, як прыродная ўласцівасць кожнага чалавека. За гады прымусовай службы доўгія і пакутлівыя роздумы прывялі іх да пераканання, што вызваліцца ад чужой волі можна толькі пры ўмове, калі будзе свая ўласная зямля:

Купіць зямлю, прыдбаць свой кут,
Каб з панскіх выпутацца пут,
І там зажыць сабе нанова:
Свая зямля — вось што аснова!

Такім чынам, на ўласным зямельным надзеле, дзе таксама марылася пабудаваць свой дом, Міхал думаў дасягнуць свайго даўняга ідэалу нармальнага, духоўна і матэрыяльна багатага жыцця, вольнага ад прымусу і страху, здольнага забяспечыць яго шчасце і будучыню яго дзяцей, — таго жыцця, якое дае магчымасць існаваць у згодзе з самім сабой, з суседзямі і прыродай:

І чым больш служба дакучала,
Тым болей бацьку прыцягала
Свая зямелька, свая хата
(Няўжо яна яму заклята?),
Прытулак свой, куток уласны;
Такі ён мілы быў і красны…

На маю думку, наўрад ці знойдзецца ў айчыннай мастацкай літаратуры яшчэ адзін твор такога ўзроўню, у якім бы ўпарта сцвярджалася права на ўласную зямлю і маёмасць, права быць гаспадаром і права вольна працаваць. Гэтыя правы і ў наш час з'яўляюцца актуальнымі, бо ў сапраўдным сэнсе слова селяніна — уласніка зямлі, маёмасці і працы мы не змаглі адрадзіць да сёння. Як высвятляецца, селяніна-ўласніка лёгка страціць, а вось адрадзіць яго наноў з найміта, абыякавага да якой заўгодна ўласнасці, вельмі складана, а часам і немагчыма.

Героі паэмы ўражваюць высокімі маральнымі якасцямі, найперш — чалавечнасцю, працавітасцю, самадысцыплінай, дбайнасцю, унутранай душэўнай прыгажосцю. Праца для іх — не цяжкасць, а святая неабходнасць. Кожны ведае і мае свае абавязкі. Дарослыя спакойна і нязмушана, не прыніжаючы абразлівымі настаўленнямі, даюць дзецям прыклад высокамаральных паводзін, і не толькі ў працы, але і ў паўсядзённым побытавым жыцці. Побач з галоўнай, лёсавызначальнай мэтай — набыць уласную зямлю — ставіцца пытанне пра сэнс жыцця, прызначэнне чалавека. Міхал пераканаты, што толькі ўласнай працай, настойлівасцю ён зможа дасягнуць мэты — вольнай працы на сваёй зямлі, а таксама зможа далучыць дзяцей да ведаў, да кнігі.

Сёння паэма «Новая зямля» ўспрымаецца як выдатная з'ява нацыянальнай культуры, як мастацкае абгрунтаванне сутнасці і сэнсу жыцця беларускага народа.

Паэму слушна можна і трэба называць асноватворнай з'явай усёй беларускай літаратуры, бо яна зрабілася вытокам шырокай народнай творчасці. Гэтаму твору ужо каля ста гадоў, а ён ззяе такімі яскравымі фарбамі, нібыта напісаны зусім нядаўна для сучаснага чытача. Гэты мудры і глыбокі аповед пра найглыбіннейшую сутнасць беларускага жыцця і культуры, якія, трэба спадзявацца, застануцца вечнымі.

Што тычыцца эканамічнай сутнасці «Новай зямлі», хочацца сказаць і пра тое, што гэта не паспешлівая фантазія аўтара, а грунтоўна зробленая мастацкая карціна беларускага побыту ва ўсёй яго прыгажосці. Якуб Колас працаваў над паэмай больш за 10 гадоў — часу ставала, каб усё добра асэнсаваць. І, нягледзячы на розныя жыццёвыя перыпетыі, аўтар няўхільна імкнуўся да жаданай мэты — аднавіць ва ўсіх падрабязнасцях рэальны лад жыцця і спадзяванні беларускага народа.

Якуб Колас пачаў пісаць паэму яшчэ за часамі царскай Расіі, у 1911 годзе — якраз тады, калі была гвалтоўна перапынена Сталыпінская эканамічная рэформа. Але тагачаснае заканадаўства яшчэ давала магчымасць шырокага развіцця прыватнага сялянскага ладу — мелася права куплі-продажу зямлі, права атрымання з гэтай мэтай банкаўскага крэдыту, права перасялення на свабодныя землі і г. д. Такое становішча захоўвалася ажно да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года. Усяго гэтага не мог не заўважаць і Якуб Колас, які знаходзіўся ў віры грамадскага жыцця. Завяршыў жа аўтар паэму ў 1923 годзе (ужо ў часы Савецкага Саюза), у гады актыўнага ажыццяўлення новай эканамічнай палітыкі (НЭПа). Як вядома, НЭП быў абвешчаны ў краіне ў 1921 годзе дзеля выратавання вялікай краіны ад канчатковага збяднення. Таму гады НЭПа — гэта гады аднаўлення разбуранай прыватнай сялянскай гаспадаркі, страчанага прыватнага гандлю, а таксама ўвядзення харчовага падатку замест харчразвёрсткі. Але паміж 1917 і 1921 гадамі былі гады ваеннага камунізму, абрабавання сялянства, а разам з ім і разбурэння краіны. І толькі асэнсаванне вядучай ролі сялянства, усведамленне неабходнасці вольнай сялянскай працы, асновай якой з'яўляецца прыватная ўласнасць, што знайшло адлюстраванне ў стратэгіі НЭПа, дало магчымасць засцерагчы краіну ад катастрофы. Гэтага таксама не мог не ўлічваць Якуб Колас, які пільна сачыў за падзеямі тых гадоў. Менавіта таму, на нашу думку, асноўная ўвага ў паэме надаецца паказу прыватнай сялянскай гаспадаркі — сядзібы лесніка, а не абшчыны, якая на той час яшчэ была вельмі распаўсюджана.

Вялікая мудрасць і дальнабачнасць Якуба Коласа дазволілі яму не памыліцца, а найбольш правільна абраць аб'ект і суб'ект свайго аповеда, дакладней кажучы, — эканамічную аснову, узятую за выток і мэту сялянскага жыцця.

Селянін — гэта заўсёды ўласнік: зямлі, маёмасці, выробленай прадукцыі. У яго душа баліць за справу, ён імкнецца рацыянальна выкарыстоўваць усе віды рэсурсаў, нясе адказнасць за вынікі сваёй працы ў першую чаргу перад самім сабой. Яго не трэба прымушаць, не патрабуюцца яму і тлумачэнні. Ён ведае сам, што трэба рабіць, — гэтыя веды прыходзяць да яго праз жыццёвы вопыт, перадаюцца ў спадчыну, заўсёды набываюцца цягам усяго жыцця. Немагчыма ўявіць, каб найміт перажываў за справу так, як селянін-уласнік. Сельская гаспадарка мае сваю спецыфіку — тут кожны від працы, кожнае поле, кожная культура, якую вырошчваюць, мае свае тэхналагічныя асаблівасці, дакладна ведаць якія можа толькі селянін, які здавён займаецца справай.

Селянін спрадвеку імкнуўся быць гаспадаром свайго лапіка зямлі, уласнікам маёмасці. Гэта вельмі дакладна падкрэсліў Якуб Колас і ў найвышэйшай ступені рэалістычна выклаў у паэме «Новая зямля». Уласнасць на зямлю для селяніна — аснова асноў, на якой грунтуецца ўвесь яго дабрабыт — уласнасць на маёмасць, уласнасць на вынікі працы, матэрыяльны і духоўны дабрабыт, заможнасць і незалежнасць. На вялікі жаль, шмат для каго з сялян уласная зямля была недасягальнай, яны маглі пра яе толькі марыць, застаючыся наймітамі — хто ў пана, хто ў якога іншага ўладальніка. Але — марыць і спадзявацца, што калісьці гэтыя імкненні ажыццявяцца:

А дзе ж той выхад? дзе збавенне
З няволі цяжкай, з паланення?
Адзін ён ёсць: зямля, зямля,
Свой пэўны кут, свая ралля:
То — наймацнейшая аснова
І жыцця першая ўмова.

І калі Якуб Колас пачынаў сваю паэму словамі «Мой родны кут, як ты мне мілы!..», дык меў на ўвазе не толькі ўласную хату, пра якую марыў кожны беларус, але і ўласны надзел зямлі як аснову спрадвечнай працоўнай дзейнасці, шчасця свайго, сям'і, дзяцей, грамадства. Ва ўласнасці на зямлю ён бачыў шчасце ўсяго беларускага народа:

Зямля не зменіць і не здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасць волі, дасць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх не кіне,
Зямля — аснова ўсёй айчыне.

Хіба ж можна лепей сказаць пра ролю ўласнасці на зямлю? Можна толькі захапляцца мудрасцю аўтара і яго талентам выказаць вобразна тое, пра што спрадвеку марылі сяляне. Галоўны герой Міхал дзе б ні быў, што б ні рабіў, усё больш і больш марыў:

Аб той зямельцы аб уласнай.
Яна свяціла зоркай яснай,
Яна гарнула і хіліла,
Бы нейкіх чар нязнаных сіла.
Свая зямля, свая пасада!..
Ці ёсць мацнейшая прынада?

Міхал зберагаў мару і думаў пра тое, калі ж надыдзе гэты час:

Каб хоць пачатачак зрабіць
І першы камень залажыць
На грунце вольнае зямелькі,
Адной-адынай збавіцелькі...

У гэтых радках не толькі закладзены найвышэйшы эканамічны сэнс уласнасці на зямлю, а ўласнасць — гэта прыродная якасць, і кожны чалавек нараджаецца ўласнікам, інакш ён не быў бы чалавекам, — але і адлюстравана найважнейшая духоўная і культурная аснова беларускага народа. Народ бачыў сэнс жыцця ў працы, ва ўласнасці, і гэта давала яму сілы, дазваляла пераадолець самыя вялікія цяжкасці. Народ не хацеў лёгкага жыцця, ён бачыў сэнс існавання ў працы. І гэта зрабіла беларусаў найбольш працаздольнай нацыяй у навакольным свеце. У працы нараджалася і фарміравалася культура беларускага народа.

Усё найлепшае ў беларускім народзе — ад зямлі, ад сельскай гаспадаркі, ад вёскі, ад працы. Вёска стварыла найбагацейшую культуру народа, умацавала традыцыі і асновы, сфарміравала мову і моўныя дыялекты, выпрацавала маральныя нормы і прынцыпы, навучыла жыць з працы. Дзякуючы гэтаму беларускі народ ведаюць у свеце як найбольш цывілізаваны і працавіты. Дзякуючы зямлі і працы беларусы змаглі выжыць у найцяжэйшыя часы катастрафічных узрушэнняў. Відаць, не так многа на зямлі нацый, якія здолелі перажыць столькі разбуральных катастроф. Але выстаялі і адрадзіліся. Зноў жа — дзякуючы сваёй бясконцай працаздольнасці і імкненню да шчасця беларусы маюць надзейную будучыню. Нізкі паклон Вялікаму песняру беларускага народа Якубу Коласу!

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ,**
**акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі**

# ЯКУБ КОЛАС І ІААН БАГАСЛОЎ

У паэме Я. Коласа «Новая зямля» адлюстраваліся жыццё, побыт, сацыяльныя і духоўныя пошукі беларускага народа на пачатку XX стагоддзя на шляхах да лепшай долі, на шляхах абуджэння і фарміравання новай свядомасці, новых даляглядаў. Да жыцця быў пакліканы чалавек з пачуццём уласнай годнасці, з патрабаваннем свабоды і правоў. Ён і стаў героем новай беларускай літаратуры, прамаўляў са старонак яе твораў, выкладаў сваю жыццёвую праграму, сцвярджаў сістэму каштоўнасцей.

Пашырэнне сацыяльна-гістарычных і філасофскіх даляглядаў жыцця і назіраем у «Новай зямлі», героі якой актыўна імкнуцца да лепшай долі. Творчая гісторыя твора даволі працяглая. У 1911 годзе Колас напісаў вершаванае апавяданне «Як дзядзька ездзіў у Вільню і што ён там бачыў», з якога потым вырасла славутая паэма. У ёй намалявана шырокая карціна сацыяльных супярэчнасцей тагачаснага жыцця.

Пра ўладу зямлі над чалавекам, пра цяжкасць працы на ёй пісалі Глеб Успенскі, Леў Талстой і інш. У Коласа праца земляроба таксама цяжкая, знаецца ён з бядой і нядоляй, але роднае поле яму мілае і дарагое, тут ён спазнаў радасць і асалоду ад гэтай цяжкай працы. Беларуская літаратура мела значны вопыт паказу селяніна як гаротніка і пакутніка. Колас пераасэнсаваў гэты вобраз: ад паказу долі селяніна ён ідзе да раскрыцця ў вобразе мужыка чалавека высакародных сацыяльных і маральных памкненняў, працаўніка і змагара. «Новая зямля» шырока выявіла чалавечы, гуманістычны змест народнага характару, яго душу і сэрца, яго жаданні, любоў і нянавісць. Паэт сімпатызуе яму. Вобразы ж паноў і падпанкаў у Коласа часцей за ўсё акарыкатураны, шаржыраваны. А. Адамовіч не без падстаў параўнаў прыезд дзядзькі Антося ў панскую Вільню з Гуліверам, які аказаўся ў краіне ліліпутаў. У «Новай зямлі» паўстае пытанне: «Навошта бог трымае пана?» І ў той жа час Колас геразуе простага чалавека, паважаючы яго перш за ўсё як працаўніка. Працавітасць — вышэйшы прынцып сялянскай этыкі (А. Лойка). Тыя ж, хто не працуе (паны), пазбаўлены павагі паэта і ў яго ўяўленні не вартыя гэтага высокага звання.

Але ці толькі хлебам адзіным жыве коласаўскі чалавек? Не. Гэта мы бачым у прыродаапісальнай лірыцы. Героі паэмы таксама твораць жыццё ў суладдзі з прыродай, іх праца суаднесена з яе цыкламі. Гэтую суаднесенасць добра адчуваюць героі паэмы — Міхал, Антось, Ганна… Паэт стварыў праўдзівы вобраз жанчынысялянкі з уласцівай ёй дабрынёй і руплівасцю, шчодрасцю сэрца.

У творы шырока раскрыта паэзія працы земляроба, якая ўзвышае чалавека, дазваляе спазнаць найвышэйшае задавальненне і шчасце. Мне добра помніцца тое знакамітае месца ў паэме, дзе гаворыцца пра Міхала, які вяртаецца «з абходу»:

> І хоць чуваць, што ныюць ногі,
> Але зварочвае з дарогі
> І робіць крук, бо як стрымацца,
> Каб не зайсці палюбавацца
> І ярыною і жытамі?
> Ідзе, а ветрык з каласкамі
> Вядзе прыемную размову
> І цешыць душу леснікову.

Асабліва шырока праца земляроба раскрываецца праз вобраз дзядзькі Антося — сваеасаблівага філасофа і мудраца. Асоба Антося — адна з каларытнейшых. Праз гэты вобраз Колас імкнуўся асэнсаваць гармонію, якая існуе паміж дзяўчынай і душой чалавека і дапамагае яму захаваць сваю індывідуальнасць

і непаўторнасць. Гэта ўжо не проста ролевы герой — вобраз тут не атаясамліваецца з сацыяльным становішчам, якое ён займае; пісьменнік бачыць у ім чалавека, асобу.

І яшчэ. «Новая зямля» — гэта таксама твор Сярэбранага веку, хаця, здаецца, ніхто гэта пакуль не заўважыў. Задумка і сэнс паэмы разумеліся паэтычна, але залішне прыземлена, з перавагай бытавога плана. Але гэтага мала. У каментарыях, змешчаных у акадэмічным зборы твораў паэта, сказана: «Каб правільна зразумець паэму, неабходна ўявіць тую эпоху, помнікам і адлюстраваннем якой з'яўляецца паэма «Новая зямля». Між тым гэтае метадалагічнае патрабаванне выконвалася недастаткова, не ўлічваўся выключна важны момант, які заключаецца ў тым, што ў мастацкім свеце паэмы назіраем дыялектычную сувязь пазачасавага (таго, што стасуецца з быццём чалавека, яго зямным прызначэннем, уяўленнем пра шчасце, унікальнасцю…) з жывым гістарычным часам, робіць гэты твор яскравай выяваю эпохі рубяжа XIX—XX стагоддзяў.

У «Новай зямлі» ўвасобілася высокая мара Я. Коласа пра новы ўзровень чалавечай свядомасці, адносін да другога чалавека, «бліжняга», пра будучыню. Ключ да разумення «Новай зямлі» — ключ духоўны — знаходзіцца, трэба думаць, у евангельскім «Адкрыцці Іаана Багаслова»: «І ўбачыў я новае неба і новую зямлю, таму што ранейшае неба і ранейшая зямля мінулі». Менавіта да гэтай кнігі Евангелля — «Апакаліпсіса» — была скіраваная ўвага многіх рускіх паэтаў і пісьменнікаў таго часу, асабліва сімвалістаў. Руская інтэлігенцыя, паэты і філосафы (У. Салаўёў, Д. Мяражкоўскі, М. Бярдзяеў, А. Белы, А. Блок, У. Іваноў, С. Ясенін, М. Клюеў і інш.) заклікаюць Расію пракласці шлях усяму чалавецтву да новага неба і новай зямлі. Я. Колас, якога ўсё гэта таксама вельмі хвалявала, па сутнасці гэтак жа не прымае сучаснай яму сацыяльнай рэчаіснасці і патрабуе «новага неба» і «новай зямлі», але «новая зямля» для яго — не эсхаталагічная праблема. «Новая зямля» — гэта леснікова «сяліба» і той кавалак зямлі, які імкнецца набыць Міхал, каб мець магчымасць жыць шчаслівым жыццём у добрым ладзе з навакольным светам і, у першую чаргу, са светам прыроды, з якой героі «Новай зямлі» не парываюць сувязі. Аўтар фарміруе рэальнае жыццеадчуванне беларускага чалавека, бачанне і ўспрыманне прыроды, адносіны да іншых людзей, да «бліжняга», да розных рэчаў і з'яў.

Мастацка-філасофскі праект Коласа зусім не ўтапічны, якімі часта выглядалі праекты Сярэбранага веку. У паэме шмат будзённага, побытавага, аднак гэта не той і не такі побыт, пра які ішла гаворка ў творах беларускіх пазітывістаў XIX стагоддзя (Ф. Багушэвіч і інш.): ён прасякнуты жыццесцвярджэннем, тонкімі маральна-этычнымі сентэнцыямі, народнай мудрасцю. Маральна-асветніцкі пачатак выступае ў паэме не ў абстрактна-адцягненым выглядзе, а як уласцівасць народнага характару, самасвядомасці. Гэта самасвядомасць, у поўным сэнсе слова, адраджэнская, рэнесансная па сваім жыццеадчуванні, нясе ў сабе знак хрысціянскай любові, бескарыснасці і ахвярнасці, па імкненні да ўнутранага абнаўлення. Аўтар адкрывае для сябе і для нас вялікі духоўны і сацыяльна-маральны змест паняцця «новая зямля» ў самым шырокім яго сэнсе, эстэтызуе этычныя, рэлігійныя, гаспадарча-бытавыя каштоўнасці сваіх герояў. Твор прасякнуты своеасаблівым панэстэтызмам (што, дарэчы, таксама было ўласціва сімвалістам). Гэта тая зямля, якая можа забяспечыць чалавеку гарманічнае існаванне ва ўмовах далейшага росту і развіцця, не прыводзячы да вялікіх узрушэнняў, страт і выдаткаў.

Калі шукаць тыпалагічныя збліжэнні паміж «Новай зямлёй» і, скажам, паэмамі Я. Купалы, дык, бадай што, можна звярнуцца да паэмы «Яна і я», дзе размова таксама ідзе шмат у чым пра ідэальны бок жыцця і магчымасці яго сапраўды чалавечай пабудовы, чалавечага жыццеўладкавання.

«Новая зямля» — гэта наша класіка, якая працягвае жыць у часе, працягвае адорваць новымі духоўнымі адкрыццямі.

**Аляксандр КАВАЛЕНЯ,**
**акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар**

# ВЕЧНАЯ КНІГА БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

Напэўна, не толькі ў мяне, але і ў многіх суайчыннікаў узнікае пытанне: як невялікая беларуская зямліца адарыла сусвет велізарнай плеядай выдатных творцаў-гуманістаў? Яны, несумненна, не толькі робяць гонар нашай Бацькаўшчыне, але і ўпрыгожваюць сусветную духоўную скарбніцу. Вытокі нацыянальнай гуманітарнай думкі ўзыходзяць у глыб стагоддзяў і непарыўна звязаны з гісторыяй фарміравання беларускага народа і дзяржавы.

Роздум аб нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыне, багацці духоўнага жыцця, традыцыях і звычаях беларускага народа патрабуе паглыблення ў бясконца багатае мінулае нашых продкаў. Немагчыма зрабіць у гэтым сціслым паведамленні шырокі экскурс у гістарычны летапіс, тым не менш адзначым, што многае вызначалася геапалітычным становішчам беларускіх зямель. Знаходзячыся на перакрыжаванні шляхоў зносін, на мяжы духоўнага разлому, нашы продкі вымушаны былі не толькі пераадольваць безліч сацыяльна-эканамічных, палітычных і духоўных выпрабаванняў, але і выпрацоўваць неабходны ўзровень жыццядзейнасці, што, зразумела, фарміравала генетычна-каштоўнасны і інтэлектуальны рэсурс беларускіх людзей.

У свой час дасведчаная Еўропа добра ведала імёны многіх нашых суайчыннікаў, тых, хто пакінуў адметны след на ніве духоўна-культурнага жыцця, узбагаціў неўміручымі творамі і адкрыццямі еўрапейскую духоўную спадчыну. Сярод іх — Мікола Гусоўскі і Францішак Скарына, Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, Мялецій Сматрыцкі і Сімяон Полацкі, Тамаш Зан і Ян Чачот, Адам Міцкевіч і Ян Баршчэўскі, Францішак Савіч і Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Францішак Багушэвіч, Янка Лучына і Адам Гурыновіч, Карусь Каганец і Алесь Гарун, Міхась Зарэцкі і Паўлюк Трус, Уладзімір Жылка і Цішка Гартны, Уладзімір Дубоўка і Цётка. Менавіта яны і многія іншыя былі тым выбітным падмуркам, на якім узрастала творчая плеяда айчынных класікаў літаратуры.

Большасць нашых сучаснікаў адкрывалі багацце і прыгажосць беларускай зямлі, складаны лёс нашага працавітага народа праз знаёмства з творчасцю нацыянальных класікаў. Сярод іх адметнае месца займае творчая спадчына Якуба Коласа. У свой час, напэўна, цяжка было знайсці таго, хто не захапляўся лірычна-эпічнымі паэмамі «Сымон-музыка» і «Новая зямля», трылогіяй «На ростанях». Гэта былі настольныя кнігі кожнага беларускага школьніка і творчай інтэлігенцыі. Колас не толькі таленавіты стваральнік неўміручых паэтычных шэдэўраў і мастацкай прозы, ён выдатны педагог, вучоны, умелы арганізатар навукі, рэдактар, перакладчык, дзяржаўны і культурны дзеяч. У нашы дні, у век небывалага развіцця і нават засілля інфармацыйных тэхналогій, калі кніга губляе сваю былую каштоўнасць, гэтыя вечныя творы класіка беларускай літаратуры не страчваюць сваёй грамадскай значнасці.

Пpаглядаючы рэцэнзіі на творчасць песняра, заўсёды сустракаеш станоўчыя водгукі, у якіх большасць аўтараў выказваюць пазітыўныя ацэнкі, называюць яго класікам беларускай літаратуры, а яго творчасць «непарыўнай з’яднанасцю з жыццём народа», сведчаць, што творы напісаны з вялікім мастацкім майстэрствам і з’яўляюцца ўзорам самаадданага служэння пісьменніка свайму народу. Нават немагчыма ўзгадаць усю веліч і ўзнёсласць ацэнак, што атрымала паэма

«Новая зямля». Я захоплены і ўражаны ацэнкай, якую зрабіў вядомы навукоўца, апантаны даследчык творчасці Я. Коласа, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар Міхась Мушынскі. Ён назваў гэты твор эпахальнай з'явай не толькі ў гісторыі нацыянальнага ліраэпасу, але і ў гісторыі духоўнай культуры беларускага народа. Даследчык шчыра, але вельмі моцна, з прысутнай яму мудрасцю зазначыў: «Новая зямля» — гэта твор невычэрпнай вобразна-сэнсавай глыбіні. Галоўная кніга не толькі творчасці Якуба Коласа, але і ўсяго беларускага прыгожага пісьменства. Вечная кніга». На мой погляд, гэта найбольш па-філасофску заглыбленая, вартая і зусім справядлівая ацэнка.

Не акажуся арыгінальным, калі скажу, што Якуб Колас — узор служэння Айчыне, падзея ў духоўным жыцці беларускага народа. Ён з'яўляецца адным з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, што застаецца галоўным сімвалам духоўнага здароўя нацыі, яе жыццёвай моцы, якая не страчвае актуальнасці і грамадскай значнасці ў нашы дні.

Пра паэму «Новая зямля», з якой я пазнаёміўся яшчэ ў школьныя гады, хачу сказаць асобна. Чырвонай стужкай праз твор праходзіць раскрыццё вечнай тэмы — адносін «чалавек-зямля». У гэтым творы Колас паўстае не проста як адзін з буйнейшых знаўцаў і песняроў сялянскага жыцця, стваральнік маляўнічых вобразаў роднай беларускай прыроды, пра што шмат напісана. Якуб Колас выступае і як творца-энцыклапедыст, майстра паэтычнага адлюстравання самабытнасці роднага краю. Ён адзін з нямногіх, хто з мастацкай вытанчанасцю, самабытнасцю, натуралістычнай пераканасцю, з глыбокім веданнем сялянскай філасофіі, павагай і гонарам раскрываў праўду жыцця беларускага люду.

У паэме аўтар бясконца з вялікай павагай, любоўю як натураліст-навуковец распавядае аб прыродзе. Кожная з'ява яе намалявана палітрай багатых фарбаў так, што нельга не захапіцца прыгажосцю лесу і луга, тых гукаў і пахаў, якія, здаецца, адчуваеш наяву:

Каля пасады лесніковай
Цягнуўся гожаю падковай
Стары, высокі лес цяністы.
Тут верх асіны круглалісты
Сплятаўся з хвоямі, з дубамі,
А елкі хмурымі крыжамі
Высока ў небе выдзяляліcь,
Таемна з хвоямі шапталіcь.

Гэты пасыл не можа не кранаць душу і сённяшняга чытача, бо вучыць не толькі любіць і ахоўваць прыроду, захапляцца яе дзіўным хараством, але і разумна выкарыстоўваць яе багацце, каб спыніць наступствы спажывецкай эканомікі, каб чалавек, які з'яўляецца валадаром прыроды, больш актыўна задзейнічаў навукова-тэхнічны прагрэс дзеля стварэння вакол нас прыгожага, што дорыць нам прырода.

Многія спецыялісты-крытыкі і біёграфы Якуба Коласа даволі поўна, глыбока і дастойна ацанілі творчую спадчыну гэтага класіка. Тым не менш яшчэ шмат тэм, якія будуць вывучаць многія пакаленні, робячы свае адкрыцці. На мой погляд, адным з цэнтральных сюжэтаў, які праходзіць праз усю паэму, з'яўляецца праблема сям'і ва ўсёй яе шматграннасці, цеснай сувязі з акружаючай прыродай. Набыццё зямлі не самамэта, а сэнс і сродак традыцыйнага жыцця вялікай беларускай сям'і, магчымасць захавання свайго роду. Патрэбна пагадзіцца са знаўцамі творчасці песняра, якія адзначаюць, што ў «Новай зямлі» знайшлі адлюстраванне старонкі асабістай біяграфіі паэта, у пэўнай ступені выкладзены яго пачуцці і перакананні. Гэтым выдатным творам класік стварыў не толькі помнік сабе і сваім родным, але і ўсяму беларускаму народу. Паэт яскрава дэманструе адносіны беларуса да свайго краю, да роднага дома:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.

Праз родны кут паэт увасабляе малую Радзіму, жыццё ў сям'і і яе адносіны да ўласнага кавалка зямлі. Жыццядзейнасць сям'і павінна адбывацца ва ўласным доме, дзе ладзяцца народныя і рэлігійныя святы — і Спас, і Каляды, і Вялікдзень, — дзе ад пакалення да пакалення перадаюцца нацыянальныя традыцыі і звычаі. У «Новай зямлі» надзвычай уражліва раскрыты сялянскі побыт. Тут і «Раніца ў нядзельку», «За сталом», «Падгляд пчол», «Каляды», «Дзядзькакухар», і шмат іншых замалёвак сямейнага жыцця. Жывое пяро творцы вучыць вельмі чула і адказна ставіцца да народных традыцый і звычаяў, не парываць сувязі з продкамі, ушаноўваць іх памяць. Сям'я — галоўная ячэйка грамадскага жыцця. На красамоўным прыкладзе сям'і Міхала і Ганны, дзе панавала бязмернае каханне, узаемапавага і згода, якія перадаваліся дзецям, паэт выразна паказаў сваё стаўленне да інстытута сям'і, яе грамадскую значнасць.

У наш прагматычны час вельмі важна данесці да падрастаючага пакалення ідэю захавання сямейных каштоўнасцей. Яшчэ ў старажытным Рыме бліскучы аратар, філосаф і палітык Марк Тулій Цыцэрон (106—43 да н. э.) называў шлюб першай ступенькай чалавечага грамадства. Вопыт сведчыць, што ў працэсе гістарычнага развіцця грамадства знікалі гарады і цэлыя краіны, плямёны і народы. Сціраліся з твару зямлі імперыі, цывілізацыі, узнікалі і знікалі межы. І толькі адну каштоўнасць чалавецтва пранесла праз тысячагоддзі. Гэтая каштоўнасць — сям'я. Яе захоўвалі і зберaглі ўсе народы свету без выключэння. Сям'я — гэта асяродак духоўнасці, высокіх пачуццяў кахання, гарманічнага развіцця асобы, трывалая апора чалавека, яго надзея і абарона. Яна заўсёды давала чалавеку сэнс жыцця, дапамагала захоўваць лепшыя і высакародныя пачуцці.

У сваім выдатным творы Колас даносіць да новых пакаленняў не толькі прынцыпы векавой народнай маралі, але і асновы народнай педагогікі. У адзіночку чалавек не зможа выжыць і развівацца. Менавіта таму са старажытных часоў людзі сяліліся сем'ямі і плямёнамі, разам палявалі, апрацоўвалі зямлю, расцілі новыя пакаленні, перадаючы ім духоўнае багацце і набыткі культуры.

У нашы дні вельмі важна данесці да моладзі і паказаць негатыўную духоўную сутнасць наватворных агрэсіўных тэндэнцый, якія накіраваны на разбурэнне сямейных адносін. Фіктыўныя сямейныя саюзы, аднаполыя сем'і, сурагатныя маці — гэта ўсё тое, што мэтанакіравана навязваецца маладому пакаленню. Я б назваў гэтыя тэндэнцыі «каханнем з бракам», бо яны звернуты ў будучае на выраджэнне і знікненне не толькі сям'і, але і чалавечай цывілізацыі. Не скажу, што гэта новае адкрыццё, але ў нашы дні такія тэндэнцыі набываюць усё больш шырокія памеры і агрэсіўнасць. Дзеля атрымання пэўных выгад заключаюцца фіктыўныя шлюбныя саюзы і праводзяцца іншыя антысямейныя дзеянні. Дарэчы, у некаторых краінах дадзены феномен стаў даволі выгадным бізнесам.

Сёння славянскаму свету кінуты сур'ёзны выклік з боку ліберальна-дэмакратычнага Захаду. Усёдазволенасць і гвалт, прастытуцыя і парнаграфія, наркаманія і п'янства, аднаполыя саюзы і гомасексуалізм падаюцца СМІ не як заганы біялагічнай сутнасці чалавека, а як непазбежная рэальнасць і неад'емная патрэба жыццядзейнасці людзей. Выродкі і заганцы не хочуць жыць ізаляваным жыццём, яны аб'ядноўваюцца і навязваюць свой светапогляд грамадству ўсімі магчымымі сродкамі, прапагандуюць свае погляды сярод дзяцей і падлеткаў праз інтэрнэт. Больш за тое, адбываецца мэтанакіраванае навязванне чужых духоўных каштоўнасцей і заган, якія супярэчаць традыцыям нашай гістарычнай свядомасці, падаюцца як норма грамадскага жыцця і згубна руйнуюць свядомасць і душы моладзі.

Рознага роду тэлешоу, якія займаюць сёння значны час тэлеэфіру і знешне здаюцца прыемнымі і нават прывабнымі, маюць не толькі загадзя зададзеную драматургію, але і накіраваны на дасягненне пэўнага грамадскага выніку, як правіла, на разбурэнне звычаяў, традыцый, духоўных і культурных каштоўнасцей славянскіх народаў і дзяржаў. Адбываецца пастаянны зварот не да розуму чалавека, а да яго інстынктаў і біялагічных пачуццяў. Разгорнута мэтанакіраванае разбурэнне духоўнай сутнасці маладога пакалення, яго свядомасці, маральных якасцей і здольнасцей, якія яшчэ не ўсталяваліся, звядзенне іх да ўзроўню жывёльных інстынктаў размнажэння. На жаль, тэндэнцыя разбуральнага ўздзеяння інфармацыйнага патоку досыць дзейсная. На шматлікіх форумах інтэрнэта маладыя людзі дзеляцца шматлікімі праблемамі палавога жыцця, асабліва небяспечна, калі 12-гадовыя падлеткі дзеляцца сваім «багатым» жыццёвым вопытам і даюць самыя неверагодныя парады.

Сёння на дзіва актуальным з’яўляецца зварот да прыкладу сям’і, якую Якуб Колас красамоўна, з гумарам і глыбокай сялянскай філасофіяй адлюстраваў у сваім неўміручым творы. Гэта яшчэ раз сведчыць аб вялікай мудрасці песняра, які ў сваіх развагах папярэджваў новыя пакаленні, што вытокі ўсяго ў сям’і.

Біблейская мудрасць павучае захоўваць павагу да бацькоў, якая складаецца з удзячнасці тым, хто талентам усяго існавання свайго, любоўю і працай выводзяць на святло жыцця сваіх дзяцей і дазваляе ім узрастаць у мудрасці і ласцы. «Усім сэрцам шануй бацьку твайго, і не забывай радзільных хвароб маці тваёй. Памятай, што ты народжаны ад іх, і што можаш ты аддаць ім, як яны табе?»

Як бачна, сям’я заклікана не толькі ўспрымаць, падтрымліваць, але і перадаваць ад пакалення ў пакаленне духоўна-рэлігійную, нацыянальную і культурную традыцыю. Нацыянальныя традыцыі валодаюць значным педагагічным патэнцыялам і могуць служыць эфектыўным сродкам духоўна-маральнага выхавання дзяцей. Адказнасць сям’і заключаецца перш за ўсё ў перадачы моўнага багацця беларускага народа, яго душы, ад старэйшых пакаленняў малодшым, ад бацькоў — дзецям. Гэта тое, што робіць гонар кожнай нацыі.

Вось такой жыццёвай мудрасці вучыць «вечная кніга беларускага пісьменства» выдатнага песняра беларускага народа Якуба Коласа.

**Марыя ЗАХАРЭВІЧ,**
**народная артыстка Беларусі**

## ВЯЛІКІ ПЯСНЯР НАШАГА КРАЮ

Якуб Колас прынёс усім нам бясцэнны дар — паэтычны твор, які глыбінна кранае, заварожвае, ад якога становіцца светла на душы. Усё ў ім вельмі зразумела, проста, мудра. Усё непадзельна зліта з роднай зямлёй, з народам, з яго гісторыяй, думамі і марамі. Цудоўная самабытная мова гучыць як музыка.

«Новая зямля» насычана глыбокім зместам, які так зразумелы ўсім нам. Чытаючы гэты твор, яскрава ўяўляючы сабе ўсё тое, пра што расказвае паэт, міжволі ўспамінаеш сваю хату, сваю вёску і, безумоўна, самых дарагіх людзей — бацькоў сваіх.

Як даражылі яны зямлёй! Кожнай баразёнкай! І колькі ёй аддавалі сіл і здароўя! Мой тата пасля працы здымаў кашулю з плеч і праз нейкі час яна была белая ад солі, ці, як кажуць, «лубам стаяла».

Калі чытаю ў паэме «Дзень быў святы. Яшчэ ад рання блінцы пякліся на сняданне», то ўспамінаю сваю маму, як яна шчыравала, горбілася ля печы, каб накарміць нас смачнымі аладкамі, як мясіла цеста (доўга-доўга мясіла), каб хлеб быў смачны, духмяны, найлепшы.

Дзядзька Антось — мой любімы персанаж. Ён заварожвае сваім гумарам, прымаўкамі і бясконцай любоўю да дзяцей. А я ўспамінаю сваю цётку Веру, якая ўмела жыць для іншых і таксама была паэтычнай душой. Мы з ёю любілі хадзіць у лес у ягады ці ў поле збіраць зёлкі. Яна спявала вельмі сумныя песні аб сваёй

гаротнай долі і прымаўляла: «А мой барок, а мой браток», або «Мая зямліца, мая сястрыца», ці спявала вясёлыя прыпеўкі, і доўгі шлях здаваўся кароткім. Вучыла толькі добраму.

Калі на радыё мне даводзілася чытаць урыўкі з паэмы ці ўдзельнічаць у кампазіцыі — гэта было свята. Часам днём не хапала студыі для запісу, то мы з задавальненнем запісваліся ноччу. Памятаю, як першы раз праслухоўвалі музыку Ігара Лучанка «Мой родны кут», усе расчуліліся да слёз. Гэта падзея, з'ява ў мастацтве. І цяпер у маіх паэтычных праграмах заўсёды ёсць урыўкі з «Новай зямлі».

Гэта наталяе душу, узбагачае яе дабрынёй, шчырасцю, святасцю. І словы «Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!» выклікаюць шчымлівае пачуццё бясконцай любові да сваёй Бацькаўшчыны. Слава Песняру!

**Алесь САВІЦКІ,**
**пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі**
**Рэспублікі Беларусь**

## ПРАРОЦТВА ГЕНІЯ СПРАЎДЗІЛА ЖЫЦЦЁ

Спрадвечнае імкненне працоўнага чалавека жыць па праўдзе, «са свайго мазаля», як гаворыцца.

Свабодалюбівыя мары «з панскіх выпутацца пут» і жыць шчасліва на сваёй уласнай зямельцы-карміцельцы.

Глыбінная вера ў тое, што толькі ў роднага краю можна «пазычыць сілу» на змаганне за долю светлую і шчасную.

На гэтых трох, кажучы міфалагічнаю моваю, «кітах» трывала і непахісна стаіць — і будзе стаяць яшчэ не адно стагоддзе, хвалюючы душы людскія! — паэма «Новая зямля», найвыдатнейшы твор нацыянальнай літаратуры, створаны слынным песняром велічы і славы зямлі беларускай Якубам Коласам.

Паэма «Новая зямля» не проста літаратурны твор. Гэта прароцтва генія, глыбіннае філасофскае асэнсаванне жыцця і побыту беларускага селяніна канца XIX стагоддзя ў часы антынароднага ладу, спасціжэнне і высокага майстэрства адлюстраванне душы чалавека працы і той зямлі, на якой ён, гэты чалавек, пачынае і заканчвае сваю жыццёвую дарогу і на якой суджана жыць яго дзецям.

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!

Зусім невыпадкова паэма пачынаецца з гэтага напеўнага і шчырага прызнання ў любові, вышэй за якую нічога на свеце для песняра няма і не можа быць, бо кут гэты — любая сэрцу Бацькаўшчына, зямля яго продкаў, дадзеная небам. І гэтая шчырасць паклікала да сябе, прывабіла, павяла за сабой яшчэ аднаго геніяльнага творцу Беларусі, кампазітара Ігара Лучанка. Песня яго, што пачынаецца гэтак жа, як і паэма, зрабілася сапраўды народнай, узняла песенную культуру нацыі да зорных вяршыняў, святло якіх узвышае чалавечую душу і дзівіць свет.

Родны кут — і галоўны герой паэмы Міхал добра тое ўсведамляе! — не проста лапіна зямлі на беразе славутага, дзівоснай прыгажосці Нёмана, апетага ў былінах і легендах, а ўся зямля яго продкаў, палітая шчодра крывёю і потам, тая існасць, у якой сканцэнтраваны лёс і сэнс чалавечага жыцця ўвогуле.

Зямля не зменіць і не здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасць волі, дасць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх не кіне,
Зямля — аснова ўсёй айчыне.

У гэтых развагах Міхала, народнага мысліцеля і хлебароба, тоіцца невымерная моц, тое галоўнае, што вяло і вядзе працоўны люд па жыццёвых пуцявінах запаветнай мары «аб той зямельцы аб уласнай», жыве ў душы «бы нейкіх чар нязнаных сіла».

Панскія гэта шнуры, на якіх працуе Міхал, магнату належаць. Але вера ў тое, што сапраўдны гаспадар на зямлі ён, чалавек, чыім потам яна шчодра палітая. Таму думка аб зямлі ўласнай жывіць Міхалава сэрца «як промень волі і свабоды». Адсюль, з гэтай высновы і нараджаецца магутная, велічная сімфонія хлеборобскай працы, пачутая і дзівоснымі фарбамі намаляваная песняром. Гэта і ў апісанні працы на вясновых гонях, у часе жніва, абмалоту, на кожным жыццёвым кроку. Адсюль і нараджалася ў сэрцах мільёнаў працаўнікоў зямлі вера ў светлае заўтра, вера, што дапамагала працоўнаму чалавеку годна прайсці ўсе пакручастыя павароткі, пакінуць новым пакаленням святы запавет:

Жыві ж, наш край! Няхай надзея
Гарыць у сэрцы і мацнее,
Што хоць не мы, дык нашы дзеці
Убачаць цэльным цябе ў свеце!

Прароцтва генія спраўдзіла жыццё. Калі сёння наш сучаснік глядзіць на Міхалавых нашчадкаў, хлебаробаў сучаснага крою, шчодра ўзнагароджаных краінай на чарговых «Дажынках», ён разумее, адкуль гэтая веліч у хадзе, у вачах, ва ўсёй паставе. Плугі, што ўзаралі хлебную ніву, сучасныя сеялкі, што паклалі ў яе адборнае насенне, выдатныя камбайны, што правялі жніво, машыны, што звезлі залацістае важкае зерне ў надзейныя засекі, паліва, якім запраўлены рухавікі гэтай машыннай армады, выраблены на сваіх айчынных заводах працавітымі рукамі сапраўдных гаспадароў новай зямлі!

Каб новы свет жыцця саткаць,
Заспакаенне сэрцу даць
І разагнаць яго трывогі!..
Прасторны шлях! калі ж, калі,
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш нашы ўсё дарогі?

Не запытанне, а прароцкае сцвярджэнне, поўнае сілы і веры, у гэтых апошніх радках «Новая зямлі». Новы свет Міхалавы нашчадкі саткалі на сваёй зямлі. Саткалі на шчасце і на вякі!

**Таццяна ШАМЯКІНА,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**

## УЛАДА ЗЯМЛІ

Янка Купала і Якуб Колас — класікі нацыянальнага Адраджэння, таму што ўмелі бачыць глыбінныя працэсы жыцця, сувязі паміж рознымі яго з'явамі, часта незаўважныя для простага чалавека, выпісвалі яскравыя чалавечыя тыпы, рабілі значныя абагульненні. Большасць створаных імі характараў, сімвалаў, вобразаў аказаліся эстэтычным адкрыццём.

Ад Коласа, ад яго несмяротнай паэмы «Новая зямля» ідзе надзвычай важнае паняцце ў беларускім жыццеіснаванні — «*родны кут*», гэта значыць малая радзіма чалавека. Паняцце вызначае прасторавую культуру беларусаў як нацыі, а прасторавая культура, у сваю чаргу, фарміравалася пад уплывам характэрных для нашай краіны ландшафтаў, якія Бог даў. У. Караткевіч гаварыў: «Тыповы беларускі краявід: поле, а за ім — лес». Інакш кажучы, прастора даволі адкрытая, хоць і не бяскрайні расійскі ці казахстанскі стэп, і беларус любіць акінуць вокам

шырока, увабраць у сябе далячынь, якая кліча да здзяйсненняў, але на краі, на даляглядзе, хоць бы з аднаго боку, а часцей з усіх, поле, луг, дол закрываюцца лесам. Ён і надае беларускім ландшафтам асабліваю ўтульнасць. Адсюль — кут. Кут, бясспрэчна, абмежаванасць, але такая, якая дарue чалавеку адчуванне абароненасці ў свеце. У кожнага з беларусаў ёсць свой, мілы сэрцу, родны куток.

У лісце да землякоў Я. Колас пісаў: «Даўно мяне цягне свой родны куток, дзе я гадаваўся, вучыўся, дзе правёў свае маладыя гады». Паэт у паэме «Новая зямля» абагуліў пачуцці беларусаў, узняў паняцце «роднага кута» да нацыянальнага сімвала.

Паэма «Новая зямля», як вядома, пісалася да Кастрычніцкай рэвалюцыі і пасля яе. Як ні ставіцца да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, нельга не бачыць, што яна кардынальна змяніла гісторыю, лёс шмат якіх народаў свету, а найперш народаў былой Расійскай імперыі. Адбыўся каласальнай сілы гістарычны катаклізм, які вызначаў расстаноўку сіл на міжнароднай арэне на працягу ўсяго XX ст. На першы погляд рэвалюцыя — любая рэвалюцыя — бачыцца як праяўленне неўтаймаванай магутнай энергіі, тыпу цунамі. Але паглядзець на рэвалюцыю можна з розных бакоў. Можна палічыць бунтам — «бессмысленным и беспощадным», як пісаў А. Пушкін, а можна — своеасаблівай сацыяльнай творчасцю, жаданнем жыць, змяніўшы парадыгму жыцця, і тварыць. Горш — пасіўнае паміранне.

Імперыялістычная вайна 1914—1918 гг., ад якой народ страшна стаміўся і ў якой не бачыў ніякага сэнсу, падштурхнула гістарычны зрух, справакавала «цунамі». Лютаўская рэвалюцыя 1917 г., па сутнасці сваёй буржуазна-ліберальная, прывяла дзяржаву да краху. Бальшавікі на чале з У. Леніным з’явіліся ў цэнтры падзей таму, што аказаліся на той час самай рашучай сацыяльна-палітычнай сілай, падхапілі, можна сказаць, уладу, якая ляжала пад нагамі, а потым, у далейшым, сілаю абставін, можа, нават насуперак сваім жаданням, павінны былі рабіць тое, што не дарабіў мяккацелы, лянівы цар Мікалай II, — правялі мадэрнізацыю, дагналі краіны Захаду ў навукова-тэхнічным прагрэсе, зрабілі СССР другой краінай у свеце па большасці жыццяважных паказчыкаў.

Ацэньваць падзеі савецкага часу неабходна з улікам і плюсаў той эпохі, і яе мінусаў. Ідэалы сацыялізму — калектывізм, узаемадапамога, бескарыслівае служэнне агульнай справе — духоўныя па сваёй сутнасці, але нівелююцца падчас імкнення ўціснуць іх у нейкія жорсткія схемы. Так і адбылося ў СССР — дэвальвацыя каштоўнасцей, прычым у многім дзякуючы не зусім разумным кіраўнікам. І ўсё ж мільёны людзей перажылі далучэнне да сапраўднага ў сваіх сэрцах, і гэты вопыт — можа быць, самае важнае, што створана на нашай зямлі за амаль стагоддзе. Увогуле нельга скідваць з рахунку эпоху сацыялізму — сёння яе як бы сарамліва замоўчваюць, а часцей увогуле адмаўляюць. Непрадуктыўны шлях. Варта ганарыцца і дасягненнямі (яны каласальныя), і перажытымі трагедыямі. Хто ведае, можа быць, Бог загартоўваў менавіта нас, рыхтуючы да яшчэ горшых выпрабаванняў? І ўвогуле, у гісторыі нічога не прападае дарма.

Мэта і сэнс жыцця чалавека — клопат пра здароўе душы. Такая ж мэта павінна быць у грамадства. У бедным як быццам СССР быў клопат пра развіццё навукі, мастацтва, адукацыі, маралі. Урэшце, тое, што Колас мог стварыць геніяльную паэму, што яму далі магчымасць ствараць шэдэўры, гаворыць на карысць ладу. Хоць да ідэалу, пра які раней марылі класікі, бясспрэчна, было далёка. Але, у рэшце рэшт, у кожнага перыяду гісторыі, у тым ліку нашага цяперашняга, свае забабоны, свае памылкі і свае дасягненні. Геній таму і геній, што глядзіць наперад.

У «Новай зямлі» паказваецца жыццё беларускага сялянства канца XIX ст. На гэтай падставе крытыкі 20-х гадоў XX ст. абвясцілі паэму несучаснай. Тады ў вясковых працаўніках не бачылі галоўнага апірышча грамадства, а, наадварот, селянін быў абвешчаны носьбітам дробнаўласніцкай псіхалогіі. А вось Колас — насуперак ідэалагічным тэндэнцыям эпохі — паказвае, што сялянскае

жыццё — той лад існавання, які грунтуецца на гармоніі чалавека і прыроды і, значыць, ён, гэты лад, — самы правільны і прыдатны для людзей. Псіхалогія, побыт сялянства — не забабоннасць і кансерватызм, а мудрасць і паэтычнасць.

Не варта і нам прыніжаць усю нашу беларускую літаратуру, называючы яе «мужыцкай». Наадварот, мы павінны гэтым, як ніхто, ганарыцца, бо ў нас ёсць такая «энцыклапедыя сялянскага жыцця», як «Новая зямля» Я. Коласа. Сёння, праз сто гадоў пасля пачатку напісання твора, філосафы шмат пішуць пра «сялянскую цывілізацыю», у значнай ступені знішчаную ў XX ст. Мы ставімся да загінуўшых цывілізацый — Егіпта, Вавілона, Грэцыі — з велізарнай зацікаўленасцю і смуткам аб былой прыгажосці. Так і тут. Літаратура занатавала тое, што ўжо загінула, можна лічыць, канчаткова. Гэта адбылося не толькі ў нас — фактычна па ўсім свеце. Але, скажам, на Захадзе працэс значна расцягнуўся ў часе, на стагоддзі, у нас жа ўсё парушылася за два дзясяткі гадоў — 20—30-я. Усе катаклізмы ў вёсцы (калектывізацыя, раскулачванне, зыход моладзі ў гарады) — вынік сутыкнення несумяшчальных паміж сабою цывілізацый. Беларуская літаратура і цікавая якраз не толькі адлюстраваннем рэалій жыцця, але менавіта праяўленнем у іх унікальнага, характэрнага для пэўнага этапу развіцця чалавецтва светапогляду, галоўнае ў якім — «*улада зямлі*» як паняцце філасофскае, касмічна-духоўнае.

Значэнне паэмы ў тым, што яна паказвае жыццё ў яго асновах, абсалютнай норме, прычым паказвае цэласна, не вырываючы кавалкі з асобных сфер рэальнасці і тым больш не імітуючы іх. Так, як жылі героі паэмы, сялянства жыло спрадвеку. Больш за тое, і сёння, каб нармальна існаваць, неабходна вярнуцца на зямлю, прыкласці да яе працу, а галоўнае тую любоў, якую адчувалі да зямлі нашы продкі і якая — менавіта любоў! — дапамагала захавацца беларускай нацыі. Безумоўна, у наш час на вялікіх палях буйных гаспадарак працуюць складаныя машыны. Навейшую тэхніку прыватныя асобы выкарыстоўваюць і на ўласных падворках, на лецішчах. І гэта вельмі добра, і дай Бог кожнаму, хто працуе на зямлі, мець сродкі для аблягчэння сваёй працы. Але спецыфіка сельскай гаспадаркі такая, што асобная жывёла, нават асобная расліна патрабуюць пільнай, клапатлівай увагі, індывідуальнага падыходу. І тады вяртаецца неабходнасць у выкарыстанні тых жа прыёмаў і нават тых жа інструментаў, што ўжывалі героі коласаўскай паэмы. Выдатна ведалі яны, скажам, усе асаблівасці раслін, каб выкарыстоўваць іх у гаспадарцы. У акуратнага дзядзькі Антося «цэлы спрат запасаў — // Не любіць дзядзька пустаплясаў. // Вось вы зірніце ў хлеў на вышкі! // Там многа яблынін на лыжкі, // Там ёсць ігруша і кляніна, // Якая хочаш дравяніна: // Грабільны, коссі, клёпкі, восі...»

Асаблівасцю драўляных прылад працы з'яўляецца іх дзіўная знітаванасць з чалавечай рукой: наша рука прагне адчуць менавіта гэты матэрыял, як бы напаўняецца яго сілаю — нездарма дрэва ў народным уяўленні заўсёды ўспрымалася як брат чалавека па сярэдзіннасці паміж небам і зямлёю. Драўляныя інструменты і прыгожыя, і працаваць імі больш зручна, чым металічнымі: «А тыя ж граблі ці цапочкі! // Ну, толькі цешыць імі вочкі! // У рукі возьмеш — працы хочуць, // У дзела пусціш — зарагочуць! // А як наш дзядзька час там бавіць!.. // Ён не працуе — імшу правіць!» Праца для дзядзькі — свяшчэннае дзейства, калі чалавек як бы ўспамінае сваю спрадвечную сутнасць — творчую.

Традыцыя апісання сялянскага побыту, як і сам сялянскі побыт, — адна з самых старажытных і трывалых у мастацкай літаратуры і ідзе ад Антычнай Грэцыі і Антычнага Рыма. Менавіта тады, ад Гесіёда і Гарацыя, пачалася гаворка пра «ўладу зямлі».

Але калі Я. Колас заканчваў сваю паэму, сялянская цывілізацыя дажывала, можна сказаць, апошнія гады. У 1929 г. распачалася калектывізацыя, неабходная для таго, каб перавесці сельскую гаспадарку на сацыялістычныя рэйкі. Гэта давала магчымасць хутка індустрыялізаваць краіну. Сапраўды, СССР літаральна за дзесяць гадоў дагнаў буйныя капіталістычныя дзяржавы і дзякуючы гэтаму пера-

мог у Вялікай Айчыннай вайне. Але такія магутныя, залішне дынамічныя, звышімклівыя працэсы не праходзяць бясследна для чалавечай свядомасці. Не адразу, а на працягу пакаленняў, з цягам часу, але ўсё ж селянін пачаў страчваць тое пачуццё любасці да зямлі і знітаванасці з прыродай, якое так яскрава характарызуе герояў паэмы. У 30-я гг. вымушана, а ў 60-я гг. ужо і па сваёй ахвоце моладзь масава паімкнулася з вёсак у гарады. Гарадская культура аказалася настолькі прыцягальная, а сялянская праца настолькі цяжкая і непрэстыжная, што прымусіць маладых людзей застацца на вёсцы было практычна немагчыма. І толькі сёння павольна, але няўхільна пачынаецца адваротны працэс. У Расіі ўжо тысячы сем'яў, што стаміліся ад гарадской цывілізацыі з яе шматлікімі выдаткамі, перасяляюцца ў вясковую мясцовасць, ствараючы так званыя экалагічныя паселішчы. У Беларусі на гэта накіравана і дзяржаўная праграма, напрыклад, будаўніцтва аграгарадкоў. Сэнс іх у тым, каб чалавек жыў гэтак жа камфортна па бытавых умовах, як і ў горадзе, а ў той жа час адчуваў блізкасць да прыроды і непасрэднага месца працы — палёў, фермаў. Паэма Я. Коласа сёння, як ніколі, злабадзённая, бо дае адчуць прыгажосць, мудрасць і паэзію сялянскага жыцця.

Неабходна ўнушаць моладзі, што сялянская праца — адна з самых інтэлектуальных, пры гэтым найбольш універсальная і выключна важная для чалавека — селянін павінен улічваць самыя розныя фактары быцця, каб атрымаць вынік. Прыцягальная яна і сваёй асаблівай знітаванасцю з прыродным акружэннем, прычым такой знітаванасцю, якая ў найменшай ступені шкодзіць прыродзе, а мудра ўлічвае ў практычнай дзейнасці яе, прыроды, законы. У наш час узлёту навукі, інавацый у біялогіі і суперпрарыўных генетычных тэхналогій названая праблема раптам зноў выходзіць на першы план: людзі ў развітых краінах свету (ды, уласна кажучы, ва ўсіх краінах) не жадаюць спажываць прадукты геннай інжынерыі, а прагнуць натуральнай ежы. А гэта значыць, вяртаюцца да спрадвечных правілаў і нормаў вырошчвання раслін, гадавання жывёлы. Улік сялянскіх традыцый у іх поўным аб'ёме — знак часу. Выходзіць, традыцыі неабходна вывучаць. У гэтым плане паэма «Новая зямля» — найбагацейшая пазнаваўчая крыніца. Лозунгам яе вывучэння павінна быць: «наша будучае — у нашым мінулым».

Праўда, гаварыць пра тэхналогіі — гэта значыць спрашчаць, збядняць філасофскі па сутнасці твор. У ім Я. Колас шукае разгадку жыцця ў самім жыцці. Цэнтральным стрыжнем гэтай плыні з'яўляецца праблема жыцця і смерці, сэнсу жыцця. Да вырашэння праблемы паэт падыходзіць арыгінальна, найперш апяваючы жыццё прыроды, таму што яна дае жыццё і чалавеку. Колас бачыць праявы жыцця і ў нерухомых, здавалася б, з'явах. У творы адухоўлена ўсё: хмаркі, што плывуць, «як гускі маладыя», «ветрык дураслівы», што «ў садку жартуе з верабінай», асіны, што «разносяць нейкія навіны». Усё — як у людзей. І ўсё звязана з усім, таму такое вялікае значэнне маюць у паэме шматлікія параўнанні. Напрыклад: «...Дубы дзе дружнай чарадою // Стаяць, як вежы, над вадою // Даўнейшых спраў вартаўнікамі...» У адной фразе — тры параўнанні: дубы — чарада, дубы — вежы, дубы — вартаўнікі. А ў цэлым — узнікае выразны малюнак.

Зрок паэта тым адрозніваецца ад зроку іншых людзей, што ўмее заўважаць менавіта аналогіі. Падкрэсліваючы арганічную сувязь усіх кампанентаў прыроды, Колас тады, калі пісаў твор, — у 10—20-я гг. XX ст., — мудра сцвярджаў адзіна магчымую перспектыву існавання чалавецтва: жыць ва ўзаемаразуменні, знітаванасці з уласным асяроддзем, «умяшчальным ландшафтам». Паэт сцвярджае думку, што чалавек здольны зрабіцца асобай, знайсці гармонію ва ўласнай душы толькі ў арганічным для сябе асяроддзі. А з другога боку, адносіны да зямлі, пэўны для нашага рэгіёна сельскагаспадарчы вопыт з'яўляюцца неад'емнай часткай культуры народа і адначасова асновай яго жыццядзейнасці.

Знітаванасць душы чалавека і прыроды — звыклыя словы, але што яны канкрэтна ў філасофскім плане азначаюць? Чалавек — малы Космас, чалавек адлюстроўвае бездань Сусвету, ён — галаграма Космасу, ён мільёнамі сувязей —

і фізічна, і псіхалагічна — залежыць ад працэсаў глабальных. У творах Коласа — класіка беларускай літаратуры — прырода і чалавек выступаюць метафарамі адно другога, але фізічны прынцып у аснове метафар — галаграма.

Прырода ў Коласа адухоўленая, вечна жывая, боская. А чалавек — як нейкая «кропка» — перакрыжаванне стыхій прыродных і сацыяльных, нейкі пласт святла, скрозь які прасвечваюць глыбіні быцця: усё, што ёсць у думках, марах, снах... Гэты пласт святла мае, на думку генія, нейкі важны — касмічны — сэнс. Як сказалі б мы сёння, узброеныя сучаснымі ведамі, — мае сэнс у супрацьстаянні касмічнай энтрапіі, утрымлівае ад дэградацыі і распаду ўвесь Універсум.

Ідэя гармоніі чалавека і прыроды як ідэал ужо сто год (ды нават больш) хвалюе чалавецтва, выклікае тугу па страчаным раі. Рэальнае чалавечае жыццё ўсё ж іншае — негарманічнае, часта трагічнае, таму пра наканаванасць року, непазбежнасць смерці не раз разважаюць героі паэмы: «Жывём, клапоцімся і дбаем, // І ўсе нарэшце паўміраем...» Лёс чалавека — вось тое, што выклікае філасофскі роздум аўтара. Я. Колас разумее, што ў агульным кругавароце жыцця людскі лёс — «былінка поля, // Пылок нязначны — наша доля». Разумее, але — як і любы чалавек — прымірыцца не можа. Выратоўвае менавіта прырода. Прырода ў творы — і гэта важнейшая яго асаблівасць — набывае як бы характар роднага дома, робіцца ўтульнай і абжытай. Яна можа даць адказ на наша запытанне пра сэнс жыцця і яго канцавую мэту. Яна як бы пастаянна гаворыць нешта чалавеку, дае знакі пра наша сапраўднае прызначэнне, і важна — умець бачыць і разумець гэтыя знакі-коды. Вось ідуць Міхал з калегам Ксавэрам на пахаванне старога ляснічага, настрой у іх тужлівы, горкі. А вакол буяе жыццё: «Крычалі гусі праразліва, // Нястройным хорам гергеталі, // Ды качкі з шумам праляталі, // І кнігаў нёсся плач з лукі, // Ў глыбі лясоў цецерукі // Ўжо зачыналі свае токі, // Усход віталі агнявокі, // Віталі шчыра і натхненна». На фоне моцы, сілы, непераможнасці жыцця, яго радаснага птушкамі вітання хацелася гаварыць пра нябожчыка пранікнёна і шчыра. Магчыма, ён і праўда быў добры, а магчыма, дзякуючы прыродзе абуджаецца ў чалавеку ўменне адкрываць у сабе і іншых людзях нешта ідэальнае, нешта такое, што па сваёй універсальнай значнасці эквівалентнае ўсяму астатняму свету і супадае з ім. Гэта і наша ўнутранае «я», і адначасова сутнаснае «я» свету.

Паказ беларускай прыроды сёння набывае такое ж выключна важнае значэнне, як і адлюстраванне светапогляду сялянства. У пачатку XX ст. у многім яшчэ захоўвалася некранутая прырода, па сутнасці эталонны беларускі пейзаж. У нашым імкненні да ўпарадкавання роднай зямлі, якое актыўна праяўляецца ў апошнія гады, неабходна мець эталон-ідэал і імкнуцца да яго. А прырода заўсёды аддзячыць за дабрыню да яе. Акрамя таго, адкрываючы прыроду, мы адкрываем адначасова і чалавека — саміх сябе.

## *ДА 130-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА*

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

# ДУХОЎНЫ СУВЕРЭНІТЭТ АСОБЫ І СВАБОДА ВЫБАРУ ЖЫЦЦЁВЫХ АРЫЕНТАЦЫЙ

*(На матэрыяле твораў Я. Коласа, К. Чорнага, А. Мрыя, А. Твардоўскага, А. Платонава, Я. Замяціна)*

У кожным выпадку сацыяльна-гістарычны, маральна-этычны, культурны, палітычны, эканамічны і г. д. малюнак рэчаіснасці самым сур'ёзным чынам абумоўлены і прадвызначаны планам, выбарам і арыентацыяй чалавека як асобнай адзінкі, так або інакш звязанай са сваёй народна-нацыянальнай супольнасцю. Бадай што, крылатым выразам сталі словы старажытнага грэчаскага філосафа Пратагора: «Чалавек ёсць мера ўсіх рэчаў». А вось погляд на гэта пытанне нашага беларускага вучонага, доктара філасофскіх навук Л. Гуцаленкі: «У якую б сістэму сацыяльных каардынат чалавек ні быў уключаны, у прынцыпе ён застаецца галоўным агентам гісторыі».

Нярэдка бывае, аднак, што ў межах быццам бы звыклых, агульнавядомых паняццяў, палажэнняў, катэгорый, прынцыпаў мы назіраем шмат тэарэтычнага і метадалагічнага рознагалосся. Не абмінула такая праява і мастацкую літаратуру, асабліва шэраг твораў савецкага часу. Для адных пісьменнікаў той пары, нягледзячы на даволі жорсткі дыктат тэорыі сацыялістычнага рэалізму, паняцце духоўнага свету чалавека азначала яго непаўторнасць, незаменнасць, а адсюль і неабходнасць беражлівых, ашчадных адносін да кожнай чалавечай асобы. У разуменні іншых назіраецца нешта супрацьлеглае. Прастора індывідуальнага «я» чалавека, яго права на самастойнае дзеянне і свабодны выбар жыццёвых шляхоў-дарог максімальна сціскаецца і звужаецца дзеля нібыта больш значнай і вышэйшай мэты — пашырэння прасторы і межаў калектыўнага дзеяння і агульнаграмадскага інтарэсу.

Спашлёмся хоць бы на такую падкрэслена-публіцыстычную думку У. Маякоўскага з яго паэмы «Уладзімір Ільіч Ленін», што, як вядома, доўгія гады была цэнтральным, хрэстаматыйным творам у выкладанні рускай літаратуры ў сярэдняй школе і ВНУ:

Единица — вздор,
единица — ноль,
Один —
даже если
очень важный —
не подымет
простое
пятивершковое бревно,
тем более
дом пятиэтажный…
Плохо человеку,
когда он один.
Горе одному,
один не воин —
Каждый дюжий
ему господин,
И даже слабые,
если двое.

Як бачым, Маякоўскі досыць катэгарычны і недвухсэнсоўны ў апафеозным услаўленні сілы калектыву і яўна заніжанай ацэнцы сілы кожнага чалавека паасобку.

Мастацкая думка верша, вядома, далёка не заўсёды паддаецца перакладу на мову строга лагізаванай празаічнай сістэмы. Такі пераклад найчасцей зніжае нейкія важныя пачуццёва-сэнсавыя моманты гэтай думкі і звужае іх асацыятыўна-вобразны лад. Аднак такі эксперымент часам бывае і неабходны, каб, гаворачы словамі пушкінскага героя, «поверить алгеброй гармонию» і такім чынам яшчэ лепей пераканацца ў тым, наколькі гэта гармонія трывалая, змястоўная і ўнутрана цэласная. Адзін у полі не воін ці, як гаворыць Маякоўскі, «адзін не воін» — гэта сапраўды метафарычны выраз, трансфармаваны, дарэчы, у многіх прыказках, прымаўках, казках, паданнях, песнях. Не будзем аспрэчваць яго сэнс. Але нельга, як паказвае жыццё, і абсалютызаваць закладзеную ў гэтым выразе думку. Бо і *а д з і н* у няпростых варунках мірнага жыцця, як і на полі бою, часта бывае воінам. Ды яшчэ якім!

У некалькі іншай сітуацыі і з іншай нагоды пра гэта добра сказаў сусветна вядомы вучоны-фізіёлаг І. Паўлаў. На пасяджэнні, прысвечаным стогадоваму юбілею з дня нараджэння І. Сечанава, таксама буйнога і сусветна вядомага вучонага-фізіёлага, ён выказаў такія вельмі смелыя (культ Сталіна ў гэты час якраз набіраў сваю злавесную сілу) і прароцкія словы: «Мы жывём пад пануючым уплывам жорсткага прынцыпу: дзяржава, улада — усё, асоба абываценля — нішто... Без Іванаў Міхайлавічаў Сечанавых з іх пачуццём годнасці і доўгу ўсякая дзяржава асуджана на пагібель знутры, нягледзячы ні на якія Днепрабуды і Волхаўбуды».

Іван Паўлаў, як бачым, ставіць побач асобу буйнога, сусветна вядомага вучонага і асобу звычайнага чалавека, ці, як ён гаворыць, абываценля, бо для яго ў дадзеным выпадку важна падкрэсліць думку пра тое, што грамадства і дзяржава вельмі многае могуць страціць, скоўваючы, абмяжоўваючы ці проста недаацэньваючы ролю і значэнне індывідуальнай творчай свабоды чалавека, незалежна ад яго сацыяльнага і прафесійнага статусу. І ён вельмі непакоіцца, каб адзінай і ўніверсальнай мерай сацыяльна-эканамічнага і культурнага ўздыму краіны раптам не сталі Днепрабуды, Волхаўбуды і г. д.

У літаратуры, і найперш у творах таленавітых і сумленных пісьменнікаў заглыблена-аналітычнага кірунку, таксама ўзрастала трывога і непакой у сувязі з тым, што пэўныя групы людзей сапраўды гатовы былі шчыра паверыць у абсалютную і беспамылковую настаўніцкую ўладу адміністрацыйна-каманднага калектыву над сваім індывідуальным «я», а некаторыя іншыя імітавалі такую добраахвотную гатоўнасць зліцца з калектывам і падпарадкавацца яго волі, настройваючыся на кан'юнктурныя хвалі часу і кіруючыся часта кар'ерысцкімі меркаваннямі.

У асэнсаванні гэтых пытанняў у беларускай літаратуры 20-х гадоў пачэсная і важная роля належыць арыгінальнаму наватарскаму раману А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» (1929). Аўтар вельмі добра паказаў, што працяглы і мэтанакіраваны двухсэнсоўна-крывадушны дыялог чалавека з рэчаіснасцю не праходзіць непрыкметна, бязбольна, а няўхільна вядзе яго ў багну жыццёвага абсурду. Пісьменнік хоча сказаць такому чалавеку: ты вельмі і вельмі глыбока памыляешся, калі разлічваеш, што сёння, зыходзячы з патрэб кан'юнктуры, будзеш хлусіць, прыкідвацца, крывадушнічаць, а заўтра проста і лёгка зможаш перабудавацца, перафарбавацца і стаць зусім іншым — сумленным, праўдзівым і прынцыповым чалавекам-грамадзянінам.

Вялікую небяспеку такой грамадскай з'явы адным з першых у рускай савецкай літаратуры адчуў і таленавіта адлюстраваў у рамане «Мы» (1920) Я. Замяцін. Многія героі гэтага твора быццам бы нават ганарацца тым, што поўнасцю перадаверылі сваё «я» абагулена-калектыўнаму «мы» і што жыццё кожнага з іх паасобку да самых патаемных драбніц знаходзіцца «навідавоку» ў іншых. Нехта з іх спра-

буе нават даказваць, што «інстынкт несвабоды спрадвеку ўласцівы чалавеку». А некаторыя і, у прыватнасці, тыя з іх, хто збудаваў так званы інтэграл і вынайшаў быццам бы матэматычна дакладны спосаб уніфікаваць усякую духоўна-інтэлектуальную адметнасць, лічаць, што быць арыгінальным і непаўторным зусім непажадана. Больш за тое — нават смешна, архаічна і непрыстойна.

Вось хоць бы такі прыклад. На фоне аднастайнай жыццёвай шэрасці на нейкае імгненне ў натоўпе з’яўляецца жанчына, што паспрабавала неяк парушыць гэты побытавы стэрэатып жыцця: «Яна была ў кароткай, старамоднай ярка-жоўтай сукенцы, чорным капялюшыку, чорных панчохах. Сукенка лёгкага шоўку — было добра відаць: панчохі вельмі доўгія, значна вышэй каленяў, і адкрытая шыя, цень паміж...» Але вынаходніку інтэграла, з дапамогай якога нібыта ўсё можна лёгка і проста падагнаць пад адзін жорсткі, хранаметрычна выверaны ранжыр, гэта «свавольства» жанчыны вельмі не падабаецца, здаецца дзіўным, незразумелым і непажаданым. І ён недвухсэнсоўна яе папярэджвае: «Паслухайце, вы, зразумела, хочаце арыгінальнічаць, але няўжо вы...» Жанчына спрабуе яшчэ нешта даказваць, гаварыць пра тое, што «быць арыгінальным — гэта вылучыцца сярод іншых», быць арыгінальным — гэта не «быць банальным» і г. д., аднак яе аргументы не пераконваюць «вялікага майстра» канонаў і матэматычна-ўніфікаваных метадаў. Яму больш даспадобы знітаваная нейкімі вонкавымі сувязямі, хай сабе і шэрая, безаблічная аднастайнасць людскога натоўпу. А тое, у чым вылучаецца адметнасць чалавечага характару і неардынарнасць жыццёвага інтарэсу чалавека, ён лічыць вялікім непарадкам і адзнакай нізкай, недасканалай, асіметрычнай арганізацыі самой грамадскай структуры.

У гэтым урыўку і ў сюжэтным дзеянні твора наогул выразна адчуваецца глыбокая падтэкставая сіла іроніі. Доўгі час лічылася, напрыклад, што аўтар з’едліва высмеяў, акарыкатурыў тут «камуністычны грамадскі ідэал». Інкрымінацыя такой віны з’явілася асновай вынясення Я. Замяціну смяротнага прысуду, замененага потым (1931 г.) выгнаннем пісьменніка за межы Радзімы.

Ідэйна-эстэтычная сутнасць іроніі гэтага выдатнага твора заключае ў сабе, аднак, больш тонкі, аб’ёмны і змястоўны сэнс. Іранічная танальнасць мастацкага слова найперш увасабляе тут трывогу і заклапочанасць аўтара за будучыню паслякастрычніцкай краіны і заўтрашні лёс чалавека. Ужо тады, калі працэс так званага «перавыхавання» чалавека ў поўнай меры яшчэ не раскрыў усіх сваіх негатыўных праяў насілля над яго індывідуальным «я», пісьменнік глыбока і беспамылкова адчуў, што армія ўсялякіх ахоўнікаў («хранителей»), якая з кожным годам разрасталася, па волі ўладара Вялікай Дзяржавы і па сваёй уласнай волі, будзе наўмысна ствараць экстрэмальныя сітуацыі ўяўнай небяспекі для краіны і яе кіраўнікоў з боку розных «ворагаў народа».

Аўтару важна было паказаць, што ніякага карэннага, якаснага абнаўлення ў жыцці не можа быць і ніякая шчаслівая гуманістычная будучыня не можа быць пабудавана пры ўмове зніжэння і паслаблення індывідуальнай духоўнай энергіі асобы. А тым болей, калі чалавека вымушаюць адмовіцца ад самога сябе і стаць механічным выканаўцам чужой волі, якая вельмі часта імкнецца выступаць у ролі безапеляцыйнага знаўцы ісціны ў апошняй інстанцыі. Пісьменнік хацеў ускалыхнуць грамадскую думку, завастрыць увагу на пытаннях грамадзянскай адказнасці *кожнага* за заўтрашні дзень і падкрэсліць, што без вялікіх духоўных намаганняў нічога істотнага і значнага ў жыцці зрабіць нельга, як нельга, паводле слушнай заўвагі крытыка І. Шайтанава, «сесці ў аэро і прыляцець да шчасця. Нельга таму, што не паляціш ад сябе... Будучае будзе такім, якім мы яго сёння рыхтуем».

Нешта падобнае прачытваецца ў рамане К. Чорнага «Сястра» (1927), дзе падкрэслена сцвярджаецца, што ідэя духоўнага суверэнітэту асобы, якая лічыць, што менавіта толькі *ў межах духоўнай суверэннасці, самастойнасці, незалежнасці і магчыма глыбока паяднацца з калектывам і выканаць нікім незаменную ролю ў абнаўленні і перабудове жыцця*. «Я сам рэвалюцыя», я «сам праз сябе»

здабываю «сістэму сваіх духовых паводзін на свеце», — такія і падобныя выказванні і меркаванні галоўнага героя твора Ваці Браніслаўца якраз і падкрэсліваюць стрыжнявы момант аўтарскага плана-задумы — паказаць чалавека, які шукае вузлавыя пункты апоры гэтаму свайму імкненню паяднацца з калектывам і знайсці, вызначыць найбольш разумныя і мэтазгодныя шляхі перабудовы грамадства не ў вонкавых сілах і знешніх стымулах, а *ў самім сабе*, рыхтуючы, удасканальваючы дзеля гэтай задачы свой духоўна-інтэлектуальны патэнцыял.

Раман гэты, як вядома, шмат у чым мае прыкметы эксперыментальнай мастацкай працы. Аднак праца гэта з'яўляецца, бясспрэчна, таленавітым эстэтычным набыткам аўтара і наогул значным дасягненнем маладой, паслякастрычніцкай беларускай літаратуры. Недахопы ж, якія маюць тут месца і якія пераважна звязаны з сюжэтна-кампазіцыйнай будовай твора, не зацямняюць грунтоўнай, фундаментальнай праблематыкі твора, плённага імкнення нацыянальнай мастацкай думкі выйсці *да карэнных першаасноў* тагачаснай рэчаіснасці.

Вельмі важнай рысай названага твора было, у прыватнасці, і тое, што аўтар паставіў у цесную прычынную, узаемазалежную сувязь дзве сферы жыцця — духоўную і эканамічную. На першы погляд можа здацца, што колькі-небудзь істотнай праблемы тут не існавала. Быццам бы і кемліваму селяніну не вельмі трэба даказваць, што пісьменны, адукаваны, мудры чалавек заўсёды бачыць далей і глыбей, чым чалавек непісьменны, павярхоўны. У многіх выпадках менавіта з такім чалавекам ён звязваў надзеі на перабудову і паляпшэнне свайго жыцця.

Аднак у той час, калі К. Чорны прапаноўваў чытачу свой раман «Сястра», ніжэйшыя, сярэднія і часта нават вышэйшыя кіраўнічыя ступені ўлады займалі людзі, якія не мелі належнай адукацыі ды нярэдка не вызначаліся і маральнай чысцінёй. Натуральна, што ў такім разе яны не дужа шанавалі навуку, культуру, асвету і філасофію як найважнейшую аснову чалавечай духоўнасці. І гэта іх насцярожанасць і непрыхільнасць да мудрай філасофскай думкі і проста да чалавека пад гальштукам, у капелюшы ці ў акулярах, на жаль, імпанавала пэўным колам грамадства, асобным групам людзей з вузкай, прагматычна-побытавай жыццёвай устаноўкай. Бо ім здавалася, што і без заканчэння «гимназиев» можна дасягнуць хуткіх, крутых і добрых перамен у жыцці, толькі трэба дзейнічаць ды не шкадаваць сябе ў фізічнай працы. А розныя мудрацы-інтэлігенты, можа, і на самай справе схільны залішне ўскладняць жыццё, скіроўваючы чалавека на пошукі нейкага «кораня рэчаў».

Пісьменнік, як можна зразумець, таксама дапускае і ў прынцыпе лічыць зусім правамерным, што сапраўдны інтэлігент абавязаны ў многім глыбей і шырэй, чым просты, заняты паўсядзённай працай чалавек, бачыць унутраныя працэсы жыцця і валодаць філасофскай здольнасцю тлумачыць іх ход, вызначаць і прадвызначаць стратэгію іх руху. Таму галоўны герой рамана так моцна дакарае сябе за ўпушчэнні і прагалы ў філасофскай падрыхтоўцы і недастатковым авалоданні навукамі, якія дазвалялі б яму пазнаць «усю шырыню» жыцця. Ён адчувае сваю вінаватасць і перад самім сабою, і перад некім іншым, што не дасягнуў, не дабраў, калі вучыўся ў інстытуце, пэўнай духоўна-інтэлектуальнай глыбіні і вышыні, не прыклаў належных намаганняў, каб «*знайсці метад аўладання ўсім ці хоць знаёмства з шырынёю ўсяго*».

Адначасна з гэтым, К. Чорнаму вельмі блізкія і тыя, занятыя звычайнай, у пэўным сэнсе малапрыкметнай будзённай працай, людзі, якія па меры сваіх магчымасцей імкнуцца выйсці за межы гэтай будзёншчыны і спрабуюць хоць бы часткова зразумець нейкія важныя ўнутраныя спружыны жыцця. Менавіта такое памкненне заўважаем у характары вартаўніка лазні Радзівона Цівунчыка, які меў заўсёдную патрэбу «пагаварыць з якім-небудзь стрэлачнікам аб людзях, устанаўленнях і ўстановах свету». Вядома, яму, чалавеку старому і малапісьменнаму, авалодаць усёй глыбінёй і складанасцю гэтых «устаноў і ўстанаўленняў свету»

цяжка ды і, відаць, ужо не давядзецца. Але аўтару важна паказаць, што яго героя і на старасці гадоў не пакідае думка пра ўласнае духоўнае самаўдасканаленне.

Імкненне Радзівона Цівунчыка пагаварыць аб «устанаўленнях і ўстановах свету», як можна здагадвацца, менш за ўсё матывавана жаданнем адзінокага чалавека «скоротать» час. Адчуваецца нешта больш значнае: ён пабойваецца таго, каб не стаць сыравінай гісторыі, малазначным і лёгка падатлівым для чужой волі механічным вінцікам. Герой, безумоўна, не разумее ўсіх тонкасцей філасофіі і філасофскай навукі. Ды і самі такія паняцці з'яўляюцца для яго малазнаёмымі словамі. Але ён адчувае, што шматвяковая людская мудрасць здольна дапамагчы чалавеку пэўным чынам сарыентавацца ў складаным, няпростым свеце супярэчнасцей і, гаворачы словамі А. Лосева, хоць бы часткова засцерагчы «ад вонкавага прымусу», не даць падпасці пад уплыў «усіх падманлівых чужых багоў».

Арыгінальна, ярка, па-грамадзянску мужна раскрываецца такая боязь шараговага чалавека стаць безасабовай марыянеткай у грамадскім працэсе жыцця ў вядомых творах А. Платонава «Катлаван» (1930) і «Ювенільнае мора» (1934). Героя аповесці «Катлаван» рабочага механічнага завода Вошчава, напрыклад, узмоцнена пераконваюць, што «завод працуе па гатовым плане трэста», а яму застаецца толькі быць добрасумленным выканаўцам гэтага гатовага плана. А ён упарціцца, не пагаджаецца і даказвае, што і яго самога ў пазаўрочны час цягне думаць «аб плане жыцця».

Гэта яго жаданне, як можна заўважыць, абумоўліваецца верай ці ў рэшце рэшт прадчуваннем таго, што ўніверсальна-непарушных і прыдатных на ўсе часы планаў жыцця наогул не бывае, не існуе. Зыходзячы з падобных пазіцый, абапіраючыся ў асноўным на грунт здаровага сэнсу, ён даволі лёгка знаходзіць слабыя мясціны ў доказах сваіх апанентаў-начальнікаў, хоць тыя часта не прымаюць яго ўсур'ёз і імкнуцца маніпуляваць такімі паняццямі, як «матэрыялізм», «дыялектыка» і г. д. Яму, у прыватнасці, раяць больш налягаць на працу, «укалваць» і меней думаць аб шчасці ўсіх і кожнага, бо агульнае шчасце нібыта пэўна і канчаткова прадвызначана адпаведнымі тэорыямі. «Шчасце адступіць ад матэрыялізму, таварыш Вошчаў, а не ад сэнсу», — кажа яму адзін з такіх «знаўцаў» дыялектыкі і матэрыялізму. А каб быць ужо зусім на вяршыні «вучонай» аргументацыі, ён прыводзіць такія вось, на яго погляд, непахісныя довады: «Табе, Вошчаў, — дзяржава дала лішнюю гадзіну на тваю задумлівасць — працаваў восем, цяпер сем, ты б і жыў — маўчаў! Калі ўсе мы адразу задумаемся, то хто дзейнічаць будзе».

Але гэта стэрэатыпна-напышлівая тырада ўсёведання таксама досыць лёгка рассыпаецца пад напорам неабвержнай логікі здаровага сэнсу Вошчава: «Я мог выдумаць што-небудзь накшталт шчасця, а ад душэўнага сэнсу палепшылася б вытворчасць... *Без думы людзі дзейнічаюць бессэнсоўна*» (курсіў мой. — **В. Ж.**). І з асабліва вялікім непакоем ён думае пра тое, каб раптам гэта бессэнсоўнасць не стала шырокамаштабнай і доўгатэрміновай праграмай дзеяння і канцэпцыяй жыцця многіх людзей. Паводле аўтара Вошчаў хоча працаваць, вельмі перажывае, што з прычыны «задуменнасці сярод агульнага тэмпу працы» яго звальняюць з завода. Але і пасля ўсяго гэтага ён застаецца перакананым, што «без ісціны» і дакладнага ведання, «куды трэба імкнуцца», праца марная і на самай справе бессэнсоўная.

Сур'ёзна, заглыблена і таленавіта папрацавала ў пастаноўцы і вырашэнні падобных пытанняў мастацкая думка і ў выдатных паэмах беларускага і рускага класікаў «Новая зямля» і «Краіна Муравія». Я. Колас і А. Твардоўскі, апрача ўсіх іншых аўтарскіх задач, заклікаюць сваіх чытачоў глыбей пранікнуць у сутнасць самога паняцця «*асэнсаваная, мэтазгодная праца*» і дапамагаюць яму пераадолець механічныя адносіны да слоў і паняццяў, здавалася б, звыклых, не новых. Аўтары вельмі зацікаўлены, каб мы зразумелі, што асэнсаваная праца — гэта найперш такая дзейнасць, у канчатковых выніках якой абавязкова ўвасоблена энергія (вялікая або малая) чалавечай духоўнасці, чалавечага розуму і роздуму,

індывідуальных планаў, намераў чалавека і, увогуле, яго інтэлектуальна-духоўнай адметнасці і індывідуальнасці.

Толькі падобная праца, паводле меркаванняў Я. Коласа і А. Твардоўскага, можа быць і па-сапраўднаму эфектыўнай і прадуктыўнай у непасрэдна-практычным, матэрыяльным яе вымярэнні. Пры гэтым больш за ўсё героі іх твораў асцерагаюцца, каб раптам не трапіць у такое становішча, калі звужаны і абмежаваны магчымасці індывідуальнага выбару, свабоднага роздуму пра спосабы, сродкі і метады рэалізацыі той працы, якую, зрэшты, яны ж самі і павінны выконваць. І ўжо не проста асцерагаюцца, а па-сапраўднаму баяцца апынуцца ў сітуацыі, калі магчымасць індывідуальнага выбару, індывідуальнага абдумвання справы, за якую ім самім належыць узяцца і давесці да ладу, цалкам выключаецца. Яны лічаць (і небеспадстаўна), што калі на тваю волю, на жаданні і інтарэсы жорсткім прымусам накладваецца іншая воля, то ўсе намаганні вельмі лёгка могуць патрапіць у жыццёвае рэчышча нечага ненатуральнага, несапраўднага, падманлівага.

Ці не гэта перш за ўсё непакоіць, напрыклад, герояў коласаўскай «Новай зямлі». Яны не абдзелены кавалкам хлеба. На святочны дзень ці на выпадак сустрэчы жаданых гасцей знойдуцца ў іх для пачастунку добрыя сялянскія прысмакі — і чарка, і скварка. Гэта і нешта падобнае вельмі палохала ў свой час вульгарна-сацыялагічных крытыкаў: бо залішне многа ў творы нібыта дробнабуржуазнага кулацкага элемента і надта ўжо выразныя ў гаспадарчым жыцці яго герояў прыкметы заможнасці.

Але ж самі героі думаюць пра сябе і сваё жыццё іначай. Іх не на адзін дзень не пакідаюць трывога і клопат пра свой уласны і сваёй сям'і заўтрашні дзень. Бядуюць Міхал і Антось галоўным чынам якраз таму і з-за таго, што «жыць пад панскай воляй», ці, кажучы іначай, быць прыняволенымі, паводле іх уяўленняў, азначае жыць «у ...пекле», бо той іх дастатак і тая іх даволі-такі сціплая заможнасць, здабытыя нялёгкай і клопатнай працай, могуць быць разбураны і ператвораны ў нішто па волі пана-ляснічага. Вось, напрыклад, адно з такіх разважанняў Міхала:

Ды як тут жыць? Няма ахвоты,
І марны ўсе твае турботы.
Жывеш, ліпіш, як на калу ты,
І ногі й рукі ўдзеты ў путы.
А подзьме вецер і ўсё бухне,
І ўсё старанне тваё рухне!

Ну, а калі чужая воля, што скіроўвае чалавека на нейкія дзеянні, заключае ў сабе ў дадатак жорсткі, антыгуманны характар, то элементы бяссэнсіцы і абсурду ва ўзаемадачыненнях чалавека з яго працоўным заняткам становяцца яшчэ больш адчувальнымі па сваёй разбуральнай для духоўнай чалавечай прыроды сіле. Да месца прывесці досыць характэрны эпізод з паэмы А. Твардоўскага «Краіна Муравія». Гэта частка мастацкага тэксту працяглы час амаль не трапляла ў поле зроку аналітычнай крытыкі, а калі і трапляла, то пераважна з той толькі мэтай, каб лішні раз падкрэсліць варожую настроенасць кулака-міраеда да савецкай улады.

А сутнасць вось у чым. Галоўны герой Мікіта Маргунок у час працяглых вандраванняў у пошуку праўды і справядлівасці на зямлі нечакана сустракае свайго *заможнага суседа* Бугрова Іллю Кузьміча, з якім вельмі марыў пасябраваць і які цяпер шукае ратунку, выпадкова вырваўшыся на волю з паўночных гулагаўскіх казематаў. Паміж былымі суседзямі-аднавяскоўцамі ў час гэтага кароткага спаткання адбываецца размова, якая сваім адкрытым тэкстам і падтэкстам заслугоўвае таго, каб спыніцца на ёй больш падрабязна. Мікіта Маргунок, відаць, з меркаванняў самай звычайнай чалавечай цікаўнасці імкнецца скіраваць гаворку Іллі Кузьміча пра лагернае жыццё-быццё ў напрамку як мага большай адкрытасці. Падчас ён крыху хітрыць, прыкідваецца прасцячком-нязнайкам і

быццам бы здзіўляецца, што там, адкуль ідзе-ўцякае Ілля Кузьміч, які да самазабыцця любіў працу і ўмеў працаваць, чамусьці не змог прыцярпецца і не здолеў знайсці ў працы калі ўжо не вялікую асалоду, то хоць бы якое-небудзь кароткатэрміновае задавальненне.

А магчыма, Мікіта Маргунок і сапраўды быў залішне наіўным і верыў, што ад *любой* злыбеды і гора трэба ратавацца ў працы і можна «вылечыцца» працай. Так звычайна ў жыцці і бывае, калі яно, паварочваючыся да сумленнага, працавітага і мужнага чалавека вострымі вугламі, складанымі экстрэмальнымі сітуацыямі і драматычна-трагедыйнымі гранямі, усё ж не парушае ў сваім няспынным руху нейкія вузлавыя, адвечныя маральна-этычныя і гуманістычныя каштоўнасці, асноўныя прынцыпы народнай маралі і народных уяўленняў пра дабро і зло. У гулагаўскіх жа лагерах гэтыя высокія духоўна-маральныя каштоўнасці і прынцыпы былі поўнасцю адрынуты і закрэслены. А субяседнік Іллі Кузьміча не зусім усведамляе гэта. Ды і не мог ён у поўнай меры адчуць, зразумець і ўсвядоміць боль і пакуты нядаўняга зэка, бо на такую ступень адчування і перажывання мог узняцца толькі чалавек, які пабыў у «перавыхаваўчым пекле».

Аднак паслухаем лепей саміх герояў — і таго, хто ў *любым* становішчы быццам бы ўсё яшчэ схільны лічыць працу найлепшым лекавым сродкам душы, і таго, хто вельмі любіў працаваць раней, быў прыкладным заможным гаспадаром, не страціў гэтых якасцей і, пабыўшы на гулагаўскіх «курсах перавыхавання», прыйшоў пасля ўсяго гэтага да цвёрдага пераканання, што не ўсякая праца — лекар, і не ўсякія працоўныя намаганні — крыніца асалоды:

А вот откуда ж ты теперь
Илья Кузьмич бредешь?
— Бреду оттуда…
— Что ж там? Как?
— Да так. Хороший край.
В лесу, в снегу стоит барак,
Ложись и помирай...

— Так, так, Илья Кузьмич...
А все ж —
Тут злость своя нужна:
Что скажут — делай, дескать, врешь, —
Работа не страшна...
— Нет, брат, спасибо за совет,
Не страшен был бы труд,
Да смысла нет (выдзелена мною. — **В. Ж.**).
— А ты начни!
— Да мочи нет…
— И ты тяни!
— Да руки не берут.

Аляксандр Твардоўскі выявіў выключна тонкае майстэрства ў аргументацыі таго, што толькі *свабодны* чалавек можа быць творцам (у тым ліку і творцамземляробам) і што ўсякія абмежаванні на гэтым шляху непазбежна вядуць да алагізму і парушэння праўды.

Для свайго часу гэта думка выдатнага паэта пра бессэнсоўнасць і абсурднасць паднявольнай працы была выключна смелым грамадзянскім актам. Бо нараджаецца і фармуецца яна ў перакладчыка не пад уплывам нейкіх выпадковых акалічнасцей, не пад уздзеяннем фактаў старога буржуазнага ладу, адкрытага для любой крытыкі, а пад уплывам і ўздзеяннем фактаў і з'яў новай савецкай явы, якая нібыта поўнасцю вызваліла чалавека ад прыгнёту, дала яму поўную свабоду і парвала ўсе ланцугі, што стрымлівалі і абмяжоўвалі яго індывідуальную актыўнасць. Наколькі прынцыповым, неадступным і смелым быў аўтар паэмы «Краіна Муравія» ў пастаноўцы і раскрыцці балючых і драматычных пытанняў часу, пра многае гаворыць і тое, што задумвалася і ствaралася гэта паэма тады, калі рэп-

рэсіўная рука афіцыйнай улады паспела ўжо выгнаць з наседжаных мясцін і раскідаць па белым свеце амаль усю сям'ю Твардоўскіх. І ў той жа час ён імкнуўся застацца і застаўся сумленным чалавекам, грамадзянінам і мастаком.

Вядома, нешта вельмі істотнае мусіла ўвайсці ў падтэкст твора. І не ўсё тут расшыфравана да сённяшняга дня. Але і ў даволі адкрытых, у пэўным сэнсе нават публіцыстычна завостраных праявах мастацкага тэксту паэмы А. Твардоўскі не збаяўся сказаць, што ісці насуперак уласнай волі азначае для чалавека ў кожны момант быць гатовым паставіць сваё «я» на службу несправядлівасці.

Дарэчы, мудрыя, праніклівыя людзі добра разумелі гэта ўжо ў далёкія старажытныя часы, нават у перыяд рабства, калі прыняволенасць значнай часткі народа ўзаконьвалася і апраўдвалася ўсім дзяржаўным і канстытуцыйным укладам тагачаснага жыцця. Аднак мастацкая і філасофская думка ў многіх выпадках і тады ўжо часта палемізавала і не пагаджалася з афіцыйнай дзяржаўнай думкай, і нярэдка гэту дзіўную, цікавую і ў чымсьці загадкавую з'яву мы заўважаем у асобе аднаго і таго ж чалавека. Дазволім сабе невялікі экскурс у сівую даўніну.

Вядома, напрыклад, што рымскі імператар і военачальнік Марк Аўрэлій (121 г. н. э.) не вызначаўся асаблівай паблажлівасцю і далікатнасцю ў адносінах да сваіх падначаленых, кіруючыся бягучымі інтарэсамі імперыі. І ў той жа час ён пэўным чынам адмаўляў сябе самога ў такой сваёй духоўна-інтэлектуальнай сутнасці, калі выступаў як удумлівы філосаф-мысліцель. У яго вядомай класічнай працы «Роздумы» («Размышления») своеасаблівай думкай-крэда з'яўляецца ўзвышэнне чалавека, здольнага ўсведамляць, што «супраць волі пазбаўляецца ісціны ўсякая душа». Пражыць непрыняволена, без націску чужой волі азначае для яго пражыць і ў найбольшай набліжанасці да ісціны і ў найбольш акрэсленай гарманічнай суладнасці з ёй. Дзеля такой вялікай мэты не трэба, на яго погляд, шкадаваць сіл і варта быць гатовым усё вытрымаць і выцерпець. Ён пераконваў чалавека ў перавагах такой жыццёвай пазіцыі, якая давала б яму сілы не аглядвацца баязліва на «*чужое вядучае*», а дазваляла настройвацца *на вядучае* ўласнай душы. Марку Аўрэлію сімпатычныя людзі, якія разумеюць, што самая шчырая і разумная парада, самая мудрая і неардынарная думка, пачутая або пачэрпнутая з кніг, дзейсна і пазітыўна ўплываюць на фарміраванне духоўнага свету чалавека толькі тады, калі сам чалавек свабодна, нязмушана, без якога б там ні было націску на яго волю выбірае з такіх парад і думак нешта вельмі сугучнае і адпаведнае яго ўласнай душы і свядомасці. «Памятай, — гаворыць ён, — што і змяніцца, і ўзяць прыклад з таго, хто цябе папраўляе, належыць толькі *свабоднаму*. Бо твая справа здзейсніцца паводле тваіх жа імкненняў, меркаванняў ды і паводле твайго ж розуму».

Гэта думка-ідэя, выказаная амаль дзве тысячы гадоў таму назад, справядлівая для кожнага гістарычнага часу, хоць трактаваць яе спрабавалі па-рознаму і нярэдка, як мы ведаем, паварочвалі не на пошукі і глыбейшае пазнанне ісціны, а на разыходжанне з ёю. І гэта не праміналa адгукацца адчувальнымі стратамі.

Вядома, завастрэнне ўвагі на ролі індывідуальнага інтарэсу асобы ў выбары жыццёвых арыентацый не азначае змяншэнне грамадскай ролі і функцый калектыўнага інтарэсу і калектыўнай волі. Падобнае супрацьпастаўленне, як сказалі б сёння, па меншай меры трэба было б прызнаць некарэктным, а па вялікім рахунку ацэначных крытэрыяў — недакладным ці проста памылковым. Пра моц і непераможнасць калектыўнай сілы і непажаданасць парушаць яе гарманічны рытм і зладжаную хаду багата прыкладаў дае фальклор. Такія прыклады кожны можа прыгадаць і са сваёй уласнай жыццёвай практыкі. У самых розных сюжэтных варыянтах гэта ідэя ўзвышэння або нават рамантызацыі і гераізацыі калектыўнай сілы, да якой асобны чалавек імкнецца далучыцца добраахвотна, без знешняга прымусу або звяртаецца да яе па дапамогу ў цяжкі ці крытычны момант, знаходзіць адлюстраванне і ў мастацкай літаратуры, у тым ліку і ў творах, якія разглядаюцца ў гэтым артыкуле.

Прытым найбольш шырокае сюжэтна-тэматычнае поле такой ідэі ў літаратурным працэсе мы заўважаем звычайна тады, калі абставіны вымагалі асаблівай згуртаванасці і калектыўных намаганняў. У даволі выразных малюнках такія аспекты праблематыкі знаходзяць, напрыклад, адлюстраванне ў беларускай дакастрычніцкай літаратуры ў перыяд найбольшага ўздыму рэвалюцыйных хваляў у грамадскім жыцці. Заклік да народа згуртавацца і паўстаць «дружнай грамадою» ў абарону сваіх нацыянальных і сацыяльных правоў натхнёна гучыць у творах Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі. У некаторых з іх (галоўным чынам у вершах акрэслена-публіцыстычнага характару) ідэя калектыўнай волі з'яўляецца дамінуючай мастацкай сілай, якая вызначае сюжэтна-кампазіцыйныя і моўна-стылявыя асаблівасці твора. Аднак і тут трэба звярнуць увагу на такі істотны момант. Імкнучыся настроіць, пабудзіць чалавека цясней і глыбей далучыцца да калектыву, агульнанародных і нацыянальных інтарэсаў, мастацкая думка ў Коласа, Купалы, Цёткі і ў дадзеным выпадку звычайна не спяшаецца пераходзіць у формы дыктату і катэгарычнага навязвання чалавеку нейкай жорсткай безальтэрнатыўнай сістэмы дзеянняў, паводзін, жыццёвых арыентацый.

Гэта тэндэнцыя, досыць адчувальна выяўляючы сваю адметнасць, як мы сказалі, у творах публіцыстычнага кірунку, з яшчэ большай эстэтычнай і псіхалагічнай выразнасцю і маштабнасцю раскрываецца ў эпічным жанры прозы. І яркім прыкладам тут зноў-такі могуць быць творы Я. Коласа, які і ў распрацоўцы пытання аб узаемаадносінах асобы і калектыву, «я» і «мы» шмат у чым з поўным правам можа быць названы наватарам-першапраходцам. А той сэнсавы «код», які аўтар закладваў у самыя першыя свае творы, спрабуючы раскрыць складаную, узаемазалежную сацыяльна-псіхалагічную сувязь асобы і калектыву, мастацкая думка беларускай літаратуры ў найбольш сумленных і таленавітых плынях свайго развіцця намагалася «расчытаць» на наступных этапах, настойліва шукаючы найбольш дасканалыя спосабы і прыёмы, каб зразумець асноўную сутнасць гэтай эстэтычнай кодавай праграмы і зрабіць такое веданне эфектыўнай часткай пазнання рэчаіснасці і чалавека.

Ёсць тут над чым падумаць і сённяшняму даследчыку літаратуры. Яшчэ далёка і далёка не вычарпана мастацкая энергія твораў Я. Коласа і наогул нашай нацыянальнай і замежнай літаратурнай класікі ў вытлумачэнні такіх заўсёды актуальных, складаных і важных праблем, як чалавек і калектыў, чалавек і грамадства, чалавек і гісторыя.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# КОЛАС КРОЧЫЦЬ ПА ЗЯМЛІ...

*Шлях ад вобразнага ўзнаўлення да філасофскай канцэптуалізацыі феномена зямлі ў спадчыне класіка*

Айчыннай літаратуры самой гісторыяй наканавана глыбокае і шматстайнае вымярэнне феномена зямлі: узнавіць і асэнсаваць сваю зямлю значыла пераўзысці няпэўную «тутэйшую» ідэнтычнасць. Слушна прасачыць, якім чынам ствaралася шматстайнасць, як у мастацкім слове адбывалася спалучэнне сацыяльнага, нацыянальнага і экзістэнцыяльнага бакоў зямельнай тэмы, як рэальна праходзіла ўнутранае асваенне і анталагічнае ратаванне роднай зямлі і сябе разам з ёй.

Напачатку варта суаднесці своеасаблівасці разгортвання зямельнай тэмы ў творчасці двух «архікласікаў» беларускай літаратуры — Я. Коласа і Я. Купалы. Звяртае ўвагу розніца паходжання мінорнай афарбоўкі «зямельнай» тэмы ў вершах пачатку XX стагоддзя. Коласава песня «плачу» пераважна па «няплодных» якасцях зямлі беларускай — «Белоруссия» (1902), «Роднае поле» (1907), «Мужычая ніва» (1906—1907), «Жніво», «Мужык», «Жытні колас» (1908), «Сялянская рада» (1909), «На ніве» (1911), «Жніўныя песні» (1912) і інш. Купала «аплаквае» найперш адчужанасць тутэйшай зямлі, нетрываласць каранёў на ёй — як у юнацкім вершы «Зямля», створаным на польскай мове:

Сэрца плача... Знікаюць сны пра цябе, зямля <…>
Палёты да любасці ў душы ціха дрэмлюць...
Не люблю я цябе, зямля, хоць звяртаюся да Бога:
Хрысце! Адкуль такая перамена?..
Я ару чужое поле.

Коласаў «плач» аб нядолі мужыка-гаспадара мае перадусім штодзённы і надзённы характар. Купалаў лямант «тутэйшасці» (адзіноты, непрытульнасці) — феномен анталагічна-экзістэнцыяльны, лямант над безданню небыцця. Тое і іншае выкліканае, на наш погляд, індывідуальнымі ўмовамі сталення двух паэтаў. Колас арганічна «ўрослы» ў беларускую ніву, і «плач» яго — хоць маркота, але і замілаванне; Коласава драма станаўлення-сталення — драма хутчэй інтэлектуальнага кшталту: узрастанне ад нерэфлексаванага, інтуітыўнага да філасофска-канцэптуальнага ўспрымання рэчаіснасці. Купалаў шлях — драматычнае «ўрастанне ў глебу», рух ад пераважна вонкавага, знадворнага да глыбіннага аўтэнтычнага разумення «тутэйшасці»: разумення-болю, але і разумення-трываласці, умацаванасці Сябе-ў-Сваім.

Драма набыцця сувязі з роднай зямлёй, адлюстраваная ў адным з матываў паэзіі Я. Купалы, прасочаная намі ў матэрыяле «Тэма зямлі ў паэзіі Я. Купалы і геасофіі М. Хайдэгера», надрукаваным у газеце «Літаратура і мастацтва» (снежань, 2009). На чарзе цяпер разгляд філасофскага характару візуалізацыі «зямельнай» тэмы ў спадчыне Я. Коласа.

У дачыненні да фундаментальнага тэзіса пра зямлю як тоесную адпаведнасць чалавеку (кантэкст Купалавых вершаў «Шчасце», 1908—1910, «Чараўнік», 1912) Коласава актуалізацыя «зямлі-асновы» — наступны мысліцельны крок. Зямля — аснова, «грунт», падстава ўгрунтавання, трываласці таму, што

яна — працяг(ласць) асобы, якая такім чынам нібы распасцірае сябе ў свеце, выходзіць на свет і ў свет; зямля — захавацельніца патэнцыялу быційнасці (пар. у Хайдэгера: «...ўсё, чым ёсць чалавек і што дадзена чалавеку, павінна быць інтуітыўна вылучана з зачыненай глебы-асновы і наўмысна рэалізавана на <ёй>. Так глеба-аснова ўпершыню спраўджваецца як фундамент, што ўсё трымае на сабе»). Зразумела, не раптам у Я. Коласа прагучыць адпаведная бяздонная думка, якой папярэднічала, потым спадарожнічала няспыннае ўзнаўленне вобліку зямлі па прынцыпе: тое, што названае, упершыню насамрэч пачынае быць, у тым ліку ў свядомым разуменні паэта.

Паводле ўласнага прызнання класіка, дар жывапісання словам развіўся ў яго пад уплывам М. Гогаля, «вялікага настаўніка», які навучыў «раней за ўсё авалодаць умельствам кантрасту»: «велічна-супакойнае хараство прыроды — і панурае гібенне абяздоленага чалавека». Характэрна, што кантраст часцей за ўсё відавочны толькі ў агульным, цэласным малюнку творчасці пісьменніка: вершы, якія «плачуць», чаргуюцца з творамі, дзе пераважаюць светлыя тоны і ўзнёслы настрой.

Надзвычай важна, што дагэтуль не атрымала адзнакі рыса пейзажнага майстэрства Я. Коласа — адлюстраванне адзінства чалавека і наваколля. Праз гэты матыў мастак увасабляе самую сутнасць сапраўднага быцця чалавека:

> «Пазірае Лабановіч на гэтыя з’явы-малюнкі, убірае іх у сваю істоту, злучаецца з імі, імі жыве, адчувае як бы нейкую блізкасць да іх, спачуванне, прыязнь, дружбу. Яму хочацца яшчэ болей шчыльна зліцца з імі, расплысціся ў павабнай далечы-прасторы і самому стацца гэтым прасторам» («На ростанях»).

Такое адзінства — не толькі псіха-эмацыянальнае ўражанне, хоць і паходзіць ад яго; а адбітак і перспектыва творчага быцця на зямлі, адчуўшы зліццё з якой, мусяць яго замацаваць — увасобіць і ажыццявіць — у рознага кшталту творчых праектах (дастаткова ўзгадаць Лабановічаў план паляпшэння пясчанай глебы на сядзібе сваякоў). Ці не таму «малюнкі, змайстраваныя рукамі чалавека» асабліва любыя мастаку і яго аўтабіяграфічнаму герою — як пэўны ўзор, жаданы накірунак, сведчанне ўдзячнасці рознага кшталту «меліярацыйных» (у першасным, літаральным сэнсе, ад фр. améliorer — паляпшаць, удасканальваць) намаганняў?

Пра ўнікальнасць Коласава малюнка словам сведчыць тое, што ўсе характарыстыкі яго вонкавых, стылёвых асаблівасцей будуць мімаволі нагадваць пра яго змястоўную важкасць: так, заўважыўшы «мясцовы каларыт», характэрны «настрой» тых ці іншых краявідаў і адзначыўшы падкрэсленыя мастаком іх адбіткі ў характарах жыхароў, мы прыгадаем фундаментальны тэзіс пра адпаведнасць этнічнай псіхалогіі акаляючаму ландшафту (Л. Гумілёў, О. Шпенглер, Г. Гачаў):

> «Палешукі — людзі паважныя, сталыя, асцярожныя, не адразу і не кожнаму расчыняюць сваю душу, бо ўжо, мусіць, сама прырода Палесся налажыла на іх сваю адзнаку. Бясконцыя балоты вучылі іх мудраму разважанню, мора лясоў выхоўвала ў іх засцярогу, бо так лёгка тут напаткаць небяспеку...» («На ростанях»).

Кажучы аб захапленні Я. Коласа прыродным светам, адлюстраваным у безлічы натхнёных пейзажных радкоў, натуральна састасуем яго з анталагічным законам пра неаддзельнасць і ўзаемадапаўняльнасць прыроднага і чалавечага свету, сувязь, якая надае трываласці быццю. Мастакоўскі талент пісьменніка стварыць цэльны, арганічны вобраз наваколля прымусіць адчуць гармонію сусвету, дасканалы космас Тварэння, адчуўшы таксама нашу ўласную ў ім Прысутнасць, нават у хайдэгераўскім сэнсе сапраўднасці быцця (не існавання), — у апавяданнях «Салавей» (1922), «Сяргей Карага» (1923), зборніку «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (1906—1907), шэрагу замалёвак з трылогіі «На ростанях».

На такім літаральна ўвасобленым, «матэрыяльным» падмурку магло будавацца свядомае адлюстраванне неардынарнасці феномена зямлі, прынцыповае акрэсленне яго канцэптуальных сэнсаў — пачынаючы з паэмы «Новая зямля» (1923),

першапачатковы імпульс якой — тая ж вызначальная думка пра зямлю як адпаведнасць чалавечаму пачатку. Інтэрпрэтаваная Купалам як пошук сябе, пошук індэнтычнасці, тэма адпаведнасці «зямля — чалавек» у Коласа пададзена праз драму сціскання ідэнтычнасці — асноўнае пачуццё, якое правакуе і ўмацоўвае Міхалаву мару аб уласнай зямлі: «Вартуй чужога, хадзі па чужым, жыві не ў сваёй хаце. А грызіся са сваімі (мікалаўцамі. **— Т. С.**)! Выходзіць, ужо і сам не свой» (з пазнейшага ўзнаўлення пісьменнікам разважанняў прататыпа, уласнага бацькі). Сціскание ідэнтычнасці — сціскание патэнцыялу быційнасці; адпаведна сваёй глыбіні, думка гэта ўспрымаецца чытачом адразу на двух узроўнях, асабістым і нацыянальным, як, напрыклад, у наступных радках:

...Пан не мае спагадання,
Што трэба жыць з сям'ёй на свеце,
Што ты, як рыба тая ў сеці,
Не маеш волі, ні разгону,
Што ты не чуеш жыцця звону,
Што гэты свет табе завязан
І шлях прасторны твой заказан.

Глыбіня Коласава «пры-земленага» мыслення аднаўляе сябе таксама ва ўсведамленні адпаведнасці «бытавога» («матэрыяльнага») і фундаментальнага значэнняў паняцця «зямля». Менавіта такім чынам у творчасці мастака слова знаходзіць месца тэзіс пра адпаведнасць «зямнога» і «нябёснага» пачаткаў (з «Казак жыцця»: «У дрэва павінна быць дзве дарогі — адна ў зямлю, другая ўгару да сонца»). Сталы Колас звернецца да гэтай думкі ў размовах са сваім «Экерманам», М. Лужаніным:

«Я думаў, ён (хлопчык. — **Т. С.**) скажа: хачу быць інжынерам. Аж не: глебазнаўцам. Дагадзіў майму сэрцу. Я не раз казаў: чалавек не павінен адрывацца ад зямлі, ад тых, хто жыве на ёй, ад таго, што на ёй расце. Мы пачалі ператвараць зямлю, яны зробяць яе багатай і справядлівай... І ўзляцяць вышэй, чым мы можам уявіць. Але зробяць гэта толькі, калі моцна стануць на зямлі».

Колас-дзяржаўны дзеяч захавае вернасць сваёй юнацкай мары аб аднаўленні і разумным карыстанні зямлёй Радзімы, калі будзе праводзіць «у вярхах» праект ліквідацыі камення на палях рэспублікі. Уяўленне «зямной» і «нябёснай» сутнасці «грунту» пад нагамі настолькі моцнае ў пісьменніка, што яго не засціць нават сацыяльнае абурэнне, адвечнае сціскание беззямельнага і малазямельнага беларускага сялянства з-за існавання «вялікай» панскай зямлі: дастаткова ўзгадаць Лабановічава неспадзяванае ўражанне — прыемнае здзіўленне і нават захапленне — ад зямнога Парадыза, нечакана напатканага панскага маёнтка на пясках:

«Каля самай дарогі, за высокаю мураванаю агароджаю, раскінуўся двор з багатым садам нейкага малавядомага земляўласніка Сцяпанава... Маёнтак гэты зварачаў на сябе ўвагу, асабліва кідаўся ў вочы сад, які выглядаў нейкім прыгожым востравам. Рады стромкіх таполяў, як вартаўнікі, стаялі высокаю шарэнгаю паўздоўж чатырох сцен агароджы. І дзіўным здавалася, як маглі гэтыя магутныя таполі і гэты цудоўны сад разрасціся тут і забраць такую сілу на мізэрнай пясчанай зямлі? І вось тут прыгадаліся Лабановічу яго ...думкі аб Мікуцічах, калі ён... марыў аб пераўтварэнні глебы. <…> «Можа, гэта былі і верныя думкі...»

Увасабленне крэатыўнай моцы чалавека, які *сам* стварае годную зямлю, не скардзячыся на неспрыяльны лёс і няплодны пясок, складзе асноўнае рэчышча паэтычнай інтэрпрэтацыі вобраза «Новая зямля», сімвалічная «навасць» якой — не столькі «эсхаталагічнага» (містычнага, летуценнага, канцэптуальна нявызначанага), але дбала гаспадарчага, прыземлена трывалага кшталту: «Новая зямля» — месца су-творчасці (сумеснай творчасці) з Тварцом:

...Ажывіліся амшары,
Запахла свежаю раллёю,
Як бы сам Бог тут над зямлёю
Прайшоў і глянуў міласціва.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Усё зацвіло, загаманіла,
Бы жыватворчая тут сіла
Ад сну прыроду абудзіла.

Дарэчы прывесці філасофскае абгрунтаванне Коласавай паэтычна-гаспадарчай думкі. У М. Хайдэгера знойдзем прынцыповае адрозненне земляробства і здабычы. Першае — раскрыццё схаванай патэнцыі зямлі, акт творчасці, вынік якой — тварэнне; другое — адчужанае рамяство, насільны *«Пастаў» (Gestell)*, пастаўка да наяўнасці, вы-творчасць як патэнцыяльная вы-нішчанасць, з-нішчэнне таго, з чаго вы-твараецца нешта, каб у сваю чаргу ператварыцца ў нішто. Аўтарскі канцэпт *Пастаў* прызваны падкрэсліць анталагічную штучнасць і фатальную канчатковасць прамысловай вы-творчасці, кожны новы прадукт якой стварае патрэбу ў дадатковых прадуктах (паслугах) і так бясконца, але ўсё ж да пэўнай мяжы. У сацыяльнай філасофіі Ханны Арэндт супрацьлегласці «тварэнне / вы-творчасць» адпавядае апазіцыя «стварэнне *(Herstellen)* / праца *(Arbeit)»*: першае — творчасць, майстэрства; другое — механічнае «рамесніцтва». Земляробчая праца, літаральна *Arbeit*, — усё ж па сутнасці творчасць, таму што яе вынік «перажывае ўласна дзейнасць і становіцца адчувальнай, непераўзыходнай частачкай свету».

Асаблівай увагі вартая Коласава «зямельная» тэматызацыя ў сувязі з меліярацыйнай практыкай Савецкага Саюза. Сапраўды, тут паўстае «праблема аўтэнтычнасці аўтарскай думкі» — тое, што падчас 1930—1950-х гг. тычылася творчасці амаль усіх беларускіх пісьменнікаў. Пры відавочнай часам штучнасці дыскурса Коласа ў савецкую эпоху (дыфірамбаў «Кастрычніку» і г. д.), успрыманне ім зямельнай меліярацыі — цалкам станоўчае, а пафас і настрой адпаведных твораў — непадробна ўзнёслы, натхнёны (цяжка было адразу, наўздагон хвалюючым праектам, ацаніць вытрымкі іх звышактыўнасці). Падстава аптымізму пісьменніка — безумоўна творчы характар новых умоў гаспадарання на зямлі, літаральнае стварэнне зямлі Новай:

«...Змянілася не толькі поле — змены адбыліся і ў... вёсцы. Павырасталі новыя будынкі: клуб, школа, бальніца, дзіцячыя яслі і сады, а каля гэтых будынкаў раскінуліся прыгожыя дворыкі і пляцоўкі з чысценькімі роўнымі дарожкамі, з клумбамі... Тут можна было і пагуляць: пасядзець на лаўках-канапках пад ценем маладых каштанаў. І ўсё гэта... выклікала пачуццё замілавання да гэтай новай зямлі, да людзей, што абнаўлялі яе і будавалі на ёй новы чалавечы ўтулак»(«Макарка Новак», 1938).

Тварэнне-творчасць «Новай зямлі», ператварэнне «забранага краю» выклікала да жыцця і Купалаў узнёслы твор на тую ж тэму — паэму «Над ракою Арэсай» (1933). Меліярацыя як тэма літаральна Новай, савецкай зямлі — рэчышча, дзе асабліва яскрава прасочваецца дваістасць успрымання класікамі савецкага праекта гісторыі, неаднамерны, стала сур’ёзны падыход да яго. Усведамленне таго, што «кавалі другія, а ланцуг той самы» («Родныя малюнкі», 1921) не засціць відавочнасці: «заварушыўся наш край» («Беларускаму люду», 1921). Увага да гэтай неаднамернасці — адна з падстаў паўнавартаснасці ўспрымання класічнай літаратурнай спадчыны, у якой не павінна быць закрэсленых бакоў, пагардлівага стаўлення да «выкліканых умовамі» старонак.

Удакладненне і пашырэнне ўлюбёнай думкі пра *сваю* зямлю як «зямлю — аснову» вымагала закрануць праблему зямлі *чужой*. Коласава інтэрпрэтацыя, пачынаючы з 1920-х гг., шчыльна наблізіцца да гэтай праблемы, такой надзённай у французскай і амерыканскай літаратуры XIX—XX стст. У Я. Коласа таксама пераважае думка, што зямля можа стацца і ўяўляцца чужой не толькі ў сэнсе парабства на ёй, няпэўнай арэнды або назаляючых беззямельнаму багатых панскіх гоняў: чужой будзе пэўна і безумоўна свая зямля, калі той, хто валодае ёй, не разумее ні сутнасці зямлі, ні сутнасці землеўладання (*адчужаная* зямля). У 1920-я гг. праблема адчужанай зямлі, што існавала спрадвеку і ўсюды, за кошт практыкі

калгаснага гаспадарання, найноўшага варыянта «абшчыннасці». Коласава апавяданне «Туды, на Захад» (1926) сведчыць пра непаддзельны сум пісьменніка-гаспадара з-за нядбайнага і нават вар'яцкага стаўлення сялянскай масы да панскай «культурнай» маёмасці — саду, які нельга пусціць пад збожжа, літаральна ажыццявіўшы тэзіс «зямлю — сялянам»: калі выкарыстаннем маёнтка пад школу народ з большага задаволены, то сад пры школе дазваляе знішчыць скаціне. Чужая — калісьці панская, цяпер «абчэственная» — зямля не мае каштоўнасці, але ж тым часам не мае каштоўнасці культура. Магчыма супаставіць хваляванне Я. Коласа з бальзакаўскай трывогай наконт знішчэння феадальнай паркавай зямлі, таксама аддадзенай Рэвалюцыяй народу:

> «...Нельга было пазнаць край. Таямнічы лес, алеі — усё было зруйнавана. Мясцовасць нагадвала выкрайку шаўца... Селянін, пераможца і заваёўца, цяпер валодаў усім. <…> Вось ён, прагрэс!.. Вось старонка з «Грамадскага дагавора» Жан-Жака!.. Што ж будзе праз колькі часу з каралямі? З уласна нацыямі?..» («Сяляне», 1844. Пер. з фр. наш. — **Т. С.**).

Іншы варыянт адчужанасці — стаўленне да зямлі па-за ўяўленнем яе як бацькаўшчыны. Бацькаўшчына — менавіта па-філасофску ўсвядомленая зямля, каштоўнасць больш чым прагматычнага і «лагічнага» кшталту. Адпаведная праблематыка зафіксавана ў апавяданні «Хатка над балотцам» (1927), адной з найбольш заўважных кропак на арбіце «Новай зямлі», у яе «гіпертэксце», побач з іншымі невялікімі творамі, дзе так ці інакш прысутнічаюць водгаласы ўніверсальнай паэмы. У «Хатцы над балотцам» майстэрства кантрасту, пра якое Колас узгадвае як вынік вучнёўства ў М. В. Гогаля, аднаўляе сябя бадай з найбольшай выразнасцю — у створанай апазіцыі *жывая / мёртвая* зямля. Наяўна і пераканаўча яе фіксуюць экспазіцыя і фінал твора, у той час як асноўны тэкст «расшыфроўвае» праз прыватны вопыт і — таксама ў анталагічных апазіцыях: гаспадарства / карыстанне, творчасць / механічная праца, уласна(е) быццё / прыстасаванне-існаванне («доля насення лапуху», вужоўскае «выкручванне»). Уся антынамічная пабудова сведчыць: менавіта адчужаная зямля (выпадкова прыдбаная, духоўна, а таму і гаспадарча занядбаная) ёсць зямля мёртвая, бо той, хто «сядзіць» на ёй выключна дзеля карысці (як галоўны «герой» пан Зыгмусь), не можа звацца безумоўна жывым і нават — безумоўна чалавекам. Пісьменнік даводзіць гэту акалічнасць наступным чынам:

> «Калі ён (пан Зыгмусь. — **Т. С.**) першы раз з'явіўся тут і яго пабачыў Мікалай з вёскі Асінка, то ён быў так здзіўлены, што спыніўся і стаў разглядаць пана Зыгмуся, а потым спытаў: <…> — А брат ты мой! Ці ты чалавек, ці ты хто? <…> — Цловек, цловек! — тарапліва запэўніў пан Зыгмусь Мікалая і зясмяяўся дробненькім смехам».

Калі дадаць, што жыццё (ці жыццё?) па прынцыпе карысці вымагае замаху на паўнавартаснае спраўджанне лёсу іншага чалавека, таго, каму тым часам бракуе зямлі, то выкрытую Коласам з'яву мы можам абагульніць як прыклад спецыфічнага зямельнага *terror*'у, бо «адчужэнне ёсць сапраўдны захоп уладання» — такі каментар дадзены ў «Філасофіі права» Гегеля, дзе *адчужанае* асэнсавана як штосьці знешняе ад самога сябе: не сваё, але прысвоенае. Перад намі яшчэ адзін выпадак з гісторыі беларускай савецкай літаратуры, калі быццам штучнае, прыстасаванае да прыярытэтаў улады «выкрыццё ўласнасці» перасягае вымушаную надзённасць; ці не пра гэта і клапаціўся сумленны Колас, калі напачатку быццам зусім сціплага, непатрабавальнага па змесце твора выказаў жаданне, каб яму «пашанцавала»?..

Паняцце, якое найбольш выразна абагульняе спецыфіку Коласава мыслення пра зямлю, — «універсіка» (*universics*, літаральна «вакол аднаго», ад лац. *«unus»* — адзін, і *«versus»* — прыслоўе ад дзеяслова *«vertere»*, вярцецца, круціцца): шматаспектнае асэнсаванне шматаспектнага феномена — адзін з найбольш уражвальных бакоў універсалізму творчасці беларускага класіка.

**Эмануіл ІОФЕ**

# КОЛАСАЗНАЎЦА НУМАР АДЗІН

У 60—70-х гадах XX стагоддзя сярод пісьменнікаў і літаратурных крытыкаў Беларусі Юльяна Пшыркова называлі «коласазнаўцам нумар адзін». Зразумела, аб жыцці і творчасці Я. Коласа пісалі дзясяткі літаратуразнаўцаў і пісьменнікаў. Нагадаю толькі некаторых: А. Адамовіч, С. Александровіч, М. Барсток, Д. Гальмакоў, В. Жураўлёў, І. Замоцін, В. Каваленка, У. Казбярук, В. Казлова, У. Карпаў, А. Каўрус, Я. Клімуць, А. Лойка, М. Лужанін, М. Лынькоў, Я. Мазалькоў, С. Майхровіч, М. Мушынскі, І. Навуменка, А. Налівайка, А. Наркевіч, А. Ненадавец, М. Піятуховіч, А. Семяновіч, Л. Фігloўская, М. Цікоцкі, І. Чыгрын, М. Ярош. Большасць якіх прысвяцілі гэтай праблеме кандыдацкія і доктарскія дысертацыі. Аднак, не прыніжаючы каштоўнасць іхніх даследаванняў, усё ж трэба адзначыць, што нефармальнае званне «коласазнаўцы нумар адзін» — своеасаблівая ацэнка навуковай творчасці Ю. Пшыркова — доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа, аднаго з самых таленавітых беларускіх вучоных-філолагаў, літаратуразнаўцаў і крытыкаў.

Яго жыццёвы шлях пачаўся 31 кастрычніка 1912 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Кісцяні цяперашняга Рагачоўскага раёна. Пасля заканчэння Кісцянёўскай пачатковай школы вучыўся ў Свержанскай сямігодцы, дзе ў той час працаваў настаўнікам Міхась Лынькоў. Пройдзе час, і, нягледзячы на розніцу ва ўзросце ў 13 гадоў, гэтыя дзве неардынарныя асобы стануць сябрамі, а акадэмік АН БССР М. Лынькоў будзе рэдактарам многіх кніг Ю. Пшыркова.

У аўтабіяграфіі Юльян Сяргеевіч сведчыў:

«Пачатковую школу я закончыў у 1924 годзе... На экзамены прыехаў інспектар нарасветы з Рагачова, а са Свержаня прыйшоў настаўнік Міхась Ціханавіч Лынькоў. Так я ўпершыню пазнаёміўся з будучым народным пісьменнікам.

Пасля экзаменаў Міхась Ціханавіч звярнуўся да нас з палымянай прамовай. Пра што ён гаварыў, зараз не памятаю, — напэўна, заклікаў вучыцца. Восенню я са сваім сябрам паступіў у Свержанскую школу.

Усяго толькі зіму правучыўся я там, але настаўнікаў запомніў назаўсёды. Міхась Ціханавіч, ці, як мы, па прыкладу герояў «Рэспублікі Шкід», любоўна называлі яго Міхул Танус, часта сабіраў вучняў старэйшых класаў і чытаў ім мастацкія творы. Зімой гэта рабілася ў класе, а вясной хадзілі ў лес. Чытанні былі цікавымі, вучні сабіраліся не па прымусу, а па ўласнаму жаданню. Выпадкова неяк трапіў на іх і я, а потым ужо не прапусціў ніводнага чытання».

З-за таго, што ў 1925 годзе Свержанская школа закрылася, Ю. Пшыркову прыйшлося працягваць вучобу ў Рагачоўскай сямігодцы, якую ён скончыў праз тры гады.

Таксама пашанцавала. Гэтая школа, яе настаўнікі і асяроддзе запомніліся яму на ўсё жыццё. Асабліва не забываў настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Н. Тарасевіч і старшыню літаратурнага гуртка паэта Алеся Жаўрука. У аўтабіяграфіі гэты момант таксама не забыты: «Ніна Іосіфаўна Тарасевіч з'яўлялася

душой нашага творчага жыцця, кіравала літаратурным гуртком, які чамусьці называўся «Маладняк». Арганізатарам і нязменным яго старшынёй на працягу першых двух год быў паэт Алесь Жаўрук (А. Сінічкін), які друкаваўся ў бабруйскай газеце «Камуніст». Членамі гуртка з'яўляліся вядомы зараз паэт Аляксей Зарыцкі, М. Рынейскі, А. Казлоўскі, М. Усаў, М. Бацюшкоў, І. Пучкоў і іншыя. Мы выдавалі рукапісны часопіс «Змаганне», прымалі ўдзел у насценнай газеце. Усе лічылі сябе сапраўднымі паэтамі і падпісваліся гучнымі псеўданімамі. Мелі рукапісныя зборнікі ўласных вершаў і ганарыліся імі так, нібыта гэта былі нашы друкаваныя кнігі».

У 1929—1930 гадах Ю. Пшыркоў вучыўся на двухгадовых педкурсах у Рагачове (выпуск іх быў датэрміновы), пасля са снежня 1930 года чатыры гады працаваў настаўнікам — першыя два ў Звальніцкай і Будзеўскай пачатковых школах Клічаўскага раёна, а апошнія два гады — у Царкоўскай сямігодцы Буда-Кашалёўскага раёна.

У 1934 годзе стаў студэнтам Ленінградскага інстытута філасофіі, літаратуры і гісторыі, рэарганізаванага праз два гады ў філалагічны факультэт адной з самых прэстыжных навучальных устаноў СССР Ленінградскага ўніверсітэта. У той час на філфаку лекцыі чыталі буйнейшыя вучоныя СССР С. Абнорскі, А. Арлоў, М. Піксанаў, Г. Гукоўскі, М. Азадоўскі, П. Беркаў, І. Яромін, У. Яўгеньеў-Максімаў, І. Талстой, А. Смірноў, С. Макульскі, эканаміст А. Вазнясенскі.

Калі пачалі размяркоўваць тэмы дыпломных работ, загадчык кафедры рускай літаратуры прафесар Г. Гукоўскі прапанаў яму пісаць пра творчасць Якуба Коласа: «Мы надаём гэтаму вялікае значэнне і хочам, каб у сценах Ленінградскага ўніверсітэта прагучала беларуская мова».

Навуковым кіраўніком згадзіўся быць малады прафесар І. Яромін, якому споўнілася толькі 35 год, але ён ужо стаў доктарам навук, і калегі лічылі яго ўзыходзячай зоркай на небасхіле рускага літаратуразнаўства. Шмат цікавых і каштоўных матэрыялаў са сваіх уласных архіваў далі Ю. Пшыркову прафесары Беркаў, Піксанаў, Пушкарэвіч. Рэктар ЛДУ Вазнясенскі дазволіў яму камандзіроўку ў Мінск.

Да напісання дыпломнай работы Юльян Сяргеевіч быў добра знаёмы з рускай і замежнай літаратурай. І чым уважлівей вывучаў ён творчасць Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, тым больш пераконваўся, што беларуская паэзія ўзнялася да лепшых твораў сусветнай літаратуры. Асабліва захапіла яго паэма «Новая зямля». Адно толькі выклікала непаразуменне, чаму крытыка зводзіла на нішто гэты выдатны твор. І тады ён вырашыў даведацца пра думку самога Я. Коласа. Паслаў яму ліст, у якім падрабязна выклаў сваё разуменне ідэі паэмы. Неўзабаве народны пясняр прыслаў адказ:

«Дваццаць год мяне бэсціць і лае крытыка, і я не ведаю, за што, бо ў паэме сказана зусім не тое, што яна там знаходзіць. Вы першы, хто правільна ацаніў паэму. Жадаю ўдачы».

Абарона дыпломнай работы прайшла з поспехам. Раздзел пра «Новую зямлю» Ю. Пшыркоў паслаў у часопіс «Полымя рэвалюцыі». Ад М. Лынькова прыйшоў адказ, што рэдакцыя з прыемнасцю надрукуе артыкул.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Юльян Сяргеевіч у 1939—1940 гадах працаваў выкладчыкам Магілёўскага педагагічнага інстытута (сённяшняга Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова). За год здаў усе экзамены кандыдацкага мінімуму.

Пад вясну 1940 года яму давялося пабыць у Мінску. Не прамінуў зайсці да Я. Коласа. Гутарылі гадзін пяць. Народны пясняр зрабіў на маладога даследчыка вялікае ўражанне сваім глыбокім веданнем жыцця, сваёй прастатой і сардэчнасцю.

З лістапада 1940 года Юльян Сяргеевіч служыў у Чырвонай Арміі. У гады Вялікай Айчыннай вайны абараняў Ленінград, у складзе Касіцкай дывізіі выяваў

з дывізіяй СС «Мёртвая галава» пад Утаргашам і Шымскам. Закончыў вайну пад Кёнігсбергам. У баях быў тройчы паранены.

У сувязі з гэтым хочацца зрабіць удакладненне. Вядомы беларускі гісторык і філолаг, доктар філалагічных навук Мікола Нікалаеў у раздзеле «Беларусы ў Санкт-Пецярбургу» ў калектыўнай кнізе «Беларускае замежжа. Белорусское зарубежье» адзначае: «У ліку абаронцаў горада быў гісторык, даследчык старажытнай беларускай літаратуры Ю. С. Пшыркоў, родам з Рагачова».

Па-першае, Юльян Сяргеевіч ніколі не быў гісторыкам. Па-другое, нарадзіўся не ў Рагачове, а ў вёсцы Кісцяні колішняга Рагачоўскага павета.

Пасля вайны дэмабілізацыя затрымлівалася. І тады Ю. Пшыркоў напісаў Я. Коласу, што жыў-здароў і сумуе па мірнай працы. Народны пясняр зразумеў ягонае жаданне і паслаў камандзіру воінскай часці, дзе Ю. Пшыркоў служыў, пісьмо з просьбай дазволіць яму адпачынак.

Прыехаўшы ў Мінск, Юльян Сяргеевіч адразу наведаў Я. Коласа. Той сустрэў яго шчыра і гасцінна, потым павёў яго да М. Лынькова, каб дамовіцца наконт будучай працы.

Неўзабаве Ю. Пшыркоў быў дэмабілізаваны з арміі і прыняты на работу ў Інстытут літаратуры АН БССР.

Так з 1945 года і да канца свайго жыцця, на працягу 35 гадоў, ён і працаваў у гэтай установе: спачатку навуковым супрацоўнікам, а з 1953 года — загадчыкам, на мой погляд, самага галоўнага, самага важнага сектара — дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі.

Адначасова ў 1945—1947 гадах выкладаў беларускую літаратуру ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, а ў 1966—1968 гадах — у Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага.

Ужо ў сваім першым артыкуле «“Новая зямля” Якуба Коласа», напісаным у 1940 годзе, у манаграфіі «Якуб Колас. Жыццё і творчасць» (1951), а таксама ў грунтоўным навукова-папулярным даследаванні «Эпас рэвалюцыі» Ю. Пшыркоў пачаў і прадоўжыў барацьбу супраць вульгарызатарства і фальсіфікацыі гісторыі літаратуры. Разглядаў творы Я. Коласа ў шырокім тыпалагічным плане, прасочваў гісторыю задумы і стварэння коласаўскага ліра-эпасу. Менавіта даследаванне Коласавай спадчыны стала галоўнай тэмай ягонага навуковага пошуку.

За пераацэнку першых частак трылогіі Я. Коласа «На ростанях», зробленую ў артыкуле «Першы беларускі раман» («Беларусь, 1946, № 10), самы злосны непрыхільнік беларускай літаратуры Л. Бэндэ абвінаваціў яго ў невуцтве і нацыяналізме. Ды ад Л. Бэндэ іншага і чакаць было нельга.

Гэта ж іншае сведчанне… Ішоў цяжкі пасляваенны 1949 год. Аднаўлялася і разам з тым развівалася народная гаспадарка. Здавалася, каму трэба літаратуразнаўства? Аднак менавіта ў гэты час, у гэтым годзе шырокай грамадскасці сталіцы Беларусі была прачытана публічная лекцыя правадзейнага члена Таварыства па распаўсюджванні палітычных і навуковых ведаў Ю. Пшыркова «Народны паэт БССР Якуб Колас». Цяжка ўявіць, але аўтару гэтых радкоў давялося сустрэцца з двума слухачамі гэтай лекцыі. У той час яны былі студэнтамі БДУ. Адзін з іх сказаў: «Прайшло амаль паўстагоддзя, а я памятаю гэту лекцыю. Што можна сказаць шчыра? Цікавымі былі і змест лекцыі, і сам лектар».

У тым жа 1949 годзе тэкст гэтай лекцыі выйшаў асобнай брашурай.

Нельга не згадзіцца з А. Лойкам, што манаграфія «Якуб Колас. Жыццё і творчасць» (1951) — першая ў беларускім савецкім коласазнаўстве. Між іншым, шматлікія вартасці адзначалі ў сваіх рэцэнзіях У. Агіевіч у «ЛіМе», Е. Алесеў у часопісе «Беларусь», С. Варановіч у газеце «Красная звезда», Е. Камко ў газеце «Звязда», І. Кудраўцаў у часопісе «Полымя», С. Майхровіч у «Настаўніцкай газеце». У наступным 1952 годзе гэта кніга з дапаўненнямі з’явілася на рускай мове пад назвай «Якуб Колас. Краткий биографический очерк».

Юльян Сяргеевіч з нецярпеннем чакаў выхаду сваёй кнігі «Трылогія Якуба Коласа “На ростанях”». Ён ведаў, што Якуб Колас цяжка хварэе, а яму вельмі хацелася ведаць асабістую думку Канстанціна Міхайлавіча. Вельмі шкада. што спадзяванні Пшыркова не спраўдзіліся. Якуб Колас памёр 13 жніўня 1956 года, а кніга была падпісана да друку праз 15 дзён — 28 жніўня.

Яе высока ацанілі вядомыя беларускія літаратуразнаўцы. Двое з іх назвалі свае рэцэнзіі аднолькава — «Кніга пра трылогію Я. Коласа» (С. Александровіч у часопісе «Полымя» і А. Макарэвіч у «Магілёўскай праўдзе»). З рэцэнзіяй «Каштоўнае даследаванне» выступіў у «ЛіМе» І. Навуменка, а літаратуразнаўца Р. Шкраба ў часопісе «Беларусь» — «Трылогія Якуба Коласа».

Змест кнігі «Трылогія Якуба Коласа “На ростанях”» значна шырэйшы за яе назву. Так, першы раздзел называецца «Якуб Колас — заснавальнік беларускай савецкай прозы», другі — «Беларуская проза пачатку 20-х гадоў».

Аналізуючы творчую спадчыну народнага песняра, Ю. Пшыркоў прыйшоў да высновы: «Мастацкая вартасць бытавых карцін і замалёвак, створаных Я. Коласам у яго вершах і паэмах, у тым, што праз іх паказваецца гістарычны лёс беларускага народа...

Селянін Якуба Коласа — гэта чалавек, які надзвычай доўга цярпеў прымус, быў прыгнечаным і бяспраўным, але тым не менш захаваў пачуцці глыбокай самапавагі, ні перад кім не прыніжаўся і вырашыў пастаяць за сябе, выступіць у абарону сваіх правоў...

Якуб Колас не ідэалізуе сваіх герояў, а паказвае адначасова і абмежаванасць іх грамадзянскай самасвядомасці».

У другім раздзеле Ю. Пшыркоў разглядае творы Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Міхася Лынькова… Параўноўваючы трылогію з іншымі празаічнымі творамі беларускіх пісьменнікаў, ён выказвае думку, што самым выдатным творам на тэму рэвалюцыі 1905 года з’яўляецца менавіта гэтая трылогія беларускай мастацкай прозы — гэта першы твор, у якім з такой глыбінёй і пранікнёнасцю адлюстравана жыццё народа, раскрыты магутныя сілы і неабмежаваныя магчымасці яго развіцця і руху наперад.

Пераходзячы да разгляду самой трылогіі, Ю. Пшыркоў адным з першых адзначыў, што пафас твора, аднак, не ў апісанні змрочных карцін мінулага і сучаснага беларускага народа, а ў сцвярджэнні яго сілы і мужнасці, у перакананасці, што ў спрадвечнай барацьбе з прыгнятальнікамі пераможа народная праўда.

Канстатуючы, што не Я. Колас першы ўбачыў у народзе магутную сілу, Юльян Сяргеевіч акцэнтуе ўвагу чытачоў на тое, што пясняр стварыў гістарычны вобраз беларускага народа, раскрыў асаблівасці яго характару, растлумачыў іх грамадскімі ўмовамі мінулага і сучаснага і паказаў, што народ, які захаваў на працягу стагоддзяў сваю ўнутраную цэльнасць і самастойнасць, выявіў такую супраціўляльнасць у барацьбе са знешнімі і ўнутранымі ворагамі, з’яўляецца жыццястойкім народам, здольным на вялікія гістарычныя справы, а таму варты на роўнае і аднолькавае месца ў сям’і іншых народаў свету.

У чацвёртым раздзе кнігі «Вобраз станоўчага героя» Ю. Пшыркоў падкрэсліваў: «Галоўным у паводзінах Лабановіча з’яўляецца яго жаданне «жыць жывой ідэяй», займацца грамадскай дзейнасцю. Спачатку юнак не ведае, з чаго пачынаць, але цвёрда ўпэўнены, што яго дзейнасць павінна служыць справе паляпшэння жыцця працоўных. Ён лічыць магчымым аблегчыць становішча абяздоленага сялянства шляхам пашырэння асветы або пераўтварэння прыроды, але, пераканаўшыся ў нязбытнасці сваіх «пражэктаў», адмаўляецца ад іх і ўжо на новым месцы працы сур’ёзна бярэцца за рэвалюцыйную прапаганду...

Вобраз Лабановіча выпісаны з такой дакладнасцю і майстэрствам, што здаецца амаль жывым. І кожны, хто хоць адзін раз прачытаў трылогію, запамінае яго на ўсё жыццё».

У 1975 годзе выйшла кніга Ю. Пшыркова «Эпас рэвалюцыі. Паэмы Я. Коласа “Новая зямля” і “Сымон-музыка”, трылогія “На ростанях”». Гэта праца ўяўляла сабой далейшы крок наперад у вывучэнні спадчыны народнага песняра. Самыя выдатныя яго творы даследаваліся там у шырокім плане важнейшых праблем узаемаадносін рэчаіснасці і мастацтва, традыцый і наватарства, нацянальнага і інтэрнацыянальнага, асаблівасцей метаду і стылю.

Нельга не згадзіцца з Юльянам Сяргеевічам у тым, што вяршыняй коласаўскага генія з’яўляюцца паэмы «Новая зямля», «Сымон-музыка» і раман-трылогія «На ростанях». Па сваёй мастацкай дасканаласці, шырыні ахопу і філасофскім асэнсаванні з’яў рэчаіснасці, глыбіні і пранікнёнасці разумення гістарычных задач, што высунуў час перад беларускім народам, яны стаяць побач з лепшымі творамі сусветнай літаратуры.

У гэтай кнізе Ю. Пшыркоў выступае не толькі як крытык і літаратуразнаўца, але і як гістарыёграф. Назваўшы «Новую зямлю» народнай эпапеяй, ён адзначае: «І. І.Замоцін першы зразумеў вялікі абагульняючы сэнс паэмы і ў жыцці яе герояў убачыў гісторыю беларускага народа. На жаль, у невялікім артыкуле ён не меў магчымасці поўнасцю выказаць свае думкі. Пазней іх развілі А. Адамовіч, В. Каваленка, А. Лойка, І. Навуменка, М. Мушынскі, хаця гэту праблему яны спецыяльна не вылучалі ў сваіх даследаваннях».

Не страціла сваёй актуальнасці і каштоўнасці і такая яго думка адносна аўтара «Новай зямлі»: «Што датычыцца непасрэдна Я. Коласа, то веліч яго як мастака заключаецца ў тым, што ў селяніне ён паказаў чалавека з палкім тэмпераментам і ўзвышанымі імкненнямі. З магутнай сілай волі, тытанічнай энергіяй, крыштальна чыстым сумленнем і непахіснасцю ў змаганні за здзяйсненні ўласных ідэалаў. Паэт зрабіў надзвычай многа для таго, каб выкінуць са штодзённага ўжытку памылковыя ўяўленні аб так званай сялянскай абмежаванасці і непаслядоўнасці, мужыцкім індыферэнтызме і таму падобных вызначэннях».

Якуб Колас, па словах Ю. Пшыркова, упершыню ў беларускай літаратуры паказаў працу як найвялікшую радасць і шчасце. У «Новай зямлі» ўслаўленне імкнення да волі і паэтызацыя працы складаюць пафас паэмы. Так, апісанне сенакосу не проста яркая замалёўка выяўлення волі і сілы дружнай грамады — гэта гімн працы, урачыстая песня ў гонар чалавека, які можа ўсё здолець, усё перамагчы. «Новая зямля» дае надзвычайна многае для пазнання беларускага народа, таму што ў ёй у сканцэнтраваным згустку пададзены тыя нормы і правілы, якіх прытрымліваліся і якімі кіраваліся беларусы ў сваім штодзённым жыцці, што ў рэшце рэшт давала магчымасць выжыць ім як нацыі на працягу стагоддзяў жорсткага прымусу.

Юльян Сяргеевіч выказваў думку, з якой нельга не пагадзіцца: «<...> “Новая зямля” — гэта першы твор у нашай паэзіі, у якім беларуская прырода паказана ва ўсёй яе велічнасці і красе, шматколернасці фарбаў і незвычайнай прыгажосці. Тут кожны малюнак пераліваецца толькі яму ўласцівымі колерамі і вызначаецца адметнасцю тонаў, важнасцю заключанай у ім думкі».

А паэму «Сымон-музыка» Ю. Пшыркоў называў гімнам духоўнай велічы народа, акцэнтуючы ўвагу на тым, што гэта твор вялікіх гістарычных і філасофскіх абагульненняў. Апавяданне пра незвычайны дар беднага хлопчыка з’яўляецца палымяным гімнам духоўнай велічы працоўных мас, якія праз стагоддзі прыгоннага рабства, адміністрацыйнага ўціску і нацыянальнага прыгнечання захавалі высокую чалавечую годнасць, здольнасць разумець мастацтва і чула адгукацца на чароўныя гукі музыкі.

З пункту гледжання даследчыка Я. Колас не толькі канстатуе жыццёвы факт, перадаючы паданне, што бытавала ў розных варыянтах на працягу доўгага часу, а дае яму філасофскае тлумачэнне. Прычыну драмы таленавітага хлопчыка ён бачыць не ў прыватных асаблівасцях характараў яго бацькоў, а ў тых гістарычных умовах, у якіх спрадвеку жылі і зараз жывуць людзі.

Сымон адносіцца да катэгорыі тых людзей вялікага інтэлекту і непахіснай сілы волі, якія ў маладосці прагнуць пазнаць праўду, каб потым усё жыццё самааддана ёй служыць; раскрыць таямніцы свету, каб перайначыць яго ў адпаведнасці са сваімі ідэаламі і ўяўленнямі; змагацца за шчасце ўсіх прыгнечаных, каб быць шчаслівым асабіста.

У раздзеле «Эпас рэвалюцыі», што даў назву і ўсёй кнізе, робіцца прынцыповая выснова: «Барацьба героя трылогіі за асабістае шчасце і адначасова за шчасце прыгнечанага люду, вызначаючы эстэтычную сутнасць твора, складае разам з тым і яго глыбокі сацыяльна-палітычны сэнс. Беларускі раман узнік як мастацтва гераічнае. У дзейнасці Лабановіча ўвасоблены рэвалюцыйны пафас эпохі, думкі і мары перадавых грамадзян радзімы. Заслуга Я. Коласа ў тым, што ён першы ў беларускай літаратуры стварыў вобраз змагара за грамадскі прагрэс, вобраз, напоўнены багатым унутраным зместам, паказаў чалавека вялікага таленту, здольнага радавацца і сумаваць, хваляваца і быць спакойным, адчуваць хараство жыцця і роднай прыроды, ненавідзець пошласць і агіднасць».

У 1982 годзе да 100-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа выйшла кніга Ю. Пшыркова «Летапісец свайго народа: Жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа». Тым, хто не згодзен з аўтарам гэтых радкоў у вызначэнні Юльяна Сяргеевіча як «коласазнаўца нумар адзін», абавязкова раю пачытаць яе. У той час гэтую кнігу, бадай, можна была вызначыць як апошняе дасягненне каласазнаўства. Некаторыя пісьменнікі нават называлі яе своеасаблівай энцыклапедыяй жыцця творчасці народнага песняра. Але самога Ю. Пшыркова ўжо амаль два гады не было ў жывых. Яго не стала 23 снежня 1980 года.

У кнізе «Летапісец свайго народа» творчасць Я. Коласа разглядалася на фоне вялікіх гістарычных падзей XX стагоддзя, у непарыўнай сувязі з літаратурным працэсам братніх народаў. Яшчэ больш глыбока аналізаваліся прызнаныя дасягненні нашай нацыянальнай літаратуры: паэмы «Новая зямля», «Сымон-музыка», трылогія «На ростанях».

У раздзеле «Вытокі творчасці» знайшлі адлюстраванне маленства Я. Коласа, яго вучоба ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, яго праца вясковым настаўнікам, першыя крокі ў літаратуру, удзел у падрыхтоўцы і правядзенні з’езда настаўнікаў Беларусі, зняволенне ў Мінскім астрозе, ягоная паэзія пачатку XX стагоддзя, першыя крокі ў прозе.

«Самацветы беларускай мастацкай прозы» — гэта адзін з параграфаў раздзела «Стварэнне эпасу», у якім даецца арыгінальны аналіз зборніка «Казкі жыцця». Раздзел «Водгулле векапомнага часу» ўключаў паэзію аднаўлення, свет новых дзён, паэзію суровых ваенных гадоў, аналіз паэм «Рыбакова хата», «На шляхах волі», навукова-крытычных прац і публіцыстычных артыкулаў.

У Ю. Пшыркова былі ўсе падставы для заключнай высновы кнігі:

«Творчасць Якуба Коласа — адна з найярчэйшых старонак у гісторыі беларускай літаратуры і разам з Купалавай паэзіяй і драматургіяй з’яўляецца яе мастацкім дасягненнем...

Першая і галоўная заслуга Я. Коласа і Я. Купалы ў тым, што яны ўзбагацілі родную літаратуру высокамастацкімі творамі, у якіх адлюстравалі паўвекавую гісторыю беларускага народа, яго мужную і гераічную барацьбу за сваё вызваленне ў дакастрычніцкі час і супраць чужаземных захопнікаў у перыяд барацьбы грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў за пабудову сацыялістычнага грамадства.

Я. Колас значна пашырыў выяўленчыя магчымасці беларускай літаратуры, стварыў паэтычныя вобразы шырокіх абагульненняў. Міхал і Антось, музыка Сымон, Андрэй Лабановіч, дзед Талаш, Сцяпан Барута і іншыя ўвайшлі ў нашу свядомасць як жывыя сучаснікі і паплечнікі, значна пашырыўшы кола нашых жыццёвых уяўленняў. У сваіх творах вялікі паэт увасобіў важнейшыя рысы нацыянальнага характару беларускага народа, істотныя гістарычныя тэндэнцыі развіц-

ця грамадства на пэўным яго этапе. У стварэнні характараў-тыпаў заключаецца адна з важнейшых заслуг пісьменніка».

Юльян Сяргеевіч быў складальнікам альбома «Якуб Колас: Жыццё і творчасць».

Некаторыя чытачы малодшага пакалення могуць запытацца: «Дык што, Пшыркоў усё жыццё займаўся толькі адным Якубам Коласам?»

Канечне, не. Ён даследаваў таксама літаратурнае жыццё 1920-х гадоў, станаўленне і шляхі развіцця беларускай савецкай прозы, творчасць Я. Купалы, У. Дубоўкі, К. Крапівы, М. Танка, І. Шамякіна, Я. Брыля, А. Макаёнка. З'яўляўся аўтарам грунтоўнай працы «Беларуская савецкая проза (20-я — пачатак 30-х гг.» (1960), за якую яму была прысуджана навуковая ступень доктара філалагагіных навук.

Пазней у аўтабіяграфіі напіша:

«Вывучэнне і супастаўленне фактаў, гутаркі са старэйшымі пісьменнікамі і, самае важнае, навуковы аналіз саміх мастацкіх твораў прывялі мяне да цвёрдага пераканання, што вульгарызатары знарок фальсіфікавалі літаратурны працэс і ўзвялі паклёп на лепшых пісьменнікаў таго часу, ілжыва абвінавацішы іх у неіснуючых памылках».

Аб шырыні даляглядаў Ю. Пшыркова сведчыць тое, што ён быў аўтарам прац «Уплыў творчасці А. С. Пушкіна на развіццё беларускай літаратуры», «Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура», «А. Я. Багдановіч», складальнікам альбома «Тарас Шаўчэнка і беларусы» (з І. Крэнь), суаўтарам такіх выданняў, як «Нарыс гісторыі беларускай савецкай літаратуры», «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» ў двух тамах, падручнікаў па беларускай літаратуры для сярэдняй школы.

Юльян Пшыркоў унёс вялікі ўклад у развіццё тэксталогіі. Пад яго кіраўніцтвам апублікаваны зборы твораў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Чорнага, В. Дуніна-Марцінкевіча. А пад ягонай рэдакцыяй выйшлі «Беларуская літаратура XIX ст.», першы том трохтомнай «Анталогіі беларускай паэзіі», кнігі М. Мушынскага «Ад задумы да здзяйснення. Творчая гісторыя "Новай зямлі" і "Сымона-музыкі"», А. Семяновіча «Беларуская савецкая драматургія: (1917—1932)», Я. Купалы «Публіцыстыка» і іншыя цікавыя выданні.

У 1969—1973 гадах аўтар гэтых радкоў, будучы аспірантам Інстытута гісторыі АН БССР, неаднаразова сустракаўся з Юльянам Сяргеевічам. Мяне ўразіла яго эрудыцыя, прастата, сціпласць, схільнасць да глыбокага аналізу літаратурных твораў. Але больш за ўсё ён гаварыў пра Якуба Коласа і яго творчасць. Вельмі зацікавіўся маім паведамленнем аб сяброўстве Якуба Коласа і акадэміка Уладзіміра Пічэты (у той час я пісаў кандыдацкую дысертацыю пра У. Пічэту).

Пасля смерці Ю. Пшыркова прайшло амаль 32 гады. За гэты час коласазнаўства значна ўзбагацілася, з'явіўся шэраг вельмі таленавітых даследчыкаў творчасці народнага песняра. Але пераважная большасць навуковых прац Юльяна Сяргеевіча і па сённяшні дзень застаецца актуальнымі, каштоўнымі і патрэбнымі нашай літаратуры, нашай культуры.

# НАТАЛЛЯ ГАЙДА: «АПЕРЭТА — МАЯ ЛЮБОЎ...»

Наталля Гайда…

Аматарам аперэты, не сумняваюся, гэтае імя добра вядома. І не толькі ў нашай краіне, але і ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Екацярынінбургу (колішнім Свярдлоўску) і яшчэ ў многіх, многіх гарадах Расіі, Украіны, Польшчы…

Глядач, аднойчы пабываўшы на спектаклі з удзелам Гайды, аказваецца назаўсёды зачараваным яе акцёрскай і жаночай абаяльнасцю. Прыгожы, звонкі, нібы сярэбраны званок, голас, лёгкасць, нязмушанасць спеваў, прыродная пластычнасць, зграбнасць, грацыёзнасць рухаў — усё гэта складнікі яе непадробнай абаяльнасці, яе выключнага таленту.

Адзін мой знаёмы, даўні прыхільнік таленту Гайды, так патлумачыў сваё захапленне:

— Іншы раз, слухаючы спевака, бачыш, як ён неймаверна напружваецца, з апошніх сіл выціскае з сябе складаныя, верхнія ноты і міжволі баішся, каб ён хоць не сарваўся, не аскандаліўся перад публікай. Голас жа Гайды гучыць аднолькава лёгка ва ўсіх рэгістрах, гукі льюцца свабодна і проста, то заміраючы ў лірычным піяна, то ўзлятаючы ў зіхатлівую вышыню…

Вось ужо многія гады Наталля Гайда заваёўвае сэрцы літаральна ўсіх — гледачоў, музыказнаўцаў, журналістаў, паэтаў. Мае калегі, напрыклад, якіх толькі не прыдумваюць для яе (і абсалютна заслужана!) эпітэтаў, вызначэнняў: прымадонна, таленавітая, выдатная актрыса, спявачка ад Бога, каралева чардаша, візітоўка беларускай музычнай камедыі, сімвал аперэты на постсавецкай прасторы, зорка еўрапейскай велічыні.

Не менш высока ацэньваюць Наталлю Віктараўну і спецыялісты. Музыказнаўца Эмілія Шумілава, адна з самых аўтарытэтных даследчыц творчасці Гайды, так ахарактарызавала адметнасць яе таленту:

— Яна ўзвышае мастацкі вобраз аперэты да сапраўднага жыцця чалавечага духу. Шчаслівы дар вялікай артысткі, які належыць выдатнаму, духоўна багатаму, шчодраму, абаяльнаму чалавеку…

Яшчэ больш эмацыянальна, узнёсла выказваюцца паэты. Генадзь Бураўкін, выступаючы на творчым вечары Наталлі Гайды, зазначыў:

— Бог зрабіў яе прыгожай, потым дабавіў таленту, а потым яшчэ і розуму, што ён робіць не так ужо і часта…

Прызнанне да Наталлі Гайды прыйшло даволі рана. Яшчэ студэнткай чацвёртага курса Уральскай кансерваторыі яе прынялі салісткай знакамітага Свярдлоўскага тэатра оперы і балета. А праз год, калі тэатр быў на гастролях у Маскве, пасля спектакля «Багема», у якім Наталля Віктараўна выконвала партыю Мюзеты, у грымёрку да яе зайшоў Іван Сямёнавіч Казлоўскі і выказаў сваё захапленне.

Наталлю Гайду заўважылі тады і маскоўскія крытыкі. Неўзабаве ў газеце «Советская культура» з’явіўся вялікі артыкул, у якім апавядалася пра перспектыўную маладую салістку са Свярдлоўскай оперы. І яна цалкам апраўдала гэтыя надзеі. За чатыры гады спела 15 партый, з якіх толькі дзве былі другарад-

ныя, астатнія — цэнтральныя, вядучыя.

Але галоўны поспех Наталлю Віктараўну чакаў у Мінску, дзе яна з 1970 года стала працаваць у толькі што створаным тэатры музычнай камедыі. Менавіта ў гэтым тэатры поўнасцю раскрылася і рэалізавалася прырода яе сінтэтычнага даравання.

— Мне хацелася на сцэне і спяваць, і танцаваць, і гаварыць, хацелася плакаць і смяяцца, — прызнаецца сёння артыстка. — А опера ў многім абмяжоўвала мае жаданні, мае магчымасці. Толькі ў аперэце, у музычнай камедыі я адчула сябе абсалютна свабоднай і шчаслівай.



*Наталля Гайда ў ролі Сільвы.*

Больш як за сорак гадоў сваёй творчай працы ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры Наталля Гайда стварыла цэлую галерэю яркіх, каларытных, запамінальных вобразаў. Гэта — бліскучая Сільва з аднайменнай аперэты, гордая, спакойная Адэта («Баядэра»), няўрымслівая Чаніта («Пацалунак Чаніты»), пранікнёная Ганна Главары («Вясёлая ўдава»), вялікасвецкая Эліза («Мая цудоўная лэдзі»), дасціпная Разалінда («Лятучая мыш»), страсная, парывістая Зорыка («Цыганскае каханне»), вулічная кветачніца Віялета («Фіялка Манмартра»), пакутуючая графіня Марыца… Не менш значныя вобразы створаны артысткай і ў музычных спектаклях беларускіх кампазітараў — мужная падпольшчыца Ірына («Пяе Жаваранак»), бойкая, гарэзлівая Паўлінка ў аднайменнай аперэце, вясёлая, дасціпная Настачка («Несцерка»), рамантычная Каця («Тыдзень вечнага кахання»), гордая Эпіфанія («Мільянерка»), абаяльная Раксана («Сірано»), герцагіня Мальбара («Шклянка вады»), таленавітая, але нешчаслівая ў асабістым жыцці Джулія…

Гэта ролі самага рознага характару — лірычныя, камедыйныя, драматычныя. Гераіні Гайды — поўныя жаночай чароўнасці, чулага, пяшчотнага сэрца, з пачуццём уласнай годнасці, гатовыя да самаахвярнасці. Пры гэтым актрыса нідзе не паўтараецца, не дубліруе ў новай партыі свае ранейшыя прыёмы і сцэнічныя напрацоўкі, смела адкідвае трафарэты і штампы. Часам сілай свайго таленту Наталлі Віктараўне даводзіцца выратоўваць спектакль з недасканалым лібрэта, дадумваць характар гераіні, напаўняць яго адметнымі, цікавымі рысамі, рабіць вобраз жывым, паўнакроўным.

Сёння ў Наталлі Гайды ў асноўным характарныя ролі: Цыцылія, маці Эдвіна, у новай пастаноўцы «Сільвы», Сямёнаўна ў «Бабіным бунце», міс Пеціктон у музычнай камедыі «Мая жонка — ілгуння», цёця Джахан у спектаклі «Аршын мал алан», эксцэнтрычная Бабуля ў дзіцячым мюзікле «Чырвоная Шапачка» і іншыя.

За высокае выканальніцкае майстэрства і значны ўклад у развіццё беларускага музычнага мастацтва Наталля Гайда ўзнрагароджана ордэнамі «Знак Пашаны» і Францыска Скарыны. Яна мае званне народнай артысткі Беларусі. Уладальніца

«Крыштальнай Паўлінкі» — самай высокай узнагароды Саюза тэатральных дзеячаў. Лаўрэат прэміі імя Л. П. Александроўскай, а таксама нацыянальнага фестывалю «Музыка і тэатр», многіх міжнародных фестываляў. У 1998 годзе па прызнанні Сусветнага біяграфічнага цэнтра (Кембрыдж) названа Чалавекам года.

— Тэатр, аперэта,— прызнаецца актрыса, — маё жыццё. І пакуль я адчуваю сябе ў форме, буду выходзіць на сцэну.

Яна па-ранейшаму жыве справамі тэатра. Як актыўны і неабыякавы чалавек, турбуецца станам сучаснага музычнага мастацтва, радуецца, што ў апошнія гады ўсё ж намеціўся прыкметны зрух да лепшага, расце цікавасць да яе любімай аперэты.

З гэтага — з абмеркавання поспехаў і праблем сённяшняга музычнага тэатра — і пачалася наша гаворка.

## Нялёгкія выпрабаванні лёгкага жанру

**— Наталля Віктараўна, давайце нашу гаворку пачнём вось з чаго. Не так даўно ў вашым тэатры адбылася значная, я б нават сказаў, знакавая падзея — тыдзень музычнага мастацтва «Наталля Гайда запрашае...» Знакавая, таму што, з аднаго боку, гэта прызнанне вашых несумненных заслуг у развіцці беларускага музычнага мастацтва, высокага аўтарытэту вашага імя. А з другога — сведчанне таго, што ў дзеячаў культуры паявілася арганічная патрэба ў аднаўленні былых творчых кантактаў, неабходнасць у больш цесных, узаемакарысных прафесійных і сяброўскіх зносінах.**

**Ведаю, што ініцыятыва правядзення гэтага фестывалю належыць кіраўніцтву тэатра. Яно ж узяло на сябе і вырашэнне галоўных матэрыяльных, арганізацыйных праблем. А ў чым быў ваш клопат?**

— Так, сапраўды гэта была цалкам ідэя тэатра. Але яна мне дужа спадабалася, і я актыўна яе падтрымала. Сказала, што ідэя цудоўная, своечасовая. Таму што пасля развалу Савецкага Саюза мы, дзеячы культуры, сталі раз’яднаныя, гэтулькі гадоў не было ні творчых, ні асабістых, ні нават інфармацыйных сувязей. І, вядома ж, усе мы ад гэтага пакутавалі.

Цяпер, дзякаваць богу, паміж краінамі былога Саюза сталі наладжвацца рознабаковыя сувязі — эканамічныя, палітычныя. І, натуральна, што адначасова з гэтым пачалі адраджацца сувязі культурныя. Таму, канешне ж, прапанову тэатра прыняла з задавальненнем. Толькі запыталася: што неабходна ад мяне? Мне сказалі: вашы даўнія творчыя сувязі, ваш аўтарытэт.

Я шчаслівая, што прыехалі амаль усе, каго мы запрашалі. Гэта былі і вядомыя, знакамітыя майстры, з кім я была асабіста знаёмая і партнёрствавала на сцэне ў розныя гады. Гэта была і моладзь, з якой я пазнаёмілася будучы членам журы на міжнародным конкурсе артыстаў аперэты і мюзікла ў Екацярынінбургу. І многія з іх прыехалі. Для мяне гэта было вельмі прыемна.

**— Скажыце, калі ласка, а ці ўсё з задуманага ўдалося ажыццявіць? Ці спраўдзіліся вашы асабістыя спадзяванні?**

— Ну вы ж ведаеце, што абсалютна ўсё ажыццявіць немагчыма. Жывыя людзі, у кожнага здараюцца нечаканыя, непрадбачаныя абставіны. Не змог, на жаль, прыехаць Герард Васільеў з Масквы. У апошні момант сарваўся прыезд Віктара Крываноса — забаранілі ўрачы. Астатнія ўсе прыехалі. З Масквы, Санкт-Пецярбурга, Іркуцка, Новасібірска, Растова-на-Доне, Екацярынінбурга, Караганды. Салісты, дырыжоры, дырэктары тэатраў. І асабліва прыемна тое, што ўсе згадзіліся працаваць без ганарару.

Пасля гэтага я яшчэ раз пераканалася, што значыць акцёрскае братэрства. Зразумела, наколькі для артыста важныя творчыя сустрэчы і са сваімі калегамі,

і з новымі гледачамі. І таму гэты тыдзень прайшоў на адзіным парыве, як хвалюючае, яркае свята. Так што ў выніку фестываль нават пераўзышоў мае спадзяванні.

**— Тэатр не плануе зрабіць такі фестываль рэгулярным, традыцыйным?**

— Будзе, будзе працяг. Ці ў нашым тэатры, ці, можа, ідэю падхопіць які іншы тэатр, але працяг абавязкова будзе. Усе мы, развітваючыся, на гэтым адзінадушна пагадзіліся. Выказана было многа цікавых прапаноў, якія задуманую намі ідэю будуць развіваць і, несумненна, прыдадуць ёй новы імпульс.



*Сустрэча ў Доме акцёра. Справа — Сямён Штэйн, злева — Раман Вікцюк. Мінск, 1983 год.*

**— Я чаму пра гэта пытаюся? Мне здаецца, ваш фестываль адбыўся не толькі таму, што было жаданне, адпаведны настрой артыстаў, фінансавыя магчымасці тэатра, але яшчэ і таму, што ў апошнія гады пасляперабудовачнага ліхалецця ў нашым грамадстве зноў абудзілася, на мой погляд, цікавасць да музычнага мастацтва.**

— Канешне, канешне… Я таму і кажу, што нашыя творчыя сувязі — гэта арганічны працяг эканамічных, палітычных сувязей. Хаця, па ідэі, трэба было б пачынаць менавіта з культурных сувязей. Але я разумею: усяму свой час. І хай сабе трохі са спазненнем, аднак рух у гэтым напрамку пачаўся. Беларускія салісты Аляксандр Асіпец і Вікторыя Стрыганкова прынялі, напрыклад, удзел у гала-канцэрце ў сталіцы Казахстана. Ёсць запрашэнне нашых артыстаў у Баку. Гэтай восенню я буду ўдзельнічаць у рабоце журы Міжнароднага фестывалю артыстаў аперэты ў Карагандзе.

Так што рух гэты шырыцца, набірае сілу. І мне асабліва прыемна, што ініцыятарам такога руху стаўся наш тэатр.

**— Дарэчы, пра Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр. Адзін час стан спраў у ім выклікаў сур’ёзную трывогу не толькі ў спецыялістаў, але і ў шырокай грамадскасці. Мастацкі ўзровень спектакляў падаў, а канфлікт паміж кіраўніцтвам тэатра і творчым калектывам, наадварот, нарастаў. Чым быў выкліканы гэты канфлікт, гэты крызіс?**

— Па-першае, у любым тэатры бываюць перыяды ўзлётаў і застою. Наш — не выключэнне. На працягу многіх гадоў канфлікты ўзнікалі не адзін раз. Прычын таму шмат. Вельмі многае залежыць ад таго, хто кіруе калектывам. І тут, як мне здаецца, надзвычай важна, каб тыя органы, якія прызначаюць кіраўніка, своечасова, калі той не спраўляецца, вызвалялі яго ад займаемай пасады. А яшчэ — вельмі, вельмі добра думалі пры яго прызначэнні. І не заключалі кантракт адразу на пяць гадоў, а на год, два. Дайце чалавеку выпрабавальны тэрмін. Вось і ўсё.

А мы, артысты, толькі хочам працаваць, нам канфлікты абсалютна не патрэбныя. І не наш абавязак крытыкаваць кіраўніцтва, бунтаваць. Кожны павінен рабіць сваю справу. Рабіць чэсна, сумленна, творча.

**— Пасля замены кіраўніцтва якая атмасфера ў тэатры цяпер?**

— Атмасфера спакойная, нармальная. На ўсіх участках ёсць свае кіраўнікі — людзі высокапрафесійныя, адказныя, творчыя. Мастацкі кіраўнік Адам Мурзіч ажыццяўляе агульную творчую палітру тэатра. Галоўны рэжысёр Сусанна Цырук разам з мастацкім кіраўніком фарміруе рэпертуарную палітыку, займа-



*Падчас гала-канцэнта, прысвечанага юбілею тэатра, разам з народнымі артыстамі Расіі Віктарам Крываносам і Сяргеем Шалагіным.*

ецца рэжысурай спектакляў. Галоўны балетмайстар Уладзімір Іваноў, галоўны хормайстар Святлана Пятрова выконваюць свае абавязкі. Дырэктар тэатра Аляксандр Пятровіч робіць сваю справу. Прычым, знешне здаецца, што ён ні ва што не ўмешваецца, не праяўляе надзвычайных намаганняў, але ўсё ў тэатры робіцца своечасова і належным чынам. Ён умее і любіць працаваць з артыстамі, ведае і разумее прыроду артыста і вельмі спакойна, па-дзелавому працуе. Так і павінна быць. Дарэчы, тое, што адбыўся наш фестываль, на дзевяноста працэнтаў яго заслуга.

**— Сведчаннем нармальнага, паўнакроўнага і плённага творчага жыцця тэатра з'яўляецца наяўнасць у ім прэм'ер-падзей, спектакляў-з'яў, прысутнасць у афішы жанравай разнастайнасці. Як у вашым тэатры сітуацыя з гэтага пункту гледжання?**

— Ну, па-першае, хацела б зазначыць, што мы цяпер не проста тэатр музычнай камедыі, а як бы пашырылі свае рамкі — сталі музычным тэатрам. А раз ён музычны, то гэта ўжо само па сабе патрабуе наяўнасці розных жанраў, пачынаючы ад вадэвіля, камічнай оперы і заканчваючы музычнай камедыяй, аперэтай, мюзіклам. Хаця ў нас і раней была балетная трупа і мы ставілі свае балетныя спектаклі, ажыццявілі пастаноўку дзвюх поўнамаштабных опер.

**— Наталля Віктараўна, а навошта вам дубліраваць оперны тэатр?**

— Справа ў тым, што мы не дубліруем. Калі ставім оперу, то альбо камерную, альбо камічную, і тую, якая не ідзе ў оперным тэатры. Так што мы нікога не паўтараем, робім абсалютна сваю справу. Выкарыстанне ж розных жанраў — гэта толькі на карысць і акцёрам, і гледачам, таму што яны маюць магчымасць глядзець самыя разнастайныя спектаклі.

**— А што можна сказаць наконт яркіх і значных прэм'ер?**

— Ведаеце, напэўна, павінен прайсці пэўны час, каб можна было сказаць, што той ці іншы спектакль атрымаўся знакавым, каб яго назвалі падзеяй.

Прыведу такі прыклад. Калі ў нас быў галоўным рэжысёрам Вячаслаў Цюпа, ён паставіў чатыры спектаклі. Адзін з іх — «Клоп» па п'есе Уладзіміра Маякоўскага — стаўся самым рэзанансным, самым спрэчным. І толькі пасля таго, як прайшоў час і спектакль атрымаў высокія ўзнагароды на міжнародных фестывалях у Маскве і Адэсе, гледачы зразумелі, што гэта — знакавая пастаноўка, пастаноўка-падзея.

Цяпер у нашым тэатры ідуць адразу чатыры спектаклі, якія выклікаюць павышаную цікавасць не толькі ў публікі, але і ў спецыялістаў. Гэта — музычна-сімфанічнае дзейства «Алека» (я б так вызначыла яго жанр), мюзікл «Аднойчы ў Чыкага», аперэта «Граф Люксембург» і класічная «Сільва» ў арыгінальнай рэжысёрскай пастаноўцы. Можна смела сказаць, што гэтыя спектаклі нам удаліся. А вось ці стануць яны падзеямі — пакажа час.

**— Адно з важных патрабаванняў да тэатра — гэта разумнае спалучэнне класічнага і сучаснага рэпертуару. Дык вось, калі з класікай у вашым тэатры больш-менш нармальна, то спектакляў на сучасную тэму вельмі і вельмі мала. Як вы мяркуеце, у чым тут прычына?**

— Тут справа вось у чым. Цяпер, мне здаецца, наогул праблема сучаснага рэпертуару…

**— І не толькі ў вашым тэатры…**

— Так. Чаму і адкуль гэта праблема ўзнікла, мне складана сказаць. Калі раней быў дзяржзаказ, то драматург пад гэты заказ пісаў п’есу, кампазітар — музыку, і такім чынам ствараўся твор на сучасную тэму, які тэатр купляў і ажыццяўляў пастаноўку. Цяпер жа гэта сістэма парушана, а ў стол ніхто пісаць не хоча. Адзінае засталося выйсце — тэатру самому рабіць заказ. Але тут ёсць свае складанасці. І не толькі фінансавыя. Цяжка знайсці драматурга, які б узяўся напісаць лібрэта на сучасную тэму. Прычым не проста лібрэта, а дыхтоўна зробленую п’есу, разлічаную менавіта на музычны тэатр. Значыць, з самага пачатку павінен працаваць тандэм драматурга і кампазітара. А гэта, аказваецца, вельмі і вельмі няпроста.

**— Асабліва засмучае адсутнасць у рэпертуары арыгінальных беларускіх спектакляў. У свой час, калі вы толькі прыйшлі ў тэатр, быў сапраўдны росквіт беларускай музыкі. У сямідзясятыя гады ў тэатры ішлі адразу чатыры спектаклі на музыку Юрыя Семянякі — «Пяе Жаваранак», «Паўлінка», «Тыдзень вечнага кахання» і «Сцяпан — вялікі пан», у якіх вы выконвалі галоўныя ролі.**

**Вялікім поспехам карысталіся музычная камедыя Рыгора Суруса «Несцерка» і гераічная камедыя Андрэя Мдзівані «Дзяніс Давыдаў». А фольк-опера Уладзіміра Дашкевіча «Клоп» і мюзікл Уладзіміра Кандрусевіча «Джулія» наогул сталіся трыумфам і для вас асабіста, і для тэатра.**

**Дзе ж спектаклі падобнага ўзроўню цяпер?**

— Вы маеце рацыю: такіх спектакляў практычна няма. Па той самай прычыне, аб якой мы толькі што гаварылі. Кажу «практычна», бо ўсё ж такі адзін спектакль — «Шклянка вады» на музыку Уладзіміра Кандрусевіча ў нас ідзе. А на беларускай мове наогул нічога няма.

Што ў перспектыве? Наколькі мне вядома, той жа Кандрусевіч цяпер заканчвае (ці, можа, ужо закончыў) гераічную оперу на гістарычную тэму. Хто драматург — не ведаю. Але чула ад дасведчаных людзей, што твор абяцае быць яркім, цікавым. Праўда, каб ён увасобіўся ў спектакль, павінен яшчэ падключыцца рэжысёр. Ну а мы, артысты, пастраемся ўжо зрабіць усё, каб ідэю, музычнае і эстэтычнае багацце, закладзенае ў гэтым творы, належным чынам данесці да гледача.

**— А можа, варта было б вярнуцца і нешта з мінулых бліскучых пастановак аднавіць на сённяшняй сцэне?**

— Не, я да гэтага адношуся з апаскай. Па-першае, як кажуць, два разы ў адну ваду не ўвойдзеш. А па-другое, паўтор, як правіла, ніколі не бывае лепшым. Так здарылася ў нас з «Баядэрай», амаль тое ж — з «Марыцай». Так што лепш ствараць новыя, арыгінальныя спектаклі.

**— У мастацтве існуе заўсёдная праблема: дыялектыка традыцый і наватарства. У розны час і ў розных тэатрах на першы план выходзіць то адно, то другое. А мне здаецца, што поспех забяспечвае менавіта дыялектычнае адзінства гэтых двух паняццяў. Хацелася б пачуць на гэты конт вашае меркаванне.**

— Зразумела… Я, канешне, не тэарэтык, але давайце паразважаем. Мая думка такая. І традыцыі, і наватарства — гэта два крылы, якія забяспечваюць твору палёт. Без наватарства мастацтва памірае. Яму абавязкова патрэбен пошук, развіццё, эксперымент. У любым творы, і музычны тут не выключэнне, заўсёды адлюстроўваецца час, у якім адбываецца дзеянне і ў якім ён ствараецца, ідэалы

гэтага часу, яго пачуцці, яго настроі. Нават за дзесяць гадоў многае ў грамадстве мяняецца. Мяняецца мода, густы, запатрабаванні гледачоў. Дык як жа пры гэтым можа заставацца нязменным спектакль?

Просты прыклад. Яшчэ напачатку XX стагоддзя оперы ставіліся ў чатырох актах. Пры цяперашняй дынаміцы часу гэта ўжо немагчыма. І рэжысёры імкнуцца ўкласці дзеянне оперы максімум у два акты. Канешне, пры гэтым нешта скарачаецца, але дзеянне набывае дынаміку, канцэнтруецца музычная драматургія пры яркай, вобразнай рэжысуры..

Гэты прыклад сведчыць аб тым, што сёння нельга ўжо ставіць так, як ставіў Меерхольд у трыццатыя гады мінулага стагоддзя. Новы час патрабуе новай мастацкай мовы, новых рэжысёрскіх рашэнняў. Але на аснове традыцый рускага тэатра, тэатра Станіслаўскага. Вельмі важна, каб пошукі і эксперыменты былі стваральныя, а не разбуральныя.

Калі гаварыць аб чыстым наватарстве і меркаваць, што ў спектаклі ўсё будзе пастаўлена з ног на галаву, то тут больш складана. Канешне, без смелых, наватарскіх рашэнняў не будзе развівацца мастацтва. Але гэта не значыць, што можна рабіць нешта такое, што не спалучаецца з музыкай.

Мне ў адной з пастановак «Кармен» давялося бачыць устаноўленыя на сцэне пісуары і сузіраць, як у гэтыя пісуары, прабачце, артысты па ходзе дзеяння спраўлялі сваю патрэбу. Што гэтым пастаноўшчык хацеў сказаць? Якую глыбокую думку ён прыбавіў да ідэі класічнага твора? Незразумела.

І зусім іншы прыклад. Калі Грыгаровіч ставіў «Спартака» Хачатурана, то, кажуць, ён нават не пускаў кампазітара на рэпетыцыі. Баяўся, што той будзе пратэставаць супраць некаторых яго навацый. Але пастаноўшчык настолькі тонка і глыбока адчуваў музыку балета і так ярка бачыў яго ў сцэнічным увасабленні, што змог выказаць галоўную ідэю твора нават больш дакладна, чым кампазітар. І Хачатуран пасля зняў перад пастаноўшчыкам капялюш.

Калі гаварыць коратка, то наватарства — гэта працяг традыцый, іх развіццё. На кожным новым этапе часу новае рашэнне мастацкіх задач.

**— Кажуць, што аперэта — жанр лёгкі. Ці так гэта на самай справе?**

— Ён лёгкі толькі ў сэнсе лёгкасці ўспрымання. Для гледача. Гэта дастаткова дэмакратычны жанр, таму што глядач тут атрымоўвае, што называецца, адразу ўсё ў адным флаконе: і драму, і камедыю, і музыку, якую можа разумець нават непадрыхтаваны чалавек. У гэтым плане аперэта, так — лёгкі жанр. Але па тэхналогіі, па тэхніцы выканання — гэта дастаткова складаны жанр, часам нават больш складаны, чым опера. Асабліва што датычыцца героя і гераіні, таму што акрамя спеваў, яны павінны яшчэ і танцаваць, і гаварыць маналогі. Больш таго, гэтыя пераходы ад спеваў да сцэнічнай размовы даюцца вельмі няпроста, бо актыўны рух на сцэне (а аперэты без гэтага не бывае) непазбежна збівае дыханне. І трэба спецыяльна трэніравацца, многа рэпеціраваць, каб такое не здаралася.

**— Толькі што закончыліся гастролі Свярдлоўскага тэатра музычнай камедыі ў Беларусі. У свой час, наколькі я ведаю, гэта быў адзін з лепшых, калі не самы лепшы музычны тэатр у Савецкім Саюзе. Вы, вядома ж, пабывалі на спектаклях сваіх калег-землякоў. Якое яны зрабілі ўражанне? Нам ёсць чаму павучыцца?**

— Ён і цяпер адзін з лепшых тэатраў Расіі. Мае свой шык: не пераймае моду, а сам яе стварае. Шаснаццаціразовы лаўрэат прэміі «Залатая маска». Практычна кожны артыст мае альбо ганаровае званне альбо лаўрэат міжнародных конкурсаў. Дарэчы, дырэктар гэтага тэатра Міхаіл Сафронаў — выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Галоўны дырыжор, народны артыст Расіі Барыс Надэльман мае беларускія карані: бацька родам з-пад Баранавічаў.

У Мінск свердлаўчане прывезлі паўнацэнную тэатральную афішу. Я не буду пералічваць усе спектаклі, назаву толькі два, якія прайшлі не проста з поспехам — з трыумфам. Гэта — «Кацярына Вялікая» і «Мёртвыя душы». Усе нашы,

хто іх глядзеў, сказалі, што гэта — здорава, вышэйшы клас. І рэжысура выдатная, і акцёры іграюць бліскуча.

Чаму можна павучыцца? Найперш — музычным традыцыям, пачынаючы ад адносін да самога тэатра як храма мастацтва і канчаючы павагай да пажылых кадраў і наогул павагай адзін да аднаго. Адчуваецца, што ў тэатры вельмі цёплая, таварыская атмасфера. Ну і, вядома ж, заслугоўвае павагі тое, як свердлаўчане адносяцца да сваёй справы. Калі ўжо працуюць, то працуюць з поўнай аддачай. Тэатр у іх на першым месцы. А гэта вельмі важна.

Свярдлоўскі тэатр — гэта своеасаблівы тэатр-холдынг. Ён фактычна мае тры структурныя падраздзяленні: дзіцячыя студыі — вакальная, харэаграфічная і драматычная — якія працуюць пры тэатры; пасля ідзе тэатральны інстытут, у якім вучацца многія выхаванцы дзіцячых студый і ў якім выкладаюць не толькі галоўны рэжысёр, але і некаторыя салісты тэатра; і нарэшце сам тэатр, дзе ўжо выпускнікі інстытута, праходзячы стажыроўку ў вядучых артыстаў, набываюць неабходную кваліфікацыю.

Так што праблемы з кадрамі ў маіх землякоў няма.

**— А ў нашым тэатры такая праблема існуе?**

— Існуе, але вось у якім плане. Кадры вакалістаў для нас у асноўным рыхтуе кансерваторыя. І хаця ў іх ёсць заняткі і па сцэнічнай мове, і па акцёрскім майстэрстве, і нават па харэаграфіі, але колькасць гадзін на гэта адводзіцца мала. Таму многім, асабліва выканаўцам роляў герояў і гераінь, даводзіцца пасля давучвацца. А вось для характарных, камічных роляў больш падыходзілі б выпускнікі акадэміі мастацтваў, дзе ўвага акцёрскаму майстэрству надаецца непараўнальна большая.

А ў ідэале, канешне, хацелася б, каб адно спалучалася з другім. Вось калі я вучылася ва Уральскай кансерваторыі, там было і опернае аддзяленне, і аддзяленне музычнай камедыі. І гэта было на карысць і тым, і другім.

У нас такога няма. У выніку выпускнікам кансерваторыі не хапае акцёрскай падрыхтоўкі, а акцёры з акадэміі не ведаюць, што такое аркестр, як працаваць з дырыжорам. Мы вымушаны іх пасля давучваць. Кожны дабірае тое, чаго яму не хапае. Тэатр дае такую магчымасць — ёсць класы кансультантаў.

## Быць прафесіяналам

**— Наталля Віктараўна, вы марылі стаць спявачкай з дзяцінства?**

— Як вам сказаць? З дзяцінства я спявала. У мяне мама была прафесійнай спявачкай. Яна вучылася ў кансерваторыі, але ўсе планы зблытала вайна. Мама вымушана была кінуць вучобу і пайсці працаваць. Праўда, у філармонію, спявачкай. У нас дома заўсёды гучала музыка, пераважна класічная. Таму я з маленства ведала некаторыя арыі з опер. Слухала радыё, а тады па ім гучала ўсё — і класіка, і эстрадная песня. І заўсёды аб'яўлялі, хто што выконвае. Не тое, што цяпер.

Ну вось у такім музычным асяроддзі я і расла. А калі пайшла ў школу, то, натуральна, што пры першай магчымасці запісалася і стала рэгулярна наведваць гурткі пры Палацы піянераў — і танцавальны, і вакальны. Але кім я буду, доўга не ведала. Нікуды мяне асабліва не цягнула. Памятаю, у класе пятым я ўпершыню трапіла ў оперу і не скажу, што гэта зрабіла на мяне вялікае ўражанне.

І толькі недзе ў дзясятым класе, калі мой педагог, якая выкладала ў Палацы піянераў, сказала мне: «Наташа, вам трэба сур'ёзна займацца спевамі», толькі тады я вырашыла, што буду паступаць у музычны інстытут. І калі ўжо паступаць, то абавязкова ў Маскву.

Ну а ў Маскве ў першы год у мяне нават дакументы не прынялі — не было васямнаццаці гадоў. Паехала на другі год, і зноў не прынялі — не хапіла балаў.

Тады я і рашыла: не трэба мне з музыкай звязвацца. І паступіла, як і мая сяброўка, у юрыдычны інстытут. У Свярдлоўску.

**— Ведаю, што за гэтыя два гады, да інстытута, кім вы толькі не папрацавалі — і лабаранткай, і бібліятэкаркай, і ахоўнікам на заводзе… Вы не лічыце гэты час змарнаваным?**

— Не, канешне. Па-першае, самастойная праца дапамагла мне ў станаўленні характару. Я ж была хатнім дзіцём, не ведала жыцця. А калі з'ехала з дому, усе праблемы давялося рашаць самой.

У Свярдлоўску прыйшла ў райкам камсамола і сказала: «Хачу працаваць і вучыцца». «З працай праблем няма, — адказалі мне. — А вось з прапіскай памагчы не зможам…» А тут заходзіць нейкі чалавек і абвяшчае: на «васьмёрку» (гэта закрыты ваенны завод) патрабуюцца дзяўчаты ў ахову. Жыллё прадастаўляецца… Так я атрымала пасаду ахоўніка, ваенную форму, наган і (самае галоўнае!) месца ў інтэрнаце.

Стала працаваць і хадзіць на падрыхтоўчыя курсы пры юрыдычным інстытуце. І наступным летам паступіла на вячэрняе аддзяленне. З завода, аднак, давялося звольніцца, таму што сумяшчаць дзяжурствы і вучобу было цяжка. Уладкавалася ў бібліятэку. А праз год, калі я на выдатна здала дзве сесіі, мяне перавялі на стацыянар.

**— А як жа вы апынуліся ў кансерваторыі?**

— Зноў яго Вялікасць Выпадак. На трэцім курсе інстытута адзін мой аднакурснік, які браў прыватныя ўрокі ў кансерваторыі і з якім мы не раз удзельнічалі ў розных конкурсах і канцэртах мастацкай самадзейнасці, літаральна за руку прывёў мяне да свайго музычнага педагога. І тая, паслухаўшы, сказала: «Ну што ж, давайце будзем рыхтавацца да паступлення…»

Так на трэцім курсе інстытута я паступіла на вячэрняе аддзяленне кансерваторыі. Але кідаць юрыдычны мне не хацелася, і я два гады вучылася паралельна. Скончыўшы інстытут, уладкавалася юрысконсультам у абласное ўпраўленне сувязі. Адпрацавала там год і педагог мне кажа (а гэта было ўжо на чацвёртым курсе кансерваторыі): калі хочаш сур'ёзна займацца, трэба кідаць працу і засяродзіць усю ўвагу на музыцы…

Я, канешне, кінула, і мяне перавялі на дзённае аддзяленне.

**— Якія зігзагі лёсу! Дарэчы, у адной з газетных публікацый я прачытаў, што адразу пасля школы вы працавалі салісткай нейкага эстраднага аркестра ў Кішынёве. Гэта — праўда?**

— Было такое. Гэта калі я ў першы год не паступіла, мяне падгаварыла дзяўчына-малдаванка, якую таксама напаткала няўдача, ехаць разам з ёю ў Кішынёў. Там адкрываюцца падрыхтоўчыя курсы пры кансерваторыі, сказала яна, цябе абавязкова прымуць. З такім голасам…

І я паехала. Мяне праслухалі, далі інтэрнат. Засталося дачакацца, калі адкрыюцца курсы. Яны неўзабаве і адкрыліся, але… Але туды сталі набіраць толькі малдаван. І ўсё. І на курсы не паступіла, і ў вучылішча ўжо спазнілася. Рашыла: буду паступаць на наступны год зноў у Маскву. А пакуль трэба шукаць нейкую працу. Па аб'яве ўладкавалася салісткай у эстрадны аркестр пры кінатэатры.

Праўда, працавала я там нядоўга, недзе з паўгода. Мама мне напісала: дачушка, не трэба гэтага рабіць. У цябе яшчэ дзіцячы голас, не пастаўлены, ты можаш яго загубіць. Вяртайся дадому.

Я паслухалася і вярнулася. Але мой вакальны стаж пачынаецца менавіта з гэтага часу.

**— А ваш дэбют на прафесійнай сцэне…**

— О, з гэтым дэбютам звязана яшчэ адна нечаканая выпадковасць! На чацвёртым курсе кансерваторыі мне прапанавалі… спець партыю Б'янкі з оперы «Утаймаванне свавольніцы». На сцэне праслаўленага опернага тэатра! Гэта ўсё роўна як бы курсанту ваеннага вучылішча сказалі: заўтра паляціш у космас.

**— Але ж так не бывае. За кожнай выпадковасцю стаіць свая заканамернасць.**

— У мяне атрымалася так. Дырыжор нашага опернага класа ў кансерваторыі Красавіцкі (ён жа быў дырыжорам і ў оперным тэатры) сказаў мне аднойчы, што ў іх рыхтуецца да пастаноўкі «Утайманне свавольніцы» і, калі хочаш, можаш вывучыць партыю Б’янкі. Толькі я табе нічога не абяцаю.

Я, канешне, з вялікім задавальненнем гэту партыю вывучыла. І прайшло ўжо больш за год, ужо адбылася прэм’ера ў тэатры. Па праўдзе кажучы, я ні на што не спадзявалася. І раптам званок у інтэрнат. «Гайда?» — «Гайда». — «Кажуць, вы ведаеце партыю Б’янкі?» — «Ведаю». — «А вы не маглі б заўтра спець яе ў спектаклі? Наша выканаўца гэтай ролі захварэла». — «З задавальненнем!» — «Тады чакаем…» Паклала трубку і не на жарты спалохалася: што я раблю?! Я ж у жыцці не спявала з аркестрам. Дый за год я ўжо, напэўна, усё забыла…

Еду ў тэатр, а там — рэпетыцыя. Сядзяць усе салісты. І Красавіцкі сядзіць і робіць выгляд, што ён тут зусім ні пры чым. Ну, думаю, зараз я што-небудзь забудуся і атрымаецца несусветны сорам.

Красавіцкі дае мне ўступ і падбадзёрвае позіркам: смялей, маўляў, не бойся — усё будзе добра!

І праўда, я спела партыю ад пачатку да канца, ні разу не збілася. Ну ўсё, кажуць мне, ідзіце прымерце касцюм. Міма праходзіць мой заўтрашні партнёр, тэнар Іван Шчаціннік, і не то са здзіўленнем, не то з захапленнем кідае мне: «Смела, смела…» І — пайшоў. Я думала, ён прапануе мне разам парэпеціраваць, абгаварыць мізансцэны. Не, пайшоў. Ну і ладна, супакоіла я сябе, я ж спектакль глядзела, усё помню і так. Партыю ведаю — не прападу.

Назаўтра на спектакль прыйшло паўкансерваторыі. Гэта ж падзея неардынарная: далёка не кожнаму выпускніку давяраюць партыю, а тут — чацвёртакурсніца…

Выходжу на сцэну, а ў зале цёмна, нічога не бачу. І дырыжор недзе далёка-далёка. І музыка гучыць неяк непрывычна. Пасля Красавіцкі прызнаўся, што я ўзяла тэмпа-рытм трохі больш павольны, а ён пайшоў за мною.

Словам, спела я спектакль — і ў грымёрку. А тут заходзіць галоўны рэжысёр, які ставіў гэты спектакль, Марк Мінскі, віншуе і кажа: «Ну вы паглядзіце на яе, якая яна чэпкая!» Яму вельмі спадабалася, што я і спела бездакорна, і на мізансцэнах зрабіла ўсё, як трэба, не сапсавала спектакль.

Вось так адбыўся мой дэбют. І так пачалася мая кар’ера салісткі опернага тэатра.

**— Наталля Віктараўна, у вас быў галавакружны поспех у Свярдлоўскай оперы. З першых крокаў вам сталі давяраць вядучыя партыі ў самых папулярных спектаклях. Дый тут, у Мінску, у Вялікім тэатры оперы і балета вас прынялі выдатна. І раптам — рэзкі паварот, пераход у тэатр музычнай камедыі.**

— Ну, што галавакружны — гэта відавочнае перабольшанне (смяецца)… Проста мне давяралі, і я старалася гэты давер апраўдаць. За чатыры гады я спела пятнаццаць партый. Так, у мяне была пэўная папулярнасць (я спявала ў канцэртах, на тэлебачанні) і тэатральныя паклоннікі былі.

А што датычыцца пераходу, то гэта не было рэзкім паваротам. Яшчэ ў кансерваторыі я часта бегала на заняткі на аддзяленне музычнай камедыі, з задавальненнем займалася акцёрскім майстэрствам, танцамі, пластыкай. Мне заўсёды падабалася аперэта. Я падсвядома адчувала, што гэта маё. У оперы мне не хапала ігры, драматызму. Да таго ж, пры маім лёгкім голасе асаблівых перспектыў не прадбачылася. На гэта мне не раз намякаў галоўны рэжысёр свярдлоўскай аперэты Уладзімір Курачкін. Ну што ты, казаў ён, будзеш чырыкаць гэту сваю Разіну і Джыльду ўсё жыццё? А ў аперэце ў цябе кожны год будзе па пяць-шэсць новых роляў…

І аднойчы я нават паспрабавала сябе ў такой ролі. У 1967 годзе на Свярдлоўскай тэлестудыі з удзелам Цэнтральнага тэлебачання здымалі музычны фільм «Званая вячэра з італьянцамі» паводле аперэты Афенбаха і мяне запрасілі на выкананне партыі Эрнэсціны, дзе якраз патрабавалася лірыка-каларатурнае сапрана. Пасля гэтага Уладзімір Акімавіч канчаткова сказаў мне: усё, пераходзь да нас. Мы зараз рыхтуем да пастаноўкі аперэту «Сын клоўна» Дунаеўскага і там спецыяльна для цябе ўставім «Месяцавы вальс», будзеш спяваць пад купалам цырка. Але ты мне патрэбна на кожную рэпетыцыю…

А тут якраз у оперным мне прапанавалі партыю Эстэр у спектаклі «Рамэа, Джульета і цемра» Малчанава. Гэта партыя для моцнага сапрана, але галоўны рэжысёр сказаў мне: «Справішся — будзеш спяваць. У гэтай ролі патрэбна актрыса». Мне вельмі хацелася выпрабаваць сябе, і я не рашылася на пераход.

І ўсё ж такі пераход, як бачыце, адбыўся. І не таму, што я ў оперы адчувала сябе кепска. Не, тут іншае. Я лічу, кожнаму спеваку трэба правільна распарадзіцца сабой, сваім голасам. Адчуць, дзе тваё месца. Я своечасова зразумела, што ў мяне не такі выдатны голас, каб спяваць у оперы. Было б у мяне драматычнае сапрана альбо меццa-сапрана, я, магчыма, з оперы не сышла.

**— Вы зразумелі, што з вашым голасам у оперы будзе заўсёды звужаны дыяпазон роляў?**

— Не ў гэтым справа. Справа ў музычнай драматургіі. Маючы больш моцны голас, я не проста спявала б Лізу, альбо Аманерыс, альбо Любашу — я б іх іграла. Голас і музычная драматургія дазволілі б мне быць актрысай. Дарэчы, тых, хто на опернай сцэне з’яўляецца акцёрам, можна пералічыць на пальцах адной рукі. Чым славіцца Марыя Калас? Усе кажуць: у Цібальці голас больш прыгожы, чым у Калас. А між тым Калас лічыцца выдатнай спявачкай, таму што яна была актрыса. Яна вымушала гледача радавацца, плакаць…

**— Гэта, напэўна, сапраўднае шчасце для акцёра, калі яму ўдаецца перадаць гледачу ўсю гаму сваіх пачуццяў. Тут, на мой погляд, аднаго таленту мала. Падзяліцеся, калі ласка, сакрэтам, як вы працуеце над роляй.**

— Гледзячы, якая роля. Калі гэта класічны спектакль, то, канешне, спачатку іду ад музыкі. Гляджу арыю, дуэты, усё астатняе… Складанасць тут вось у чым. Гераіня з класічнага рэпертуару — гэта не характар. Гэта — тып жанчыны. Яны як бы ўсе аднолькавыя, толькі дзейнічаюць у розных сітуацыях і ў розныя эпохі. Але ў прынцыпе — гэта жанчына, якая кахае, якая пакутуе, якая здольная на самаахвярны ўчынак. Мая задача — надаць гэтай гераіні жывыя, адметныя, індывідуальныя рысы.

А вось у савецкіх музычных камедыях там ужо выпісаны характар. І натуральна, такую ролю трэба ўважліва чытаць, унікаць ва ўсе дэталі. Таму ў гэтым выпадку іду ад ролі. Музыка, безумоўна, тут мае сваё значэнне, але яе роля больш прыкладная, калі можна так сказаць.

А ўвогуле кожны раз над кожнаю роляй праца пачынаецца з нуля. Хаця бывае, што прачытаў лібрэта — і ты ўжо ведаеш гэтага чалавека. Ён — твой. Застаецца толькі прыдумаць нейкія дэталі, нейкія нюансы. А бывае вучыш, вучыш ролю, а яна не становіцца тваёй, і рабі што хочаш. А пасля нейкі штуршок, скажам, апрануў касцюм, паглядзеў на сябе ў люстэрка і — ой! — вось жа ён, вобраз. І тады лёгка знаходзіцца і адпаведная паходка, і ўсмешка, і манера гаварыць.

Хачу сказаць, што праца над роляй не спыняецца з прэм’ераю спектакля. Часам пройдзе ўжо і пяць, і дзесяць паказаў, а ты раптам знаходзіш нейкую новую дэталь, дабаўляеш гераіні нейкую новую рысачку, пачынаеш лепш, глыбей разумець яе ўчынкі.

**— Наталля Віктараўна, у вашай творчай біяграфіі ёсць унікальны выпадак. Вы прымалі ўдзел у чатырох розных пастаноўках «Сільвы». Складана было кожны раз пазбаўляцца ад напрацаваных раней прыёмаў?**

— У нашым асяроддзі жартуюць: чым адрозніваецца добры акцёр ад кепскага? У добрага — 365 штампаў, а ў кепскага ўсяго толькі 15 (смяецца). У гэтым ёсць доля праўды. Канешне ж, з гадамі ўжо абрастаеш нейкімі прыёмамі, праверанымі штампамі. Асабліва гэта заўважаецца ў камічных ролях, таму што складаная гэта рэч — смяшыць людзей. Трэба быць вельмі арганічным і кожны раз розным. Не дзіва, што ў кожнага для гэтага ёсць свае хітрасці.



*Наталля Гайда ў складзе міжнароднага журы.*

А вось калі гаварыць пра класічных гераінь, то ты заўсёды павінен быць, як у нас кажуць, на нерве, лёгкаўзбуджальным. Не проста выйсці і прыгожа спець, а кожны раз сэрцам перажыць, усёй душою кахаць. Умець кахаць…

**— Напэўна, і вам не заўсёды ўдавалася гэта ў поўнай меры?**

— Ва ўсялякім разе, я старалася. Старалася, як у апошні раз.

**— А як быць, калі ў акцёра напярэдадні спектакля нешта здарылася — нейкая непрыемнасць, крый бог, няшчасце?**

— Кожны вырашае па-свойму. У мяне асабіста, калі нешта такое здараецца, то мой арганізм увесь настолькі мабілізуецца, што я ў такіх выпадках іграю яшчэ лепш. Неаднойчы я выходзіла на сцэну з тэмпературай за 39 градусаў. Працавала з такім вострым прыступам, што калі мяне грыміравалі — цяклі слёзы ад болю. А выходзіш на сцэну і нічога не адчуваеш. Адразу некуды ўсё знікае. Пасля вяртаешся за кулісы і падаеш амаль непрытомная.

Была і такая сітуацыя. Раніцаю мне прынеслі тэлеграму, што памерла мама, а ўвечары ў нас спектакль «Вясёлая ўдава». У тэатры мне сказалі: «Мы вызваляем вас ад спектакля». А я сказала: «Не, я буду іграць…» Многія тады мяне не зразумелі, нават папракалі за вочы. Я нікому нічога не стала гаварыць, але ў мяне было маральнае права, больш таго — абавязак так паступіць. Чаму? Мама заўсёды хацела, каб я спявала, і мне падалося, што ў гэты жалобны дзень маё выступленне будзе найлепшай данінай яе памяці. І вось я стаю на сцэне і адчуваю: яшчэ ніколі я так добра, так лёгка не спявала. Значыць, мама мяне зразумела.

А ў паўсядзённым жыцці, якім бы ні быў твой настрой, ты павінен сабрацца, мабілізавацца на спектакль. Прыходзіш у грымёрку, садзішся, чуеш шум залы, і, як той скакавы конь, раздзьмуваеш ноздры і ўжо гатовы да выхаду на сцэну.

І яшчэ. Звычайна я шукаю ў зале чалавека, які ўсё разумее і якога я не павінна падмануць. Абыякава я яшчэ не іграла ні ў адным спектаклі. Гэта я вам магу сказаць з чыстым сумленнем.

**— І што, такога правіла прытрымліваюцца ўсе артысты?**

— Адзін мой калега неяк сказаў мне: «Ну, Наташка, навошта ўжо так выкладвацца ў кожным спектаклі? Я, напрыклад, пераключаю сябе на аўтапілот і спакойна працую..» І вось аднойчы паклоннікі гэтага артыста раптам задаюць мне пытанне: «Наталля Віктараўна, а што здарылася з нашым кумірам? Ён нібыта і старанна іграе, і спявае правільна, а сам нейкі халодны, абыякавы…» Пасля гэтага я сказала калегу: «Дык вось, дарагі, павінна цябе засмуціць. Твае асабістыя паклоннікі, якія ходзяць спецыяльна на цябе, кветкі табе дораць, дык вось яны, прабач, заўважылі, што ты працуеш на аўтапілоце…»



*Пасля ўручэння спецыяльных прэмій прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне». Злева направа: генеральны канструктар па аўтамабільнай тэхніцы, Герой Беларусі Міхаіл Высоцкі, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, народная артыстка Беларусі Наталля Гайда і вядомы скульптар, народны мастак Беларусі Іван Міско.*

Таму калі працуеш напаўсілы, не аддаешся ролі цалкам, гэта будзе непазбежна бачна. Можна падмануць выпадковага гледача, але таго, які ходзіць у тэатр рэгулярна, выдатна ведае цябе, то ой як складана яго правесці. Ды ці трэба? Я ва ўсялякім разе такога сабе не дазваляла і не дазваляю. Больш таго, калі раней, у маладосці, мяне задавальняў сам працэс ігры, узаемадзеяння з партнёрам, то з гадамі я стала ўсё больш… як вам сказаць?.. усё больш перажываць, больш хвалявацца за тое, як я сёння гэта зрабіла. Не проста рада, што выйшла на сцэну і сыграла, а **як** сыграла. І чым больш ты абцяжараны рознымі званнямі, прэміямі, тым гэтая адказнасць большая.

**— За сваё жыццё, Наталля Віктараўна, вы сыгралі сотні галоўных роляў у самых розных спектаклях. Якая з гэтых роляў для вас самая адметная, самая дарагая, грэе душу і да гэтага часу?**

— Кожная роля пакідае свой след у жыцці. Але, безумоўна, ёсць спектаклі радавыя ці, як мы кажам, праходныя, дзе сыграў раз-другі-трэці і ўжо не ведаеш, што яшчэ можна было б знайсці новага, цікавага. А ёсць спектаклі, у якіх можна доўга-доўга іграць, спяваць і бясконца знаходзіць задавальненне.

Вельмі мне падабалася Пенелопа ў аднайменнай аперэце Журбіна. Захапляла яе здольнасць да самаахвяравання. Дваццаць гадоў яна верна чакала мужа і ўсё жыццё чакала кахання. І калі аднойчы сустрэла яго, то аддалася гэтаму пачуццю цалкам, з усёй страсцю. Але вось нарэшце муж вярнуўся з далёкай, нялёгкай вандроўкі — стары, разбіты, хворы — і ўсе ад яго адвярнуліся. Тады Пенелопа сказала яму: «Хадзем дадому…» Ахвяравала каханнем.

На гэтым спектаклі ніколі не было абыякавых. Нават мужчыны пускалі слязу. Помню, у Гомелі гледачы ў адзіным парыве падняліся і наладзілі нам сапраўдную авацыю. Такое не забываецца…

Выдатны быў спектакль «Пяе Жаваранак» Семянякі. Спектакль-лёс. Партыя Ірыны — гэта сапраўды падарунак лёсу. Тут было што іграць, было чым заявіць пра сябе.

**— А Паўлінка?**

— Пра Паўлінку трэба гаварыць асобна. Гэта была з'ява ў тэатральным мастацтве. Менавіта ў тэатральным, а не толькі ў музычным мастацтве. Дзякуючы выдатнай музыцы Юрыя Семянякі, таленавітаму лібрэта Алеся Бачылы і бліскучай рэжысуры Сямёна Штэйна адбылося, як адзінадушна адзначалі тады крытыкі, новае нараджэнне Паўлінкі. Я шчаслівая, што сваю сціплую лепту ў гэта ўнесла.

Паўлінка мяне прываблівала сваім лірызмам, душэўнай чысцінёй, сардэчнасцю і разам з тым — цвёрдасцю характару, жывым, практычным розумам, дасціпнасцю. Роля была няпростая. На працягу ўсяго спектакля Паўлінка ў цэнтры падзей. Роля, якая патрабавала шмат вакалу, танцаў, дыялогаў. А самае складанае — праўдзіва, арганічна перадаваць перапады настрою гераіні: то яна ў журбе, а праз хвіліну ўжо жартуе, смяецца, то яна ў эйфарыі ад адчування шчасця, то ледзь не памірае ад роспачы і гора…

**— Здзіўляе, аднак, не толькі гэта — ваша ўменне пераўвасабляцца, здольнасць перадаваць малейшыя душэўныя зрухі сваіх гераінь. У выпадку з Паўлінкай яшчэ больш здзіўляе вось што. Вы, чалавек, які нарадзіўся і выхаваўся ў Расіі, які ніколі ў сваім жыцці не карыстаўся беларускаю мовай, смела ўзяўся выконваць партыю на гэтай мове. І, як адзначалі спецыялісты, у стыхію беларускай музыкі, мовы вы ўвайшлі вольна і нязмушана. Як вам гэта ўдалося?**

— Ведаеце, беларуская мова мяне цікавіла не толькі таму, што трэба было іграць. Яна прываблівала мяне сама па сабе. Як толькі мы прыехалі ў Мінск, адразу пайшлі з мамай у Купалаўскі тэатр. І вельмі многае з таго, аб чым гаварылася на сцэне, я разумела, а калі не разумела, то здагадвалася з кантэксту. І была зачаравана беларускай мовай — пяшчотнай, мілагучнай, эмацыянальнай. Таму калі надарыўся выпадак (як бачыце, зноў шчаслівы выпадак!) сыграць Паўлінку на яе роднай мове, я ніколечкі не спалохалася, больш таго — абрадавалася, узялася за гэту ролю з вялікім задавальненнем.

Прызнаюся шчыра: я не бачу ў гэтым нічога асаблівага. Для мяне тут вялікіх складанасцей не было. Я адразу зразумела, што ў беларускай мове галоўнае: фрыкатыўнае «г», цвёрдае «ч» і мяккасць вымаўлення. Вы не паверыце, але гэтыя тонкасці мне даліся даволі хутка і лёгка. Вымаўляючы купалаўскі сакавіты тэкст, гуляючы з бясконцым чаргаваннем гэтых самых «г» і «ч», я атрымоўвала сапраўдную асалоду (весела цытуе): «Пасядзі лепш, саколік, за абразікам. Седзячы гэтак у Бога за плячыма, менш будзеш мець грэшных думак у галаве, чымся песцячыся тут, у маладой дзяўчыны…»

Але авалодаць мовай было толькі палавіна справы. Патрабавалася яшчэ, як вы правільна заўважылі, арганічна ўвайсці ў стыхію беларускай музыкі, у каларыт беларускага побыту. Дзеля гэтага я наведвала нацыянальна-этнаграфічныя музеі, колькі разоў глядзела «Паўлінку» ў Купалаўскім тэатры. Вельмі памагло афармленне, якое прапанаваў наш мастак Марозаў: святочнае, маляўнічае, з гумарам. Яно як бы перанесла мяне ў той свет, у якім павінна жыць і дзейнічаць мая гераіня.

**— А што з вашых жаданняў, запаветных мар не ўдалося ажыццявіць?**

— Цяжка сказаць… Я ніколі не марыла пра тое, чаго не ведаеш, чаго не можаш зрабіць. Хаця, паклаўшы руку на сэрца, некаторыя спектаклі, у якіх мне хацелася б сыграць, прайшлі міма мяне. Але не склалася, што цяпер аб гэтым гараваць. «Нельзя обьять необьятное»… Што Бог паслаў — на тым і дзякуй. Мы ж, артысты, залежым ад рэпертуару тэатра. Хаця мне, як кажуць, грэх скардзіцца…

Канешне, я мару цяпер, каб паявілася такая роля — драматычная, можа, нават з трагічным адценнем, можа, з элементамі дэтэктыву, містыкі, але каб гэта была роля паўнакроўная, моцная, з апошнім каханнем, са складаным трохкутнікам, каб

можна было ўкласці ўсю душу, усю сваю страсць. Роля, якая магла б стаць маёй лебядзінай песняй.

**— У гэтай сувязі, магчыма, можна згадаць спектакль «Сямейная ідылія», які збіраўся паставіць Раман Віктюк. Спектакль, разлічаны галоўным чынам на двух акцёраў — на вас і на вашага пастаяннага тады партнёра Рыгора Харыка. Спектакль, які мог стаць яшчэ адной вяршыняй у вашым акцёрскім лёсе.**

— Ва ўсялякім разе, спектакль быў складаны, незвычайны, але сапраўды абяцаў атрымацца вельмі цікавым. Кожны з нас адначасова выконваў некалькі роляў. Я, напрыклад, іграла старую, і тут жа пераўвасаблялася ў маладую жонку, пасля — у каханку. І як сказаў мой партнёр, я яшчэ ніколі так не іграла.

**— Што ж здарылася? Чаму шматабяцаючая пастаноўка так і не дайшла да прэм'еры?**

— Ну вось такі няўдалы перыяд часу выпаў… Па-першае, тады не дужа віталі п'есы замежных аўтараў — барацьба з касмапалітызмам. Па-другое, Віктюк ёсць Віктюк. Проста так, банальна-прымітыўна, ён ставіць не мог. Былі розныя прыдумкі, незвычайныя рашэнні, якія артадоксы ад мастацтва прыняць не маглі. Дый акрамя ўсяго, знайшлося нямала звышпільных зайздроснікаў — пасылалі «сігналы» ў розныя інстанцыі. У рэшце рэшт, пастаноўку такога наватарскага спектакля палічылі непажаданай.

**— А чаму быў зняты з рэпертуару спектакль «Гора ад розуму»? Наколькі я ведаю, яго прэм'ера прайшла паспяхова і спектакль быў уключаны ў пастаянны рэпертуар.**

— Тут трохі іншая гісторыя. Мы з гэтым спектаклем збіраліся на гастролі ў Ленінград. Але Смольны нечакана яго забараніў. Пасля гэтага спектакль знялі з рэпертуару і ў нас.

Дарэчы, у гэтым спектаклі павінна была іграць і я — выконваць ролю старой. Па задумцы Віктюка, я адчувала, што павінна гаварыць не сваім голасам, а старэчым, нізкім, надтрэснутым. Для мяне гэта было немагчымым. Гвалціць свой голас — невядома да чаго гэта магло б прывесці. А на мне ж быў увесь рэпертуар. І я адмовілася.

Віктюк успрыняў маю адмову даволі балюча: «У мяне нават Фрэйндліх не адмаўлялася…» Мяне з ролі знялі, але я ўсё роўна хадзіла на ўсе яго рэпетыцыі. А пасля, калі прэм'ера выйшла, я дала яму праграмку і папрасіла аўтограф. І ён, не без намёку, напісаў: «Терпение вознаграждается»…

А праз нейкі час Віктюк прыехаў у Мінск і сказаў, што будзе ставіць спектакль для нас з Харыкам — «Сямейную ідылію». І мы з вялікім жаданнем, энтузіязмам распачалі рэпетыцыі. Чым усё гэта скончылася, вы ўжо ведаеце.

Пазней, праз гады, калі Віктюк ужо стаў папулярны, знакаміты, ён прыехаў у Мінск на гастролі і запрасіў мяне на свае спектаклі. А на маё сямідзесяцігоддзе, калі наша тэлебачанне брала з гэтай нагоды інтэрв'ю ў вядомых тэатральных дзеячаў, Раман Рыгоравіч сказаў пра мяне вельмі цёплыя, вельмі прачулыя словы. Мне было надзвычай прыемна.

**— Наталля Віктараўна, а ці бываюць хвіліны, калі вы незадаволены сабою, калі адчуваеце, што нешта сыгралася не так, як хацелася?**

— Канешне ж, бываюць. У тэатры, як вядома, поспех, удача залежаць не толькі ад акцёра. Тут павінна скласціся ўсё — і дыялог з партнёрам, і выдатнае музычнае выкананне, і ўзаемаразуменне з гледачом… Такое, вядома, бывае рэдка. У асноўным — момантамі. А з гадамі гэтых момантаў становіцца ўсё менш і менш. Заўсёды знаходзіш прычыну, каб сябе пакрытыкаваць. О, колькі я пакутую ад самаедства, расчараванняў, незадаволенасці зробленым! Затое, калі спектакль удаўся, прайшоў тэхнічна роўна, зладжана, натхнёна, тады хочацца ляцець, ляцець..

**— Наш вядомы музыказнаўца Ігар Нісневіч аднойчы заўважыў: для гэтай выканаўцы не існуе ў тэатры ніякіх цяжкасцей.**

— Ну, калі ствараецца такое ўражанне, то я вельмі радая (смяецца).

**— Вы справядліва зазначылі, што спектакль — гэта тонкае і дастаткова складанае перапляценне розных рэчаў. Асноўная нагрузка, канешне, кладзецца на выканаўцу галоўнай ролі, але яго поспех у значнай ступені залежыць і ад партнёра. Вам даводзілася выступаць з рознымі спевакамі. З кім працавалася з найбольшым задавальненнем?**

— На пачатку маёй кар’еры ў мяне быў вельмі харошы партнёр — Віл Бурцаў. У яго былі свае недахопы. Казалі, што смешна бегае па сцэне, але ён настолькі тонка, на ўзроўні падсвядомасці адчуваў партнёра, што з ім можна было імправізаваць, як кажуць, на раз. Мне пашчасціла з ім іграць у такіх знакавых спектаклях, як «Пяе Жаваранак», «Паўлінка», «Фіялка Манмартра» і іншых.

Безумоўна, таленавітымі партнёрамі былі і Канстанцін Лосеў, і Уладзімір Лінкевіч, і Віктар Бажэнаў… На жаль, ніхто з іх ужо не працуе ў тэатры. І атрымалася, што маё пакаленне, якое цяпер магло б іграць са мною характарныя ролі, ужо адышло.

Вялікі перыяд майго жыцця прыйшоўся на сумесную працу з Рыгорам Харыкам. Вось яркі прыклад таго, як чалавек з кансерваторскай адукацыяй, прыйшоўшы ў тэатр, самастойна спасцігаў усе складанасці і тонкасці нашай прафесіі. Над кожным спектаклем, над кожнай роляй ён працаваў натхнёна, з поўнай аддачай. Я, канешне, чым магла памагала яму. І ён вырас у выдатнага саліста, цудоўнага партнёра. Іграць з ім у пары — гэта быў, як цяпер кажуць, поўны кайф.

**— Чаму ж ён у росквіце сваіх творчых сіл сышоў з тэатра?**

— Гэта быў 1992 год, даволі складаны перыяд у нашай гісторыі. Калі вы помніце, менавіта тады стаў падымаць галаву антысемітызм. Вандалы разбуралі яўрэйскія могілкі… І маці Рыгора настаяла на тым, каб з’ехаць за мяжу, у Сан-Францыска. Тым больш, што жончыны бацькі ўжо жылі там з канца сямідзясятых гадоў.

**— І як склаўся ягоны лёс у Амерыцы? Вы маеце з ім сувязь?**

— Першыя пяць гадоў не было ні пісем, ні званкоў. А цяпер сувязь рэгулярная. Першы панядзелак кожнага месяца ён мне абавязкова тэлефануе. Таму я добра ведаю яго лёс. Ён мне неяк сказаў: «Слава Богу, мне не давялося ні таксістам працаваць, ні грузчыкам, ні яшчэ кім». На першым часе яго падтрымалі сваякі жонкі, а пасля Рыгора ўзялі выкладчыкам у Цэнтр мастацтваў. Гэта дазволіла яму нават пабудаваць свой дом, і ў яго там ёсць свая студыя, дзе ён займаецца з вучнямі. Акрамя таго, у Сан-Францыска восем оперных труп, якія ўтрымліваюць аркестр і хор, а салістаў запрашаюць. У тым ліку часам запрашаюць і Харыка. «А ў якасці каго ты там выступаеш?» — пацікавілася я неяк. — «Наталля Віктараўна, — адказаў Рыгор, — там трэба рабіць усё, за што плацяць грошы». — «І ўсё-такі?» — «Я трэці грыб злева… — аджартаваўся ён, а сур’ёзна дадаў: —Затое з самім Пласіда Дамінга на адной сцэне стаяў».

Апошнім часам Рыгор заняўся рэжысурай у Цэнтры мастацтваў. Хваліўся, што выпусціў ужо некалькі дзіцячых спектакляў, якія мелі поспех. Так што ён цалкам займаецца творчасцю. Канешне, ад’язджаючы, ён разумеў, што выступаць у аперэце больш не зможа. Ды там і няма аперэты…

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

***Працяг будзе.***